# Язэп ПУШЧА

## Збор твораў у двух тамах



Рэдакцыйная калегія:
С. А. АНДРАЮК, Р. І. БАРАДУЛІН,
М. І. МУШЫНСКІ, С. Э. ПЛАШЧЫНСКАЯ

Рэдактар тома
Р. І. БАРАДУЛІН

Укладанне,
падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі,
храналагічная канва жыцця і творчасці
Л. М. МАЗАНІК

# Язэп Пушча

Том 2

*Вершы*
*Паэмы*
*Пераклады*
*Крытычныя артыкулы*
*1930—1963*

**МІНСК**
**«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»**
**1994**

# Вершы

## 1930

### ДАЧУШКАМ ГАЛІ І ЛЯЛІ. КОЦІК — ВУСАТЫ РОЦІК І МЫШКА-СТРЫЖКА

Мышка

Дзе ты, коця-коцік,
Мой вусаты роцік?

Коцік

Тут я, мыю лыжкі,
Мая мышка-стрыжка.

Мышка

Коцік, хутка ночка;
Дзеткі плюшчаць вочкі.
Ім пара ўжо спаткі,
Мой ты коцік гадкі.

Коцік скокі-ўбокі
Праз парог высокі
І бяжыць да мышкі —
Гэтай шэрай стрыжкі.

Мышка

Ну, каток мой жвавы,
Скакунок вяртлявы,
Глянь, цябе чакае
Твая дзетка Галя;

Адвітайся лапкай
І кладзі ўжо спаткі.

Коцік

Добра, мышка, добра,—
Хвосціка не горбі.
Я Галюнцы любай
Прапяю, што любіць.
*(Спявае.)*
Не застудзіць ветрык
Вачанятак сонных;
У Галюні-дзеткі
Я за тату сёння.

Мя-у, мя-у, мя-я...
Дзетанька мая!

Твой харошы тата
Казачку напіша.
Коцік я вусаты —
Не баюся мышак.

Му-ур, му-ур, му-ур...
Вочанькі зажмур!

Лапкамі-рукамі
Я накрыю вушка.
Татачкі чакае
Галенька-дачушка.

Мя-аў, мя-аў, мя-я...
Дзетанька мая!

Мышка

А я дзетку Лялю
Люлі залюляю.
Песеньку я знаю
І ёй зараз збаю.

*(Спявае)*
Я дурэю трошкі,
Хвосцікам ківаю.
І ў Лялюні-крошкі
Мамаю бываю.

Ці-пі, ці-пі, ці-піць...
Ляленька хай спіць!

Хай каток не маніць;
Што ён мышку зловіць,
А Лялюня маму
Ножкамі дагоніць.

Ці-ні, ці-ні, ці-ні...
Дзетанька, засні!

Дзетку залюляе
Мышка шэрай лапкай.
Будзе мама з Ляляй
Разам жыць і спаткі.

Ці-пі, ці-пі, ці-піць...
Ляленька хай спіць!

Марш, мой коцік, спаткі
На свае палаткі,
А я скокну ў норку,
Дзе не свеціць зорка.

Тата Язэп

*Восень, 1930 г.*

## ЛІСТ ДА ГАЛІ І ЛЯЛІ

Каток гуляе,—
Саломку спрытна ловіць ён.
Да Галі, Лялі
Шле тата нізкі свой паклон.

Хай гуту-гушкі
Вам мама зробіць многа раз.
Мае дачушкі,
Цалуе тата моцна вас!

Ваш тата Язэп

*1930 г.*

## ЛІСТ
## ДА ДАЧУШАК

**Ў дачушак міленькіх**
**Ёсць мама і дзедзя;**
**Да любых маленькіх**
**І тата прыедзе.**
**З сабою пасадзіць:**
**Прытуліць, пахваліць,**
**Галоўкі пагладзіць;**
**І птушкі-пяюшкі**
**Злятуцца у хату.**
**Мае вы дачушкі,**
**Цалуе вас тата.**

**Тата Язэп**

*1930 г.*

# 1931

* * *

Калі у Шадрынск, на Ісецъ,
Мяне прывезлі пад канвоем[1],
Я выйшаў сонейка сустрэць
І нізка пакланіўся хвоям.
Лагодна вецер зашумеў,
Цяплей на сэрцы стала мне.

Вядзі мяне, мой канваір,
Я сёння разаб'ю кайданы!
Закіну іх на цёмны вір,
Абмыю чыстай хваляй раны.
Абняўшы горача зямлю,
Аддам людзям любоў сваю.

Я — чалавек, людзям раўня,
І радасна смяюцца вочы:
Ужо без канваіра я,

І маю права вольна крочыць,
І маю права верыць, жыць,
І поўнай чарай сонца піць.

*1931 г., ліпень.*

## НА СВЕЦЕ БОЛЬ І СМУТАК ЕСЦЬ

На свеце боль і смутак ёсць,
За мной снуюць між гэтых сцен.
Мяне пакінуў любы госць[1],
І мой прытулак апусцеў.

Я зноў застаўся сам з сабой
Зару вячэрнюю вітаць.
Мой госць, тваіх дзяцей з табой
У далях зорных не відаць.

Далёка сёння з імі ты,
За ўсхонамі Уральскіх гор.
Пішы, мой госць, пішы лісты
На водблісках вячэрніх зор.

Я расчытаю іх адсюль
І расцалую ласку слоў.
Паклон табе гарачы шлю,
Хоць сонца радасці зайшло.

Гарадзь тваіх вачэй агні
І асвятляюць зорам даль.
Мой пацалунак ты прымі
І родным дзеткам перадай.

*10 верасня 1931 г.,*
*Шадрынск.*

## ДАЧУШЦЫ ГАЛІ

Дачуранька мая,
Прыйдзі да таткі ў сад!
Смяхотнага лісця
Навеяў лістапад.

Тут шалясціць лісцём
Вялізны жоўты клён.
Галюнечцы сваёй
Татуля буські шле.

Было у садзе так
І ў сёмы лістапад.
Крылом узвееў птах —
І быў татуля рад.

А мама ноч усю
Чакала гэты дзень,

Каб дзетаньку сваю
Туліць ёй да грудзей.

Пяшчотліва туліць
Ў пакоі тым пустым.
Пра гэта сад шуміць
І шалясцяць лісты.

Навеялі яны
Мне казку любых слоў.
І сонечнай вясны
Мне сонца узышло.

Дачуранька мая,
Прыйдзі ка мне, прыйдзі!
Вітаю сёння я
Шчаслівы дзень радзін.

Сады здалёк шумяць,
І сцеле ліст зямлю.
Цалую моцна я
Галюнечку сваю.

Тата Язэп

*Шадрынск, 23/X-31 г.*

## ЛІСТ ПЕРШЫ

Даруйце мне маю віну:
Маўчаў я не адну вясну,
Нікому не пісаў лістоў,
Не варушыў старых пластоў,
Ні леташняй сухой травы.
Калі ляцелі журавы,
Душу кранала іх курлы,
Не аклікалі даль арлы.
Не раз яшчэ курлы кране
Да глыбіні душы мяне.

Не першы дзень і не другі
Вакол — суровы шум тайгі,
А недзе — паплавы, стагі...
Я чую, як струмень крыніц
Звініць у зараве зарніц.
Шырэй расходзяцца кругі,
Бліжэй Радзімы берагі.

Усё ж надыдзе добры час,
Сіл хопіць, даплыву да вас,
І прыпаду, і прытулю,
Як той Антэй сваю зямлю.

Як сын, цябе любіць умеў.
Узгадавала ты мяне,
Дала для песень голас свой:
І шум дубоў, і водар хвой,
І сонца, і блакіт нябёс,
І нат свайго народа лёс.

Ніколі у сваёй душы
Агню святога не тушу,
І не азябну з ім я век
На беразе сцюдзёных рэк.

Яшчэ такім не быў мой дзень
Ні ў радасці і ні ў бядзе,—
Са мной няма, каго люблю...
Не, гэты ліст не адашлю.
Надыдзе дзень яго жыцця,
Калі устане з забыцця.

*Урал — Шадрынск, 1931 г.*

# 1932

## ЛІСТ ДРУГІ

Агорне часам сум душу,—
Жыву, марнею без красы.
Даўно лістоў я не пішу,
Усе растраціў адрасы.

Ніхто і не чакае іх:
Ні родныя і ні сябры.
Не ведаць ім пакут маіх,—
Не данясуць адсюль вятры.

Вакол суровая тайга,
Я слухаю нязвыклы шум.
Як злодзей, крадзецца туга
У маю знябытую душу.

І ўсё ж ёй не зваліць мяне,
Перанясу нягоды ўсе.
Мяне мой лёс не абміне,
Уцехі зорку прынясе.

Сустрэну родную сваю
І нізка пакланюся ёй.
Без песні цяжка салаўю,
Як без Радзімы мне сваёй.

Крылаты дружа-салавей,
У гай надрэчны прыляці
І смутак крыллямі развей
У маім нярадасным жыцці.

Ад гора можна пасівець.
Але не поўзаць... не маліць...
Плыве сцюдзёная Ісець.
А сэрца беднае смыліць:

— Скажы мне, рэчанька Ісець,
Ці доўга сэрцу так смылець?
Апаласні з яго ты боль
І з хвалямі пашлі ў Табол.

Я тут выгнаннік, а не госць,
І ўсё ж не трачу я надзей.
Народ усюды добры ёсць
І не пакіне у бядзе.

Хоць і знябыты я ушчэнт,
І у грудзях займае дух,
Усё ж я здолею яшчэ
Разбіць пачэплены ланцуг.

Хоць іскры сыплюцца з вачэй
І прытупіўся трохі плуг,
Усё ж знайду я сіл яшчэ,
Каб узараць дзірван за двух.

Адолею па схілу гор
Пяцігадовы шлях прайсці
І там, пад небам ясных зор
Свой скарб утрачаны знайсці.

А покуль што пішу лісты,
Ці прачытае толькі хто?
Плыве туман, плыве густы
І засцілае хараство.

Я веру: праяснее даль,
Над намі сонца будзе ззяць.
Гарачы сонечны крышталь
Не пабаюся ў рукі ўзяць.

І прыгарну, і прытулю,
Каб не азябла сэрца век,
І абніму сваю зямлю,
Як сын, паэт і чалавек.

*1932 г.*

## ДЗЕ ТЫ, ЗОРКА?

Зорка ясная не свеціць,
На скале сасна шуміць,
Неспакойна на Ісеці —
Хваля вірная не спіць,
Ветру хвалі не спыніць.

Коціцца на ўсход, спявае:
— Што, саколе, што з табой?
Ой ты, хваля, мая хваля,
Падхапі мяне з сабой,
Плыць з табой хачу ў Табол.

Дай свае мне крылы-вёслы —
Пераплыць праз цёмны вір.
Кажуць: на табольскіх плёсах
Не акінуць вокам шыр
І прамыты, чысты жвір.

Паплыла, а я застаўся
Песняй зорку заклікаць.
Дзе ты, зорка? — не пытайся,
Трэба зорку адшукаць.
Сосны ласкава шумяць.

*1932 г.*

## НА ЭТАПЕ

Знябыўся я душой
Ад болю, ад тугі,
Як па этапу йшоў
Ад Мінска да тайгі.

Бутыркі... каземат...
Турэмны змрочны двор.
Не бачыў я з-за крат
Ні сонца і ні зор.

Парашы млосны пах
Нутро маё труцiў.
Этапны ўспомню шлях
Не раз я у жыццi.

Сталыпiнскi вагон
Аж на Урал прывёз.
Там праз ваду, агонь
Са мной прайшоў мой лёс.

Хоць быў я малады,
А ў сэрцы пульс нямеў.
Прасiў глыток вады,
I не падалi мне.

Свярдлоўск, рака Мiас
I залаты пясок.
Успомню я i вас,
I ваш пякучы сок.

Тут я цаглiны клаў
У змрочныя муры
I вокны шклiў без шкла —
Праменнямi зары.

Ўначы сядаў за стол
I ўсё лiсты пiсаў,
I ўсё чакаў лiстоў,
Але нiхто не слаў.

Плывец я без вясла,
Цi даплыву ў Iсець?
Трывога ўсё расла,
Пачаў туман сiвець,

Расiнкi нёс i трос
На стомлены сiвец...
Мяне закiнуў лёс
У Шадрынск, на Iсець.

Паэт, пiшы, твары,
Заглушыць песня боль.
Хай хвалi i вятры
Нясуць спеў у Табол!

*Шадрынск, 1932 г.*

## ПАЎНОЧНАЯ ТАЙГА ШУМІЦЬ

Паўночная тайга шуміць,
І хвошча сівер, дождж калючы.
Не чую гомана крыніц
На дзікай і самотнай кручы.

Не літасці прасіў Ян Гус,
Калі душу агню расхрыстаў,
І гэтак сёння беларус
На зорнай сцежцы дзекабрыстаў.

На поўнач праляцелі гусі,
На крылах — сонца Беларусі.

*1932 г. Шадрынск.*

## ПЯСНЯР ЗА КРАТАМІ СЯДЗЕЎ

Пясняр за кратамі сядзеў
У змрочнай, зябкай адзіночцы.
Праз краты ўдаль ён не глядзеў,
Дзе колісь з ім спявалі хлопцы.
І дзень, і ноч без зор і сонца,
І гэтак штодзень і бясконца.

Дзесяты месяц ўжо ішоў,
Як мардаваўся у цямніцы:
Цярпеў і сэрцам, і душой,
Крапіўся і не падаў ніцам.
Не знаў спагады і патолі —
Дзесяты месяц у няволі.

Не веяў вецер з родных ніў,
Пужала ноч людзей астрогам...
Нікога ён не ачарніў,
Хто з ім ішоў адной дарогай,
Хто сілы аддаваў Айчыне
І падпіраў яе плячыма.

Марудна поўз, як слізень, час,
Кусаў і сэрца біў на раны...
Пытаўся, думаў ён не раз —
За што так цяжка пакараны?
За што ў цямніцы марна гіне,
Як слова у забытым гімне?

Няўжо за тое, што любіў
Народ свой і сваю Радзіму
І за здароўе родных піў
Бальзам у цяжкую гадзіну?
Ён ім, як сонцу напрадвесні,
Аддаў душу і радасць песні.

Вядуць на допыт зноў яго,
Ідзе знябыты, невясёлы.
У душы гарыць святы агонь,
І ў сэрцы палымнеюць словы:
«Іудам быць не змусіць следчы,
Не будзе подпіс здраду сведчыць!

Хай высмакча ўсю кроў павук,
А я не папрашу спагады;
Хай адранцвеюць пальцы рук,
Не падпішу ніколі здрады;
Хай анямеюць і калені,
А не прадам свайго сумлення!

Дазнаюцца сыны і ўнукі,
Як меч сціскалі мае рукі».

*1932 г.*

# 1933

## ДЗЕКАБРЫСТАМ

Пакінуў шрам жандар і црыстаў,
Гісторыя варушыць боль.
Прайшла дарога дзекабрыстаў,
Дзе хвалямі шуміць Табол.

Гады насыпалі курганы,
З якіх відаць зямля уся.
Ляжаць разбітыя кайданы,
На сэрцах нашых не вісяць.

Пра вас табольцы склалі песні,
Не сціхла рэха іх, грыміць.
Над скаламі ваш сцяг у снежні
Палярнай зоркаю гарыць.

Гады ідуць, і песні славяць
І радасць вашу, і тугу.
Навекі захавала памяць
Суровы шлях ваш праз тайгу.

*1933 г.*

# 1934

## МОЙ ЯСНЫ СОКАЛ!..

Мой сын, твае мужалі сілы,
Ішлі з табой мы да людзей:
Ты быў вясёлы, быў шчаслівы —
Юнацкай песні першы дзень!

Шчаслівы быў, як смех дзявочы,
Калі узбройваюць байца...
Зірні ты мне, зірні у вочы
І прытулі свайго айца.

Будзь ты маім айцоўскім сынам,—
Як і тады у дні вясны;
Цябе плашчом акрыю сінім
І шумам казачна-лясным.

Ўзляту з табой, мой ясны сокал,
Над краем любым, дарагім —
І гоманам сасён высокіх
Там праспяваем сонцу гімн.

Наземімся напіцца сокаў
З тваіх, зямля, крыніц-грудзей.
Ляцім, ляцім, мой ясны сокал,
Да сонца, зор і да людзей!

*17/VI — 1934 г., Шадрынск.*

## СУРОВЫ ЛЕС

Суровы лёс, бывай здароў,
Ты светлых не прынёс гадзін:
І ні братоў, і ні сяброў,
Жыву у забыцці, адзін.

За што так пакараны я,—
Пытаюся ў цябе, жыццё?
Скажы і ты, мая зямля,
Які віхор атрос лісцё?

І ён мяне сарваў, як ліст,
І ўжо каторы носіць год.
Віхроў я чую дзікі свіст
І праклінаю іхні род.

Дзе, сонца яснае, твой дзень?
Калі ты ў госці прыйдзеш з ім?
Пашлі свой сонечны прамень,
Каб не было ў жыцці век зім.

Яго ў святліцу панясу,
Каб ён ніколі не пагас.
Я моцна веру у вясну,
Яна не абміне наш час.

*1934 г., Шадрынск.*

## ЯК Я ЦЯБЕ ЛЮБІЎ!

Як я цябе любіў, мая Айчына!
Дзіцём піў малако з тваіх грудзей,
У глыбіню тваіх вачэй глядзеў,
І сёння ты стаіш перад вачыма.

Ішлі з табой у светлыя прасторы,
Спявалі песні сонечнай вясны,
Не гаслі, а яснелі нашы зоры,
Вясёлкі з сонцам ткалі паясы.

Не гас свяцільнік твой, агонь святы,
Пры ім пісаў я да цябе лісты.

*1934 г., Шадрынск.*

# 1935

## ШУМІ, УРАЛЬСКАЯ ТАЙГА

Ляцяць высока журавы,
Шумяць іх крылы над тайгой;
Прынеслі подых баравы
Да гэтых светлых берагоў.

Не засціць ясных дзён смуга,
Жыве паэт і чалавек.
Шумі, уральская тайга,
Над кручамі азёр і рэк.

На схілах скал тваіх, Урал,
Дзе схован скарб магнітных руд,
Шукаў я страчаны крышталь
І самацветны ізумруд.

Штодзень шукаў і ўсё ж знайшоў,
Разведаў грэбні горных скал;
Не ўціхаміраўся душой —
І спеў красе цудоўнай склаў.

Не анямець, не адзвінець.
Здружыўся я навек з табой.
Мой беларускі спеў Ісець
На хвалях несла у Табол.

І нат над Обскаю губой
Суровы вецер не спыняў.
Ад песні той, што нёс Табол,
Цяплеў Паўночны акіян.

*1935 г.*

## АНАПСКІЯ НАСТРОІ

Рукамі спляснi,
Вецер, на узгор'і.
Пад сонцам ясным,
На узмор'і,
Цэдзіць восень
Ў залатую просінь
Вінаградны сок.

Іду ўздоўж бухты пляжам.
Шуршыць пясок.
Ля ног часамі хваля ляжа,
«Дзень добры»,— скажа,
А часам поверх хваль ныpне
Дэльфін,
Які прынёс з Афін
Легенду-песню Арыёна.

Цяпер, як і раней,
Для ўсіх і для мяне
Праменні сонца роніць
І абдае цяплом,
Як песня за сталом,
Калі сям'я пяснярская збярэцца,
Калі агонь святы гарыць
І спеў грыміць
У кожным сэрцы.

Марскі прыбой
Шуміць
І кліча ў даль вякоў.
Іду
Дарогаю бацькоў
І радасць за сабой
Вяду.
Яна са мной ідзе,
Як сонца да людзей.

Зайду у Джаматэ*:
Там вінаграднікі гараць,

* Джаматэ — вялікі вінаградарскі саўгас на ўзмор'і, недалёка ад Анапы.

Праменнямі іскрацца сокі.
Хачу на ліры
Заіграць
На свет увесь, раздольны і шырокі.
Лятуць у вырай
Журавы і дрофы
І кранаюць песень строфы.

Ой, зашумі, трысцё!
Які цудоўны, зорны вечар,
Як і маё жыццё
У сям'і вялікай чалавечай.

Заходзіць параход у порт —
Шчаслівая сустрэча:
Вінаградар Пётр
У госці запрашае
Піць віно каўшамі.
Я чую голас прывітальны,—
Над морам праляцелі гусі.
«Заходзь у сад,
Мой дружа дальні,
Вандроўнік з Беларусі.
Табе я вельмі рад,
Чакае нас такай,
З ім весялосць, паэт, спаткай.
З ім прыйдзе і натхненне
Вечарам асеннім;
Душа з ім не азябне,
Хоць ліст і ападае з яблынь,
Сагрэе кроў яно,
Гарачае віно».

Пад гоман хваль на моры
Гараць у нёбе зоры.

*Кастрычнік, 1935 г.,*
*Анапа.*

# 1936

## АВІДЗІЙ

Ой, рана, рана на Дунаі,
    Пад дубам пад старым,
Паэт на ліры не іграе,
    Не ўспамінае Рым.
    Вісіць цяжкі замок,
    На вуснах спеў замоўк.

Між хваль у даль плывуць паданні,
    Не сціхлі галасы:
Авідзій жыў тут у выгнанні,
    Маліўся, галасіў.
    У роспачы штодзень
    У даль на Рым глядзеў.

Ніяк паэт не мог сагрэцца
    І наракаў на лёс.
Жаллівы спеў яго ад сэрца
    Дунай на хвалях нёс.
    На поўдзень, дзе сябры
    Спяваюць да зары.

Ўзываў да літасці тырана,
    Маліў яго, прасіў:
«Ты загаі на сэрцы раны,
    Я — рымлянін, твой сын.
    Пачуй, тыран, пачуй!
    Табе я адплачу».

Не умаліць слязой тырана,
    Хоць колькі ні малі;
Заўсёды будзеш пакараны
    На бацькаўскай зямлі,
    Спагады не сустрэць,
    Пакуль не прыйдзе смерць.

Глядзеў журботнымі вачыма
    На поўдзень цёплы свой.
«Мая каханая Айчына,
    З дзявочаю красой,
    Ты голас мой пачуй,
    Цябе абняць хачу!

У смутку сонца ў небе ясным
    І кветкі на зямлі.
Маё жыццё паволі гасне,
    Не ўбачыць мне сям'і.
    Я высах, як таран.
    Праклён табе, тыран!»

Не ўбачыў роднага ён дома,
    Хоць і прасіў, маліў,
І косці склаў пад дубам Томы
    На чужой зямлі.
    Вятры адпелі славу
    І слёзы ў Рым паслалі.

*1936 г.*

## АДАМУ МІЦКЕВІЧУ

### 1

Я не на беразе самотнай Леты[1],
А на скалістым, ветраным узмор'і.
Чытаю ўголас «Крымскія санеты»[2],
Ўглядаюся у ясныя сузор'і.

На моры неўгамонных хваль усплёсы,
Узнепакоіў вецер белых чаек.
Я слухаю іх спеў рознагалосы
І ўсходу сонца на скале чакаю.

У радасным здзіўленні мае вочы.
Здаецца мне: Адам Міцкевіч крочыць,
Ўзыходзіць на скалу, як на Байдары.

Ідзе Адам Міцкевіч светлай явай.
Схіляюся перад песнярскай славай:
Ты жыў на свеце і спяваў не дарам!

2

Які цудоўны дэсань
Над морам зоры ткуць!
З Анапы да Адэсы
Ў ноч караблі плывуць.

Мае за імі думы
Турбуюць даль вякоў;
Бялеюць толькі дзюны
Правеяных пяскоў.

Я чую мора голас,
Варушацца пяскі;
Адам Міцкевіч калісь
Тут слухаў гул марскі.

Цяплом душы сагрэты,
Пад зорамі стаяў
І песні ўсяму свету
Натхнёна ён спяваў:

«Народ, разбі кайданы,
Якія цар скаваў,
Каб вольным стаў падданы,
А цар навек сканаў».

Спявалі з ім і ветры,
Ў душы агонь палаў,
А ноч са скал Ай-Петры
Хмурынкаю плыла.

Абмыла скалаў грані
І ўпала на зямлю.
Пакуль у гавань рана
Заходзіць караблю.

Няхай ідзе у рэйсы
Мой карабель між хваль —
З Анапы да Адэсы
І ў сонечную даль.

*1936 г.*

## БАЙРАНУ

Без песень салаўю
Не жыць ў зацішку рэк;
Брытанію сваю
Пакінуў ён навек.

Пагардлівы і горды,
Вянок да славы нёс.
«Не жыць, гібець між лордаў,—
Які жахлівы лёс!

Іграйце марш, музыкі,
З дарогі, лорды, прэч!»
Паэт-салдат вялікі
Узняў за волю меч.

З Балканаў веюць ветры,
Даносяць пах крыві.
«Хутчэй на поўдзень светлы,
Мой карабель, плыві!

Хай воля прыйдзе з боем
У сонечны ваш край.
Мая святая зброя,
Тыранаў пакарай!

Мужайцеся, спартанцы!
Гартуйце ў ноч мячы.
Да зброі, ў бой, паўстанцы,
Тыранам не ўцячы!

Сальюцца нашы рэкі.
Шумі, шумі, прыбой!
Уставайце смела, грэкі,
З тыранамі на бой!»

*1936 г.*

# 1942

## ВОСЕНЬ

Плача восень удавой,
Да людзей ідзе з бядой
І трасецца над вадой,
    Плача над кустамі
    Жоўтымі лістамі.
І плывуць ракой лісты,
Дзе навіс туман густы,
Ахінаючы кусты,
    Над людской нядоляй.
    Ой ты, доля, доля!
Колькі рос і горкіх слёз
Растрасаюць ветры скрозь.
Сыплюцца яны з бяроз
    На узгоркі, долы
    І на камень голы.
Не злічыць іх, не сабраць,
Ў небе зоркі не гараць,
І няма каму зайграць
    Ў нашых родных хатах
    Ў будны дзень і ў свята.
Не чуваць вясёлых слоў,
Апусцелі хаты сёл,
Сонейка даўно зайшло,
    І цяплом не грэе,
    І душа калее.
Плача восень удавой,
Да людзей ідзе з бядой
І трасецца над вадой,
    Плача над кустамі
    Жоўтымі лістамі.

*1942 г.*

## ГОНЯЦЬ У НЯВОЛЮ

У няволю гналі,
Песень не спявалі,
Вусны ўсіх маўчалі.
Сумнымі вачамі
Часам пaглядалі
На усход у далі —
Шчасця стуль чакалі.

«Ой вы, далі, далі,
Ведалі, каб знaлі,
Як нам цяжка сёння!
На заходзе сонца
Вас чакаем, хлопцы,
На дарогу тую,
Месяц што вартуе.
Брат сястру ўратуе.

Мы чакаем, просім.
На траве не росы —
Нашы слёзы стынуць
Кроплямі густымі.

Ад радзімых гоняў
Нас на захад гоняць
Па цярністай сцежцы.
У фашысцкіх сенцах,
На крывавым ганку,
Замардуюць зранку.

Позна на змярканні,
Рана на світанні —
Стогны, катаванні,
Плач і скавытанні.
Ці ж нам запрапасці
Ад такой напасці?
Дзе ты, наша шчасце?

Беларусь-радзіма
Нас на свет радзіла.
Як цябе пакінем?
Дома на мякіне,
Без вады і солі
Дажылі б да волі.

Хлопцы, каля пушчы
Чарапы патрушце
Подлым канваірам
І прысыпце жвірам.

Хлопцы, меч гартуйце,
Родных уратуйце!»
Не яснелі зоркі.
Стогн і плач той горкі

Ў сэрцах нагасціўся,
Ў пушчу дакаціўся
І каціўся далей.
Партызаны ўсталі
І прысягу далі —
Выйсці на дарогу
Родным на падмогу.

*1942 г.*

## ДАМОКЛАЎ МЕЧ

Вісіць на валаску цяжкі дамоклаў меч[1],
Здаецца, што сарвецца, голаў адсячэ.
А як жадаў, чакаў я радасных сустрэч
На беразе, дзе Свіслач светлая цячэ.

Дамоклаў меч фашызм на Беларусь прынёс.
І мачты шыбеніц узнёс аж да нябёс.
Іржавы і крывавы меч пужае нас,
Але адыдзе, праміне жахлівы час.

Не літасці у ворага маліць, прасіць,
Хоць і дамоклаў меч над галавой вісіць.
Лязом ён вострым шыі нам не пэратне,
Яго мы пакладзём фашыстам на труне.

*1942 г.*

## ПЛАЧ СІРОТАК

Брацік і сястрычка
Просяць у крынічкі:

«Напаі, крынічка,
Нас ты, невялічкіх.

Ночка. Дзень кароткі.
Сёння мы сіроткі.

Дзетак не прытуліць
Родная матуля.

Бацька не уцешыць,
Нас фашыст павесіць,

Як бацькоў павесіў
Дома, каля весніц.

Родная крынічка,
Напаі вадзічкай,

Дай нам моц і сілы,
Каб нас не скасілі».

Коцяцца слязінкі,
Хіляцца вярбінкі

Да сіротак бедных
У кашульках зрэбных.

Плачуць сенажаці.
О Радзіма-маці!

*1942 г.*

## ЯНКУ КУПАЛУ

Сачылася жывая кроў з пяра,
І чара сэрца з песняю разбіты.
Не быў народ пры смерці песняра
І не прыкрыў яго вачэй знябытых.

У вечар той аклікнуў гром прасторы,
І рэкі паплылі народных слёз.
Нашчадкам не раскажа і гісторык,
Як смутак з горам ў нашы сэрцы поўз.

Ад жалю-скрухі людзі камянелі,
Схіляліся ў жалобе на калені
І клікалі радзіму Беларусь:

«Прыйдзі, згарні гарачых песень прысак,
Не згаслі ў ім, гарацьь Купалы рысы,
Ў крупінцы кожнай б'ецца сэрца пульс».

*1942 г.*

# 1943

## ВОЛАТЫ

*Паданне*

Там, дзе водар грэчкі,
Там, дзе Прыпяць-рэчка
І славуты Тураў,
Жыў даўным-даўно
У сям'і адной
Волат наш Батура.
Моцны быў асілак,—
Кроў бацькоў у жылах.

Ён любіў Айчыну,
І красу-дзяўчыну,
І народ свой родны.
За сясцёр, братоў
Усё аддаць гатоў.
Мужны і дародны,
Як той дуб, плячысты,
Погляд — ясны, чысты.

Сілай і адвагай
Заслужыў павагу...
Раз ён у суботу,
Досвіткам, да дня,
Асядлаў каня
І, абуўшы боты,
Правярацъ дазоры
Выехаў на ўзгорак.

Як на Захад глянуў,—
Стуль данёсся лямант:
Вораг-чужаніца
Ўжо не першы год
Катуе народ.
Зоранька-зарніца

Плача па-над борам
Над народным горам.

— Не развее вецер
Наша ліхалецце;
Уставайце, хлопцы,
Станьце ў грозны гурт!
Пад нагамі грунт
Чуем цвёрды, моцны.
Ворага пратурым! —
Загукаў Батура.

Пастухі, ратаі
На страмёны сталі.
І сказаў Батура:
— Адстаім зямлю
Родную сваю!
Адстаім свой Тураў! —
І павёў дружыну
На палкі чужыя.

Раніцай туманнай
На лясной паляне
Скрыжавалі пікі,
І пачаўся бой.
Кроў цячэ ракой,
Лязгат зброі, крыкі...
Аж зямля гудзе!..
Біліся ўвесь дзень.

Ворага касілі,
І радзелі сілы
Нашае дружыны.
— Ці ж ісці ў палон
І аддаць паклон
Мачысе-чужыне?
Не, ніколі! Верце
У перамогу сэрцам!

У цяжкую гадзіну
У бітве за Радзіму,
Храбрая дружына,
Хто паможа нам,
Тураўскім сынам?

Застанемся жывы!
Хлопцы, націск дружны! —
Кліча волат мужны.

Ясны, родны сокал
Меч узняў высока
За Радзімы долю.
Зноў паганых б'юць,
Кроў лагчыны п'юць.
Хтосьці мчыцца долам,
Аж дрыжыць зямля...
Мурамец Ілья!

Ён не спаў дзве ночы,
Гнаў каня што моцы:
Дзе той горад Мурам,
А дзе Тураў той!
Не чакае бой.
— Добры дзень, Батура,
Прынімай падмогу,
Будзе перамога!

— Дружа, бітва кліча! —
Шмат было сутычак,
А такіх не знаці.
Як пайшлі глушыць
І мячом крышыць,—
Парадзелі раці.
Дружна хлопцы турацъ
Ворага за Тураў.

Запявае песні
Вольнае Палессе.
Сонечнай дарогай
У родны дом з вайны
Мужныя сыны
Едуць з перамогай.
Сустракаць іх сёлы
Выйшлі ɪ хлебам-соллю.

Гуды-перагуды,
Затрубілі трубы:
«Просім у святліцу
За бяседны стол».

Радасць навакол.
Дружна маладзіцы
Песні запяваюць,
Гусляры іграюць.

Як на Беларусі —
Белыя абрусы
На сталах, на лавах
Ў бутлях хмельны мёд.
Ў радасці народ
Поўнай чарай славіць
Мурамца Ілью
І яго зямлю:

«Славім родную зямлю,
Слава Мурамцу Ілью!

Слава! Слава! Вечна слаўся,
Светлы месяц, сокал ясны,
Мурамец Ілья!

Славім рускую зямлю!
Слава Мурамцу Ілью!

Слава, слава, вечна слаўся,
Месяц светлы, сокал ясны,
Мурамец Ілья!

Славяць пушчы і лясы:
Слава волату Русі!

Слава, слава, вечна слаўся,
Светлы месяц, сокал ясны,
Мурамец Ілья!»

*1943 г.*

## ЗАЛАТЫ СТРУМЕНЬ

*Легенда*

Шмат легенд і песень
Для старых, малых.
На Падгор'і, ў лесе,
З-пад гары-скалы
Залаты струмень
Бег і ноч, і дзень.

Бег зіму і лета,
Восень і вясну.
Ці ж не дзіва гэта,
Што не мае сну?
Ночы ўсе і дні —
Клопаты адны.

Быў такім заўсёды
Той струмень жывы.
Колькі асалоды
Мелі журавы,
Як пілі з яго:
О-го-го! О-го-го!

Так ужо спрадвеку,
А ні год, ні два,
Паўнаводным рэкам
Ён жыццё даваў.
Залаты струмень
Ясны, як прамень!

Быццам той асілак,
Твань з плячэй страсаў;
Весяліла сіла,
З ёю і краса.
Песняй з году ў год
Цешыў свой народ.

І аднойчы ў ночы
Лес шуміць, не спіць,
Бачыць: камень хоча
Той струмень спыніць;
Поперак залёг,
Каб той плыцць не змог.

А струмень нястрымны
Ўсё цурчыць, цурчыць
І, нарэшце, жвірны
Камень прасачыў,
А пасля стаў злым
І ушчэнт размыў.

«Каб не быць нядобрым,
Жорсткім у жыцці,
Ляж пясочкам дробным
На шляху-пуці.
Не пужай гарбом,
А жыві дабром,
Светлы дзень сустрэнь»,—
Празвінеў струмень.

Прыляцела каня,
Чуе булькат-смех.
Поперак больш камень
Легчы не пасмеў.
Залаты струмень
Зноў звініць ноч-дзень.

«Калі ж гэткі порсткі,—
Думае гара,—
Крышыць камень жорсткі,
Не чакаць дабра.
Я сама яго
Высушу ўсяго.

Па якое ліха
Ён усё не спіць?
Лепш хай будзе ціха».
А струмень звініць,
Голас, як жывы.
П'юць зноў журавы.

Людзі, птушкі рады,
Лісці шалясцяць.
«Не магу даць рады,
Адабраць жыцця.
Не магу здушыць,
Высушыць душы,
Хоць ваўкоў збірай»,—
Скардзіцца гара.

І раптоўна кліча...
Без святла-агня
Ліча і не зліча —
Цэлая гання.
Ставяць тут яны
Пад струмень збаны.

Носяць, носяць зранку,
Не хапае сіл.
Носяць безустанку,
Рвуцца з усіх жыл,
А струмень бяжыць.
Хочацца так жыць!

Пад гарой-скалою
Возера стаіць,
А вадой жывою
Ўсё струмень звініць.
«О-го-го, які!» —
Думаюць ваўкі.

Вобземлю разбілі
Ўсе свае збаны.
«Перакусім жылы,—
Цешацца яны,—
І ўжо без бяды
Спынім пульс тады».
Цяўкаюць і выюць,
Ляскаюць клыкі,
І ніяк не спыняць
Той струмень ваўкі.
Разбірае злосць,—
Праглынуць лепш косць.

І пайшлі ў балота
Трохі адпачыць.
Заляглі ў чаротах,
А струмень цурчыць,
Звоніць у вушах.
Вые, не маўчыць
Воўчая душа.

І бяжыць пявучы
Між дубоў, бяроз.

Пра струмень жывучы
Слава ходзіць скрозь.
Залаты струмень
Ясны, як прамень.

*1943 г.*

## МОЙ САКОЛІК ЯСНЫ

Сонейка не свеціць,
Зоранькі не спяць.
Ой, калі на свеце
Будзе дзень світаць?

Сонейка узыдзе,
Ночанька міне.
Мой саколік выйдзе
З пушчы да мяне.

Я рукамі сплясну
На шляху-пуці.
Мой саколік ясны,
Ў садзік прыляці!

Прынясі ты волю,
Радасць у сям'ю.
Заспявай, саколік,
Песеньку сваю,

Як спяваў калісьці
Ў роднай хаце ты.
З кім у садзік выйсці,
Сынку дарагі?

Ты мая уцеха,
Любы, родны мой!
Весяліў і цешыў
Ўлетку і зімой.

Поплавам зялёным
Рэчанька плыве;
Мой сынок вясёлы
Прыйдзе да мяне.

*1943 г.*

## МОЙ ТЫ РОДНЫ, МОЙ СЫНОК

Мой ты родны, мой сынок,
Мой блакітны Васілёк,
Адгукніся маме, дзе ты,
І разуты, і раздзеты?

Мае вочы горка плачуць:
Васілька даўно не бачаць.
Ці не ўбачу больш ніколі?
Дзе ты, родны мой саколік?

Нашы кубкі з горкім сокам:
Ходзіць гора каля вокан.
Гора плача і галосіць,
Нашы сілы гора косіць.

Горкімі слязамі гора
Коціцца ў людское мора.
Мора бурнае бушуе,—
Гнеў і боль нясцерпны ў шуме.

Гора ў моры захлынецца,
Радасць людзям усміхнецца.

Прыйдзе родны мой сынок,
Мой блакітны Васілёк,
Заспявае ў роднай хаце,
Дзе сумуе сёння маці.

*1943 г.*

# 1944

## КУКАВАЛА ЗЯЗЮЛЯ

Кукавала зязюля
У дуброве рана:
Нас раздзелі, разулі
І на целе раны.
Ой, раны! Ой, раны!

Кукавала зязюля,
І лічылі хлопцы:
Узыходзіць, красуе
На усходзе сонца.
Ой, сонца! Ой, сонца!

Расчынялі матулі
Дзверы, вокны насцеж.
Кукавала зязюля
Беларусі шчасця.
Ой, шчасця! Ой, шчасця!

Сустракалі матулі
Родных у няволі.
Кукавала зязюля
Аб народнай долі.
Ой, долі! Ой, долі!

У зялёным шуме
Сумаваць даволі.
Кукавала зязюля
Беларусі волю.
Ой, волю! Ой, волю!

*1944 г.*

# 1947

## ЗЯМЕЛЬКІ ТРЫ ЖМЕНЬКІ

Зямелькі тры жменькі
Падняў я з руінаў у Мінску
У вечар асенні.
Засею шчаслівым насеннем;
Узыдзе вясной, закрасуе
Над светлаю рэчкай,
Пад сонцам Радзімы савецкай.
За гэта душа галасуе.

У вечар той вецер у Мінску
Не веяў, суціх,
А дождж папырскаў
На прысак настрояў маіх.
— Настроям ніяк не астыць! —
Шапталі на клёнах лісты.

Сціскалася сэрца ад болю,
Прасілася сэрца на волю
Напіцца вадзіцы
З крыніцы
Радзімай зямлі,
Прасілася сэрца
Сагрэцца
У роднай савецкай сям'і.

Пусцілі у хату пагрэцца.
Пачула тут сэрца
Ад роднай сястры
Ў Малым Трасцянцы,
Як немцы-фашысты у лесе Благовым
Братам адсякалі галовы
І вешалі іх там на хвоі.
Стрымаць каб імкненні да волі.

Пачула там сэрца
Пра тое, з чым век не сустрэцца:
Як немцы-фашысты народ мой каралі,
Душылі рукою агіднай, каравай,
Пятлёю крывавай;

Як жылы трымцелі,
А смерці засценак
Людскою нядоляй стагнаў;
Як дзікіх фашыстаў гання
Страляла, труціла, душыла
За шыю
Пятлёй чалавека
Дваццатага века;
Фашысты сякеры ўздымалі,
Гарачай крывёй абмывалі;

Як ночаньку лямант пужаў,
А сэрцаў гарачых пажар
Над лесам палаў;
Як матак ахопліваў жах,
І рэчкай Трасцянкай кроў штодзень плыла;

Паўзла па дарогах, як здрада,
Сліўнем куслівым
Вырадкаў подлых і гадаў.

Не мог заставацца тут болей
Гасціць:
Сціскалася сэрца ад болю,
Хацеў і не мог я падняцца, ступіць,
Душу пачало калаціць,

— Фашыстам, сабакам шалёным
І псам
Праклёны, яшчэ раз праклёны! —
Крычаў я і слаў.
— Вітаю адважных мільёны
У пушчах зялёных!

Зямелькі тры жменькі,
Напоеных горкай слязою,
Абмытых гарачай крывёю,
Вадзіцай жывою,

Вазьму я з сабою,
Засею шчаслівым насеннем
У поўдзень вясенні.

Зямелька святая мая,
Над далямі свеціць маяк!
Над далямі сонца світае;
Радзіма мая залатая!
Зямельку цалую сваю.
— І сэрца, і песню табе аддаю!

*28 верасня 1947 г.,*
*Малы Трасцянец.*

## З РУІНАЎ МІНСК ПАРАНЕНЫ ЎСТАЕ

Яшчэ скрываўлена душа зямлі
І сэрца б'ецца у крывавых ранах,
А ўжо будаўнікі сюды прыйшлі
Сустрэць на рыштаваннях светлы ранак.

Чуваць: апошні залп вайны грыміць,
А маладосць спявае гімны працы.
З зямлі растуць падмуркі камяніц
І устаюць індустрыі палацы.

З руінаў Мінск паранены ўстае,
Як воін у прастрэленым шынелі,
Збіраючы у прыгаршчы шрапнелі.

У новым доме — кветкі на стале.
Заходзіць сонца яснае у госці
Аддаць паклон вясне і маладосці.

*1947 г.*

## ІДУ І ПАДАЮ ПАД КРЫЖАМ

На стол не сцелюць мне абрус,
Хоць навальнічны гром адгрохаў.
Твой крыж, Радзіма Беларусь,
Нясу я на гару Галгофу.

Крывавы пот ліе цурком,
Іду і падаю пад крыжам,
Глядзяць з завешаных акон
І дзівяцца, што выжыў.

У сэрцы не нашу я камень,
Хоць ім шпурлялі у мяне.
Радзіму абніму рукамі,
Калі навала праміне.

Дайду і крыж [illegible] плячэй звалю,
І расцалую родную зямлю.

*1947 г., Мінск*

# 1952

## У КІСЛАВОДСКУ

І сонца, і блакіт,
І рэчкі бег імклівы,
А дома — шум ракіт
І ціхі спеў каліны.

Пяснярская скала
Не ў радасці, а ў горы;
Хмурынка праплыла,
Схавалася за горы.

Гляджу я на Эльбрус:
Праменіцца, світае,
А недзе Беларусь
Мне любая, святая.

Шумяць бары-лясы
І п'юць жывыя сокі.
Як шмат зямной красы
Між горных скал высокіх!

Тут — сонца і блакіт,
Альхоўкі бег імклівы,
А дома — шум ракіт
І ціхі спеў каліны.

*2/X-1952 г.,*
*Кіславодск*

## РАСІІ СЛАВА

*М. Ю. Лермантаву*

Як толькі ўспомню родны Мінск —
І гром над галавой грыміць...
А тут — Машук, і абеліск,
І кроплі на траве крыві.

Не змылі ліўні, кроў гарыць,
Цару-тырану шле дакор.
Не гаснуць водбліскі зарніц
На дне крыніц скалістых гор.

Я чую голас твой, пясняр.
Прыціх, не гойсае шакал.
Расіі слава, дзіўны дар
Жыве у песні горных скал.

*Пяцігорск, кастрычнік 1952 г.*

## ЖАДАННЕ

Між горных скал мне не сустрэўся барс,
З якім змагаўся Тарыэл і Мцыры.
Упершыню вітаю я Каўказ
І ў снежным харастве яго вяршыні.

Ці хопіць сіл ўзысці мне на Эльбрус?
А мо арлы падхопяць там на крылы?
Хачу з вяршыні ўбачыць Беларусь,
Пакуль хмурынкі сонца не прыкрылі.

*1952 г.*

## КОЦІЦЦА ПА ТВАРЫ ДЫ СЛЯЗА ГАРАЧАЯ

Коціцца па твары ды сляза гарачая.
Ці вярну цябе я, ці навек утрачана?

Не рунее поле, што вятры засеялі,
Злыя віхры песню па зямлі развеялі.

Пабыла ў няволі, у турме за кратамі,
Над тайгой пранеслі жураўлі крылатыя.

Пабыла на ўзмор'і, за хрыбтамі горнымі,
Рвалася дадому вечарамі зорнымі.

Ясным летнім ранкам сонцу не ўсміхалася,
Як на окскім плёсе хвалямі ўмывалася.

Жураўлі і гусі жаласна курлыкалі,
Песню-паланянку на радзіму клікалі.

Ой, ляціце, птушкі, ды на лозы ніцыя,
Гаманіце там вы з светлымі крыніцамі.

Мой паклон нясіце у лугі зялёныя,
Дзе гарэць каліны з залатымі клёнамі,

Дзе сінее Свіслач з вербамі пахілымі
І плывуць пад ветрам хвалі палахлівыя.

Ой, ляціце, птушкі, за гаі шумлівыя
І нясіце песню за азёры сінія.

*1952 г. Чаадаева.*

## НЕ ЗАБЛУДЗІЎСЯ Я Ў ЦЕМНЫМ ЛЕСЕ

Не заблудзіўся я ў цёмным лесе
І шлях да сонца адшукаў даўно.
Радзіму не пакіну я без песень,
Спяваю ёй і толькі ёй адной.

Дажджы чало і твар твой арасілі,
Авеялі легендамі бары.
Пакуль не падкасіла старасць сілы,
Табе я песню аддаю ў дары.

Пакуль душа і сэрца не азяблі
І не падкраўся загадзя мароз,
Прыйду я да тваіх асенніх яблынь,
Каб іх суровы сівер не атрос.

*1952 г.*

## А. М. РАДЗІШЧАВУ

Які калючы жвір,
Цяжкіх кайданаў звон.
Ўладзіміркай ў Сібір
Ішоў знябыты ён.

Над рэчкай, за сялом,
Спускаліся з гары.
Слядоў не занясло,
Пясок іх не прыкрыў.

Пясчынкі у крыві,
Іх процьма, не сабраць;
Паварушы, крані,
Пад зорамі гарадь.

Арол больш не дзяўбе,
Не вострыць кіпцюры.
Ўпіваліся ў цябе
Драпежныя звяры.

*1952 г.*

## СЫНУ

Дванаццаць выбіла гадзін,
Радзіме ў песні памалюся...
Мой сын, да бацькі падыдзі,
Паслухай сказ аб Беларусі.

Не чуў ты песень родных ніў,
Не піў вады з крыніц здароўя,
І бор з табой не гаманіў
Ні разу ў добрае надвор'е.

Дзяліў са мной выгнання дні
Пад небам ласкавым Расіі.
Мігалі водбліскі, агні
Над даляглядам родным, сінім.

Запомні, бацька што гаворыць:
Цярнёвым шляхам я ішоў,
Пакіну томік грэшных твораў,
Сагрэтых зморанай душой.

Мой скарб народу перадай,
Як толькі праясніцца даль.

*1952 г., Чаадаева.*

# 1953

## ПРАСТОРЫ, ПЕСНІ РОДНЫЯ

Прасторы, песні родныя,
Як рэкі паўнаводныя.
Ў надранні час бадзёры
Шумяць блакітныя азёры.

Крыніцы неўгамонныя,
Як нашы шумы хвойныя.
Стаяць дубы на варце.
Сябры, сяброў збірайце!

Шумяць бары высокія,
Ляцяць дахаты сокалы,
Нясуць на крылах песню,
І рады ўсе прадвесню.

*1953 г.*

## СМЕРЦЬ ТЫРАНА

Нязвыклы дзень: тыран сканаў,
На твары чорная сляза;
Яе нікому не злізаць.
З касою смерць каля вакна.

Яна вартуе, каб не ўстаў
Тыран расправу учыняць.
Сляза на твары, а чыя?
Сказаць пра гэта жах і страх.

Народная сляза і кроў:
Бацькоў, і матак, і дзяцей.
Ён адбіраў жыццё ў людзей
І куляй цэліўся у скронь.

Вартуй жа, смерць, ўсю ноч і рань,
Каб больш не ўстала яго здань.

*1953 г.*

## ХТО СКАЗАЎ?

Народу хто сказаў, што здрадзіў я Айчыне,
І што мая рука дзвярэй больш не адчыніць,
І што нага на бацькаўскі парог не ступіць,
І што маю душу скрывавіце у ступе?
Скажыце, вынес хто такі прысуд суровы?
Прызнайцеся, чые, якога злыдня словы?

Каб вы і вашы сэрцы ў гневе не злавалі,
Мацней запрыце ў хаце дзверы на завалу.
Народ брахні сабачай сёння не паверыць,
І бацькаўскай сваёй рукой адчыніць дзверы,
І сына роднага сустрэне на парозе,
І запытаецца, чаму быў доўга у дарозе.

Што я скажу яму? Чым я народ уцешу?
Хай выйдзе сонейка маё з-за бору-лесу.

*1953 г., Чаадаева.*

# 1954

## Я — НЕ ГАРАЦЫЙ

Я — не Гарацый, у вянку лаўровым,
І не чытаю мецэнату вершаў,
Я — толькі Пушча, ў радасці і ў горы
Паміж паэтаў найвялікшы грэшнік.

Пазнаў, адведаў зябкі змрок цямніцы,—
Тады быў год ужо такі суровы.
Шмат дзён маўчалі маладыя словы,
А я крапіўся і не падаў ніцам.

Было не сёння ўсё яно, а ўчора.
Віна больш не разбавіць горкі чэмер,
Яго адмералі мне поўнай мерай.

Сваё святло зноў пасылаюць зоры,
І абудзіўся ў сэрцы спеў гарачы,
Хоць толькі Пушча я, а не Гарацый.

*1954 г.*

# 1955

## ПАЖАР ПАЛАЕ

Пры светлым полымі ў надвечар
Прыціх юнак — свавольны вецер.

Расінкі падаюць на скроні;
Пясняр прасцёр увысь далоні.

Прасцёр, сплясну ў... пажар палае...
Пад зорамі пяснярскай славай.

Пясняр душы сваёй пажар
Кійком шавеліць, моўчкі keміць,
Як некалі Адам Міцкевіч.

Іскрыцца твор гарачай песні
Зарніцай яснай ў паднябессі!

«Сады вятроў» агнём палаюць![1]
Няхай мяне, няхай не лаюць.

Спаліў... спаліў пад шум крынічкі.
Даруй мяне, даруй, Грыміцкі![2]

*23/1—1955 г., Чаадаева*

## ВЫЙДУ, ГЛЯНУ...

Выйду, гляну, ці не выйшаў
Мой каханы на узвышша.

Пачакаю каля весніц,
Ці не ўцешыць сэрца песняй?

Голас чую, запявае:
«Човен мой калышуць хвалі,

Човен мой плыве дахаты
Супраць ветру, хваль пакатых;

Човен я вяслом кірую,
Што было, усё дарую».

Чую песню, чую ў далях,—
Сонца з любым там на хвалях.

*1955 г., Чаадаева.*

## КІПАРЫСЫ

Стаяць на варце кіпарысы,
Над імі сонца ў вышыні.
Да сэрца толькі дакраніся —
І песняй зашумяць яны.

На чарнаморскае узвышша,
Як рыцары паўднёвых скал,
Яны ў плашчах зялёных выйшлі
Сустрэць марскі дзевяты вал.

Ідуць зялёнай чарадою
На ўзмор'е слухаць гул марскі.
Ляжаць пад сонечнай чадрою
Зямлі гарачыя пяскі.

Я помніць буду скал абрысы
І вашу песню, кіпарысы!

*10 ліпеня 1955 г.*
*Ахалі-Афоні*

## МОРА

З узнятаю рукой да сонца
Я на скале марской стаю.
Люблю цябе я шчыра, моцна,
Як песню першую сваю.

Не ведаюць плыўцы пакоры,
Калі ідуць у смелы рэйд.
Люблю бязмежныя прасторы,
Адвечны гул тваіх легенд.

Ўздымаюцца валы высока
І хочуць падхапіць мяне.
Расправіў крылы вольны сокал
Са мной на сонечнай скале.

*1955 г.*

## НА ЎЗМОР'І

На ўзмор'і ў неба высіцца маяк,
Святло не меркне, караблі плывуць.
У далягляд марскі глядзіць юнак,
І маладыя вочы радасць п'юць;

Смяюцца вусны і смуглявы твар,
Рукамі хоча ахапіць прастор.
Палае ў сэрцы маладосці жар;
Ўзнімаецца на Чорным моры шторм.

Не гасне у вачах жыцця агонь;
За хваляй хваля гоніцца ўздагон,
І босыя ўзбягаюць на скалу.

Ўзыходзіць сонца, а маяк гарыць,
І вадаспад зрываецца з гары,
Спявае сонцу і зямлі хвалу.

*1955 г.*

## СВЕТЛЫЯ РАДКІ

Надорвана здароўе,
Волас пасівеў;
Пішу часамі кроўю
Вершы я свае.

Гарачыя якія,
Светлыя радкі...
Хаджу яшчэ без кія
Днём каля ракі.

Шукаю шчасце-кветку
У свае гады,
Як і тады, улетку,
Ў поўдзень малады.

*1955 г.*

# 1956

## У МІНСКУ

Дзень сягоння урачысты:
З песняю гамоніць сэрца.
Я прыйшоў [redacted] сумленнем чыстым
З вамі, родныя, сустрэцца.

Ад душы сказаць: дзень добры!
І руку пацiснуць моцна.
Я згубіў старыя торбы,
Не павешу іх пад сонцам.

У зялёнай у шыпшыны
Ружавее цвет у маі.
Не пад вокнамі чужымі
Чару з песняй паднімаю.

За здароўе п'ю Радзімы,
Што на свет мяне радзіла.

*4, 7/1—1956 г., Мінск*

## ВУЧНІ

Вучні з вёсак навакольных,
Закаханыя ў вясну,
На ўрачысты вечар школьны
Песню на руках нясуць.

Ціха льюцца слоў праменні,
Дзень смяецца малады.

Белыя пялёсткі жменяй
Вецер сыпле на сады.

Ў нашай школе сёння свята,
Расчынілі вокны ўсе.
Цераз поле атэстаты
Вучням сонейка нясе.

*15/IV—1956 г.*

## ГРОМ ВЯСНОВЫ ПРАГРЫМЕЎ

Спарахнелі замка вежы:
Сыплецца пясок і жвір.
Вецер вее сёння свежы,
І святлее цёмны вір.

З дна гісторыі глыбокай
Хваляй біў народны гнеў.
І пад небам пад высокім
Гром вясновы прагрымеў.

Перад сонцам дзве вясёлкі
Родны край свой абнялі.
Заяснелі ў небе зоркі,
Сеў рунее на зямлі.

Нас нашчадкі не асудзяць,
Радасць працы славяць людзі.

*9/V—1956 г., Чаадаева.*

* * *

Між бярозак, дзвюх сясцёр,
Усміхаўся брацік клён:
— Мы дужэем і расцём
З кожным летам ясным днём.

Не схіляліся мы ніцам,
Наляцеў калі віхор.
У навалу, навальніцу
Вартавалі свой прастор.

Злыя хмары мы прагналі,
Хмары з ветрам уцяклі.
Асвяціла сонца далі
Над прасторамі зямлі.

Кліча сонца нас у госці
Разам з песняй маладосці.

*9/V 1956 г., Чаадаева*

## ДЗЕСЯЦІКЛАСНІКІ

### I

Юнацтва дні бягуць за намі,
І маладосць сустрэне нас.
Апошні здадзены экзамен.
Скончылі дзесяты клас.

На небасхіле нашым ясным
Рассыпала вясна красу.
У небе зоры не пагаснуць;
Нам атэстаты сталасці нясуць.

Мы ў школу дзесяць зім хадзілі,—
Навекі, памяць, запішы.
Народу, партыі, Радзіме
Ад сэрца дзякуй, ад душы!

Пацiснем сёння шчыра рукі
Мы тым, хто нёс святло навукі.

II

Пад сонцам ружавеюць макі,
Красуе іх вясёлы рост:
— Настаўнікам ад вучняў дзякуй,
За вас мы паднімаем тост.

Радзіму з вамі мы пазналі
І навучыліся кахаць.
Найлепшы гэта наш экзамен,
Які мы здалі ўсе на «пяць»...

Даём народу мы прысягу —
На вахту маладосці стаць:
Мы будзем пад савецкім сцягам
Заводы славы будаваць.

Ў жыццё мы расчынілі дзверы
І моцна ў свае сілы верым.

*Чаадаева.*
*Чэрвень — ліпень 1956 г.*

## ЯК ХАДЗІЛІ ПА РАДЗІМЕ

Як шмат падзей прыгожых
Было у падарожжы:
Вясёлыя паходы,
Здарэнні і прыгоды,
У дождж, у непагоду
Усім сваім народам
Ішлі шумлівым бродам.
Было дазнаць цікава,
Скуль рэкі выцякаюць,
Як б'юць з зямлі крыніцы,
Што век ім не спыніцца.

1

Успомнім мы шатры,
Бярозкі — тры сястры
І піянерскія кастры.
Ляцелі роем іскры,
Дождж залацісты пырскаў;
Лавілі мы ў прыгоршчы
Той залацісты дождждык.
Гарэлі ў хлопцаў вочы,
Касцёр каб пераскочыць.

Заўсёды так бывала:
Пад скрыпку, пад цымбалы
Па-над шумлівай хваляй
Мы чайкамі ўзлятал,
Нас крыллі ўгору неслі
Паходнай нашай песні.
Скакалі «Крыжачок»,
Вясёлы «Казачок».
Былі між нас салісткі,
Сапраўдныя артысткі,
І нават песняры
Спявалі на зары.
На вёсцы і ў райцэнтры
Давалі мы канцэрты.

2

Успомнім ў маладосці,
Як мы хадзілі ў госці
Да дзеда Лукаша
І сок пілі з каўша.
З якою цёплай ласкай
Расказваў нам ён казкі
Ў сваёй святліцы новай
На зэдліку кляновым.

Хадзіў ён разам з намі
На Светлыя паляны,
Сялібы партызанаў;
Паказваў мясціны,
Бывалі дзе, гасцілі,
Якой паўзлі пуцінай

На смелую аблаву —
Зваліць ваўка пад лаву,
Драпежніка-фашыста,
Каб стала ў хаце чыста,
І светла, і ўрачыста.
Ваўка яны злавілі
І збілі з ног, звалілі.

3

Дубы, Радзімы слава,
Лісты ў пасцель нам слалі.
Быў смачны адпачынак
Для хлапчукоў, дзяўчынак.
На гэтакай пярыне,
Была што у Марыны,
У Светы і у Сцешы,
Не спала і прынцэса:
Не чулі ў сне глыбокім
Гарошыны пад бокам[1].

Любілі мы бясконца
Уставаць на ўсходзе сонца,
З ім разам усміхацца,
Расою умывацца.
Забыўшыся пра тапкі,
У адных трусах і майках,
Ўперагонкі, без аглядкі
Імчыся на зарадку.

Дзяўчынкі-гаспадынькі
Харчамі не марылі:
На вогнішчы варылі
Ні з курыцай, ні з качкай,
А вельмі, вельмі смачна
З'ясі ўсё і без лыжак
І пальчыкі абліжаш...

Ніколі не пагасне
У нашых успамінах,
Як мы былі ў калгасе
«Камунізма нівы».
Шумяць бярозы, клёны
І мора, мора лёну.

4

Былі мы вельмі рады,
Калі усім атрадам
Палолі лён блакітны
І нам спяваў ракітнік.
Яму мы падпявалі,
Плылі над полем хвалі:

На раздольным гэтым полі
Полем, полем і праполем
Усё чыста.
Выйдзі, сонца, падзівіся.
Урадзіся, урадзіся,
Валакністы!

Не дарам мы хадзілі
Ў паходы па Радзіме:
Гербарыі якія
Сабралі мы! Пакінем
Іх школе на ўспаміны.
І рэкі, і даліны,
І шумныя дубровы,
І вечар чарнабровы,
Бывайце ўсе здаровы.

Шпакоў ляцяць чароды
Ў сады і агароды,
Заводзяць шум і спрэчкі.
Наш школьны сад над рэчкай
Без салаўя-паэта,—
Адыдзе хутка лета.

Дакоціць жнівень кола,
І нас пакліча школа,
І сядзем мы за парты
Вучыцца зноў упарта,
І восень залатая
У госці завітае.

*Чаадаева. Ліпень 1956 г.*

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, МІНСК!

З Масквы на Мінск адкрыты семафоры,—
На захад адыходзяць цягнікі.
Апошнія сігналы і званкі,
І ад платформы першай рушыць скоры.

Як шмат радні, як людна на пероне!
Махаюць рукі родным наўздагон.
Са мной заходзіць сонца у вагон,
Я аддаюся сонечным настроям.

Ў дарозе шчасця марна не растрачу,
Аддам радзіме з песняю гарачай,
І усміхнуўся сонца ясны дыск.

Кранаюць сэрца родныя абрысы:
Смаленск і Орша, Слаўнае, Барысаў,
І я з акна крычу: «Дзень добры, Мінск!»

*1956 г.*

## З НАРОДАМ Я

На вахту кліча маладосць,
Гараць на палубе агні,
Ў жыцці я — гаспадар, не госць
І працай рупнай слаўлю дні.

Я не стыджуся мазалёў,
Ўзыходжу з кіркай на гару
І разам з роднаю зямлёй
Уздымам творчасці гару.

За працай не адзін мільён,
І светлы высіцца маяк
На беразе скалістых дзён.
З народам я, зямля мая!

Ўстаю да сонца, ў цэх іду;
Лунае працы творчы дух.

*1956 г.*

## КАНЦЭРТ

У хвалях рэчкі залатыя рыбкі,
Святло адсвечвае, я не тушу.
З цымбаламі спяваюць хорам скрыпкі,
Мелодыі ў палон бяруць душу.

Даўно не быў на гэтакім канцэрце:
Музыкі граюць светлы гімн вясны.
У ім народнае трапеча сэрца,
Стаіўшы подых, слухаюць сыны.

Суціх і вецер між зялёных дрэў.
Сваім цяплом канцэрт мяне сагрэў.

*1956 г.*

## КРЫНІЦА

Збіраліся сыны ў магутны гурт.
Бацькі сказалі ім: «Гару скраніце,
Няхай праб'ецца цераз цвёрды грунт
Празрыстая і светлая крыніца».

Уперліся ў гару мільёны рук,
Скранулася — і трэшчына ў граніце.
Цяжкіх каменняў раскаціўся грук,
Прабілася з грудзей зямлі крыніца.

Прабілася на свет жывой вадой,
Пабегла ўдаль далінай маладой
І напаіла свой народ здароўем.

Змянілася суровае надвор'е,—
На ніве ураджай закаласіў,
Напіўся кожны колас свежых сіл.

*1956 г.*

## ПАЭЗІЯ МАЯ

Пачуў паэт душы народнай голас.
Шчаслівы, ён спявае разам з ёй.
Пад ясным сонцам гнецца поўны колас,
Схіляецца над маткаю-зямлёй.

Багаты ураджай на ніве спее;
У пору трэба нам яго сабраць.
Паэт народ і працу славіць спевам,
Праменні ясныя ў вачах гараць.

На ніве ён з сям'ёй сваёй працоўнай,
Народнай песні колас у руках.
Жывём пад сонцам, не пад хмарай цёмнай,
Плыве удаль шырокая рака.

Жыві, красуй, савецкая зямля!
Жыццё народнае — паэзія мая.

*1956 г.*

## САЛАВЕЙ

Не спяваў ён ясным зорам
За далёкім сінім морам.

Не спяваў на скалах голых,
Сумаваў па родных долах.

Салавей, пясняр крылаты,
Прыляцеў вясной дахаты.

Пад лістком расінку соку
Выпіў чыстага, як вока.

Пакланіўся зорцы ў пояс
І папрабаваў свой голас.

Над крыніцаю, у вербах,
Ліўся пошчак чыстым срэбрам.

*1956 г.*

## УРАДЖАЙ

Барознамі прайшоў за плугам плуг,
Бароны расчасалі пульхна скібы.
У глебу цёплую і мяккую, як пух,
Насенне сейбіт радасна раскідаў.

Вясною над Радзімай рана днее,
Чакае ўсходаў плодная зямля.
Зярняты прарастуць і — зарунее,
Аклікне далі пошчак салаўя.

Усходы набіралі рост і сілу,
Дажджы і росы шчодра іх паілі,
Як маткі малаком сваіх дзяцей.

Я перад ніваю хілюся ў пояс:
Наліўся сонцам ясным спелы колас.
Народ чакаў і гэтага хацеў.

*1956 г.*

## Я ДАКРАНАЮСЯ ДУШОЙ ДА СТРУН

Паэты, ў хоры вашым маладым
Народнай песні голас не маўчыць.
Шукалі і знайшлі ад сэрцаў вы ключы,
Знайшлі свае і словы, і лады.

Мяне сагрэў юнацкай песні жар.
На старасці сваіх зямных гадоў
Я разам з вамі заспяваць гатоў,
Зваліць з плячэй мінулага цяжар.

У рукі скрыпку я ізноў бяру
І дакранаюся душой да струн.

*1956 г., Чаадаева.*

## РЭКВІЕМ

Ў душы народнай песні голас
Заходзіцца ад жалю, плача.
Памёр паэт народны, Колас,
Ўмываюся слязой гарачай.

Радзіма плача горна, ўголас,
І за труной ідзе ў жалобе.
«Устань, Якубе, родны Колас! —
Галосіць Мінск, і Брэст, і Жлобін.

Жывой вадой напояць рэкі,
Умыюць чыстай, светлай хваляй.
Любімы, родны наш навекі,
Перад табой чало схіляем.

Мы чуем: сэрца ў песні б'ецца,
І верым у тваё бяссмерце».

*15 жніўня 1956 г.*

## «РЭКВІЕМ» СПАЗНІЎСЯ

Не піў жалобнага віна:
Не ведаю, чыя
Віна,
Што «Рэквіем»[1] спазніўся?
Сам бачыў я,
Як рэактыўны ўзвіўся,
Прапелерам заззяў
І курс на Мінск узяў,
А «Рэквіем» — на борт.

Дамоў я не пайшоў
Цераз Аку ўброд,
Пад зорамі стаяў
І слухаў зморанай душой,
Як вецер «Рэквіем» спяваў.

Яго з маланкавым імпэтам
На крылах самалёт у Мінск імчаў —
Ушанаваць народнага паэта —
Якуба Коласа.
Я не маўчаў,
Застаўся аж без голаса,
Пілоту ўсё крычаў:

Імчы,
Ўначы
Між зор,
Над хвалямі азёр,
Над шумам баравым,
Дзе праляцелі журавы
І гусі
Цераз прасторы Беларусі!

Каб толькі не спазніцца,
Каб сэрцу не спыніцца
У дзень жалобны!
Якубе, мой ты родны!

Ішоў ты да людзей,
Твой ясны дзень,
Як сонца на гары,
Святлом паэзіі гарэў.
Твой голас волю клікаў,
Пазнаў ты радасць творчасці вялікай.

Калі мы у дарогу выйшлі[2],
Схіляліся пад цветам яблыні і вішні,
Была вясна,
Агонь паэзіі не гас.
Паэт да нас
Заходзіў на «Узвышша»
Сагрэцца,
І нас сагрэць сваёю ласкай.
Я помню вечар урачысты майскі:
Ад глыбіні душы і сэрца
Мы паднімалі поўны кубак
За свой народ савецкі, за вясну
І за здароўе
Роднага Якуба.
Я радасць гэтую нясу,

Умытую слязой і кроўю,
Як васілёк [illegible] радзімай нівы,
Як дарагія сэрцу успаміны.

Марусіць жалем дождждык дробны.
Даруйце мне, сябры,
Што я успомніў словам добрым
Тое,
Мне святое,
Ад чаго язык у крытыкаў свярбіць.

Напевы маладосці
Лісцём ажоўклым не апалі.
Да нас заходзілі у госці
І Колас, і Купала.

Вы гэтага ніяк
Не можаце мне даравапь.
Гары, паэзіі маяк!
Няўмоцы сэрца ад Радзімы адарваць!

Не ўмеў я падаць ніц да ног,—
Кажу я вам не жартамі.
Мне даравалі ўсё даўно
Народ, Радзіма, партыя.

Сказалі мне:
Жыві, працуй, спявай.
Радзіма любая, бывай!..
Я рад сваёй вясне,
Хоць падае на голаў белы снег.

*12/IX 1956 г.*

## СЦЯГІ МЫ НЕСЛІ

Сцягі мы неслі, ўгору ўзнятыя,
Ў гады далёкія, дваццатыя.

Нас Ленін вёў шляхамі светлымі,
Яго мы голас чулі ветлівы.

Законы слёз навекі сцёртыя
Яго рукой, у даль прасцёртаю.

Разбітыя кайданы ляснулі,
Шлях вызначыў да сонца яснага.

Калі скасіла смерць, мы плакалі,
Гарачым градам слёзы пякалі.

Айчым пачаў над намі лютаваць,
А падхалім яму салютаваць.

Пазналі мы гады з цярпеннямі,
Вянкі не з лаўрамі, а з цернямі.

Ішла пад зябкімі праменнямі,
Шпурляла ў нас гання каменнямі

З гары Парнаскае няласкавай,
А крытыкі зубамі ляскалі.

*14/IX-1956 г.*

## ВОСЕНЬ

Зайсці у сад мой сонца не баіцца,
Хоць і прыйшла асенняя пара.
Не выпушчу я з рук сваіх пяра,
Пакуль не перастане сэрца біцца.

Я чую: запявае песню восень,
Ляцяць над полем гусі, жураўлі.
Як пілігрым, іду я па раллі,
І вецер рве лісты з бярозкі босай.

Ажоўклыя у прыгаршчы збіраю
І да Радзімы рукі прасціраю,
Бярозку клічу роднуючу сваю.

Здалося мне ў асенняй завірусе:
Ідзе бярозка ў госці з Беларусі.
З бярозкаю сягоння, вецер, не ваюй.

*10/X-1956 г.*

## СОНЦА

Ты, сонца святое, гары![1]
*А. С. Пушкін*

Не ноч, а дзень прыносіш нам, свяціла.
Люблю усход твой ясны сустракаць...
Ўзышло, маю Радзіму асвяціла,
Плыве пад сонцам светлая рака.

У бераг хвалі цёплым б'юць прыбоем.
На ўзвышша выйшаў поўдзень малады.
Схіляюся я з сонцам пад вярбою,
Каб зачарпнуць яму жывой вады.

З вялікай чары светлых, ясных дзён
Я за здароўе сонца сёння вып'ю
І крэсівам з граніту іскры выб'ю.

Дарогай дружбы з сонцам мы ідзём,
Бег часу дружбы нашай не разніме.
Святла і сонца як найбольш Радзіме!

*13/X-1956 г.*

## БЯРУ У РУКІ ЛІРУ...

Не скажам сэрцу мы: спыніся, годзе!..
Уславяць працу маладыя рукі.
Ідуць шляхамі светлыя стагоддзі,
Ідзіце з імі ў свет, сыны й ўнукі.

Узыдзе сонца, новы дзень народзіць,
Да нас ён прыйдзе радасны, шчаслівы.
Пра гэты дзень спяваюць у народзе,
І аддаём яму свае мы сілы.

Ён прыйдзе: прысягнуць народы міру,
Не будзе страшыць вадародны атам,
І бомба не зруйнуе новай хаты.

Бяру на старасці у рукі ліру,
Яе не вырве з рук сярдзіты вецер,
Пайду, знайду Радзіму з ёй на свеце.

*18/XI 1956 г.*

## ПАД РОДНЫМ НЕБАМ

Як дыхаць вольна, лёгка, на ўсе грудзі,
І свежы водар хвойны піць душой!
Шумяць бярозкі на зялёным грудзе;
Да вас з паклонам, родныя, прыйшоў.

Як падраслі пад родным небам, сонцам,
Пакінуў вас падлеткамі зусім;
Аддам паклон яшчэ сваёй сасонцы;
Не раз я вас успамінаў і сніў.

Шуміце, родныя, і не старэйце.
Не лётае ні ястраб, ні каршун,
Над галавой маёй зялёны шум,
Яго я слухаю, і б'ецца сэрца.

Тут сумаваць мяне ніхто не змусіць,
Я рад: паклон мой нізкі Беларусі.

*5/XII-1956 г.*

## ПАД НОВЫ ГОД

Змарыўся і хачу прысесці на парог,
Спачыць, аддаць паклон Радзіме і сябрам.
Я кветак радасці ў вянок свой не сабраў,
Пасыпаў палыном тугі чужы пірог.

Шумяць зялёным шумам хвоі на бары,
Жывыя сокі п'юць з тваіх, зямля, грудзей,
Пачаў Радзіму ўспамінаць радзей...
Апошнюю уцеху, старасць, адбяры!

Не п'юць сыны з крыніцы роднай горкіх слёз;
Не будзе больш Іудам подлым брату брат,
Не пойдуць у выгнанне з беларускіх хат.

Ад роспачы нам не заломіць рукі лёс;
У дружную сям'ю збярэцца мой народ,
І ўспомніць сына ён свайго пад Новы год.

*16/XII 1956 г.*

## ПАД НОВЫ ГОД

Сягоння сэрца не маўчыць,
У даль вякоў яно крычыць:
— Імчы, шпарчэй імчы,
Цягнік!
Не збіцца нам з пуці,
Мінай заносы у жыцці!
Ўжо навагоднія агні
Над далямі гараць;
На ліры буду я іграць,
З народамі спяваць,
Як не спяваў яшчэ ніколі
Ні ясны сокал, ні саколік.

Сняжынак свежы смех
І сеецца, і сцелецца на снег.

На станцыях гарэць агні,
Яснеюць ў небе зоры.
Імчы мяне, імчы цягнік,
Адкрыты семафоры!
Прасторы насцеж.
Цягнік гісторыі, імчы хутчэй,
Імчы да шчасця!
А заранька, гары ярчэй!
Разгон хоць твой і шпаркі,
Цябе ўсё ж абганяюць хмаркі
Маіх настрояў
Навагодніх.
Хачу сустрэцца я з сястрою
У хаце роднай,
Дзе сустракалася нас трое.
Дзе маткі нас радзілі
Для песень, для Радзімы.

*31 снежня 1956 г.,*
*Цягнік — 71, Масква — Мінск*

## І, ПЕСНЯ, У СЭРЦЫ НЕ МАЎЧЫ

У сэрцы, песня, не маўчы,
Цягнік гісторыі, імчы,
Мінай заносы у жыцці,
Не збіцца мне з табой з пуці.

На станцыях гараць агні
І ўсе адкрыты семафоры.
На ўсіх парах імчы, цягнік,
У навагоднія прасторы.

Дзе вы, мае браты-сябры
Уладзімір і Адам?[1]
Ці атрымалі вы лісты
З маім сардэчным прывітаннем?
Усё, усё аддам
За навагодняе спатканне.

Нас не прыгнула старасць, праца
Ніжэй травы сухой.
Пара дахаты нам збірацца
Пад шум зялёных хвой.

Сустрэнемся ці не,
Сябры-браты мае?
Хай вее родны вецер
У навагодні вечар.

*1956 г.*

### * * *

Здаецца, букеты блакітнага лёну
Прыслалі з Радзімы вясною зялёнай.

Ані не завялі, зусім як жывыя.
І сэрца не ные, і вецер не вые.

Здаецца, я сёння у полі блакітным:
Спяваюць дзяўчаты, смяецца ракітнік.

На полі блакітным ільняныя хвалі...
Працы народнай і слава, і хвала.

*1956 г.*

### ІМЧЫ!..

Зялёныя, дзябёлыя дубкі.
Пра вас нямала казак, песень склалі.
Між вас Пегас падняўся надыбкі —
З размаху пераскочыць цераз скалы,

Падковай іскры высеч, ўзяць бар'ер
І заірзаць на вадапоі Леты.

Паэты славу бралі напавер
І мусяць разлічыцца ў гэта лета.

Перад Радзімай у даўгу вялікім;
Штодзень лічу і ўсё не падлічу;
Стаіць мая Радзіма уваччу.
Я чую, як зайгралі ёй музыкі:
Яшчэ агонь у сэрцах не пагас.
Імчы мяне, імчы дамоў, Пегас!

*1956 г.*

## КРАСУЙЦЕ ВЕЧНА, КІПАРЫСЫ

Вякі легендамі шумелі,
Калі спяваў тут Руставелі[1].
Мінулі цэлыя сталецці,
А песня вадаспадам льецца
З Каўказскіх гор, высокіх скал,
Дзе ён сыноў-арлят склікаў.
У ночку цёмную шакалы
Гайсалі. Скарб сыны шукалі,
Які ўкралі ліхадзеі;
Сыны не трацілі надзеі
Шчаслівы скарб свой адшукаць
І ліхадзеяў з гор прагнаць.

«Народ, не гніся, не карыся!» —
Шумелі ў горы кіпарысы.

За зброю віцязь мужна браўся,
Змагаўся з ворагам, не з барсам.
Абмыты кроўю кручы, скалы,
Дзе голавы героі склалі.
Не гасне сонца між завей,
Ў народзе слава іх жыве.
Герояў славу ўзнеслі штормы
На грэбні скалаў вострых горных.
«Ў глыбіні, у віры марскія

Няволі камень з гор мы скінем.
Ніколі не ўсплыве наверх
Няволі камень — цяжкі грэх».

На моры штормы узняліся,
Шумяць пад небам кіпарысы.

Цары пужалі і султаны,
Народ жа верыў: ясны дзень настане.
Шукалі людзі долю ў казцы,
Яе шукалі і абхазцы
На дне марскім, між круч і гор,
Між ясных і высокіх зор.
Народы гнуліся даволі,
Знайшлі, нарэшце, шлях да волі,
У саклі раніцай прынеслі,
А з ёй і маладыя песні;
Спявае з бацькам родны сын,
Плывуць іх спевы да вяршынь,

Лунаюць па-над горным мысам.
Стаяць на варце кіпарысы.

І заспявалі ўсе аулы,
Нібы пчаліны ў поўдзень вулей,
І адклікаюцца ім горы.
Не прыйдзе больш ніколі гора,
Дзень радасны да нас прыйшоў,
Мы рады сэрцам і душой.
Сваю вясну мы славім, хвалім,
Калышуцца на моры хвалі:
Нясі народу, сонца, мір ты.
Красуюць пальмы, лаўры, мірты,
Павесялеў марскі пясок,
Абмыў яго гаючы сок.

У сонечнай, блакітнай высі
Красуйце вечна, кіпарысы.

* * *

На возеры цудоўным Рыца
Успомніў светлую крыніцу,
І свой азёрны край, і Нарач,

І хочацца шчасліва марыць.
На сэрцы, на душы лягчэй,
Сляза не коціцца з вачэй.
Радзімы у вачах абрысы.
Даруйце мне вы, кіпарысы.

Шумяць дубы, каштаны, клёны,
Здаецца мне: ў плашчы зялёным
Ідзе прысадамі, дубровай
Сам Дантэ у вянку лаўровым,
З ім поплеч па шляху жыцця
Нясе Купала родны сцяг.
Пайду у падарожжа з імі,
Пайду, як з роднымі, сваімі,
Да сэрца радасць прыгарну,
Каменні песнямі скрану.

Я чую — клічуць кіпарысы:
«Да бацькі, сыне, прыгарніся».

*Ахалі-Афоні, 1956 г.*

## КУРАНТЫ Б'ЮЦЬ

Куранты б'юць, лічу жыцця гадзіны,
І непакояць мяне думы-мары:
Хто сёння за сталом мае Радзімы
Пад Новы год падніме чары?

Хто пажадае сіл, здароўя, шчасця,
Маёй Радзіме, роднай Беларусі?
Зіма, а ў хату дзверы усе насцеж.
Пасцелены святочныя абрусы.

Прыйшлі, у зборы госці-дабрадзеі,
Задраўшы ўгору і насы, й галовы,
Шаруюць сотні ног паркет дубовы.

Рады сыноў Радзімы парадзелі,
Рассеяў сівер іх па свеце.
Не ўсім ім на чужыне сонца свеціць.

[*1956 г.*]

## НА СОНЕЧНАЙ ЗЯМЛІ

Ізноў мая нага ступае
Па роднай, сонечнай зямлі,
Ізноў душа мая спявае,
Дзе любяць песню салаў'і,

Дзе васілёк вясны красуе,
Вітае свой блакітны дзень.
Адвечнай песні скарб нясу я
Да родных, да сваіх людзей.

Крыху змарыўся ў падарожжы,
Бярозкі клічуць адпачыць,
А некалі. Як тут прыгожа!
Ўстае сівы туман з лагчын.

Вясёлы спеў, і смех дзявочы,
І росы на траве густой.
Тут бусел мне ізноў клякоча
І кліча ў роднае гняздо.

*1956 г.*

## НАСТАЎНІК

Праўда у вачах святая,
Родны між прастых людзей.
Сонца ўсходзіць, дзень світае,
Ў школу з сонцам ён ідзе.

Зерне ў глебе прарастае,
Ўсходы цешаць зрок яго.
Сустракае і вітае
Ўсё настаўніка свайго.

Не спазніўся ўстаць ні разу,
Вецер сіл не падкасіў.
Ўстане й заўтра з сонцам разам
Сціплы сейбіт родных ніў.

Ўспомняць і сыны, і ўнукі
І раскажуць тут усім,
Як ён нёс святло навукі
Вучням кемлівым сваім.

*1956 г.*

* * *

Ні вечарам, ні ўранку
Ніхто дзвярмі не звякне,
Тырчаць руіны замка,
Вякоў мінулых груды.
Варушыцца ў легендах
Твой замак, Навагрудак.
Яго ні чорнай лентай,
А песняй вечнай славы,
Навекі велічавай,
Як той вясёлкай яснай,
Абвіў Адам Міцкевіч[1];
Ніколі не пагасне,
І ты з ёй волат-веліч.

[*1956 г.*]

## ПРЫЛЯЦЕЛІ ШПАКІ

Дзень вясёлы які!
Прыляцелі шпакі.
Ой, лю-лі! Ой, лю-лі!
Прыляцелі шпакі.

Прыляцелі ў сады,
На дубок малады.
Ой, лю-лі! Ой, лю-лі!
На дубок малады.

Каля светлай ракі
Усё лятаюць шпакі.
Ой, лю-лі! Ой, лю-лі!
Ўсё лятаюць шпакі.

Сок бярозавы п'юць,
На шпакоўнях пяюць.
Ой, лю-лі! Ой, лю-лі!
На шпакоўнях пяюць.

Аклікаюць лясы
На усе галасы.
Ой, люлі! Ой, люлі!
На усе галасы.

Славяць сонца яны
У яснотах вясны.
Ой, люлі! Ой, люлі!
У яснотах вясны.

Дзень вясёлы які!
На радзіме шпакі.
Ой, люлі! Ой, люлі!
На радзіме шпакі.

*1956 г.*

## СТУДЭНТЫ

Вясна, у майскі цвет сады адзень ты,
Вясёлаю сям'ёй ідуць студэнты.

Да працы прагнуць маладыя рукі,
А светлы розум — да вышынь навукі.

— Ўсе таямніцы таямніц пазнаем,
Век новы у вялікай дружбе з намі.

Нікому на зямлі мы не зайздросцім,
Нам свеціць сонца нашай маладосці.

Прыйшла вясна, прыйшла ў зялёным шуме,
Вясну жыцця мы песняй ушануем.

*1956 г.*

## СПОВЕДЗЬ

Па свеце многа вершаў я сваіх растраціў,
А больш яшчэ пусціў на вольны вецер з дымам.
То падаў, то ўставаў, то творчым жыў уздымам,
То забыццё знаходзіў у нястомнай працы.

У раны сэрца вострым жалам не пырайце.
Ідуць, як сёстры, маладосць і старасць поплеч:
Усміхнецца радасць, то заломіць рукі роспач.
Што мне з сабой рабіць, скажыце і парайце?

Не займе песні дух, адносіць вецер кпіны,
Даспеюць ураджаем каласы на ніве.
Адвее час зярняты ад пустой мякіны...
А я нашчадкам што ў спадчыну пакіну?

Радзіма і народ мой ураджай узважаць,
Прысуд свой вынесуць і ўнукам праўду скажуць

*1956, 1957 гг., Чаадаева.*

* * *

Ў руках ні разу не трымаў кадзіла.
І не крапіў святой вадой з кадзільні.
Радзіма Беларусь мяне радзіла,
Не спыніць бой гісторыі гадзіннік.

Я верным сынам буду ёй навекі,
І веру: ўспомніць добрым словам.
Цякуць у мора дружбы нашы рэкі,
Трымаю моцна у руках вясло я.

Не вырве з рук віхор у поўдзень ясны.
На цёмны вір я лодку не кірую,
Хоць не баюся смерчаў і бурунаў.

Маяк вялікай праўды не пагасне,
Ён асвятляе нашы далягляды,
І мы яму ад сэрца сёння рады.

[*1956 г.*]

## ЧАЙКІ КЛІЧУЦЬ

Падхапілі хвалі
Човен ад прычала
І штодуху ў далі
Сінія памчалі.

Нахіліўся ветразь,
Човен хвалі рэжа.
— Сэрца, смейся, грэйся,—
Вее вецер свежы!

Часу не марнуе
Ластаўка са стрыжам,
І плывец стырнуе
Цераз вір на стрыжань.

Ўзмахі вёсел лічыць,
І плыве, і верыць.
Чуе: чайкі клічуць
На радзімы бераг.

Ой вы, крылы-вёслы,
Не пужайце чаек!
Дуб высокі, рослы
Над ракой чакае.

Ранак свежы, яркі —
Светлая часіна!
Чую: клічуць чайкі,
Як матуля сына.

*1956 г.*

## ЯШЧЭ Ў ЮНАЦКІЯ ГАДЫ

Даўно, яшчэ ў юнацкія гады,
Прызнаўся я табе ў сваім каханні.
Было не раз з табой маё спатканне,
Калі ўзыходзіў месяц малады.

Цераз плячо з сярпом зубчатым тым
Ішла ты з песняй зорнаю мяжою.
Ты роднай мне была, а не чужою,
Звінела шчасце ў слове залатым.

Блакітны васілёк чало і стан
Абвіў. Спявала ты з такім запалам,
Што плакаў росамі сівы туман.

І песня тая ў сэрца мне запала,
Пранёс яе дарогамі жыцця
І ўзняў высока з ёй чырвоны сцяг.

*1956 г.*

# 1957

## РАВЕСНІКАМ

Усмешкі чыстых рос на верасе,
Мы верылі: дахаты вернемся,

Ў прыгожы, залацісты верасень
Пад бацькаўскай страхой сустрэнемся.

Вядуць шляхі нас векапомныя.
Паднімем песень чаркі поўныя!

Мінулае хай больш не здарыцца,—
Спяваем Радзіме здравіцу.

З душою сэрцы нашы раяцца,
Ўспамінаем маладосці раніцу.

Бацькі быць вернымі нам радзілі,
Бацькам, Радзіме мы не здрадзілі.

На верасе расінкі дробныя,
А ў сэрцах песні, песні родныя.

*1957 г.*

## БУДАЎНІК

На рыштаваннях будаўнік нястомны
Кладзе муры і зранку, і спаўдня;
Сталіцу Мінск з руінаў ён падняў.
Красуй пад сонцам, вечнай славы помнік!

Ляглі ў падмуркі цвёрдыя граніты,
І век ім не скрышыцца на зямлі.
Сталіца Мінск, за працу, мазалі
Будаўніка да сэрца прыгарні ты.

Не плачуць на праспектах маткі, дзеці.
У сталіцы нашай радасць сонца свеціць,
Яго святло над вежамі гарыць.

Народ мой сёння — будаўнік вялікі,
Да працы ўсіх сваіх сыноў паклікаў.
І мне з народам жыць і з ім тварыць.

*1957 г.*

## РАСІІ

Хоць часам і пужаў душу настрой,
Але не стаў бяздомным я бадзякам.
Была ты маткай, роднаю сястрой,
Прымі маю сардэчную падзяку.

Спяваю здравіцу табе адной:
Не гаснуць, не сумуюць зоры ў горы.
З тваіх садоў іскрыстае віно
Я паднімаю ў поўнай чары ўгору.

Я за тваё здароўе п'ю, Расія!
Ніхто з дарогі дружбы не саб'е,
Як сейбіта вясною на сяўбе.

Твае сыны у госці запрасілі,
І на пачэсным месцы з імі я.
Жыві з Расіяй, Беларусь мая!

*1957 г.*

## ДАНТЭ АЛІГ'ЕРЫ

У тую ноч у небе зоры не гарэлі,
Дрымотны бор шумеў, каменні з гор гартаў;
Сарваўся камень з дзікіх круч, прагрукатаў
Над светлай галавою Дантэ Аліг'еры.

Ідзе паэт у свет дарогаю выгнання,
Над галавой грыміць, не сціхнуў гневу гром.
Фларэнцыя не кліча сына ў родны дом,
Верона паднімае ў сэрцы дух змагання.

Нясе паэт ў душы народныя цярпенні;
Не лаўры у вянку, гараць жывыя церні,
Гарачым потам абліваецца чало.

Прыслухаўся, пачуў: у падарожжаклічуць,
І поплеч з ім ідуць Вергілій[1], Беатрычэ[2].
Над борам сонца узыходзіць пачало.

*15—27/I-1957 г.*

## КАСТРЫЧНІК

У памяці — юнацкія гады:
Над Полем Марсавым гарэлі зоры,
Грымелі залпы грозныя «Аўроры»,
Пачулі вёскі, сёлы, гарады.

Ішлі бацькі на барыкадны штурм,
Высока ўзняўшы ўгору сцяг чырвоны:
«Нам Ленін вызначыў жыцця законы,
Мы краты выламім з ганебных турм!»

Зара ўзышла народнага паўстання:
Узагрудкі свет узялі стары
І скалатнулі так, што век не ўстане.

Пылаюць рэвалюцыі кастры,
І светлы гімн лунае па-над светам:
Радзілася Рэспубліка Саветаў!

*20/I-1957 г.*

## РАСХРЫСТАЎ СЭРЦА І ДУШУ...

На крыўды ўсе забыўся я даўным-даўно:
Пра іх успамінаць мне некалі было.
Развеяўся туман, гнілы смурод з балот,—
Я з чары дружбы п'ю не чэмер, а віно.

Завялі церні, лаўры, высах мой вянок,
Апошні ліст апаў — і ў Лету ўсё сплыло.
З крыніцы зачарпну жывой вады ў збанок
І сад палью. Не прыйдуць з тапаром, пілой.

Не падсякуць пад корань сад наш малады:
Зялёны шум прыйшоў, і ліст загаманіў,
І салавей спявае ранняй зорцы гімн.

Радзіма Беларусь, шумяць твае сады!
Я чую шум: расхрыстаў сэрца і душу,
Крывёй гарачаю санеты зноў пішу!

*26/I-1957 г.*

## ПЕСНЯ ПЕСЕНЬ

Хоць снегам бор занесен,
А сонца — ў небе сінім.
Спявае песню песень
І сонцу, і Расіі.

* * *

Як мой настрой,
Шуміць лес-бор высокі.
Які прастор,
Расія, твой шырокі!
Ад сэрца я
Расію абнімаю:
Навек мая,
Як радасць сонца ў маі.

Табе прынёс
Падзяку ў слове шчырым.
З табой — мой лёс,
З табой — душа і ліра.
Я рад вясне,
Як рады сонцу птушкі.
Сустрэў мяне
Ў Маскве мне родны Пушкін.
Любіў, люблю,
І сэрца век не здрадзіць.
Я не згублю
Цябе, мая ты радасць!

* * *

Хоць снегам бор занесен,
А сонца — ў небе сінім,
Спяваю песню песень
І сонцу, і Расіі.

*16/II-1957 г., Чаадаева*

## СЯРГЕЮ ЯСЕНІНУ

Іду шырокім окскім плёсам,
Пяскі варушацца, не спяць.
Ака з маім гамоніць лёсам,
І травы устаюць спяваць.
Бягуць насустрач песні хвалі,
І подых ветру над Акой.
Быліны славу захавалі
Над гэтай рускаю ракой.
Лясы Мяшчэрскія шумелі,
Вітаў іх Мурамец Ілья.
Паклон вам нізкі, сосны, елі,
Паклон, расійская зямля!
Тваё блакітныя нябёсы
Смяюцца сонцам па вясне.
Тут часта клён з бярозкай босай
Зялёны узнімаюць смех.
Тут любяць шапацець асіны,

Калі вятры цалуюць іх...
Спяваў ад сэрца ты Расіі,
І ў сэрцах голас твой не сціх.
Ішоў свавольны, светла-русы
І маладой вясне быў рад.
Любілі мы на Беларусі
Твой рускі ў песнях жар і лад.
І ты хадзіў на окскіх плёсах,
Пяскі слядоў не замялі.
Вялікую вясну і восень
Уславіў песняй на зямлі.
На ніве роднай песні сеяў
Пяснярскай шчодраю рукой.
Я чую голас твой, Ясенін,
Над светлай рускаю ракой!

*23/II-1957 г.*

## ВЯСНА

Прыбег прамень, ад сонца ясны веснік,
І абвясціў людзям: вясна ідзе!
Выходжу я сустрэць красуню песняй
І прывітаць той песняю людзей.

Не першы раз выходжу на спатканне,
І гэтак верыць хочацца вясне.
Ў грудзях жыве вялікае каханне,
Ў якім прызнацца ўсё ніяк не смеў.

Кахаю моцна, горача, праўдзіва
І песню запяваю ля крыніц,
Хай вецер веснавы над ёй шуміць.

Красуй, вясна, як і мая Радзіма!
Вясёлкаю стаіш ты уваччу,—
З табой і для цябе я жыць хачу.

*3/III-1957 г.*

## ЛЕТА

Люблю я радасць першых навальніц,
Калі пярун гартуе, вострыць стрэлы
І сыпле з горна іскры бліскавіц,
Каб мы і нашы сэрцы не старэлі.

Ад сонца шчокі лета загарэлі,
Запунсавеў на вуснах сок суніц.
У лузе васількі мяне сустрэлі,
З блакітнымі напіўся я з крыніц.

Пасцелены квяцістыя абрусы,
Збіраюць пчолы сонечны нектар,
Ляцяць з абножкам і нясуць нам дар.

Такога лета, як на Беларусі,
З такой ласкавай, цёплаю душой
Нястомна я ў жыцці шукаў і не знайшоў.

*10/III-1957 г.*

## ЛЮБЛЮ

Люблю я рускую марозную зіму:
Бадзёрыць дух яна, цалуе з жарам шчокі.
За рускую зіму я чару падніму
І з вамі, добрыя сябры, ад сэрца чокну.

З пашанаю перaступіў я ваш парог
І веру вам, як можа верыць толькі сэрца.
Завеі дзён не замялі шляхоў-дарог,
Якімі тут калісь прайшлі Радзішчаў, Герцэн[1].

Люблю я вас і ваш прастор, душы размах;
Гараць, не гаснуць нашай дружбы зоры
І асвятляюць даль, як маякі на моры.

Ўжо сакавік: і вясной сустрэлася зіма,
І лёд таўшчэзны не сцярпеў, набух і трэснуў.
І параходы выйшлі ў веснавыя рэйсы.

*16/III-1957 г.*

## У.Д.

Гаротны друже мой маўчыць...
Бывае гэтак у жыцці.
Калі прытупяцца мячы,
Шляхоў да волі не знайсці.
Няўжо ты крылы абламаў,
Саколе мой, на скалах дзён?
Я помню, як у светлы май
Твой голас клікаў нас: ідзём![1]

На бераг маладой вясны
Пайшлі сустрэць сваю зару.
І там, як верныя сыны,
Мы не схаваліся ў нару.
Ад сполаху не ўпалі ніц,
Калі пачаў страляць пярун;
Зіяла радасць бліскавіц,
І дакранаўся гром да струн.

Абняўшыся, апошні раз
Спявалі «Слаўся, Беларусь!».
І разлучылі тады нас,
І не паслалі нам абрус
Бацькі на стол бяседны свой,
І не паставілі віна...
Сардэчны, любы друже мой,
Ізноў ідзе да нас вясна.

*14-4-1957 г.*

## СОРАК ЗОРАК

Над Радзімай сорак зорак,
Сорак зорак свеціць ясных;
Сустракаюць ранні золак,
Палымнеюць і не гаснуць.

Над Радзімай свежы вецер,
На Радзіме — долі творцы;

Сорак зорак ў небе свецяць,
Сустракаюць радасць сонца.

Узыходзяць і заходзяць
Ў нашы новыя святліцы.
Ім свяціць вякі ў народзе,
У пасёлках, у сталіцах.

Запяваюць песню хлопцы,
Запявае вёска, горад:
Нам на кожнай яснай зорцы
Свеціць серп і ззяе молат.

Выйдзем з песняй на узгорак,
Тупнем і ў далоні спляснем:
Над Радзімай сорак зорак,
Сорак зорак свеціць ясных!

*3/V-1957 г.*

## ФАНТАНЫ

Колькі старання!
Выйшлі на ранні,
З першай пралескаю,
Ў пушчу палескую.

У неба ўзвіліся,
З песняй зліліся
Вышкі бурыльныя
З пруткімі крыллямі.

Зранку між сосен
Смокчуць насосы
З жылаў праколатых
Цёплае золата.

Грудзі ўздыхнулі,
Сэрца адчулі:
Па-над палянамі
Нафта — фантанамі!

*1957 г.*

## А.Я.

Мой любы дружа, мой Алесь,
Як я хацеў з табой сустрэцца.
Гарэў жаданнем я увесь
І нёс паклон табе ад сэрца.

Над Мінскам прывітаўшы сонца,
Ў Саюз пісьменнікаў зайшоў.
Хацеў руку пацiснуць моцна,
Абняцца сэрцам і душой.

Вось так, як помніш, на вакзале,
Каб захацелася зноў жыць.
Але ў Саюзе мне сказалі:
«У лечкамісіі ляжыць».

Куды ісці, мой добры дружа?
Чакае хто мяне, скажы?
І ў ліпені адчуў я сцюжу:
Між родных зноў усім чужы.

*22/VII 1957 г., Мінск*

## * * *

Хацеў дарвацца да жывой крыніцы,
Напіцца, смагу ў сэрцы супакоіць,
Ў санет сабраць радзімых слоў крупіцы
І дакрануцца струн, зайграць на ліры.

Я помню, як у садзе вішні спелі
І салаўі спявалі на зары;
Калоссе гнулася ў наліве спелым,
І лета несла нам свае дары.

На ніве — і камбайны і жняяркі.
Які разгон, размах! Які прастор!
Жыццё шчаслівае братоў, сясцёр.

Плывуць пад сонцам успамінаў хмаркі,
Бальзам гарачы з родных п'ю крыніц,
Зайздросна, прагна п'ю, прыпаўшы ніц.

*13/X 1957 г.*

## ЯНУ РАЙНІСУ

О не, не музы гэты спеў жывы прынеслі,
А Беларусь і Латвія з лясоў Наддзвіння.
Устрапянулася душа народнай песні,
І не сціхае водгулле і пошчак дзіўны.

Крышыўся лёд ад бурнай хвалі напрадвесні,
У садзе маладым у рост ішлі прышчэпы...
Народы нашы чорнай долі здзек атрэслі,
І больш гісторыя кайданаў не пачэпіць.

Я добра помню дваццаць шосты год у Мінску[1],
Калі Ян Райніс Беларусь абняў аберуч:
«Сябры, і мой народ у светлы дзень свой верыць!»

Купала здравіцу падняў з паклонам нізкім:
«Браты, віном паэзіі сагрэем сэрцы,
Народам нашым жыць і жыць, не ведаць смерці!»

*5/XI-1957 г., Чаадаева*

## У ШКОЛЕ

Не спеў салаўіны,
Званок нецярплівы
Звініць, не спыніць.
Зліваюцца словы
У гоман вясёлы
Радзімых крыніц.

Ні хмаркі, ні ветра,
Прасторна і светла,
Чытай і пішы!
І коцяцца гукі,
І песня навукі
Спявае ў душы.

«З настаўніцай любай
У школе мы любім
Чытаць і пісаць».
Бярозкі-падлеткі
Зімою і ўлетку
За школай шумяць.

*1957 г.*

## НАВАГОДНІ ЛІСТ ДА СЯБРОЎ. ДВАЦЦАЦЬ ПЯТЫ

Даўно
Растраціў я сяброў сваіх,
І навагодняе віно
На старасці гадоў сівых
Без вас, сябры,
Я за Радзіму п'ю.
Знябытым сэрцам свой народ
Люблю
І чую, як шумяць бары
Пад Новы год.
Народ,
Сваіх сыноў збяры
За бацькаўскі гасцінны стол!
З зямных глыбінь, пластоў
Прабілася на свет,
Як вока, чыстая крыніца.
Натхненне п'е паэт,
Ўзыходзіць навагодняя дзянніца.

Як брат перад сястрой,
Я перад ёй стаю
І ўцехі не ўтаю:
Настрой
Сняжынкі радасці марусіць,
Я аддаюся чарам
І за здароўе Беларусі
Высока паднімаю чару.
Сябры, мая душа гукае,
Як тая птушка каня:
Паднімем, вып'ема да дна,
Развеяў вецер горкі дым.
Сябры, Радзіма ў нас адна,
Ёй аддадзім душы уздым!
Я чую галасы:
На навагодні клічуць сход.
З-пад снегу ўсталі верасы
І расцвілі пад Новы год.

Ўсё гэта так нязвычна,
Як сакаліны ўзлёт.
Струмень крынічны
Зімою крышыць лёд,
І ў даль вясны бяжыць,
І кліча жыць.

У навагодні вечар
Зорна-сіні
Дамчыць хай вецер
Мой паклон з Расіі
Цераз лясы-бары
Да вас, мае сябры!

Здаецца мне:
З Радзімы вецер зашумеў
Напевам, сэрцу дарагім;
Здаецца мне,
Што з вамі я, а не адзін.
Дванаццаць б'е гадзін,
Спяваю навагодні гімн.

*20 снежня 1957 г.*

## БУДУ ЖЫЦЬ

Народны лёс я завіваю у санет,
Каб ён, жывы, чало Радзіме упрыгожыў.
Свайго народа дух высокі, светлы розум
Нясу у свет, як песню радасці паэт.

Хачу ў санетах выткаць родныя узоры:
Крынічаньку, што рэчанькай у свет бяжыць.
Вякі мінуць, а я хачу у песні жыць,
Пакуль у небе не пагаснуць сонца, зоры.

Я прыпадаю да тваіх, зямля, грудзей
І прагна сок твой п'ю і веру у бяссмерце,
І б'ецца пульс і абуджае спеў у сэрцы.

Іду я да цябе, як радасць да людзей,
Нясу і аддаю вянок жывых санетаў,
Гарачым сэрцам і агнём душы сагрэтых.

*1957 г.*

## БЯЖЫЦЬ РАКА

Бяжыць рака між скал, гранітаў цвёрдых
І вадаспадам льецца з голых круч.
Паэт згубіў ад песні роднай ключ,
Калі ваду нёс у дзіравых вёдрах.

Вада ўцякла, стаяць пустыя вёдры.
Павеяў свежы вецер з-за ракі,
І крыламі ўзмахнулі ветракі.
Паэт шукае ключ ад песні роднай.

Старанна ключ у хвалях бурных ловіць
І ўсё ніяк не можа улавіць,
Глядзіць на дно ракі, прыпаўшы ніц.
Прыслухаўся: пяюць жывыя словы,
На дне ракі, ў каменнях, ключ трымціць,
Пераліваецца між хваль, звініць.

*1957 г.*

## ВІНО ПАЭЗІІ

Каханнем трапятаў санет Пятраркі[1],
І Дантэ пасылаў яго да любай.
Вышэй паднімем, хлопцы, ўгору чаркі!
Віно паэзіі мы п'ем і любім.

Былі гарачыя між намі спрэчкі,
Калі вастрылі ступленую зброю.
Смяяліся з нас вербы каля рэчкі,
Скідаючы асеннія уборы.

Як дуб страсае жоўты ліст увосень,
Так я атрос з сябе усё старое
І песню ўжо на новы лад настроіў.

Мне зноў спяваць Радзіме давялося.
Вядзі! Я за табой іду, красуня,
Пад родным небам васілёк красуе.

*1957 г.*

## ВОСЕНЬ

Пад жоўтым клёнам восень
Лісты на дол трасе;
Бяжыць дзяўчынкай босай,
Ў прыполе іх нясе.

Ідуць з далін на ўзгоркі
Асеннія дзянькі,
А ветры — наўздагонкі
Праз поплаў нацянькі.

Плывуць над гаем хмаркі,
За імі журавы,
А ранак светлы, яркі
Нясе кош журавін.

Нясе напіцца соку,
Асенняга віна.

Крапіся, родны сокал,
Сок дапівай да дна.

Пад жоўтым клёнам восень
Лісты на дол трасе;
Бяжыць дзяўчынкай босай,
Ў прыполе іх нясе.

*1957 г.*

## ГАДЫ ІДУЦЬ

Гады ідуць, мінулых не дагнаць,
Не адвітаўся з імі я як мае быць.
Ад году ў год масціў заўзята гаць
І абяцаў вясну жыцця любіць.

Я верыў вашай вернасці, сябры,
І вас успамінаў штодзень дабром.
Радзіма, на зары сыноў збяры
У бацькаўскі гасцінны, светлы дом.

Хачу не пасынкам, а сынам быць
І ў свята сок запрацаваны піць.

*1957 г.*

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ!

Прачнулася сэрца, не спіцца, выходжу на ганак:
Дзень добры, жыццё маладое і сонечны ранак!

Над полем шырокім, над борам высокім світае;
Дзень добры, прастор салаўіны, Айчына святая!

Над песняю радасць ўзыходзіць, як сонца над светам;
Дзень добры, мая ты навекі Радзіма Саветаў!

Дзень добры, народ беларускі, няўтомны у працы!
Умееш ты сам гаспадарыць у бацькаўскай хаце.

На родным парозе я з песняй схіляю калені;
Дзень добры! — гукаю.— Дзень добры, маё пакаленне!

*1957 г.*



З родных пушч, бароў высокіх
Сонца песні мы прынеслі.
Узлятай жа, родны сокал,
І ляці на крыллях песні!

Ўзмахі крылляў — ўзлёт нястрымны,
Цераз далі, зноў у далі.
Зложым песні, зложым гімны,
Пра што дбалі — ўсё прыдбалі.

Ў нашай працы, ў нашых дзеях
Льюцца рэкі светлай долі.
Не старэем, маладзеем,
Як дубы вясной на волі.

Нашы нівы шчодра родзяць,
Граюць скрыпкі і цымбалы.
Не сціхае у народзе
Спеў Якуба[1] і Купалы.

*1957 г.*

## ЗАЛАТАЯ ВОСЕНЬ

Верасень у госці
Болей не запросіць;
Маладой бярозцы
Павязала восень

Жоўтую хусцінку
З белай павуцінкай.

Лета не прысядзе
Пад зялёнай кронай;
У рабіны ў садзе
Плашч гарыць чырвоны,
І нясуць з даліны
Спелы сок каліны.

Дрэвы ў пазалоце,
Вокліч жураўліны;
Восень на балоце
Сее журавіны.
Быццам песня тая,
Восень залатая.

*1957 г.*

## ЗАШУМІ, ЗЯЛЁНЫ!

На пагорку, каля рэчкі,
У вясёлым школьным садзе
Вішні, слівы і парэчкі,
Яблынькі, ігрушы садзім.

Поім светлаю вадзіцай,
Што прынеслі у дайніцах.
З быстрай рэчанькі-крыніцы.
Не лянуйцеся, расціце!

Атрасе туман расу,—
Шэпча ліпа клёну.
Ты красуй, наш сад, красуй
І шумі, зялёны!

Каб вятры не гнулі долу,
Не зрывалі з вас хусцінак,
Паяскамі светлай долі
Вас падвяжам да тычынак.

Цёплы дожджык, пырсні, пырсні
На парэчкі, і на вішні,
І на яблынькі, ігрушы,
З хмаркі пырсні, спорны, дужы!

Атрасе туман расу,—
    Шэпча ліпа клёну.
Ты красуй, наш сад, красуй
    І шумі, зялёны!

Дождждык мёдам сад апырскаў,
Напаіў карэнні сокам,
Усміхнуліся пупышкі
На галінках на высокіх.

На уцеху і на дзіва
Упрыгожым мы Радзіму.
Піянерскімі садамі
Зашумяць яны над намі.

Атрасе туман расу,—
    Шэпча ліпа клёну.
Ты красуй, наш сад, красуй
    І шумі, зялёны!

*1957 г.*

## ЗОСЬКА І АНТОСІК

Вышывае шоўкам Зоська
Брацiку свайму Антоську
На сарочцы каласкі
І між імі — васількі.

Каласкі жаўцеюць, спеюць,
Васількі ўсё больш сінеюць.
Як жывыя каласкі,
І смяюцца васількі.

Хвалі ходзяць, як на ніве,
І блакіт плыве над імі.

Пад блакітам — каласкі
І між імі — васількі.

І праменьчык зіхатлівы,
Як струменьчык мігатлівы,
Поіць сонцам каласкі,
І смяюцца васількі.

І Антоську ў той сарочцы
Не пазнаюць, пэўна, хлопцы:
На сарочцы — каласкі
І між імі — васількі.

*1957 г.*

## КРЫТЫКУ

Не закрыў пакуль павекі,
Ты ў душу маю не плюй:
Ма́ю годнасць чалавека
І знявагі не сцярплю.

Адбіраў на песню права,
Выдзіраў душу з грудзей.
Ты хацеў хаўтуры справіць
У цямніцы без людзей.

Вёў мяне ў турму пад рукі,
Каб схіліўся там я ніц.
Зневажаў штодзень у друку,
Лаяў на чым свет стаіць.

Піць прасіў, бо чэз ад смагі,
Сэрца білася ледзь-ледзь,
І цяклі па твары рагі,
І ў вачах стаяла смерць.

Не пачуў. Шукаў ты доўбні,
Каб з размаху... і каюк.
Ты хацеў, мой крытык добры,
Кінуць цела ў цёмны люк.

Ты крапіў сваім кадзілам,
Уздыхаў ледзь не да слёз...
Беларусь, мая Радзіма,
Вось які пяснярскі лёс.

Крытыка свайго, Іуду,
І па смерці помніць буду.

*1957 г.*

## НА УСХОДЗЕ СОНЦА

Рана ўстаў Сымонка —
На усходзе сонца;
У бары сасонка
Прывітае хлопца.

— Ой, шумі, сасонка!
Ногі ў бор вядзіце!
Чэрпае вясёлка
З рэчанькі вадзіцу.

Сэрца песні просіць,—
Слухаеш і верыш.
Атрасае росы
На узлессі верас.

У бары брусніца
Спее, даспявае;
Восень-маладзіца
Ягады збірае.

Горача рабіне,—
Аблівае жарам;
Весела каліне,—
Чырванее тварам.

Любіць бор Сымонка
На усходзе сонца.
У бары сасонка
Сустракае хлопца.

*1957 г.*

## ПАЛЬМЫ СЛАВЫ

Раздадзены паэтам пальмы славы,
Якія у садах зімой раслі, цвілі
Пад зябкім сонцам на чужой зямлі,
І ў падарунак дружбы нам прыслалі.

Прыйшлі і музы без крывінкі ў твары,
Завіць паэтам лаўры у вянкі
І прачытаць натхнёныя радкі,
Паслухаць, як шумяць над Летай травы.

Без лаўраў і без пальмы славы я
На старасці гадоў прыйду здалёку
Паслухаць родны мне бусліны клёкат.

Сумуе сад вясной без салаўя,
А салавей сумуе па Радзіме,
Дзе маці пад лістком на свет радзіла.

*1957 г.*

## ПЕРАД АПАЛОНАМ

Ні славай, ні лаўрам зялёным увенчан:
Не ўмеў я маліцца, згінацца і кленчыць.

Стаю перад богам, сваім Апалонам[1],
І хочацца вырвацца песні з палону.

Заступнік паэтаў, сыноў абаронца,
Свяціла і свеціць паэзіі сонца.

Над краем не меркнуць вясёлак ясноты;
Паэты збіраюць сок песень у соты.

Хачу я адведаць на старасці сокаў,
Каб песня расправіла крылы, як сокал.

*1957 г.*

## ПЕРШАКЛАСНІЦЫ

Заранькі-равесніцы
Выбеглі за весніцы,
Выбеглі, сустрэліся
Над ракой, далінаю,
Прывіталі верасень
З сочнаю рабінаю.

Ластаўкі вясёлыя
Ўлетку пасвавалілі;
Пчолкі працавітыя
На лужок збіраліся,
Сонцам апавітыя,
Шчасцю усміхаліся.

Сонейка высокае
Поіць травы сокамі,
А кусты над доламі
Росамі мядовымі.
Ўсе мы сёння з доляю,
Сіл набрацца здолелі.

Выбеглі, сустрэліся,
Прывітаўся верасень,
Усміхнуўся ветліва,
Кліча ў школу светлую.
Мы за ім, шчаслівыя,
Хваляю шумліваю.

Ў небе сонца ясніцца,
Ў школе першакласніцы.

*1957 г.*

## ПЕСНЯ ЛЕТА

Ўсе аблогі ўзораны.
Чырванее ўзорамі
Сонца перад зорамі;
Вербы над азёрамі,

Ой, шумяць зялёныя
З маладымі клёнамі.

Росы ўлетку чыстыя,
Птушкі галасістыя,
Нівы каласістыя;
Васількі блакітныя
І кусты ракітныя
Ветліва ўсміхаюцца,
Вечарам і раніцай
Росамі ўмываюцца.

Песня салаўіная,
Даль блакітна-сіняя
З лёгкаю хмурынкаю,
З сонечнай іскрынкаю.

Цешымся, любуемся,
Горача цалуемся
З роднымі бярозамі,
Да чаго ж прыгожымі!

*1957 г.*

* * *

Сардэчны і любы мой дружа,
Пялёсткі асыпала ружа.

У прыгаршчы вецер збірае,
Каб песняй развеяць над краем,

Над борам, над родным прасторам,
Дзе люба і сонцу, і зорам.

Збіраюцца хлопцы дахаты,
Спяваюць ім песні дзяўчаты.

Я чую, ой, родныя, чую!..
Ад сэрца абняць вас хачу я.

*1957 г.*

## УКЛЕНЧЫ, СЭРЦА, НА ПЯСОК

Мая сталіца, родны Мінск,
Абняў сад сонца у галлі.
На Круглай плошчы абеліск,
Пад ім сыны спачыць ляглі.

Устань да дня, радня, сям'я,
Сцялі сынам на дол абрусы!
Хай будзе лёгкай ім зямля
Радзімы Беларусі.

Кладу вянок на пастамент,
Гарачы верш, душа, пішы!
Тут не адзін стаяў паэт,
Санет складаючы ў душы.

Укленчы, сэрца, на пясок,
Паслухай: дыхае зямля.
Смяеццца сонцу васілёк,
Сталіца родная мая!

На чысты твар твае красы
Не скіне вораг атам смерці.
Хай расцвітаюць верасы
Ў гарачых нашых сэрцах.

*1957 г.*

## ХЛОПЧЫК, ЯК ВЯСЁЛКА

Хлопчык, як вясёлка,
П'е жывыя сокі:
Русая галоўка
І лабок высокі.

Загарэў на сонцы,
Зведаў горы-долы.
Рад дубку, сасонцы,
Свайму шчасцю, долі.

Зоранькі—не во́чы,
Смутак уцякае.
Да ўсяго ахвочы,
Да ўсяго цікавы.

Дбайны і да працы
І майструе лоўка.
Марна час не
траціць.
Светлая галоўка!

Спрытны і вясёлы
І да песень здольны.
Як дубок на волі,
Любіць край свой вольны.

*1957 г.*

## ШКОЛЬНЫ ЗВАНОК

Над роднай Свіслаччу у вераснёвы ранак
Ты першы раз мне пазваніў у светлы час.
У гэты ранак я ступіў на школьны ганак,
Ўсхвалёваны да вучняў увайшоў у клас.

З тае пары мяне штодзень твой голас клікаў,
І я штодзень спяшаўся, ў школу бег трушком,
І вучняў вёў да мэты светлай і вялікай
То вуліцай вясны, то сонечным лужком.

Ні разу не спазніўся разам з сонцам ўстаць,
Дзень прывітаць, калі ішлі у школу вучні.
Душу кранаў іх голас, радасны і гучны.

Гады гартаць, што кнігу мудрую чытаць,
З якою я прайшоў вясёлым школьным садам.
Над галавой шумяць зялёныя прысады.

*1957 г.*

## ШПАКІ

Над полем шырокім,
Над поймай ракі,
Пад небам высокім
Лятаюць шпакі.

То знізяцца долу,
То зноў — у прастор,
І клічуць там долю,
Братоў і сясцёр.

Крылатаю хмарай
Ляцяць над сялом,
То зноў на імшары
Махаюць крылом.

То спусцяцца разам,
Клён жоўты трасуць,
То раптам над вязам
Свой посвіст нясуць.

На захадзе сонца
Ляцелі на бор,
Крычалі сасонцы
Да ясных аж зор.

Змарыліся крылы,
І сціхлі шпакі.
Іх ночка прыкрыла
За плёсам ракі.

Спачніце, а заўтра
На зорцы, ледзь свет,
Пабудзіць вас варта
У вырай ляцець.

Дарога у вырай
На поўдзень ляжыць.
Над морам, над вірам
Ляцець і кружыць.

Бывайце, ляціце,
Ўзмахніце крылом
Над светлай крыніцай,
Над родным сялом.

Ні долы, ні горы
Не зморыць вас сном.
Не баўцеся, ўпору —
Дахаты вясной.

*1957 г.*

## ШЧОДРАЕ ЛЕТА

Працаю славім
Светлую долю;
Ядраны колас
Хіліцца долу.

Жыта, як мора,
Шум каля Гайны,—
Выйшлі на ніву,
Выйшлі камбайны.

Жнуць і малоцяць,
Сыплюць і веюць;
Ў полі, на ніве,
Ўлетку завея.

Вецер спявае
Песні шыпшыне;
Хлопцы, дзяўчаты
Водзяць машыны.

З зоркаю лягуць,
Ўстануць ледзь золак;
З песняй на ніве
З сонца да зорак.

Льюцца ўраджаю
Шумныя рэкі;
З верхам насыплем
Жыта ў засекі.

Шчодрае лета,
Шум каля Гайны,—
Выйшлі на ніву,
Выйшлі камбайны.

*1957 г.*

# 1958

* * *

Жыве у родным, светлым доме славянін,
Ліхія ворагі са свету не звялі.
Вялікія браты — рабочы, селянін.
Тварцы народнай долі, праўды на зямлі.

Трымаюць моцна серп і молат у руках,
Далоняў рук іх не крывавяць мазалі.
Плыве пад сонцам паўнаводная рака,
Крыніцы б'юць з пластоў жывых, з глыбінь зямлі.

Не адарвацца: сэрцам і душой прыпаў.
І падстаўляю ім сваіх прыгоршчаў коўш.
І вусны прагавіта п'юць і просяць больш.

Народ мой, марна не загінуў, не прапаў,
І шквал гісторыі не змыў у цёмны вір,
І не прыкрыў вачэй халоднай хваляй жвір.

*5/I-1958 г., Чаадаева*

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, РАДЗІМА!

Дзень добры, Радзіма!
Надзвычай, надзіва
Прастор сінявокі,
Бор гонкі, высокі,
Як бронза галіны;
Дубровы, даліны,

Крыніцы, азёры,
І сонца, і зоры,
І светлыя рэкі
З Радзімай навекі.

Дзень добры, Радзіма!
Сябры-пабрацімы,
Вітаю разлогі,
Шляхі і дарогі,
І нівы пад сонцам.
Дзяўчатам і хлопцам
Гукаю: дзень добры!
Дуб-волат наш родны,
Плячысты, дзябёлы,
Не хіліцца долу.

Дзень добры, Радзіма!
Ты песню радзіла,
І роднае слова,
Як поўдзень вясновы,
Вясёлкай смяецца
І просіцца ў сэрца.
Не сціхлі цымбалы
І песні Купалы;
Іграйце, музыкі,
Ў дзень светлы, вялікі!..

Дзень добры, Радзіма!
Край казак і дзіва:
Ў блакітнай прасторы
Дзень славяць маторы,
Спяваюць турбіны
Пад сонцам Радзімы.
Індустрыі песня,
Як радасць прадвесня,
Як быстрыя воды.
Паклон вам, заводы.

*19/I-1958 г.*

## МАЯК ЖЫЦЦЯ

Калі агонь жыцця згасаць збярэцца,
Ты жар яго кійком павarушы,
І разгарацца вугалькі у сэрцы,
Сагрэтыя жывым цяплом душы.

Калі расправіць крылы родны сокал,
Стрымаць узлёт яго не хопіць сіл.
Акіне вокам ён прастор навокал,
Дзе мы ў маленстве бегалі, раслі.

Я помню, як пад сонцам цёплых дзён
Радзіме ад душы складалі гімны,
Не змоўк тых гімнаў голас дзіўны.

Радзіма, твой маяк здалёк відзён
І светлай раніцай, і ў поўдзень ясны,
І ў часе навальніцы ён не гасне.

*31/I-1958 г.*

* * *

Не паднімаў я каменя на брата,
Не быў ніколі з-за вугла піратам,
І ўсё ж бяздомным я даўно блукаю,
Як з хаты выгнаны калісьці Каін.
Прысяду часам на халодны камень.
І абнімаю сінь нябёс рукамі.
У полі з ветрам часам засмяюся,
Калі ляцяць у вырай журавы і гусі,
І горача табе адной малюся,
Сваёй святой Радзіме, Беларусі.

*5/II-1958 г.*

## ПРЫПАЎ Я
## ДА КРЫНІЦЫ

Прыпаў я да крыніцы
Тваіх грудзей, Радзіма,
Жывой вады напіцца
У светлую часіну.

Я, ветрам апавіты,
П'ю гэтак прагавіта,
Як сонца ўлетку росы,
І сэрца болей просіць.

Вятры, лісты на дол сцяліце!
Я па зямлі іду сваёй сталіцы.
З руінаў родная устала,
Шануе працу майстраў сталых.

Ўзыходжу я на рыштаванні
Схіліцца ў пояс зорцы ранняй,
Ў трывалыя муры пакласці
Ключы ад песень сэрца, шчасця.
Высока дух лунае творчы,
Спяваю яснай ў небе зорцы.

Дзе мы хадзілі у паходы,
Там сёння — фабрыкі, заводы.
Пад'ёмныя скрыгочуць краны,
І зажываюць Мінска раны.
У даль вясны бягуць праспекты,
На іх дзівіцца будзеш век ты.
Яны бягуць узгоркам, долам,
Абняўшыся з народнай доляй.

Народ мой, дбайны, працавіты,
Цяпло душы кладзе ў граніты,
Калоны, сцены аздабляе
Блакітным мармурам, як далі.
Яго нам гарнякі прыслалі
З далёкіх горных скал Урала,
А сталявары — крокквы-скрэпы
І сонцам дружбы дзень сагрэты.

Паклон да ног Радзіме я кладу;
Душа і сэрца з песняй у ладу.

Я ў сэрцы словы шчырыя прынёс —
Уславіць твой, мая Радзіма, лёс.

Красуй у поўдзень свой прыгожы!
Шумяць дубы, і хвоі, і бярозы,
На ўсход павольна хвалі коціць Свіслач,
І вербы карабатыя над ёю віснуць.

Ці ёсць такая дзе яшчэ другая,
Як ты, мая Радзіма дарагая?!

*9/II—1958 г.*

## ШЭФЫ

Як спявае лета,
Мурагі як сцеле,
Мне даўно пра гэта
Напісаць карцела.

I

Ой, за рэчкай, у бары,
Дзяцел стукнуў па кары —
Зашумелі верасы.
А над рэчкай, на гары,
На калгасным на двары,
Зазвінелі галасы.

Колькі радасці, красы!

З вёскі Ельня едуць шэфы.
На кійках, лазовых конях,
Мчацца вуліцай зялёнай,—
Не да жартаў, не да смеху.

Хто іх выйдзе сустракаць?
Ці дасцё вы толькі веры,
Едуць шэфы-піянеры,
Толькі гальштукі гараць.

Сонца грэе, праца цешыць.
Тут і Стасі, тут і Сцешы,
І Антоські, і Рыгоркі,
Як дубочкі на узгорку.
Часу марна не патрацяць,
Рукі просяцца да працы.

Тут і радасць, і пацеха.
Як пачулі толькі шэфаў,
Заірзалі жарабяты,
Зарыкалі і цяляты,
Сталі рохкаць парасяты,
Хорам ціўкаць кураняты.

2

На світанку — ўранку
Чысціма і сцелем,
Варыма аўсянку,
Сырадоем белім.

Піце, піце ўволю
З місак, а не з лыжак,
Выпусцім на волю
Вараных і рыжых.

Каснікі-вясёлкі
Запляцем у чолкі.
І пад кожнай чолкай —
Лысінка, як зорка.

Ў чыстым полі вецер
Грыўкі вам расчэша.
Сонца ў лузе свеціць,
Грэе, песціць, цешыць.

Мчыце наўздагонкі,
Ўверх хвасты узняўшы;
Долы, і пагоркі,
І кусты не страшны.

Вараны жарэбчык
Заірзаў у далях,
Пераскочыў рэчку,
Дзе сінеюць хвалі.

Вербы на крыніцах,
Хмарка над Нясвіжам.
— І-га-га! — ён кліча
Вараных і рыжых.

3

Ой, ды рана, рана
Мы цялят рахманых
Хварасцінкай гонім
На лужок зялёны,
Дзе смяюцца клёны.

На лужок ідзіце,
Траўкі паскубіце,
Роснай і мурожнай,
Чыстае вадзіцы
З рэчанькі папіце.

Ў поўдзень летні, светлы
Зашумяць там ветры,
Аднясуць у нетры,
За лясы, азёры,
Аваднёў-назолаў.

Птушкі-весялушкі,
Пастухі, пастушкі
Песню заспявалі,
Падхапілі хвалі
І памчалі ў далі:

Рэчанька святлее,
Хвалі ціха льюцца.
Белыя лілеі
На вадзе смяюцца.

Рэчанька мялее,
Свеціцца пясочкам.
Завіем лілеі
У вянкі-вяночкі.

Мы пыракам рожкі
Упрыгожым імі.
Зашумяць бярозкі
З вербамі густымі.

Будзем гнаць дахаты
Цераз поплаў, полем,
Дома мы цялятак
Поілцам напоім.

Поілца папіце
І засніце, спіце
На ржаной саломцы
Аж да ўсходу сонца.

Рэчанька святлее,
Хвалі ціха льюцца.
Белыя лілеі
На вадзе смяюцца.

4

Парсючкам сваім і свінкам
Гладзім мы і чэшам спінкі.
Толькі — ох! Ды рох-рох-рох!
У печцы пражыцца гарох.

Дазваляецца сваволіць,—
Малачка даём уволю.
Толькі — ох! Ды рох-рох-рох!
Любяць белены гарох.

І купаем у балеі,
Каб хоць трошкі пабялелі.
Толькі — ох! Ды рох-рох-рох!
І ляжаць не чуюць ног.

Спіце смачна, пад галоўкі
Вам падсцеліма саломкі.
Толькі — ох! Ды рох-рох-рох!
Сніцца бульба і гарох.

Парсючкі растуць і свінкі,
І не колюцца шчацінкі.
Толькі — ох! Ды рох-рох-рох!
Любім бульбу і гарох.

Зварым бульбы і гароху,
Ешце ўволю, не патроху.

Толькі — ох! Ды рох-рох-рох!
З'елі бульбу і гарох.

5

Затрубілі горны,—
Гукаў, песень — рэкі;
Пявункі-легорны
Клічуць: ку-ка-рэ-ку!

Пылянятκі-кураняткі,
Вы без мамкі, без чубаткі,
Не пакліча, не пакорміць
І пад крылы не прыгорне
Дзетак, беленькіх легорнаў.

Пылянятκі-кураняткі,
Раскаціліся зярняткі.
Даганяйце і збірайце,
У валячкі свае кладзіце,
Запіваючы вадзіцай.

Ні адзін драпежнік-майстра,
Ні лісіца і ні ястраб.
Не падкрадзецца, не схопіць,
Шуганём кустом зялёным.
І драпежнікаў адгонім.

* * *

Ой, за рэчкай, на бары,
Дзяцел стукнуў па кары —
Зашумелі верасы.
А над рэчкай, на гары,
На калгасным на двары,
Зазвінелі галасы.

Колькі радасці, красы!

*Сакавік, 1958 г.*



Сляза скацілася, спаўзла,
Цягнік сцішае бег-разгон.
Вось ён, залюднены вакзал,
І ў сонечным святле перон.

На прывакзальнай плошчы дзень,
Як песня, радасны такі,
І ўсё ж ніхто мне тут з людзей
Сяброўскай не падаў рукі.

Ніхто ад сэрца не абняў,
Ў гасцінны дом не запрасіў.
Чакаў да самага паўдня,
Пакуль шафёр падаў таксі.

Не выйшлі тут мяне сустрэць,
Як і тады, у тыя дні...
Імчы, браток, у Трасцянец[1],
Бліжэй там будзе да радні.

*19-7-1958 г.*

## ПЕСНІ СЭРЦА

1

Сады і нівы залатыя
І Свіслач — родная рака.
Мяне, як сёстры маладыя,
Бярозкі выйшлі сустракаць.

Ў карунках лісцяў неба просінь,
Як той чароўнай казкі сон.
Сястра зайсці у хату просіць,
Прысесці з ёю на услон.

У вокны сонца ласкай свеціць,
Я сонцу аддаю паклон.

Мне даражэй за ўсё на свеце
Вось гэты зэдлік і услон.

Я за адным сталом з сястрою;
Кужэльны на стале абрус.
Не ведаў я такіх настрояў,
Мая радзіма Беларусь.

Сястра, я рад з табой сустрэцца.
Які шчаслівы выпаў лёс.
Цяпло душы і радасць сэрца
Радзіме з песнямі прынёс.

2

Хвойнік ўсё яшчэ зялёны,
Ранняй восені усмешкі.
Тут вядомы і знаёмы
Ўсе пуціны мне і сцежкі.

Хвойка, з лёгкай павуцінкай,
Зашумела на узлессі.
Адшукаю тут пуцінку,
Па якой ішоў да песні.

Расхінаю ціха вецце —
Не спужаць бы ясных зорак.
Вось яна — бяжыць, віецца,
Я пайду за ёй на ўзгорак.

Ён за лесам, там, дзе Стайкі,
Дзе шумяць старыя вербы.
Хвойкі, у зялёных майках,
Давядуць мяне да грэблі.

Росы ціха долу сее
Верас з хвойкамі малымі.
Вось і возера сінее,
Вось і вербы каля млына.

Маладзы алешнік воддаль,
Побач з ім — чарот зялёны.
Разлівае восень водар,
Падстаўляюць чаркі клёны.

Я іду уздоўж пагонам,
Дзе раслі калісь бярозкі.
Родны шум і родны гоман
Давядзе мяне да вёскі.

Стану на гары Высокай,
Нізка-нізка пакланюся.
Мне падносіць восень сокаў,
Гэтых сокаў я нап'юся.

3

Не прыйдзе ў госці лета,
Даспеў апошні колас.
Дзе вы, сябры-паэты?
Хачу пачуць ваш голас.

Асенні ліст зашастаў,
Упаў пад ногі проста.
Іду між хвоек частых
І цешуся іх ростам.

Вясёлыя дачушкі,
На матак ўсе падобны.
Хачу вас у ветрам гушкаць
Пад небам ясным, родным.

Я матак добра помню,
Іх голас чую ў шуме.
І маладзіком, і ў поўню
Спявалі тут красуні.

Я слухаў вашы песні,
І сэрца песень просіць,
Але няма равесніц,
Не зашумяць увосень.

Усе ляглі павалам
На грэблі, а не ў зрубы.
Народ у час навалы
Не ўратаваў ад згубы.

Шумяць, як песні лета,
Сасонкі маладыя.
Усёй душой паэта
Люблю вас, залатыя!

*1958 г.*

## ЗОРКА САВЕТАЎ

Леніна словы
Ў сэрцах навекі;
Рэчышчам новым
Коцяцца рэкі.
Зорка Саветаў
Ззяе над светам.

Хваля жывая
Рэчку радзіла;
Стала дзяржавай
Наша Радзіма
Добра вядомай
Ў людзях і дома.

Дзень навагодні —
Светлае свята;
Стала нам роднай
Гэтая дата,
Зоркай яснее,
Шчасце нам сее.

Ленін даў сілу,
Долю народу;
З маткай Расіяй
Год мы ад году
Ў дружбе навекі —
Людзі і рэкі.

Наша Радзіма
З твару свяжэе,
Проста надзіва
Ўсё прыгажэе.
Любім, шануем,
Са святам віншуем.

Едуць па мосце
З гоманам гулкім,
Едуць у госці
З братніх рэспублік.
Скажам сардэчна:
Дружба навечна!

Серп наш і молат
З зоранькай ранняй;
Вёска і горад
Ў светлым убранні:
Сёння ж у хатах —
Радасць і свята.

Партыі словы
Ў сэрцах навекі;
Рэчышчам новым
Коцяцца рэкі,
Зорка Саветаў
Ззяе над светам.

[*1958 г.*]

## ГАСПАДАР-НАРОД

Рухнула гара —
Аж з каменняў іскры.
Скінулі цара
І яго міністраў.

Цар ужо не цар:
Без арла, кароны,
Глюганосы твар,
Як у той вароны.

Вось што сталася з Міколам:
Закруцілася ўсё колам,
І не думаў ён ніколі,
Што ўсё пойдзе верць і круць.
І яго далоў спіхнуць.

* * *

Смех бярэ варон,
Лыпяць вочы совы:
Сеў на царскі трон
Керанскі часовы.

— Як жа? Што рабіць
З гэтым красамоўцам? —
— Трэба рогі збіць,
Утапіць у Мойцы.

Як сказалі, так зрабілі —
Адным махам рогі збілі,
Але ў Мойцы не ўтапілі.
Наш прамоўца «залаты»
Наўцёкі — лататы.

* * *

Захістаўся трон,
Паўзляталі совы.
«Ўсіх міністраў вон
З Керанскім часовым!»

Пасміхаліся матросы:
«Каламашка стоп, ні з месца!
Ўсе парваліся атосы,
І буржуяў просім злезці».

Ўсе разбегліся, як мышы,
Без крахмаленых манішак.
Хто у світцы, хто без світкі —
Цераз фінскі ва ўсе лыткі
У замежныя дзяржавы —
Гэтак «бедных» напужалі.
Там пазналі «небаракі»,
Дзе зімуюць з ліхам ракі.

* * *

Гаспадар-народ,
Улада ўся Саветам!
Неслі ў гэны год
Людзі праўду свету.

Вецер не шумеў свавольны,
Ў Пецярбурзе, ў Смольным,
Слухаў Леніна народ:
Селянін, матрос, рабочы.
— Прыйдзе на буржуяў звод! —
І гарэлі шчасцем вочы.
— Ўсё на новы лад мы зменім:
З намі праўда, з намі Ленін!
— Наша праўда узяла.
Мір народу і зямля!

* * *

Партыя вяла,
І народ ішоў.
Слухала зямля
Сэрцам і душой.

«Ўсе табе, народ,
Аддаю дары.
Дбайна з году ў год
Засявай, ары.

Нетры ўсе твае
І багацці ўсе.
Новы свет ўстае
Ў маладой красе.

З хаты вон бяду —
Раз і назаўсёды!
Горача будуй
Фабрыкі, заводы».

З партыяй народ
Ўсе развеяў хмары,
І ўжо колькі год
Рупна гаспадарыць.

Жыць і жыць на свеце
І любіць бясконца.
Узыходзіць, свеціць
Камунізму сонца.

*17/X-1958 г.*

## СЛАЎСЯ, РАДЗІМА

Леніным родным і воляй народнай
Створана наша дзяржава Саветаў.
З песняй прыйшла Беларусь мая сёння
Зоркай яснець і не гаснуць над светам.

Ты, Беларусь мая, стала дзяржавай
Ў родным Саюзе Савецкіх рэспублік.
Цешыш садамі зямлі маладжавай,
Дзень аклікаеш індустрыяй ґулкай.

Ўсё прыгажэеш, сталееш з гадамі,
Вораг не здолеў зняславіць, асіліць.
З сёстрамі ў згодзе і разам з братамі
Сілы народаў з'яднала Расія.

Коцяцца ў мора, зліваюцца ў моры
Шчасця народнага поўныя рэкі.
Свецяць над намі і сонца, і зоры,
Слаўся, Радзіма! Ты з намі навекі!

*1958 г.*

## БЯСЕДНАЯ

Прынеслі бацькі дарагія дары;
На вокнах, у вазах, цвітуць незабудкі.
Дзяўчаты і хлопцы, сяброўкі, сябры,
Паднімем з народам бяседныя кубкі!

Шумяць беларускія пушчы, бары,
І сонца, і зоры яснеюць над імі.
Гарачыя сэрцы — Радзіме, сябры!
І шчыра аберуч Радзіму абнімем.

Дубы у дуброве не хіляцца ніц,
Як волаты тыя стаяць пабрацімы.
Жывая вада з неўгамонных крыніц
Па рэчышчы дружбы бяжыць па Радзіме.

Радзіма сузор'ем яснее, гарыць,
І дружба народаў на вечныя векі.
Паднімем жа кубкі, сяброўкі, сябры,
За шчасце, за дружбу, за светлыя рэкі!

*1958 г.*

## СВЯТА

Урачысты дзень які!
Кемным вокам глянь навокал:
Свецяць нашы маякі
Над Радзімаю высока,
Свецяць сонцам, свецяць ясным.
Усміхніся, мой сучаснік!

Ад крыніц жывых ключы
Звоняць позна, клічуць рана.
Паспрабуй і падлічы,
Што прыдбана, збудавана.
Вокнамі на ўсход святліцы —
Як не жыць, не весяліцца!

Не марнеем на зямлі
І не просім нас прабачыць.
На далонях мазалі
Абмывае пот гарачы.
Мы — ахвотнікі да працы.
Высім светлыя палацы!

На Савецкі ўвесь Саюз
Грайце, родныя музыкі!
Сустракае Беларусь
Дзень святочны, год вялікі.
Радасць ходзіць з хаты ў хату:
Ўсе збірайцеся на свята!

*1958 г.*

## ЮНАЦТВА

Юнацтва нашае спявае з намі:
Надзеі збудуцца ў жыцці сучасным.
Каханне ў школе першае пазналі,
Такое чыстае, як поўдзень ясны.

Хоць гэтаму вы нас і не вучылі,
А сэрцы самі вывучыць паспелі.
Зірнула карымі яно вачыма,
Запунсавелі вусны сокам спелым.

Ўсміхнулася душа душы юнацкай,
І сонца жарам апаліла шчокі.
Ляцім на крыллях песні ў свет шырокі!

Не наляцім мы на скалу знянацку,
Смяюцца сонцу сочныя каліны.
Які размах для крылляў сакаліных!

*1958 г.*

## АДВІТАННЕ

Дасеяў на апошнім кліне,
Управіўся ў пару з сяўбой.
Сваю сяўню я вам пакіну,
Зярняці не вазьму з сабой.

Насенне ў глебе прарасло,
Збірайце ураджай багаты.
Ў руках кляновае вясло
І плыць пара мне ўжо дахаты.

Пара. На окскіх плёсах лета,
Іду я развітацца з ім.
І, можа, буду зноў паэтам
На нашай сонечнай зямлі?

*1958 г.*

## ДВОЙЧЫ ДВА — ЧАТЫРЫ

Двойчы два — чатыры,
Не выходзіць пяць.
Песні не адштырыць,
Сэрцу рана спаць.

Верце ці не верце,
Шчырай праўдай жыў:
І душой, і сэрцам —
Родны, не чужы.

Можа, і не здзівіць
Гэта сёння вас?
Я ж сваю Радзіму
Абнімаў не раз.

Не смыляць мне горна
З працы мазалі.
Смачны хлеб мне чорны
З бацькаўскай зямлі.

Хто са мною сядзе?
Я ўжо трохі пасівеў.
Кліча зорку ў садзе,
Кліча салавей.

Салавейка-дружа,
Сэрцам не трымці.
Расцвітаюць ружы
Сёння у жыцці.

Закахаўся рыцар
У пялёсткі руж.
Песню над крыніцай
Слухай, Беларусь!

*1958 г.*

## ЗІМА

Ідзе зіма бадзёрая,
З марознымі узорамі,
З вясёлымі сняжынкамі,
Пушыстымі іскрынкамі.

Ідзе румянашчокая,
А рэчка зябне, шчоўкае.
Ідзе па рэчцы Стрыжані,
Ідзе з канькамі, лыжамі.

Ідзе зіма з сарокамі,
Фарсунямі белабокімі,
З сініцамі-сястрыцамі,
З лісіцамі-хітрыцамі.

Ідзе з ваўкамі шэрымі,
Зубастымі і смелымі,
І з зайцамі пужлівымі
Пад хвойкамі, ялінамі.

Ідзе даламі, ўзгоркамі,
Пад ясным небам з зоркамі.
Ідзе зіма сцяжынкаю,
Занесенай сняжынкамі.

*1958 г.*



Мясціны гэтыя з маленства мне знаёмы:
Тут бегаў хлопчыкам-падпаскам па грыбы,
Шумеў над галавой з бярозкай клён зялёны,
Шумелі волаты-браты — магутныя дубы.

Зарэчны хвойнік, вартаўнік блакітнай высі,
Схіляўся з вербамі у поўдзень над ракой.
На хараство Радзімы, дружа, падзівіся
І абнімі Радзіму мужнаю рукой!

Мінула шмат гадоў. Шуміць дубок на ўзгорку,
А поплеч з ім яго равеснікі-дубкі.
Вітаю шчыра вас і вашу ў небе зорку.
Шуміце, родныя, вясёлыя браткі!

*1958 г.*

# 1959

## УСМІХАЕЦЦА ВЯСНА

*Песня*

Мчыць у рэчку сакавік
Ручайкоў усмешкі,
І нясе нам красавік
Першыя пралескі.

П р ы п е ў:
Ой, лю-лі. Ой, лю-лі.
Ручайкі паплылі.
Ой, лю-лі. Ой, лю-лі.
Паплылі, паплылі.

Ясны веснавы прамень
Грэе долы, ўзгоркі,
З рэчкі п'юць жывы струмень
Родныя вясёлкі.

П р ы п е ў.

На паляне жураўы,
У даліне гусі.
Вее вецер баравы
Ім на Беларусі.

П р ы п е ў.

Прачынаюцца ад сна
Пчолкі у вуллі,
Усміхаецца вясна
Сонцу і зямлі.

П р ы п е ў.

*9/I — 1959 г.*



У кожным слове, быццам у крыштале,
Гарыць святло, сагрэтае душой,
І ўсё ж народ паэта не чытае:
Да сэрцаў голас сэрца не дайшоў.

Як стацца так магло з паэтам сталым,
Што не знайшоў дарогі да душы?
Няўжо яго гарачых слоў крышталы
Ляглі ў радкі, як тыя ледзяшы?

Няўжо і сонца свеціць і не грэе,
І ліст жаўцее на зялёным дрэве?
Не можа быць. У слове жар гарыць.

Агонь святы ў свяцільніку не гасне
Ні ў ранак хмурны і ні ў поўдзень ясны.

Народ, прымі паэтавы дары.

*18-7-1959 г., Мінск*

## НА ВОЗЕРЫ

На возера вечар зялёны
Пад сонцам ідзе залатым;
Таполі, і ліпы, і клёны
У парку шумяць маладым.

На возеры лодкі-маторкі
І вёсел вясёлы усплёс;
Усміхнуліся першыя зоркі,
І вечар расінкі растрос.

А месяц рассыпаўся срэбрам
І свеціць з блакітнай гары;
На выспах — бярозкі, і вербы,
І песні вячэрняй зары.

Тут вербы схіляюцца нізка,
Калі ім паклоніцца госць.
Спявае на возеры Мінскім
Мая і твая маладосць.

*1959 г.*

## ЯК ДОБРА!

Люблю вясну, і лета,
І сонца на паўдні...
Як добра быць паэтам
У такія нашы дні!

Устаць вясёлым ранкам
І ў светлы цэх ісці,
Не ў залачоных рамках
Пець песні, а ў жыцці.

Хай льюцца песень трэлі
Ад сэрца, ад душы.
Яны людзей сагрэлі,
Не буду іх тушыць.

Прыйшоў мой дзень уцешны,
Настроі паплылі,
З людзьмі спяваю песні
На сонечнай зямлі.

Мне кожны дзень працоўны
Прыносіць шмат уцех,
І ў вечар часам зорны
У свой заходжу цэх.

У палымяным сэрцы
Гартую слоў лады.
Бывае, верш збярэцца
Гарачы, малады,

Як тая песня лета,
Як сонца на паўдні.
Знаць, добра быць паэтам
У такія нашы дні.

*1959 г.*

## А Ў БАРЫ, БАРЫ САСОНКІ

Адспявала лета песні,
Ўсе сабрала каласы;
Пад сасонкамі, на ўзлессі,
Расцвітаюць верасы.

Цвет, як даль, блакітна-ясны,
Нашай долі светлы дзень:
І наступны, і сучасны,
Што прыйшоў і што ідзе.

І шуміць сасоннік гонкі,
Ў шуме льюцца галасы:
А ў бары, бары сасонкі
І пад імі — верасы.

*1959*

## ВЕРУ І ВЕРЦЕ

Сонца, праменні
Шчодра раскінь.
Нашы імкненні —
Гоман марскі.

Сэрцы аддалі
Справам жывым.
Ў сонечнай далі,
Радасць, жыві.

Поўныя соты
Соку ў жыцці.
Там, дзе ясноты,
Нашы пуці.

Колькі у сэрцах
Светлых надзей.
Веру і верце
Ў сённяшні дзень.

Мужны, вясёлы,
Ў поўнай красе,
Новыя словы
Ў песні нясе.

*1959 г.*

## ВІШАНЬКА

Сёння сонца свеціць,
З ясным водзім лад.
Вішанька у цвеце
Выбегла у сад.
Весела смяецца,
Вее цёплы смех;
Прыгаршнямі з веццяя
Сее чысты снег.
Адвітаўся май,
Высеяў сяўню.
Чэрвень, абнімай
Вішаньку сваю.
«Вішанька-краса,
Перад сонцам стань!»
Русая каса
Абвівае стан.

Сонца цёплы жар
У вачах гарыць.
Лёг загар на твар,
Сокамі не змыць.
Я такой яшчэ
Не страчаў нідзе,
І такіх вачэй
Не знайсці ў людзей.
Ліпень-санцалюб
Сцежкі не згубіў;
Сок з вішнёвых губ
Піць і ён любіў.
Госць, ідзі у сад,
Вішанька не спіць.
Хто з гасцей не рад
Сок вішнёвы піць?

*1959 г.*

## ВОСЕНЬ ЖЫТА СЕЕ

І плывуць у далі
Рэчкі-магістралі,
Запрашаюць-просяць
На Цвілую Бросень[1].

Як тут не паверыш?
Расцвітае верас,
І Цвілая Бросень
У вясёлых росах.

Павявае, вее,
Восень жыта сее.
Зарунее Бросень,
Ой ты, восень, восень!

*1959 г.*

## ЖУРАВІНКА, ЖУРАВІНКА

Восень на Цвілое Бросні
Журавіны сее;
Ў ранак свежы, ранак росны
Журавінка спее.

Журавінка, журавінка,
Ягадка мая,
Як нап'юся, ўсміхнуся
З твайго соку я.

На балоце ў пазалоце
Асака жаўцее,
А на купінцы, ў чароце,
Журавінка спее.

Журавінка, журавінка.
Ягадка мая,
Маладзею, весялею
З твайго соку я.

Ліст радзее, вецер вее,
Ўсе сарваць паспее.
Часты дождж ык сее, сее,
Журавінка спее.

Журавінка, журавінка,
Ягадка мая,
Чырванею і хмялею
З твайго соку я.

*1959 г.*

## КУРЛЫ, КУРЛЫ

Ў маленстве чула я
Чароўны голас твой;
Лавіла жураўля
Увосень і вясной.

«Курлы, курлы, курлы»,—
Спяваў мой журавель,
А сокалы-арлы
Шукалі ўсё скалы.

І не знайшлі арлы
У нас скалы-гары.
«Курлы, курлы, курлы»,—
Я чула на зары.

Лагодны спеў далін
Каціўся да крыніц;
Сачыўся сок з калін,
Каб сэрцы напаіць.

Радзімая зямля,
У шуме гонкіх хвой
Ізноў пачула я
Чароўны голас твой!

*1959 г.*

## НА БАЛОЦЕ

1

Загуло, пайшло
Па ўсяму балоту,
За душу ўзяло
Твань і пазалоту.

Чэрпаем багно
Поўнымі каўшамі,
Не ўцячэ яно,
Валачэм і вушамі.

Плачуць і пішчаць
У балоце чэрці,
Аж пупы трашчаць,
Лопаюць на чвэрці.

Дапівайце квас
У зялёнай цвілі;
Ўсіх на сонца вас,
На ражны, на вілы.

І плыве, цячэ
Цвіль, руда густая,
Дыхае лягчэй
Бросня залатая.

Ў багне, пад лазой,
Вадзяны канае,
З горкаю слязой
Топіцца ў канаве.

Росы на галлі,
А ў крыніцах зоры.
Воды паплылі,
І пяюць маторы.

Ой вы, паплавы,
Светлыя прасторы,
Свішчуць салаўі,
Заняло на зоры.

І ўжо ім у такт
Падпяваюць сэрцы:
Будзе гэтак, так,
Твань прасохне, верце.

Перамогі марш
Абуджае нетры,
І ужо дрэнаж
Лічыць кіламетры.

На балоце тут,
Не на рэчцы, ў лузе,
Устаюць, растуць
І масты, і шлюзы.

Шчодра грэе нас
Сямігодкі сонца.
І гарачы ж час
У дзяўчат і ў хлопцаў!

Вее крыл узмах
На прасторы сінім.
Мы пракласці шлях
Здолеем, асілім.

Шлях той — магістраль
Кроіць, сушыць багну.
Залаты крышталь
Мы шукаем прагна.

Стукаем у дно,
Дзе схаваны скарбы.
Вось яно відно,
Залатое дно,
Прамянеюць фарбы.

2

Не клёкча больш багно,—
Праветрана яно,
І рэжуць пласт тугі
Балотныя плугі.
Кладуцца лусты скіб
І пластам, і на хіб.

Руплівыя дзянькі.
У працы спор і лад:
І хвойкі, і пянькі
Ляжаць упокат-рад.

І хіліцца хмызняк,
І сцелецца лазняк.
Бабоўнік, сітнік, хвошч
Страсаюць росны дождж.

Маторы ўлад пяюць,
А вочы сонца п'юць.
На тварах — пот, загар,
А зморы не відно,
Бо кожны тут змагар,
Турбуе ўсіх адно.

Прастор — шырэй, святлей.
Дзе мох і прэў, і тлеў,

Дзе ўчора трактар граз
І ўсіх пужала гразь,
Там сёння ўжо арэм
І лушчым скіб пласты,
І ураджай збярэм
Калоссяў залатых.
А як жа нам інакш?
У цвеце верас наш.
Народ сяўню нясе,—
Сяўба ва ўсёй красе
На новай паласе!

*1959 г.*

## У ДАРОЗЕ

Добры мой шафёр,
Прыпыні машыну;
Гляну я на бор
Не з акна кабіны.

А ў бары, бары —
І дубы, і сосны,
І бягуць з гары
Маладыя вёсны.

І шумяць, звіняць
Залатыя крылы...
Мне й свае узняць
Сёння хопіць сілы.

Бор пачаў радзець,
Шум сціхае сосен,
І відаць Брадзец
І Цвілая Бросень.

Добры мой шафёр,
Я прашу ад сэрца,
Прыглушы матор,
Хай ён так не рвецца.

Шалясціць чарот,
Дождждык не марусіць;
Цераз ціхі брод
Праляцелі гусі.

На зялёны лог
Гусі палі-селі;
На балоце мох
Сцеле ім пасцелі.

*1959 г.*

## З ДОБРЫМ РАНКАМ, ДЗЕЦІ

Вераснёвы ранак,
Верасы у цвеце,
І на школьны ганак
Узбягаюць дзеці.

Смех і шум вясёлы,
Льюцца песні словы,
Фартушкі бялеюць,
Гальштукі яснеюць.

Кветак лёгкі шолах,—
Радасна бясконца.
Колькі сёння ў школах
І святла, і сонца!

З добрым ранкам, дзеці —
Кветкі дзён сучасных.
Дзецям ўсім на свеце
Школа — светач ясны.

*1959 г.*

## НАСТАЎНІЦА

*Е. В. Нагорнавай*

Вы з Мурама сюды
У верасні прыйшлі.
Ні ветры, ні гады
Слядоў не замялі,
І сцежкі на зямлі
Травой не зараслі.

Народнай праўды сказ
Прынеслі вы з сабой.
Пыталіся не раз:
Ці спраўлюся з сяўбой?

Увосень і вясной
Сад даглядалі свой.

Вясёлы, малады
Угору дружна рос,
Шумеў на ўсе лады,
Галлём зялёным трос.
«І песню салаўя,
І сад любіла я!»

За годам год ішоў
Вялікіх спраў, падзей.
З гарачаю душой
Ішлі вы да людзей
І неслі сонца ім
У слове залатым.

Як наша маладосць,
Так сад не адшумеў;
Калі заходзіць госць,
Чуваць вясёлы смех.
Не раз у дні вясны
Паклічуць галасы
У родную сям'ю
Настаўніцу сваю.

Вясёлы, шумны тлум
Абніме вас не раз.
Ад гэтых светлых дум
Я сёння рад за вас.
Прызнанне шчырых слоў
У памяці знайшоў:
За тое вас любіў
І не лічыў чужой,
Што рускай вы былі
І сэрцам, і душой.

*1959 г.*

# У ЧААДАЕВЕ*

1

І снег, і пошум баравы
На окскай беласнежнай шыры.
Здаецца, тройка вараных
Імчыць Радзішчава з Сібіры.

Не згас гісторыі прамень
Ля гэтых мурамскіх аколіц:
У памяці ўсплывае дзень,
Калі вучыў тут Станюковіч.

Казармы царскай не сцярпеў
І стаў настаўнікам народным.
Успамінаюць і цяпер
Яго ў народзе словам добрым.

Далёкі — блізкі мой сабрат,
І мне вучыць тут давялося.
Я ураджай сабраў і рад,
Што ядраным было калоссе.

2

Над Чаадаевам вясной
Шумяць у квецені сады,
І сонца яснае са мной
Праклала светлы шлях сюды.

Вішнёвым садам мы ішлі,
Пялёсткі вецер атрасаў.
Злятала, падала з галін
Вясны цудоўная краса.

Пчаліны неўгамонны звон
Вясну на лёгкіх крылах нёс.
Спяваў з таполяй рускі клён,
І адклікаўся ім мой лёс.

*1959 г.*

---

* Чаадаева — вялікае сяло на Уладзіміршчыне, недалёка ад Мурама, у якім у 1865 годзе настаўнічаў вядомы рускі пісьменнік-дэмакрат К. М. Станюковіч. Каля Чаадаева праязджаў А. М. Радзішчаў, вяртаючыся з Сібіры.

## МІНСК

Як спеў зямлі вясною,
Наяве ўсё, не ў сне:
Цудоўнаю красою
Здзіўляе Мінск мяне.
З плячэй атрос асколкі
Снарадаў, бомб і мін
І дым развеяў горкі
Над попелам руін.
Трывалыя падмуркі
У моцны грунт ляглі.
Навокал гоман гулкі
Гранітаў і цаглін.
Гадзінамі, не днямі
Растуць паверхі ўверх;
Да ясных зор паднялі
Блакіт высокіх стрэх.
Тут хмары дзён не засцяць,
Няма, не ўбачыш тла.
Да шчасця — вокны насцеж,
А колькі ў іх святла!
Ідзе у цэх гарачы
Рабочы і паэт.
Стаяць палацы працы,
Красой здзіўляюць свет
Шырокія праспекты,
Бульвары і сады,
І з імі поўдзень светлы
Праклаў сюды сляды.
Народ, як бацька дбалы,
Сыноў шануе ён:
Ля помніка Купалы
Шуміць зялёны клён.

*1959 г.*

## ПЕСНЯ

Жыве тут песня ў харастве зямным,
Чаруе сэрца подыхам лясным.

Спяваюць песню вольныя сыны,
Плыве яна далінамі вясны.

Шырокай рэчанькай удаль плыве
І падхапіла хвалямі мяне.

Павольная, імклівая нясе,
І свеціць сонца ўсё ясней, ясней!

*1959 г.*

## УСПАМІНЫ

Я помню: ў ліпеньскі той дзень
Гарнуўся сэрцам да людзей;
Каб супакоіцца душой,
На бераг Свіслачы пайшоў.
Душы ўсхвалёванай цяпло
На хвалях рэчанькі плыло,
А я у далячынь глядзеў
І клікаў сонечны свой дзень.

Умыў чало і потны твар,
Зірнула сонейка з-за хмар,
Паслала ясны мне прамень,
Які яснеў, як і раней,
І палымнеў, і ўсё не гас.
Я так любіў жыццё ў той час:
Хацеў абняць, расцалаваць
І гімн Радзіме праспяваць.

На шлях раз-пораз пaглядаў,
Нібы па ім ішла бяда;
Даносіў вецер неспакой,
Вярба шумела над ракой,
Хмурынкі з поўдня паплылі,
І я пакінуў паплавы,
Падаўся ў поле, дзе жыты
Схілялі колас залаты.

Прайшоў мяжою на курган,
Адкуль відаць, куды ні глянь.
Чаго шукаў, там не знайшоў,
Не ўціхамірыўся душой
І паглядаў усё на шлях,
Дзе маладосць прайшла,
Спяваючы, у новы свет,
Пакінуўшы гарачы след.

Ўжо колас ядраны паспеў,
І коціцца над нівай спеў,
Зліваецца ў лагодны шум
І песняй просіцца ў душу.
Я слухаю, не чую слоў,
Ні клёкату старых буслоў.
Адходзіць неспакойны дзень,
І вечар ночаньку вядзе.

Усё цямней, цямней, цямней...
Што, ночанька, нясеш ты мне?
Дахаты ногі ледзь вядуць,
Як на пагібель ці бяду.
Прысеў за бацькаўскім сталом,
Газніца слепіцца святлом...
Каб не змарнець, то трэба жыць,
Але не так, як набяжыць.

Слатлівы дождж замарусіў,—
Ніхто не клікаў, не прасіў.
Павісла змора на плячы,
Іду на сена адпачыць,
Каб заўтра, на світанні, ўстаць
І сонца песняй прывітаць.
Але ці збудзецца яно?
У небе зорак не відно.

На шлях сабака паглядаў
І выў, задраўшы морду ўверх;
Галіны ў садзе змрок гайдаў,
І вылецеў кажан з-пад стрэх.
Пад змрокам ночанькі аўто
Пад'ехала, не чуў ніхто.
Мяне забралі, павялі[1]
Па роднай, па святой зямлі.

*1959 г.*

# 1960

## НА МІНСКІМ ЗАВОДЗЕ АЎТАМАТЫЧНЫХ ЛІНІЙ

Дзе учора сосны
Атрасалі іней,
Сёння там завод
Аўтаматычных ліній.

Гул станкоў нястомных
І канструкцый ўзлёты.
Ў корпусе галоўным
Светлыя пралёты.

Чарцяжы чытае
Кемлівы рабочы,
І гараць, і свецяць
Маладыя вочы.

А станок шліфуе
Горача дэталі,
І душа свіціцца
На гарачай сталі.

Пульс у такт з маторам
Нецярпліва б'ецца.
У кожным рытме-такце —
Трапяткое сэрца.

І адкуль жа сілы
Гэтулькі бярэцца?
Першы раз я чую
Пульс такога сэрца.

У рабочых сёння
Свята, шмат уцехі:
К ім прыйшлі паэты
На завод, у цэхі.

І чытаюць вершы,
Што з сабой прынеслі,
І вучыцца ў цэхах
Будуць новай песні.

*8 лютага 1960 г.*

## ЛЕНІН

І слухаем і чуем мы,
Як сэрца ленінскае б'ецца.
Вясенні дождж сады абмыў,
І цвет набрала вецце.

Як хвалі паўнаводных рэк,
За Леніным у новы век
Пайшлі.

На разняволенай зямлі
Шлях асвятліў нам светач вечны:
І Праваднр, і Чалавек,
І мудры, і сардэчны.

Народу шчасце штодзень нёс,
І ўсё хацеў прынесці болей,
Каб век народ не ведаў слёз
І жыў з вялікай доляй.

Мы шляхам ленінскім ідзём,
Ніколі з яснага не збочым,
І нашых дзён маяк відзён,
Наперад мужна крочым.

Шуміць зялёная сасна,
Жыве у сэрцах родны Ленін.
Ён — наша сонца і вясна,
І песня пакаленняў.

*1960 г.*

## ЖАР-ПТУШКА

Пошум на зорнай паляне,
Ціхая песня бяроз:
«Хлопчык Валодзя Ульянаў
З намі над Волгаю рос.

Соку давалі напіцца
З кубка зялёнай вясны.
Ён уставаў да зарніцы,
Спеў яго клікаў лясны.

Хопіць і спрыту і сілы
Хлопчыку шчасце злавіць.
Чуе: залопалі крылы,
Бачыць: Жар-птушка ляціць.

Ўся прамяніцца, іскрыцца.
Колькі цяпла і святла!

Хлопчык за ёю імчыцца,—
Хоць бы пярынку з крыла!»

Сонца ўзышло над палянай
Ранняй вясенняй парой.
Хлопчык Валодзя Ульянаў
Нёс залатое пяро.

*1960 г.*

## ВЯСНА

Прызнацца сонцу сэрцы мусяць:
Павеяла вясной.
Над борам праляцелі гусі
На бераг родны свой.
Вясне і сонцу сэрцы рады,—
У сэрцах спеў вясны.
Яснеюць нашы далягляды,
І клічуць нас яны.
Сок п'юць і яблыні, і вішні
За сонца і вясну,
І трактары у поле выйшлі —
Пракласці баразну.
За плугам — плуг, і скіба — к скібе,
І свежая ралля.
На новай веснавой сялібе
Шпак кліча жураўля.
Па-веснавому ўсё прыбрана
Каля крыніц, ракіт,
І пругкія ўзняліся краны
Высока у блакіт.
Штодзень святлей, шырэй разлогі,
І гэта не міраж.
Ідуць-бягуць шляхі-дарогі,
Змяняецца пейзаж.
Нам партыя дае парады,
Як бацька у сям'і.
Камуністычныя брыгады
Цуд твораць на зямлі.

Стрымаць разгон ніхто не змусіць,
Мы бачым бераг свой.
Вясна, вясна на Беларусі,
Як хораша вясной!

*1960 г.*

## НА МІНСКІМ ВОЗЕРЫ

Возера, выспа. Гляньце і верце:
Ніцыя вербы звесілі вецце,

Вечарам сінім
Ловяць у плыні
Дзіўныя ўзоры —
Ясныя зоры.

Шчасце трапеча ў невадзе срэбным,
Месяц цалуе ціхія вербы.

Хвалі прынеслі
Родную песню,
Вецер сціхае,
Хваля спявае:

«Болей ніколі не схілімся ў горы».
Слухаюць вербы, месяц і зоры.

*10 верасня 1960 г.*

## ХМУРЫНКА СМУТКУ

Хмурынка смутку сонца засціць,
І хцівыя плывуць усмешкі:
Прабегла кошка чорнай масці,
І разышліся дружбы сцежкі.

Ніколі болей не сустрэцца,
Надзеі згаслі і азяблі.
Не адгукнецца сэрцу сэрца,
Апаў апошні яблык з яблынь.
Разбіўся, раскалоўся горкі,
Марусіць дождждык прыкры, золкі,—
Не усміхнуцца дружбе зоркі.

*12 верасня 1960 г.*

## БЕЛАВЕЖА

Верасень на плечы ўскінуў плашч барвовы
І пад сонцам крочыць праз гаі, дубровы.

Кроны ў пазалоце, расцвітае верас.
Хараство такое дзе яшчэ сустрэнеш?

Рослыя сасонкі з-за ракі Лясное
Выбеглі насустрач маладой сям'ёю.

Вось і ты, красуня, ў казачным адзенні.
Я не быў ніколі ў гэтакім здзіўленні.

У чароўнай пушчы, ў нашай Белавежы,
Не сціхае пошум, подых ветру свежы.

Ён душу кранае трапятлівай хваляй,
І калыша кроны, і плыве ўсё далей.

Пошум шматгалосы, як на моры ўсплёсы.
Расплятае восень залатыя косы.

У Белавежы-пушчы са шляху не збіцца:
Тут і сосны-мачты, і дубы-тубыльцы,

І асілкі-грабы ў роздуме глыбокім,
І плывуць над імі лёгкія аблокі.

Між дзяўчат-бярозак чырванее ясень,
А пахмурны ельнік вабіць сонца ў засень.

І бягуць прасекі пад шатром высокім,
І спявае сокал ў небе сінявокім.

Чую голас, сэрцу родны, сакаліны.
Жураўлі курлычуць над вярбой, калінай.

На балоце лозы жоўты ліст атрэслі.
Аклікаюць гусі дзень асенняй песняй.

Да лясной рачулкі, што бяжыць з крыніцы,
Сцежкаю хаджалай зубр ідзе з зубрыцай.

Вось ён, волат пушчы, буры і пануры,
Узваліў на карак груз стагоддзяў хмурых

І павольна крочыць, часам ў нетру збочыць,
З пушчы ў яго вочы збегліся ўсе ночы.

Гонкія алені голас свой падалі,
Падхапіла рэха то бліжэй, то далей.

А ласі ўскідаюць над кустамі рогі.
Ў кожнай іхняй жылцы колькі асцярогі.

Між галін зацішных рысь казулю сочыць:
Крадзецца... знянацку пырсне і саскочыць,

І казулю люта, як былінку, зрэжа.
Бачыла ты жахі, пушча Белавежа!

Ворагі ўзнімалі над табой сякеры,
А ты ўсё шумела, не губляла веры.

І на пнях счарнелых слёз бурштыны свецяць,
Не развеяў вецер іх па белым свеце.

Ты, як песня песень ясных зор і сонца.
Усміхайся, шчасце, маладой сасонцы!

*Верасень 1960 г.*

## ПАЧАТАК ЛЕГЕНДЫ

Пачатак легенды на хвалі азёрнай
Паслухаць іду я пуцінаю зорнай.
Да возера Свіцязь дайшоў і спыніўся,
Прыпаў да крыніцы, здароўя напіўся.
Гарачая сіла прабегла па жылах.
На пні пасівелым, нібыта на ганку,
Да самага ранку чакаў свіцязянку.
Не выплыла з хваляў русалка-красуня,
І ўсё ж хараство сініх хваль панясу я,
Як лёс свой уцешны, і ў сэрцы, і ў песні.
Купаюцца зоры і месяц вандроўны,
І моўчкі ўсміхаецца Свіцязь чароўны.
Бялее лілея і ціха спявае,
Пяшчотная хваля калыша-люляе.
У лоне вод ясных жвірынкі не гаснуць.
Між зорнага срэбра у месячнай лодцы
Сівога туману плывуць валаконцы,
Сплятаюцца пасмы у полаг даўжэзны,
Марусіць вільготны і сцелецца снежны.
Ледзь вецер павее, расінкі ён сее.
Я чую, як шэпчуць над Свіцязем лісці:
Балады складаў тут Міцкевіч калісьці.
Дасюль успаміны людзей не змарылі:
Вось тут ён прызнаўся ў каханні Марылі,
Іх сведка — дуб-віцязь ля возера Свіцязь.
Сягоння дуб гэты не хіліцца долу,
Вартуе магутны і шчасце, і долю.
З братамі-дубамі абняўся сардэчна,
Як нашы народы — навечна, навечна.
Над імі ў дазоры высокія зоры.

*1960 г.*

## СВІЦЯЗЬ

Не схавалі сонца хмары,
Не схмурнелі далягляды.
Усплылі наяве мары,
І легенды, і балады.

Белыя лілеі, макі
У прыпол збірала лета.
Тут Марыля Верашчака[1]
Сустракалася з паэтам.

На пясочак жоўты з віру
Свіцязянкі выбягалі,
Дакраналіся да жвіру
Ўпоўнач босымі нагамі.

Іх цалуе ціхі вецер.
Свіцязь, Свіцязь, добры вечар!

*1960 г.*

## У НАВАГРУДКУ

Радзей, радзей каменняў груды,
    Лягчэй грудзям зямлі,
У старадаўні Навагрудак
    Дарогі нас вялі.

У падарожжы не агоркла;
    Шляхі шырэй-вузей.
Відаць — бялее на пагорку
    Міцкевіча музей.

З дарогі яснае не збочым,
    Не зарасла яна.
Збылося тое, што прарочыў
    Задоўга давідна.

Ідзём, дарожны пыл атрэсен
    З натомленых плячэй.
Спяваюць сэрцы песню песень
    То ціха, то званчэй.

Ступаем на парог музея.
    Мы перад ім, жывым,
Чало нахілім і прыземім
    Ў чаканні трапяткім.

І раптам мара стала явай:
Паэт страчае нас
І з намі песняй велічавай
Вітае светлы час.

*1960 г.*

## КУРГАН БЯССМЕРЦЯ

Даль аклікалі гусі,
Народ, нібы свой лёс,
Пад сонцам Беларусі
Зямлі па жменьцы нёс.

Ішлі, ішлі і неслі,
Курган угору рос:
Узнагарода песні,
Што ў свет паэт прынёс.

Ўсім сэрцам сонцу верце,
Яно свой шлях знайшло
І на Курган Бяссмерця
Раскінула святло.

Віхура не скасіла,
Падняўся да нябёс.
Каб нам такая сіла
І гэтакі вось лёс!

*1960 г.*

## У ШЧОРСАХ

Верасень са шчодрай жмені
Сыпле збожжа у прыгоршчы.
Адспявалі ў полі жнеі,
Ў хараstве асеннім Шчорсы.

Залатыя акварэлі
Палымнеюць на узлессі.
Льюцца трапяткія трэлі
Ціхай, неўміручай песні.

Я іду на вокліч гэты,
І душы, і сэрцу блізкі.
Тут не раз сябры-паэты
Свой паклон аддалі нізкі.

Вось ён — дуб, магутны веліч,
Вецер-хлопчык гне ажыну.
Колісь тут Адам Міцкевіч
Сустракаў сваю Гражыну[1].

Дуб лісты з галін страсае,
Падаюць на дол са звонам.
Ажыве вясной краса іх
У гомане дубоў зялёных.

Рад я пакланіцца дубу
І Гражыне, яснай зорцы;
Успамінаць вас часта буду
На сваім шляху да сонца.

*1960 г*

## ВАЛУНЫ

Уздоўж шляхоў-дарог сівыя валуны.
З паўночных гор гуртом спаўзлі яны,
Ляглі на ціхі ўзгорак і прыкрылі лог.
Знаць, нездарма праклён: «Каб каменем ты лёг,
Наш вораг, тут, на полі,
І ўжо не ўстаў ніколі».

Вы — сведкі-помнікі ліхой пары-бяды;
Да аднаго збяром, пасадзім тут сады,
І зашумяць яны на сонечнай зямлі,
Калі абудзяць даль вясною жураўлі,

I ў ранак майскі росны
Раскінуць цвет дзівосны.

Скалісты ледавік больш не спаўзе сюды —
Яго растопіць сонца, высахнуць сляды;
І валуноў гурты не будуць нас пужаць,
Не будзе камень на грудзях зямлі ляжаць —
Размелюць часу жорны,
І вецер попел згорне.

*1960 г.*

## СВЕТЛЫ НЕМАН-ЧАРАДЗЕЙ

Бор шумлівы, не маўклівы,
Сосны ў тлумнай чарадзе,
І плыве, плыве імклівы,
Светлы Нёман-чарадзей.

Сінявокі і глыбокі,
Сілу хваль нясе удаль.
Вербы п'юць жывыя сокі,
Ловяць сонечны крышталь.

Заначую і пачую,
Казка-песня, голас твой.
Заспяваць з табой хачу я
Перад зоркай залатой.

Золак зоранькі вясёлай
Ў невад ловяць рыбакі,
І ліецца ў песні слова
Хваляй казачнай ракі.

І чаруе, і хвалюе
Вольны Нёман-чарадзей,
Абнімае і цалуе,
Моцна туліць да грудзей.

*1960 г.*

## СЕСТРЫ

Песня, песні адгукніся.
Маладзіцы, дзве сястрыцы,
Як бярозкі, абняліся
Каля нёманскай крыніцы.
Хваля, хвалі усміхніся,
Шчасце, зоркай прамяніся.

Дружбы плыні Нёман сіні
Не спыняе, не сцішае,
Беларусаў і ліцвінаў
Светлай хваляй пацяшае
І гамоніць з ясным сонцам,
Бы красуня тая ■ хлопцам.

А пад сонцам дуб дзябёлы
Сокі гоніць, лісце гоіць.
Зелянеюць кручы, долы,
Нёман поіць, не нявbooліць,
Не сівее камень голы,
Весялее ўсё наўкола.

Лета шчодрае такое:
Росы носіць, травы росіць
І не ведае спакою,
Кліча, запрашае, просіць.
І выходзяць талакою —
Песня працы над ракою.
У працы любім завіхацца,
У песні шчасцю усміхацца.

*1960 г.*

## НА БЕРАЗЕ ГАДОЎ

Празрыста-быстраю ракой плыву,
І хвалям у затоку не аднесці,
Хоць час пасыпаў снегам галаву,
І мне яго не змесці, не атрэсці.

Трымаю моцна у руках вясло,
І човен не наскочыць на парогі.
На беразе гадоў шчэ сонца не зайшло
І клічуць светлыя шляхі-дарогі.

*1960 г.*

## КРАСУЙ, ЖЫВІ!

З твайго чала упаў вянок калючы,
Радзімая зямля, красуй, жыві!
Я кветак назбіраў табе жывых,
І водар іх, і сок такі гаючы.

Гарачае ў грудзях трапеча сэрца.
Узораны забытыя пласты.
Што сеяла з сваім народам ты,
Ўзышло, багаты ураджай збярэцца.

Наліўся колас, гнецца да зямлі,
Шукалі ў нетрах скарбы і знайшлі,
І сонца ў хаты неслі і прынеслі.

Прыйшлі бацькі, а з імі і сыны,
І абняліся за сталом вясны,
І заспявалі сонечныя песні.

*1960 г.*

## ЛІСТ ДА ЧЫТАЧА
## Ў СУВЯЗІ З ВЫХАДАМ ЗБОРНІКА
## «ВЕРШЫ І ПАЭМЫ»

Прабач, мой дружа, мой чытач,
Калі не гэтак што, як трэба.
Няўдач шмат болей, як удач,
Было ў мяне пад родным небам.

Быў рад, калі прыйшла у сад
Вясна, а з ёй садоўнік дбалы.
Быў рад, калі на новы лад
Зайгралі скрыпкі і цымбалы.

Не раз, якраз у добры час,
Я слухаў салаўя на ўзрэччы.
Не ў час не выслізнуў карась,
Калі чакаў з табой сустрэчы.

Святло ад сонца скрозь плыло,
Маёй не абмінала песні.
Было, калі яно ўзышло,
Святлей, цяплей, як напрадвесні.

Дужэў. Вясновы дзень даўжэў.
Я помню светлыя гадзіны.
Бліжэй за ўсіх і даражэй
Была ты мне, мая Радзіма.

З табой ішоў, ў табе знайшоў
Людзьмі нязведанае шчасце.
Ішоў і ўсё хацеў душой
Я да крыніц тваіх прыпасці.

Хацеў не проста для уцех...
Але павеяў вецер золкі,
І ўжо не смех, а зябкі снег
Засыпаў долы і узгоркі.

І тых тваіх крыніц святых
Я не згубіў і ў дзень завейны.
Не сціх звон сосен залатых,
І ў сэрцы голас мой напеўны.

І з той ўсё сілаю святой
Аклікну я жыцця завулкі.
Слатой зляцела тля з лістоў,
Прачнуўся ў сэрцы голас гулкі.

*Кастрычнік, 1960 г.*

## НЕАДАСЛАНЫЯ ЛІСТЫ

Астыў з гадамі, пасталеў,
Білет на песню здаў у касу,
А вы — ўсё на маім стале,
Вас адаслаць не меў я часу.

Засеяны зямлі пласты,
І ўсходаў ніва прычакае;
Неадасланыя лісты
Мой сын, напэўна, прачытае.

А можа, пройдзе ўсё, міне,
Вярнуся я з багатым ловам,
І крытык памінаць мяне
Не будзе больш нядобрым словам.

Ўсміхнецца ў майскіх росах сад,
І моцна верыць маё сэрца,
Што атрымае адрасат
Лісты з расінкай на канверце.

Лісты, вас я ў жыццё прынёс,
Як сонца сцяг свой напрадвесні.
Пра мой раскажаце вы лёс
І пра мае ад сэрца песні.

[*1960 г.*]

# 1961

## ЧАРАДЗЕЙ ВЯЛІКІ

На высокай кручы, над Дняпром-ракою,
Слухаюць народы песню грамадою,
Слухаюць Тараса, сына Украіны.
Не зламалі буры крыл тваіх арліных,
Над Радзімай сокал узляцеў высока
І акінуў вокам даль зямлі навокал.

Не ляжыць праклёнам на грудзях больш камень,
«Запавет»[1] спяваюць і Дняпро, і Канеў,
І браты, і сёстры, вербы і каліны,
І сыны, і ўнукі маці Украіны.
Далучыўся голас роднага Купалы:
Досвіткам усталі, сонца не праспалі.

О Кабзар-музыка, чарадзей вялікі,
Да шчаслівай долі свой народ ты клікаў:
«Ланцугі няволі скінь, разбі, народзе,
Родныя хай нівы табе шчодра родзяць».
Над Дняпром шырокім, на высокай кручы,
Слухаюць народы голас неўміручы.

*26 лютага 1961 г., Мінск*

## МУЗЫКА ВЯСНЫ

Сяўба — і дружны лад
На ніве, ў полі скрозь.
Вясенні дождж зярнят
Гусцей мядовых рос.

У сонечнай сяўні
Вясёлка скарб нясе.
І веснавыя дні
Ва ўсёй зямной красе.

У лузе, над ракой,
Дзень з песняю ідзе.
Я музыкі такой
Не чуў яшчэ нідзе.

Не мары, і не сны,
І не зялёны шум,
А музыка вясны
Нахлынула ў душу.

*10—15 красавіка*
*1961 г.*

## ГІМН СЛАВЫ

Глядзелі з надзеяй у далі
І шчасця ў палёце жадалі:
«Адважны саколе, ўзніміся
Ў надзорныя сінія высі,
Ляці і лунай над Сусветам,
Цяплом нашых сэрцаў сагрэты,
А потым з той казачнай высі
Дадому, да родных вярніся».

Глыбока ў касмічнай прасторы,
Дзе сонца, і месяц, і зоры,
Наш сокал ляціць, пралятае
І песню Радзіме спявае:
«Мая ты, мая залатая
Радзіма Саветаў святая!
Развеяны цёмныя хмары,
Збываюцца светлыя мары».

І песні раздольна ў блакіце,
Ляціць карабель па арбіце.
Ў бязмежным касмічным Сусвеце
Зямля яму зоркаю свеціць.
Мінаюць мінуты з гадзінай,
Скіраван палёт да Радзімы.
Забілася горача сэрца;
«Як добра з Радзімай сустрэцца»,—
Падумаў так Юрый Гагарын.

Аркестры гімн славы зайгралі.

*14 красавіка 1961 г.*

## ПАЭТЫ — СУМЛЕННЕ НАРОДА

Ляцяць жураўлі па-над бродам,
Я чую — даносіцца вокліч:
Паэты — сумленне народа,
Заўсёды і ўсюды з ім поплеч.

З народам жаданнямі ўсімі
І дзеляць на роўныя часці,
Як дзеці з бацькамі сваімі,
І радасць, і гора, і шчасце.

І Сёння, і светлае Заўтра
Вялікіх паэтаў народзіць.
Пакінуць у спадчыну варта
Паэму аб нашым народзе.

Чытайце, нашчадкі, чытайце,
Мы з вамі душою і сэрцам,
Чытайце паэму аб шчасці,
Чытайце і горача верце.

Натхненне спачыну не просіць,
Не ведае, роднае, зморы.
Не стому, а радасць прыносіць,
Як чайка крылатая ў моры.

Сягоння ужо мы не тыя,
Што калісь хадзілі у яслі,
І словы патрэбны такія,
Якія б ніколі не згаслі.

Такія нас грэюць, дзе б'ецца
Гарачае, шчырае сэрца,
І голас душы не сціхае,
І кожнае слова спявае.

Мінаюць гады і прадвесні,
Жывуць сакаліныя песні.
З народам яны назаўсёды,
Як з быстрымі рэкамі воды.

Не хіляцца вербы над бродам,
Я чую — даносіцца вокліч:
Паэты — сумленне народа,
Заўсёды і ўсюды з ім поплеч.

*22 красавіка 1961 г.*

## НА РАДЗІМЕ ТАК ПРЫГОЖА

Добры сейбіт светлай долі
Сее шчасце ў родным полі,
Сее жменяй спорнай, поўнай,
Сее зранку, сее споўдня.

Гуртам сейбіту паможам,—
На Радзіме так прыгожа!

Наша шчасце не марнее,
Узыходзіць, і рунее,
І красуе, і паспее,—
Родны сейбіт яго сее.

Гуртам сейбіту паможам,—
На Радзіме так прыгожа!

Шчасце з намі ў полі, ў хаце.
Наша шчасце — ніў багацце.
Сейбіт сее, не марудзіць,
Не забудзем, помніць будзем.

Гуртам сейбіту паможам,—
На Радзіме так прыгожа!

Ў гэтым годзе добра годзіць:
Дождж і сонца ў госці ходзяць.
Шчодры сейбіт светлай долі
Сее шчасце ў родным полі.

Гуртам сейбіту паможам,—
На Радзіме так прыгожа!

*1961 г.*

## ТЫ — ЯК ПЕСНЯ ТАЯ

Зелянеюць лісці
Ў лузе на каліне;
Люба ў поле выйсці,
Пакланіцца ніве.

Поўдзень, як і колісь,
Сонечна-зялёны;
Залацісты колас
На маёй далоні.

Піў ты сокі, сыне,
З глебы зямлі-маці
І пад небам сінім
Марна не растраціў.

Ў летні ранак росны
Набіраўся сілы;
Ядраны і рослы,
Гэткіх і не снілі.

І братоў мільёны
На цябе падобны.
На маёй далоні
Колас жытні, родны.

Ты — як песня тая,
Што радзіла праца.
Ніва скрозь густая,
Дзякуй, зямля-маці.

*3 чэрвеня 1961 г.*

## БУДУЕМ

Сталіца, нібы маладзіца,
Пад сонцам цудоўнай вясны.
Як тыя легенды, святліцы
Будуюць з бацькамі сыны,

І дочкі узводзяць старанна
Паверхі адзін за адным.
Магутная музыка кранаў
Зліваецца ў велічны гімн.
Сімфонія тросаў пявучых
Па стрэлах угору імкне,
І гмахі, як стромыя кручы,
І сонца — у кожным акне.
Мы неслі яго і прынеслі,
Дзень сонечны нас не змарыў.
Цагліны, як гулкія песні,
Навечна ляглі у муры.
Такіх камяніц мы не мелі
Пад родным блакітам нябёс.
Дзе сосны нядаўна шумелі,
Там светлыя вуліцы скрозь,
І наша вясёлае ранне
Па вуліцах гэтых ідзе,
За ім навасёлы-мінчане,
І гоман, і клопат людзей.
Жаданае сёння збылося,
Хмурынкі развеяны ўсе.
Каб добра жылося-вялося,
У кватэру хлеб кожны нясе,
На покут кладзе у святліцы,
І вокны ўсе насцеж вясне.
Штодзень прыгажэе сталіца,
І сонца ёй свеціць ясней.

*1961 г.*

## ЖЫТНІ КОЛАС

Гэтым летам, а не колісь,
Рос і вырас жытні колас
На радзімай ніве вольнай,
На шырокай, на раздольнай.
    Красаваў і наліваўся,
    Над зямлёю нахіляўся.
    Сокамі зямля паіла,
    І брадзіла ў зернях сіла.

Ядраны, цяжкі, як з бронзы,
Загарэў, прыкрыў барозны.
Не было такіх ніколі
На ўраджайным нашым полі.
  Не было нідзе на свеце,
  Толькі ў нас у гэтым леце.
  Дзіву дзівімся, ды годзе,—
  Хай штогод так нівы родзяць.
І наяве, а не ў казцы.
Яшчэ казку трэба скласці
І расказваць на ўвесь голас
Пра цудоўны жытні колас.
  Сонца грэе, колас спее,
  Пошум жытні ў летнім спеве.
  Каласіста спелай ніве
  Нізка кланяецца жнівень.
Цешыць поле залатое,
Дзякуй, роднае, за тое,
Што ўрадзіла гэтак шчодра,—
З хлебам жыць на свеце добра.
  Не з сярпамі ў полі жнеі,
  Не ў снапы кладуцца жмені,
  А вядуць у наступ слаўны
  Маладыя камбайнёркі
  Самаходныя камбайны
  Цераз долы і узгоркі.
І плывуць па жытнім моры,
Як мелодыі у хоры,
У залаціста-жытняй далі
Акунаюцца у хвалі.
  Сыпле ураджай багаты
  Залатым дажджом зярняты,
  І шумяць імклівай рэчкай,
  Гаварлівай, добрай спрэчкай.
Родны колас што ёсць сілы
Жалі, жалі, малацілі,
І сабралі яго зерне
Дачыста ўсё на насенне.

*1961 г.*

## РАНА СОНЕЙКА УСТАЛА

Рана сонейка устала
І саграэла сэрцы.
Каля млына, каля става
Ўмылася у рэчцы.
І пайшло на поплаў росны
Часам раннім гэтым,
Села там яно за кросны
Не з вясной, а з летам.
Тчэ квяцістыя абрусы,
Сінія азёры,
Тчэ дзяўчатам Беларусі
Дзіўныя узоры:
Паясы, як наша доля,
Дываны ў гарошкі,
Засцілае імі долы,
Сцежкі і дарожкі.
Чабарок, што тыя зоркі
Ў шумнай сенажаці,
Ім засланы ўсе узгоркі,
Як сталы у хаце.
І спяваюць хорам птушкі
У надрэчным гаі;
Славяць птушкі і пастушкі
Лета ў родным краі.
Праплываюць шпарка хмаркі,
Рэчку абмінаюць,
А на поплаве даяркі
Сонца абнімаюць.
Весялух, ахвотніц любых,
Прытуляе сонца
І цалуе ў шчокі, губы
Гарачэй за хлопцаў.

*1961 г.*

## ГРОДНА

На вуліцах, завулках цесных
Сустрэў нас поўдзень, а не вечар,
І голас беларускай песні
Данёсся з нёманскага ўзрэчча.

Плывуць мелодый дзіўных гукі,
Ахоплен імі горад Гродна.
Ткачыхаў залатыя рукі
Узоры ткуць краіне роднай.

Тут хараство зямлі красуе,
Смяецца восень маладая,
Цалуе верасень красуню,
Каштаны, клёны ў жар кідае.

Ледзь чырванеюць зрэдзь таполі,
Лістоў вясёлыя усмешкі
На долы падаюць паволі
І засцілаюць шумам сцежкі.

Блакітны Нёман скарб свой ловіць —
Праменні ясныя у плыні.
Цябе не здолелі адолець,
І вецер хваль тваіх не спыніць.

Бульвар Міцкевіча Адама,
Музей Ажэшкі Элаізы[1]...
Народ стварыў, збіраў гадамі,
Каб светлай долі дзень наблізіць.

Будуюць муляры і цеслі,
К ім песняры прыйшлі на стрэчу.
І музыка працоўнай песні
Плыве на нёманскае ўзрэчча.

*1961 г.*

## ДАРОГІ ЮНАЦТВА, ШЛЯХІ МАЛАДОСЦІ

Дарогі юнацтва, шляхі маладосці
Мяне запрасілі ў адведзіны-госці.
Рад я запрашэнню, сардэчна прымаю,
Хілюся пакланам зялёнаму маю.

Мне блізка і люба і гэта, і тое...
Здаецца, юнацтва маё залатое
Ідзе ў падарожжа са мной пехатою,
Куслівыя мошкі не лезуць слатою.

Іх ветрам аднесла за водшыб далёкі,
Над намі высокі блакіт сінявокі.
Над Свіслаччу ззяе вясёлкавы пояс,
Над полем, над гаем — знаёмы мне голас.

Я чую: ён кліча у светлыя далі,
Дзе першую песню мы сонцу аддалі.
З той песняй сустрэцца і сёння мне раяць.
У торбачцы хлеба ржанога акраец.

У поўдзень вясновы хлеб чысты жытнёвы
Кладу, нібы шчасце, ў свае я далоні.
Душою і сэрцам хлеб родны смакую
І ўгодкі свайго нараджэння святкую.

* * *

Ой, бярозка, прыгажуня у хусцінцы,
Правядзі мяне ты па сваім гасцінцы.
Правядзі мяне ты да сваіх равесніц,
Абнімаў якіх я ўлетку каля веснiц.

Заспявай, красуня, ты мне песню тую,
Заклікаў якою зорку веснавую.
Раскажы легенду, як у ранак майскі
Ты у гай прынесла шум зялёнай казкі.

Раскажы, як бегаў хлопчык басаногі
І шукаў да сонца ўсё сваёй дарогі,
Як яго юнацтва загукала ў полі
І пачулі хлопцы, вербы і таполі,

Як ён піў душою сок з крыніц Радзімы
І ўсміхаўся шчасцю яснымі вачыма.
Ой, бярозка, прыгажуня у хусцінцы,
Правядзі мяне ты па сваім гасцінцы.

*1961 г.*

## ЗАСЯВАЮ ПОЛЕ ЧЫСТЫМ ЗЕРНЕМ

Бярозку абнімае клён.
Схіляю нізка я чало
І аддаю зямны паклон.
Здаецца, сонца пачало
Раней усходзіць
І пазней заходзіць.
Штодзень святлей,
Цяплей,
І нашы нівы родзяць
Усё спарней, спарней.

У роднай глебе
Зерне не змарнее,
Наклюнецца, узыдзе, зарунее
І дасць багаты плён
Пад сонцам ясных дзён.

Рад я дабру,
Яго да каліва збяру,
Адвею ад мякіны
І ў спадчыну пакіну
Для новае сяўбы.
На ўзгорку, у бары,
На варце родныя дубы,
Дзябёлыя сябры.
Вітаю песняй іх,
Равеснікаў сваіх.

Над кронамі — блакіт,
Загар лёг на лісты.

З-за рэчкі, ад ракіт,
Відаць здалёк,
Плыве дымок,
А не туман густы
Хаваецца ў кусты.

Ля вогнішча пастух сядзіць
І падграбае жар
Кійком.
«Як хораша на свеце жыць!
Цяжар
Не муляе плячэй,
Сляза не коціцца з вачэй,
На сэрцы, на душы лягчэй.
І мой маяк не згас,
Здалёку ён
Відзён».

Як сын і брат
Я слухаць рад
Цудоўны гэты сказ
Пад сонцам ясных дзён.

*1961 г.*

## КРЫТЫКАМ

Прыйшоў канец хлусні-мане,
Зноў песні я ўладар.
Не адабралі ад мяне
Святога слова дар.

Яго не ворагі далі,
А даў мне мой народ.
Крыніцы роднае зямлі
Паілі [illegible] году ў год.

Дужэлі сілы слоў жывых,
П'ючы гаючы сок.
Не здолелі зваліць вы іх,
Засыпаць у пясок.

Яны набралі моц сваю,—
Цудоўны сок памог.
Не прыйдзе па душу маю
Цяпер ні чорт, ні Бог.

*1961 г.*

## НА ЗЯМЛІ ЛІТОЎСКАЙ

Развеяў хмарку вецер зранку
Над кронамі высокіх дрэў;
Ў літоўскім старажытным парку
Цябе, прыгожую, сустрэў.

Яснеюць вочы — зоры ночы,
На твары бронзавы загар;
У сэрцы маладым дзявочым
Гарачы палымнее жар.

Сваёй Марыце спеў дарыце,
Жывы букет чырвоных руж.
Натхнення чыстая крыніца,
Да глыбіні душу узруш!

*1961 г.*

## НЕ ЛЕЗ ПІШЧОМ Я НА ПАРНАС

Не лез пішчом я на Парнас,
Ў раі з багамі не марнеў.
Маё імя пужала вас,
Здалёк абходзілі мяне.

Мае маўчалі ў сэрцы вершы,
Не ўторыў ім вясенні гром.

Руку Алесь[1] падаў мне першы
І запрасіў у родны дом.

Дарую крыўды і дакоры,
Над галавой блакіт вясны.
Зноў усміхаюцца мне зоры
І пошум маладыя лясны.

Мне сёння тут не да санетаў,
Душой не ўмею я крывіць.
Якое шчасце быць паэтам
І слухаць спеў жывых крыніц.

Хачу расцалаваць Радзіму,
Аберуч горача абняць.
Мае сябры і пабрацімы,
Нам хопіць сіл гару падняць.

Я першы за скалу бяруся,
Цяжар плячэй не згорбіць мне.
Сваёй савецкай Беларусі
Я рад, як сонечнай вясне!

*1961 г.*

## СТАЛЕЕ ПЕСНЯ ГОД АД ГОДУ

Сталее песня год ад году,
Чаруе нас красой зямной;
Служыць радзіме і народу
Яна згадзілася са мной.

Душу і сэрца ім даверыў,
Яны мне — голас родны свой.
Якою мерай шчасце мерыць,
Я з сонцам раіўся вясной.

Я добра помню поплаў росны
І жураўлінае «курлы».
Дзе вы, майго юнацтва вёсны,
Якою рэчанькай сплылі?

На хвалі бурнай ці на светлай
Вас вынесла на родны плёс?
Не адшумелі тыя ветры,
Што час на крылах песні нёс.

*1961 г.*

## УПРОЧКІ ПЕСНЯ НЕ ЗБЯЖЫЦЬ

І ні вясной, і ні зімой
Упрочкі песня не збяжыць.
Душа мая і голас мой
У вершах застануцца жыць.

У горы, радасці, бядзе
Люблю не цемру, а святло.
Гарнуся сэрцам да людзей —
Адчуць і ласку, і цяпло.

Грахі мае даруйце мне...
Радзімы сыну не згубіць.
Пакуль душою не змарнеў,
Умею горача любіць.

*1961 г.*

## ЯШЧЭ Ў ВЯЛІКІМ Я ДАЎГУ

Яшчэ ў вялікім я даўгу,
Ўсё разлічыцца не магу
За сілы, што народ мне даў.
Гады бягуць, нібы вада,
За імі наўздагонкі я:
Адклікніся, вясна мая!

Не адклікаецца вясна.
Ці не пакрыўджана яна,
Што не пакінуў песні ёй?
Мне не вярнуць вясны сваёй,
Пайшла упрочкі ад мяне
І пры спатканні абміне.
Шкада, а рады не дасі,
Не ўпросіш, колькі ні прасі,
Не вернецца, не зойдзе ў дом
Ні ясным, ні пахмурным днём.

Асенні шум, асенні шум
Ўрываецца ў маю душу.
Шумі, шумі, а не маўчы,—
Ляцяць гусіныя ключы
І клічуць песню да вышынь.
Хіба Радзіме я не сын?
Штодзень ты у маім ваччу,
Твой вобраз сэрцу дарагі.
Табе за ўсё я заплачу,
Аддам народу ўсе даўгі.

Як сын, паэт і чалавек,
Люблю я плынь нястомных рэк,—
Яны плывуць у светлы век.
Шырэй расходзяцца кругі
І абмываюць берагі
Ад пазалеташняй смугі.

У зарыве гаі, лясы,
Ў цудоўным цвеце верасы.
Красуню-восень я люблю,
І гэту песню не згублю,

Пакіну ў спадчыну яе
Вясёлай, маладой вясне.
Няхай падхопяць салаўі
На вольнай, казачнай зямлі.

*1961 г.*

# 1962

## ЗА ЎСЕ,
## ЗА ЎСЕ ВАМ ДЗЯКУЙ

Асенні дождж адплакаў,
Апаласкаў парэнчы крат...
За ўсё, за ўсё вам дзякуй:
І за цынгу, і за інфаркт.

Яшчэ ўстаю з пасцелі,
Каб дапісаць апошні сказ.
Бары не адшумелі
І залаты прамень не згас.

Яшчэ жывуць надзеі
І акрыляюць дум узлёт.
Скажыце, дабрадзеі,
Чаму у вашых сэрцах лёд?

Не грэе ён, а студзіць,
Аж ледзянее ў жылах пульс.
За песні не асудзіць
Мяне Радзіма Беларусь.

За словы праўды горкай
Я прабачэння не прашу,
Хоць і заходзіць зорка,
Але не плюйце мне ў душу.

Мае браты-браточкі,
З народам быў я на сяўбе.
Народ і ў дзень святочны
Мяне пакліча да сябе.

*15 верасня 1962 г., Мінск*

## ПРЫЙШЛА ПАРА — ПАСВАТАЛІ

Суседзі ў нас багатыя,
Прыйшла пара — пасваталі,
А згоды не спыталіся,
Хоць дараслі да сталасці.
Вось гэтак тое сталася,
З чаго мы не ўсміхаліся,
А галавы павесілі
І не спявалі весела,
На сумны лад збіваліся,
А крытык злосна лаяўся.

* * *

Не люблю я слухаць звягі.
Адпачыць, знябыты, лягу,
Будзе ціха ў нашым садзе,
Песня да мяне прысядзе.
Пасядзіць са мной да ночкі,
Да грудзей прытуліць моўчкі,
Гляне і прыкрые вочы.
Гэта песня вечнай ночы.

*27 верасня 1962 г., Мінск*

## ЛЮБЛЮ

Знаём я добра з гэтымі лясамі,
Люблю наведаць іх ізноў часамі,

Люблю прайсці сцяжынкамі ляснымі,
Пад елкамі і соснамі густымі,

Пад клёнамі з лістамі залатымі,
Пагаманіць і з гэтымі, і з тымі,

Што сонцу усміхаюцца на ўзлессі.
Мне любы сёння маладыя песні,

Паслухаеш і весялей на сэрцы.
Мне хочацца з сябрамі тут сустрэцца,

Ключы аддаць ад задушэўнай песні,
Якую нам бацькі ў жыццё прынеслі.

*7 кастрычніка 1962 г., Мінск*

## АДЦВІТАЕ Ў САДЗЕ РУЖА

Я не быў такім знябытым,
Гэткім слабым і нядужым.
Сёння ўсімі я забыты
І табой, мой добры дружа.
Адцвітае ў садзе ружа.

Ціха падаюць пялёсткі,
І ніхто іх не збірае.
Як той песні адгалоскі,
Вецер носіць іх па краі.
Жар асенні дагарае.

Можа, сэрца ён сагрэе,
Да жыцця пакліча, верне?
Чырванее ліст на дрэве,
Асыпае восень зерне.
Неўзабаве дзень мой змеркне.

І узыдзе ночы зорка,
І яна мой шлях асвеціць.
На душы мне зябка, золка.
Ці пакіну след я ў свеце,
Ці пяском засыпле вецер?

Можа так і гэтак стацца.
Песня к сонцу хай злятае,
Трэба з ясным развітацца.
Мая восень залатая
Лебядзіную спявае.

*11 кастрычніка 1962 г., Мінск*

## ХВІЛІНЫ УРАЧЫСТЫЯ

Іду шляхамі зорнымі,
Далінамі азёрнымі,
Іду і завіхаюся,
І вербам усміхаюся.
Шумяць зеленалістыя,
Купчастыя, шатрыстыя,
А поплавы квяцістыя.
Хвіліны урачыстыя.

Іду шляхамі новымі,
Дубровамі вясновымі.
Дубы, асілкі-волаты,
Як памужнелі сёлета.
Глядзіш на іх і верыцца:
Мінулае не вернецца,
Не схіляцца плячыстыя.
Хвіліны урачыстыя.

Іду шляхамі роднымі,
Не гацямі балотнымі.
Як тут жыццё змянілася!
Наяве ўсё, што снілася.
Над рэчкамі, крыніцамі
Не плачуць лозы ніцыя.
Вясёлкі прамяністыя,
Хвіліны урачыстыя.

*14 кастрычніка 1962 г.,*
*Мінск*

## НА САЛАЎІНЫ ЛАД

Усё ж я шмат шляхоў-дарог прайшоў,
А славы не шукаў і не знайшоў,
Пакіну гэту славу я другім,
Для іх хай будзе скарбам дарагім.
Без славы жыць на свеце весялей,—
Так сёння праспяваў мне салавей.
Чаму, скажы, пясняр крылаты мой,

Спяваеш ты вясной, а не зімой?
Чаму у сцюжу пакідаеш нас,
Ляціш на поўдзень і на доўгі час?

— Хоць і радзіўся тут, і тут я рос,
А ўсё ж пужае холад і мароз.
Без песень там, не слаўлю пышных крон,—
Такі ўжо салаўіны мой закон.
Калі над гаем грымне першы гром,
Я з песняю вярнуся ў родны дом
І на галінцы, пад акном тваім,
Вясенняй зорцы праспяваю гімн.
І разганю я ціхай ночкі сон,—
Такі ўжо салаўіны мой закон.

Не буду спаць, світае далягляд.
Люблю спяваць на салаўіны лад.

*15 кастрычніка 1962 г., Мінск*

## ОЙ ВЫ, ТРАВЫ, ТРАВЫ-МУРАГІ

Вось і роднае Падгор'е,
А якое ж тут надвор'е!
І цяплей, і сонца болей
Па-над борам, па-над полем.
Маладыя вунь сасонкі
Цешаць вока ростам гонкім.
З імі ветру не да спрэчкі,
Чую песню светлай рэчкі:

Ой вы, травы, травы-мурагі,
Зеляпеюць рэчкі берагі;
Разыходзяцца шырэй кругі,
Пояць берег гэты і другі.
Ой вы, травы, травы-мурагі.

Ой вы, хвалі рэчанькі-красы,
Вашых песень льюцца галасы,

Слухаюць і людзі, і лясы,
Дзе квітнеюць нашы верасы.
Ой вы, хвалі рэчанькі-красы.

Ой ты, сонца, залаты прамень,
Наша шчасце з намі ты сустрэнь,
Пасылай вясёлкі нам штодзень.
Не сціхае пад вярбой струмень,
Ой ты, сонца, залаты прамень.

*17 кастрычніка 1962 г., Мінск*

## НА ХАРАСТВО НЕ НАДЗІВІЦЦА

Гляджу ў зарэчныя прагалы,
Дзе воблакі, як тыя скалы,
Заружавелі у блакіце,
Страчаючы усход дзянніцы.
На харaство не надзівіцца.

Разліўся каляровы золак
І на даліну, і на ўзгорак,
І сонца першыя праменні,
Як тыя мары-летуценні,
Вітаюць ранак, дзень вясенні.

Са сцежкі сонечнай не збіцца,
На харaство не надзівіцца.

*23 кастрычніка 1962 г., Мінск*

## ХАЧУ СПЯВАЦЬ, А НЕ МАЛІЦЦА

Не прадаваў свайго сумлення
За медны, срэбны звон рублёвы,
Не станавіўся на маленне,
Калі нямелі ў песні словы.

Складаў бязбожныя малітвы,
Ў якіх ад Бога адракаўся.
На друз разбіў я крыж гранітны,
І не кажыце мне: раскайся.

Даволі гэты крыж насілі,
Ён да крыві нам змуляў плечы.
Нарэшце ўсё ж хапіла сілы
Зваліць цяжар нечалавечы.

І цемра больш не сляпіць вочы,
І не пужае крык начніцы,
І на былых сцяжынах воўчых
Завяла зелле — чамярыца.

Не вырасце ніколі болей,
Дзе верас з хвойкамі гамоніць.
Не абліваецца сэрцу болем,—
Упрочкі хмары вецер гоніць.

І сонца яснае такое
Ідзе са мной расой умыцца.
Люблю, не ведаю спакою,
Хачу спяваць, а не маліцца.

*28 кастрычніка 1962 г., Мінск*

## КАЛЕНДАРА Я НЕ ГАРТАЮ

Календара я не гартаю,
Святочных не шукаю дат,
Паветра чыстае глытаю,
Як ратны воін і салдат.

Ні разу не ўцякаў, як трус,
І не хаваўся у кусты.
Са мной чытае Беларусь
«Неадасланыя лісты».

У іх споведзь сэрца і душы,—
Ніяк грахі не замалю:
Хоць ты пішы, хоць не пішы,
Хоць ніцма падай на зямлю.

Не быць у ласцы ўсё адно,—
Вас бачу, крытыкі, наскрозь
І ведаю не сёння, а даўно,
Язык каростай ваш аброс.

Напаў цяжкі крытычны сверб:
Не змоўчыць, не сцярпець.
Давалі ўсё вам напавер,
І гэтак хочаце й цяпер.

А хто разлічыцца за вас?
Калі вы аддасцё даўгі?
Мо атрымалі зноў аванс
І на сябе, і на другіх?

Ліст жоўты сыплецца з бяроз,
І спеў птушыны анямеў,
І ўжо Нілевіч і Бурнос,
Удвух, ўзяліся за мяне.

Малоцяць ёмка, ў два цапы,
Хоць на таку і не снапы;
Малоцяць, а не ўлад, спляча,
І подласць свеціцца ў вачах.

«Павыбіваем зубы ўсе
Яго паэзіі-красе.
Апанавала намі злосць,
У нашым гневе крыўда ёсць».

Паўзе не крыўда, а паклёп.
Няўжо ізноў у модзе ён?
Паўзе, як набрынялы клоп,
Па чыстым целе нашых дзён.

Папробуй толькі, раздушы,
І пойдзе гэтакі смурод...
Не заглушыць вам спеў душы,
Чакаючы узнагарод.

Календара я не гартаю,
Святочных не шукаю дат,
Паветра чыстае глытаю,
Як ратны воін і салдат.

*29 кастрычніка 1962 г., Мінск*

## НА ДАРОГАХ БЕЛАРУСІ

Плашч накіну адмысловы,
Пакланюся сонцу, маю.
Не прасіце слоў вясёлых,
Бо ў запасе мала маю.

Пакрысе іх я растрачу
На дарогах дальніх, блізкіх,
Дзе не з мармуру палацы,
А [redacted] граніту абеліскі.

Дзе сыны, браты спачылі
І са славай і без славы.
Сняцца сны ім аб Айчыне,
Што пасцельку ў горы слала.

Перад імі кленчу ў скрусе,
Жураўлі крычаць над полем.
На дарогах Беларусі
Ўсё магіл-курганаў болей.

Насыпаюць тут іх войны,
Хоць і шле народ праклёны.
Мае вочы жалю поўны,
І са мной гаруюць клёны.

Мо за гэта зноў дакоры?
Хай іх лепш не будзе ў свеце.

Узнімаўся і ў Дукоры
Грозны партызанскі вецер,

Каб ад нелюдзі варожай
Родную зямлю падмесці
І вясновы дзень прыгожы
На руках сваіх прынесці.

Радасць волі здабывалі,
Ў бой на ворага хадзілі,
І не сціхлі тыя хвалі,
Што змывалі кроў з Радзімы.

Чырванеюць імі рэкі
На усходзе сонца ўлетку.
Усё запомніцца навекі,
Зоркі ў небе — нашы сведкі.

Раны гоім і загоім,—
Радавыя мы салдаты,—
Не адстанема, дагонім
І не возьмем лішняй платы.

Не заслоняць сонца хмары,—
Заіскрыцца, разгарыцца.
Мы пад ясным гаспадарым,
Можам гэтым ганарыцца.

*30 кастрычніка 1962 г., Мінск*

## НАВАГОДНЯЕ ВІНО

Яснее зоранька мая,
Над садам сее срэбны іней.
Сябры, хачу быць з вамі я
На навагодняй вечарыне.

Яшчэ ў мяне хапае сіл,
Каб вам пацiснуць моцна рукі.
Агню ў душы не пагасіць,
Сагрэю сэрцам вершаў гукі.

Ў сваёй, а не ў чужой сям'і
Пад Новы год іх прачытаю,
Нібы у маі салаўі,
Сваю Радзіму прывітаю.

Яна, як маці, ў нас адна,
Ёй аддаю я з песняй сэрца.
Ўстаю на зорцы, давідна,
Як тое маладое дрэўца.

Вядома ўсім даўным-даўно
Пра нашы зорныя крыніцы,
Ў іх навагодняе віно,
Як жар, праменіцца, іскрыцца.

Сябры, пабыць я з вамі рад
На навагодняй вечарыне.
У нашай хаце добры лад,
Ўсе сілы аддадзім Айчыне.

*7 лістапада 1962 г., Мінск*

## ХАРАСТВОМ ЗЯМЛІ ЛЮБУЮСЯ

Па-над вёскамі і сёламі
Свеціць сонейка вясёлае.
Мы пад ясным летась, сёлета
Усё знаходзім тое золата,
Што бацькі за цяжкай працаю
Збераглі, а не растрацілі.
Спевы бацькавы і матчыны
Нам дасталіся у спадчыну,
З імі крылы сакаліныя.
А што мы сынам пакінема?
У сябе, у вас пытаюся,
Не малюся і не каюся,
А з сваім сумленнем раюся.
Непакоюся, турбуюся,
Хараством зямлі любуюся.

Хараство ды непаўторнае,
Як у жніўні неба зорнае.
Не сумуюць вербы з лозамі
На зямлі маёй прыгожае.
Ой ты, сонейка высокае,
Ў сінім небе ясны сокалы,
І Зямлю усю навокала
Абляцелі тыя сокалы,
На ўсю сілу размахнуліся
І да родных гнёзд вярнуліся.
Рад я. Ў нас такая раніца,—
Песня сонцу адклікаецца.
Ты цяплом яго сагрэтая,
Палюбіў цябе за гэта я.
Сілы марна не растрачаны,
Пакідаю песню ў спадчыну.

*12 лістапада 1962 г., Мінск*

## ПАЭТ І САЛАЎІ

Даўно вы клікалі мяне
У сад сваіх цудоўных песень.
Я рад і сонцу, і вясне,
І дожджыку, што змые плесень.

Люблю я шум зялёны майскі
І клейкіх лісцяў аганькі.
Умытыя расою краскі
Я завіваю у вянкі.

На вішаньцы, каля святліц,
Спяваюць хорам салаўі,
І гэта ў Мінску, у сталіцы,
На нашай сонечнай зямлі.

Сыны вядуць спеў новым ладам,
Бацькі — як сталыя майстры.
Мелодыі плывуць над садам
Да яснай заранькі-зары.

Хоць верце мне, а хоць не верце,
Без песні сумна на зямлі.
Не пагасіць агню у сэрцы,
Ніякім ліўням не заліць.

Душа не ведае спакою,
Калі на свет раджае верш.
Ўсе вокны насцеж у пакоі,
На рукі зараньку бярэш
І ёй чытаеш новы верш.

Пачуюць салаўі чытанне
І слухаць ўсёй сям'ёй ляцяць.
Са мною разам на світанні
Гімн сонцу любяць праспяваць.

*14 лістапада 1962 г., Мінск*

## НА СВІСЛАЧЫ

На Свіслачы — і возера, і мора,
І процьма у блакітных хвалях зорак.
Плынь светлая з народа змыла гора,
І сёння нам за рэчаньку не сорам.
Замошчаны усе старыя грэблі,
Не хіляцца над доляй болей вербы.
Здаецца мне — яны памаладзелі.
Сукенкі з лісцяў маладых надзелі.
Увесну зеляненюць сочна травы,
І рэжа лона вод прамень яскравы.
Як тут перад Радзімай не прызнацца
І не раскрыць сваё ёй сэрца насцеж?
Няхай яно, знябытае, пазнае,
Што наша шчасце назаўсёды з намі.

Па сенажаці важна ходзіць бусел
З паклонам нізкім сонцу Беларусі.
Над рэчкаю, дзе вербы маладыя,
Дзе травы-мурагі растуць густыя,

І вечарам, і ранкам зорна-сінім
Трапеча ў лісцях пошчак салаўіны.
Ліецца, быццам хвалі веснавыя,
Плыве, як тыя хмаркі залатыя.

Даўно не быў я тут, мая Радзіма,
І новае ўстае перад вачыма.
Яго, як сын, вітаю я сардэчна,
Няхай жа новае жыве тут вечна.

*15 лістапада 1962 г., Мінск*

## РАДЗІМА

Люблю крыніцы зорныя твае,
І шолахі зялёныя лясныя,
І спевы салаіўныя твае,
І першыя расінкі на траве,
І рэчанькі у лузе веснавыя.
Вясна, вясна, як тая маладзіца.
На хараство зямлі не надзівіцца.
Не раз хацеў абняць, расцалаваць,
Прыпасці да грудзей тваіх гарачых,
Букеты кветак сонечных нарваць,
І ўсе маім сучаснікам раздаць,
Сумленным, маладым героям працы.
У далях сонечных не заблудзіцца,
На хараство зямлі не надзівіцца.
Знайшлі і нафту, і руду, і соль.
Ідуць у шахты родныя шахцёры,
На даланях рубцуецца мазоль,
І сэрцаў нашых больш не шчэміць боль.
Нязвыклай музыкай пяюць маторы.
Як тут паэме з песняй не радзіцца?
На хараство зямлі не надзівіцца.

*22 лістапада 1962 г., Мінск*

## СКАЗАЛА ПАРТЫЯ НАРОДУ ПРАЎДУ

Ён заслужыў народную пагарду.
Сказала партыя народу праўду,
Якім суровым, жорсткім быў тыранам,
Як боль і кроў штодзень сачылі раны,
Як смерць і кат ўрываліся ў цямніцы
Людскою кроўю ўмыцца і напіцца.

Устань, бязлітасны тыран, з магілы
І раскажы пра ўсё вачыма злымі,
Якія учыняў ты катаванні
У час вячэрні, і начны, і ранні,
Як літасці нявінныя прасілі.
Як адбіраў ты і жыццё, і сілы.

Ты катам раздаваў узнагароды,
Устань і праўду раскажы народу.
Пачуеш і праклящці, і праклёны,—
Іх шлюць табе замучаных мільёны.
Мы помнікі твае зруйнуем, зрушым,—
Хай кованы абцас зямлі не душыць.

Нас партыя вядзе, за ёй мы крочым
І з Ленінскіх шляхоў-дарог не збочым.

*25 лістапада 1962 г., Мінск.*

* * *

Няўжо з пасцелі мне не ўстаць
І песні Лазара спяваць?
Які іх толькі будзе лёс,
Няўжо такі, як майскіх рос?
Не згіне песня марна, не!
Унукі ўспомняць і мяне
Ці словам добрым, ці другім,
Ці, можа, нават дарагім?

Скарб адшукае ўнук і сын,
Пакіну ім я адрасы.
Усё для іх я зберагу,
Інакш зрабіць і не магу.
Пазнаюць спеў адменны мой,
З яго мелодыяй зямной,
З настроем зморанай душы,
Якога мне не заглушыць.

Я часта ночкамі не сплю,
Ўстаю, развеяць сум люблю.
За родную сваю зямлю
Усе пакуты я сцярплю.
Ці варта доўга так цярпець?
А можа, лепш згарэць, чым тлець?
Парайце, неба і зямля,
І песня ў садзе салаўя!

*26 лістапада 1962 г., Мінск.*

## ПОПЛЕЧ ПУШКІН І КУПАЛА

Ранак сонечны, вясновы,
Сонца ўстала, не праспала;
На стале маім пісьмовым —
Поплеч Пушкін і Купала,
Чарадзеі роднай мовы.

Быццам сонца ў небе майскім,
Асвятляюць даль паэты,
Не завянуць песень краскі.
У цудоўны ранак гэты
Я святлом, цяплом сагрэты.

Падбіраю і збіраю
У сваім радзімым краі
Па зярнятку тыя словы,
Што кладуцца у асновы
Не старых, а песень новых.

Маем хлеб і ўсё да хлеба,
Пазбіралі [redacted] ніў каменні,
І у скібы пульхнай глебы
Спорна сеецца насенне
І ўзыходзіць ў дзень вясенні.

Прапалю свае пасевы,
Летні дождждык іх аросіць,
І нап'ецца колас спелы.
А як прыйдзе госця-восень,
Ўспомню веснавыя спевы.

*27 лістапада 1962 г., Мінск*

## ЗНОЎ СЛУХАЮ ГОМАН

Зноў слухаю я гоман
Родных хвой,
Як слухаў іх раней не раз.
А доўгі, доўгі час
Мяне ўсё дома
Не было,
Блукаў па скалах горных
Поўначы глухой
І зорнай.

Мінулае у памяці ўсплыло:
Як над тайгой
Туман звісаў
Густы,
Як я пісаў,
І не даходзілі лісты,
Як жыў надзеяй з году ў год,
Шукаючы забыты брод,
Каб перайсці
На бераг сонечны ў жыцці,
І ўсё не мог
Знайсці,
Ніводзін Бог
Не дапамог.

Ледзь-ледзь туман узняўся,
Нясмела
Заяснела,
І я падаўся
На гэты водбліск ясны.
Нялёгкаю была
Дарога,
Пакуль Радзіма абняла
Каля свайго парога.

Хоць не прынёс з сабою песень,
Але Радзімай быў уцешан.

Скасіліся старыя весніцы,
Вароты насцеж,
Каля варот равесніцы
Майго юнацтва.
Змяніўся я,
Змяніліся яны;
У садзе песня салаўя,
Я аддаю паклон зямны.

«Заходзь, заходзь, Язэп,
Будзь нашым даражэнькім госцем;
Мы ведаем, што ты паэт,
Але ні кроплі не зайздросцім».

Заходжу — новыя святліцы,
Век аджылі старыя снасці.
Я рад,
Хачу душой з народам зліцца
І на калені ўпасці
Ад зямнога шчасця.

*30 лістапада 1962 г., Мінск*

## СЯЎБА

Які размах, які разгон!
Не тое, што раней загон,
Дзе поркаўся араты з плугам
Ды панукаў кабылку пугай.

На вёрсты пралягаюць гоні,
Спяшаюцца стальныя коні,
І без панукі, без прынукі
Вядуць іх маладыя рукі
Вясёлых хлопцаў-трактарыстаў,
Ні крышачку не ганарыстых.

З іх кожны любіць быць паэтам.
Раджае спеў вясна і лета,
Раджае ніва каласамі,
Даль з журавамі і гусямі.
Ну як, скажыце, устрымацца,
На крылах песні не ўзняцца?

У небе заяснелі зоры,
За дзень узораны прасторы,
Што нават вокам не акінуць.
Ўсе скібы спорныя якія,
А глеба плённая такая,
Зярнят і сейбіта чакае.
Ён, дбайны сейбіт,
                    заўтра прыйдзе,
Засее нівы ўсе за тыдзень.

Вясной, ў сяўбу, гарачым часам,
Ўстаюць на вёсцы з сонцам разам.
Сяўба спаць позна не дазволіць,
Яна, як песня,
                    кліча ў поле,
А трактары, як запявалы,
Склікаюць да працоўнай славы.

Сяўба ідзе, сяўба пачата,
На ніве хлопцы і дзяўчаты.
Над полем толькі пылу хмаркі,
Ды сонечны прамень няяркі,
Ды спевы працы веснавое:
«Гэй, шчасце наша залатое...»

*2 снежня 1962 г., Мінск*

## ДОБРЫ ВЕЧАР, МІНСК ВЯЧЭРНІ

На бульварах на асенніх
Шолах залатых лістоў;
Добры вечар, Мінск вячэрні,
Новых вуліц харство.

Шмат прыкладзена старання,
Цешыш нас зямной красой;
У вячэрні час мінчане
Любяць горад родны свой.

Ленінскі праспект шырокі,
Як той Нёман-прыгажун;
Ў парку месяц яснавокі
Дакранаецца да струн.

І мелодыя па рэчцы
Ў лоне ціхіх хваль плыве;
Адклікаюцца ёй сэрцы,
Вочы зорныя твае.

Песня-казка нас чаруе,
Зберажом яе навек;
Песню-казку хто не чуе
Каля светлых вуліц-рэк?

На бульварах на асенніх
Пошум залатых лістоў;
Добры вечар, Мінск вячэрні,
Людных вуліц харство.

*7 снежня 1962 г., Мінск*

## ДУША ПЯСНЯРСКАЯ ГАРЫЦЬ

Легендай-песняй запрашаю ў госці
Вясну сваёй блакітнай маладосці:
Прыйдзі, наведай неспакойнага мяне,
Хачу я вершы пачытаць табе.

Шчаслівае ў жыцці не абміне,
І з ног ніякі вецер не саб'е.

Гады палын павырывалі горкі,
Прыйдзі, вясна, цераз даліны, ўзгоркі.
У памяці усплыў душы пратэст,
Які калісьці хваляваў так нас.
А можа, ўспомніш мне «Мой маніфест»?
Яго нёс я з табою на Парнас.

Пастукалі, але не ў тыя дзверы,
Багі да нас не выйшлі, не сустрэлі.

* * *

Дарэмныя і марныя надзеі,
Змянілі іх суровыя падзеі.
Дваццаты век, трыццатая вясна,
І дваццаць восьмы мне пайшоў тады.
Шумела сумна на бары сасна
І не спяваў дубок з ёй малады.

Не правялі яны мяне ў дарогу
Ад роднай хаты, роднага парога.
На крылы чорны воран падхапіў
І што ёсць сілы-духу ў Мінск памчаў.
Прыступкі збітыя пераступіў,
Маўчаў, і толькі гора у вачах.

На прэнт замкнуліся за мною дзверы,
І ўсё ж ў жыццё прыгожае я верыў.

* * *

За кратамі я не паэт, а вязень,
Але Радзіме песняй абавязан.
Мінулі лета, восень і зіма,
І шле свае праменні нам вясна,
А сонейка майго са мной няма,
Успомню і хмялею без віна.

Люблю цябе, люблю гарачым сэрцам,
Хачу хоць раз яшчэ з табой сустрэцца,
Прыйшоў і красавік, пяюць шпакі.

А раніцы! Здаецца не было такіх:
Над ціхай, светлай рэчкаю блакіт
І коцікі пушыстыя ракіт.

На ніве роднай сейбіт і араты,
Вясна з майго вакна знімае краты.

* * *

Дзе вы, маёй вясны суровай творы?
Ці ўспомніць хто іх, ці паўторыць?

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пажар! Душа пясьнярская гарыць;
Апанаваў усіх, хто бачыў, страх.
Пажар! Відаць з нізіны і з гары,
Крычыць, як непрытомная, сястра:
«Пусціла з дымам, на ўзвей вецер,
І паплылі хмурынкаю па свеце!..»
Жар палымнее, як жывая кроў,
Што згусткамі кладзецца на пласты.
У полымі мае «Сады вятроў»,
«Мой маніфест» і «Новыя лісты»,
І «Кніга грэшная» сквірчыць, палае,
Не пагасіць, плыве за хваляй хваля.

Пра гэта ўсё дазнаўся на Урале;
Сляза застыла на скале ў крыштале.

*14 снежня 1962 г., Мінск*

## У. Д — КУ[1]

Не завяла ў родным садзе ружа...
Рад я за цябе, мой даўні дружа:
Не адолелі мароз і сцюжа,
Не прыгорбіла цяжкая праца.
Рад я за цябе, мой дружа-браце.

Схлынулі паклёпы і напасці,
Як магло сяброўства заняпасці?
Не іначай кошка чорнай масці
Паміж нас прабегла цёмнай ночкай,
І сяброўства адышло упрочкі.
Ты ўсё горнешся бліжэй да знатных,
Іх увага даспадобы надта.
Жарт хай застанецца сабе жартам,
Пыл жа барадой змятаць не варта,
Лепей быць ў страі салдатам ратным.

*18 снежня 1962 г., Мінск*

## ДА ТВАІХ ЖЫВЫХ КРЫНІЦ-ГРУДЗЕЙ

Да тваіх жывых крыніц-грудзей
Я штодзень, як сын, душой гарнуся;
Будуць хай і ў нас, як і ў людзей,
Песні аб радзіме Беларусі,
А за большае я не бяруся.

Каб збылося, як я быў бы рад!
Музыка бароў, дуброў чаруе,
Разумець вучуся гэты лад.
Маё сэрца сёння не гаруе,—
У лясоў і ніў напеў бяру я.

Я люблю легенд дасціпны сказ
І народ свой кемлівы і здольны.
Прыгажэе край цудоўны наш.
І да сонца, у блакіт раздольны,
Узлятае песня, сокал вольны.

*19 снежня 1962 г., Мінск*

## ЯНА, ЯК СОНЕЙКА Ў КРЫШТАЛЕ

Як быць мне з лірыкай сваёй,
Такою роднаю, зямною?
І дні, і ночы ўсе са мною,
Я не падрэжу крылляў ёй.

А муза ў строфах-хвалях рэк
Спявае, быццам маладзіца.
І трэба ж мне было радзіцца
Паэтам у дваццаты век.

Радзіму я любіў, люблю,—
Яна ўзлёт песні акрыляе,
Яна, як сонейка ў крыштале,
Дарог-шляхоў з ёй не згублю.

Упэўненай хадой іду,
Яснеюць, харашэюць далі,
Што мелі, сонцу ўсё аддалі.
Іду і веру: скарб знайду.

*21 снежня 1962 г., Мінск*

## СТАЛІЧНЫ РАНАК

Нашы вокны без фіранак,
Аддаём вясне салют.
Устае сталічны ранак,
Устае працоўны люд.

Кліча і чакае праца,
Гоман і народу тлум.
Час і мне за працу брацца
У сталіцы светлых дум.

Сёння фабрыкі, заводы
Там, дзе рос учора бор,
Дзе шум плыў, як тыя воды
Веснавыя з долаў, гор.

У святле сваточным цэхі,
Не сціхае працы звон.
Не растраціма уцехі
І не спынім свой разгон.

Запявае хор матораў,
Кранаў не стрымаць узлёт.
Вуліцы, як хвалі мора,
Зранку рвуцца да яснот.

*24 снежня 1962 г., Мінск*

## ЕЛАЧКА

З елачкі пушыстай, з елачкі густой
Падаюць сняжынкі, падаюць на стол.

Елачцы зялёнай сёння сняцца сны,
Быццам вее з бору водарам лясным,

Быццам Дзед Мароз там кліча ў карагод.
«Елачка сустрэне з намі Новы год.

Весела спяваць нам, весела з табой,
Елачка, вазьмі нас ў цёмны бор з сабой».

«Ой вы, сакаляткі, ў бор мне не дайсці,
Сваіх снежных сцежак там мне не знайсці».

З елачкі зялёнай, стройнай, маладой
Горкія расінкі сыплюцца на дол.

*25—31 снежня 1962 г., Мінск*

## ІЗНОЎ У КВЕЦЕНІ САДЫ

Ізноў у квецені сады,
Курлычуць недзе жураўлі,
Спявае даль на ўсе лады,
Ізноў вясна і салаўі.

Пясняр, з вясной-сястрой
Праменні ў прыгаршчы лаві.
Які нязвыклы зноў настрой
Прынеслі ў песні салаўі.

Вясна, Радзіму абнімай,
Пралескі у вянкі заві.
І сонечны, і светлы май
На зорцы славяць салаўі.

У глебу ўзоранай зямлі
Насенне сеецца з сяўні.
Жылі, да шчасця дажылі:
У нашым садзе салаўі.

Не хмурацца увесну дні,
Зямельку, дожджык, напаі.
Жывём у дружнай мы сям'і,
Спяваюць славу салаўі.

*29 снежня 1962., Мінск*

## НЕ РАЗНЯЦЬ РУК БРАТНІХ

Не разняць рук братніх,
Зніталіся навек
У паходах ратных
І у плыні рэк.

Хмары не прыкрылі
Дружбы ясны дзень,
Не падрэзаў крылы
Вораг-ліхадзей.

Свае злыя сілы
Болей не збярэ.
Зелле мы скасілі,
Поўдзень на двары.

Зелле вяне, звяне,
Будзе менш клапот,
І ужо не ўстане,
Выкінем за плот,

І у гразь утопчым,
У трасучку-гаць.
Пачалі і скончым,
Зеллю век не ўстаць.

Дружбы рунь красуе
Ў сонечныя дні;
Песню ў дар нясу я,
К сэрцу прыгарні.

*30 снежня 1962 г.*
*Мінск*

# 1963

## НАСТАЎНІКАМ ЧААДАЕЎСКАЙ ШКОЛЫ

Пад Новы год, у светлы час,
Успомніў цёплым словам вас
І ўспомню так яшчэ не раз.

...Над Чаадаевам яснее дзень,
Не гасне сонечны прамень.
Вясной бярозкі гоняць сок.
Здаецца, кліча зноў званок,
Заходжу ў неўгамонны клас
І там страчаю родных вас.
Праходзіць і мінае ўсё,
Што беражліва так нясём.
Я чуў: за гэтыя гады
Разросся сад ваш малады
І парадзеў нашмат стары,
Ў якім спявалі на зары
Вясною ранняй салаўі.

На шчодрай мурамскай зямлі
Пражыў нямала я гадоў,
Не знаўся з горам, ні з бядой,
Народам рускім даражыў,
З ім парадніўся, падружыў.
Паклон я аддаваў усім,
Лічылі ўсе мяне сваім,
Абедаў разам і касіў.
Ішоў пракос я у пракос,
Валок мой спорна ўгору рос.

Калі шумеў прыокскі гай,
Я ўспамінаў свой родны край,
Дзе бегаў пастушком, дзе рос,
Дзе сцежкі мне знаёмы скрозь,

Дзе сілы у сабе адчуў
Сялянскі кемлівы хлапчук,
П'ючы здароўе майскіх рос.
Радзімы сіла верх ўзяла,
Да ўзлёту крылы узняла.
І ў тыя сонечныя дні
Накіраваўся да радні,
Зямлі бацькоў паклон аддаў,
Паветра свежае глытаў.

Настаўнікі, мае сябры,
Шумяць заокскія бары.
Я чую ў Мінску гэты шум,
Хвалюе сэрца і душу.
Я чую гонкіх сосен звон.
Расіі нізкі мой паклон.
Яна прынесла нам святло,
А сонца яснае — цяпло.
Настаўнікі, у добры час
Успомніў цёплым словам вас
І ўспомню так яшчэ не раз.

*4 студзеня 1963 г.*

## У СОНЕЧНЫ ЗІМОВЫ ПОЎДЗЕНЬ

То сыплюцца, то сеюцца, як срэбра тое;
Праменіцца ў сняжынках сонца залатое.

Як лебядзіны пух, ціхусенька кладуцца
У садзе на галінкі, што звісаюць, гнуцца.

Сняжынкі бель-пушынкі атрасаюць, сеюць
І мачысе-зіме пасцель у садзе сцелюць.

Бялюткі пухавік, падушкі-гурбы снегу
На ложак з лёду зорнага кладуць без смеху,

І мітусяцца, і лятаюць белым роем,—
Спяваюць калыханку мачысе суровай.

*4 студзеня 1963 г.*

## БЛАКІТНАЕ МОРА

Блакітнае мора,
Калышуцца хвалі,
Даліну, узгорак
Прыкрылі, схавалі.
Ноч зоранькі ліча,
Да працы дзень кліча.
Пара залатая:
У ранак у росны
Лянок расцвітае,
Блакітны і рослы.
Красуй, валакністы,
Лянок шаўкавісты.
Плён будзе багаты.
Пад сонцам у полі
Спяваюць дзяўчаты:
«Лён чыста праполем,
Красуй, сінявокі,
Вясёлы, высокі!
Мы любім у працы
Усе завіхацца,
У поўдзень гарачы
Вясёлцы ўсміхацца.
Як чайкі на моры,
Не ведаем зморы».
Пад сонцам Радзімы —
Раздольныя нівы,
Узгоркі, даліны
І ветрык шумлівы,
І сцеле абрусы
Лянок Беларусі.

*1963 г.*

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ!

Цяжар гадоў маіх плячэй не згорбіў,
Люблю ўсміхацца маладой вясне.
Мне свеціць сонейка усё ясней,
Радзіма, Беларусь мая, дзень добры!

Па сіняй хвалі човен лёгкі, гонкі
Накіраваў плавец у даль ракі.
Не за гарой шчаслівыя вякі,
Ужо чуваць іх песні і гамонкі.

Гісторыя, падкову на парог
Прыбі і затрубі у свой ты рог:
Не праслязіцца з хмаркі дождж дробны.

Народу не старэць, ён твой тварэц,
Ідзе камуністычны век сустрэць.
Радзіма, Беларусь мая, дзень добры!

*1963 г.*

# *Вершы невядомых гадоў*

## ЛЮБІЦЬ МЫ І ТАДЫ УМЕЛІ

Успомнім тых, каго няма між нас,
Хто адышоў яшчэ у маладосці.
Тады такі ўжо быў суровы час:
Суставы трушчылі, ламалі косці.

Пятлю ўскідалі на саміх сябе,
І жылы ў целе рваліся, нямелі,
І сэрца войкала, і пульс слабеў,
Але любіць мы і тады умелі.

З багнетам вострым верны вартаўнік
Навекі вёў у зябкую цямніцу,
Дзе светлы дзень нікому не прысніцца.

Апоўначы я чуў з цямніцы крык,
І як успомню толькі — плачуць вочы.
Ці прыйдуць больш яшчэ такія ночы?

* * *

Унук і праўнук дзён сучасных,
Я сёння бачу шлях ваш ясны.
Ен мне і блізкі і далёкі,
А мой — цярністы і нялёгкі.
Згінаюся ў цяжкой знямозе,
Як тое ў лузе вербалоззе.

І родную сваю зямлю
Да сэрца горача тулю.

Не справіць здрада больш вяселля,
Не ўзыдзе ў полі пустазелле
Ні ў дзень асенні, ні вясенні:
Зяло адвеем ад насення,
Мякіну пусцім на ўзвей вецер,
Бо не патрэбна ў хаце смецце.
Не за гарамі гэты дзень,
Ён прыйдзе, ён ужо ідзе...

* * *

З песняй-лёсам
Я ў дарогу рушыў.
Трэсла восень
Яблыкі, ігрушы.

Носім-зносім...
Даспявалі бэры.
Ў гэну восень
Ты мяне сустрэла.

Слуцк і песня
Даўніх успамінаў.
Вецер, смейся
Над маёй калінай.

Чырванею,
Проста твару сорам.
З поўнай жмені
Ночка сее зоры.

Я пад імі,
Як той мак чырвоны.
Тваім імем
С.<тася> зачарован.

## МУЗЫКА І ТАНЦЫ

Ў сінім небе меней зораў.
Меней ясных іх слядоў,
Як музыкаў і танцораў
На планеце маладой.

Волю нам бацькі прыдбалі;
З намі воля — ясны цвет.

Грайце, скрыпкі і цымбалы.
Грайце сёння на ўвесь свет!

Аглашайце нашу радасць.
Маладых сыноў, дачок:
У руках да працы зайздрасць,
Ногі скачуць «крыжачок».

Творчай працы — хвала, хвала!
Адплываюць караблі;
Камсамольцы-запявалы
На прыгожай на зямлі!

Фабрыкі, заводы, нівы
Аддаюць салют вясне.
Маладосці імяніны
Сёння ў сонечнай красе.

## АПЯКУН

Апякун — не бацька родны,
Грозны, як фельдфебель ротны.
Ён да сэрца не прыгорне;
Жыць з ім цяжка, жыць з ім горна.
Ўсіх трымае ў чорным целе:
Цвёрда спаць, хоць мякка сцеле.

— Мы яго не лаем, хвалім,
Нават песняй штодзень славім.
Апякун наш песні любіць,
Хоць за іх часамі лупіць.

— Трэба у сям'і ушчунак.
Ад сябе не адпушчу я
Вас да старасці, да смерці,—
Шчыра вам кажу, ад сэрца.

## ГРОМ ПЕРШЫ ГУКАЕ

Бліскучыя жылкі
З хмурынкі
сцякаюць.
— Лавіце!
Ўцякаюць!
Смяюцца дажджынкі,
Бягуць ручаінкі —
І рогат, і спрэчкі.
З вясёлкі над рэчкай,
З хмурынкі над гаем
Гром першы гукае.

Раскацісты веснік,
Як радасць, як песня.



Толік-саколік,
Славік-вухналік,
Ўсім нам вядома,
Ў школе і дома
Дружбу вадзілі,
Матак задзівілі —
Аню і Стасю.
Бабка Настася
Хлопцаў любіла,
Разу не біла.
Славікаў бацька
Сына не цацкаў,
Сыну тлумачыў:
З працы хлеб смачны,
Людзі ад працы
Сілы не страцяць,
Мецьме што трэба:
Хлеб і да хлеба.
Праца з ахвотай —
Мёд, што у сотах.
Толікаў татка
Ведаў здагадку:
Сыну ён верыў,
Песціў у меру,
Нават быў трохі
Часам і строгі:
Горш за балячкі
Штодзень патачкі.
Дома, на волі
Сын не сваволіў.
Толік-саколік,
Жвавы, рухавы,
З твару смуглявы.
Карыя вочы
Свецяць і ў ночы,
Быццам бы зоркі.
Вейкі і броўкі —
Шэлест асокі,
Лобік высокі,
Вусны п'юць сокі.

## У ЕЛАЧКІ-
## ІГОЛАЧКІ

У ёлачкі
Іголачкі
Зялёныя усе.
Сняжыначкі-
Пушыначкі
Зіма да нас нясе.

Не раімся.
Збіраемся,
Ідзём у карагод.
Пад зоркамі-
Вясёлкамі
Сустрэнем Новы год.

Ой, межамі
Заснежаны
Прыйшоў і Дзед Мароз.
Ледзь горбіцца:
У торбачцы
Гасцінцы нам прынёс.

«Далёкімі,
Нялёгкімі
Вярэцямі ішоў.
Хоць зморань,
Пад зорамі
Усё ж я вас знайшоў».

Пад зоркамі
Узгоркамі
Хадзілі мы ў паход.
Пад месяцам
Пацешымся,
Спяём пад Новы год:

«Пацешная,
Уцешная,
Ты, ёлачка, шумі.
Ківаюцца,
Ўсміхаюцца
На ёлачцы агні.

Зялёная,
Вясёлая,
Уся у харастве.
Калючыя,
Гаючыя
Іголачкі твае.

Сняжыначкі-
Пушыначкі
Зіма на нас трасе,
А ў ёлачкі
Іголачкі
Зялёныя усе».

## БРЭСТ

I

Вербы з клёнамі не шумяць зялёныя,
Буг і Мухавец ад крыві чырвоныя.
Выйшлі з берагоў — хвалі неспакойныя,
А за імі чарадой з свасцікай пакойнікі.

II

Воіны-салдаты тут на смерць стаялі
І сваю прысягу кроўю напісалі.

З ворагам заклятым біліся героі,
Хоць і не хапала баявое зброі.

Біліся дні-ночы, ў будны і ў нядзелю,
І фашыстаў раці больш і больш радзелі.

Запякліся раны на грудзях краіны.
Ўсходзіць сонца рана аглядаць руіны.



Над кронамі — блакіт,
Загар лёг на лісты.
З-за рэчкі, ад ракіт,
Відаць здалёк,
Плыве дымок,
А не туман густы
Хаваецца ў кусты.

Ля вогнішча пастух сядзіць
І падграбае жар
Кійком:
«Як хораша на свеце жыць,
Цяжар
Не муляе плячэй.
І мой маяк не згас,
Здалёку ён
Відзён».
Як сын і брат,
Я слухаць рад
Цудоўны гэты сказ
Пад сонцам ясных дзён.

# Экспромты

* * *

Завіхаюся пісаць,
Каб паганая аса
Не ўкусіла зноў мяне,
Каб не выпаўз чорны змей.

Ён за мной штодзень стаіць,
Ён са мною часам спіць.
Абнімае, і цалуе,
І спявае: лю-лі, лю-лі.
Спі, мой ясны, не прачніся,
Песню я тваю суцішу —
Рана з ёю, рана выйшаў...

*1952 г.*

## СМЯРТЭЛЬНЫ ГРЭХ

Мае сябры, не смех:
Пазбаўлен я уцех
За свой смяртэльны грэх.

Няўжо тупым нажом,
Калі ішоў мяжой,
Уначы каля стагоў
Зарэзаў я каго?

А мо ящчэ страшней
(Сябры, скажыце мне)

Злачынны мой учынак?
Не ведаю, ей-права,
Аднак любіць Айчыну
Не дадзена мне права.

*1952 г.*

* * *

Вецер ў полі, скруха на сэрцы,
Песня на волю просіцца, рвецца.

Слова гукае, ў полі начуе.
Хто маю песню сёння пачуе?

Слёзы абмыйце здзекі і кпіны;
Сэрца Радзіме у песні пакіну.

*1953 г.*

* * *

Сваю душу я вам даверыў,
Вы мне былі усіх радней;
Калі ж пастукаўся у дзверы,
Не адчынілі іх вы мне.

Сабаку з прывязі спусцілі,—
Як і раней звяглівы брэх.
Сабраў апошнія я сілы,
Падаўся ўдаль ад родных стрэх.

Ой вы, шляхі! Ой вы, дарогі!
Не чую пад сабою ног,
І ўсё ж дайду да перамогі,
Запрэтны разбуру парог.

*1953 г.*



Наш Купала, наш пясняр вялікі
Свой народ да сонца, волі клікаў.
За табой пайшлі сыноў мільёны;
Да цябе зайшоў і я з паклонам.
Толькі не застаў у роднай хаце;
На жалейцы некаму зайграці.
У тваім, пясняр, святым музеі
Голаў нізка я схіліў, прыземіў.
На твае радкі жывыя глянуў,
Загаіў на сэрцы сваю рану.
Песняру пясняр аддаў пашану
І дырэктару музея гэтаксама.

*5 студзеня 1956 г.*

## АХВОТНА І ВЕСЕЛА

Апошняя зоранька
Гасне над лесам,
І яснае сонейка
Будзіць Алеся:

— Прачніся, саколік,
Устань, мой сынок!
Ўжо хутка у школу
Пакліча званок.

Уцеха Алесева —
Горы і долы.
Ахвотна і весела
Бегаць у школу.

*10/XI 1957 г.*

## ЦІ БАЧЫЎ ХТО З ВАС?

Ці бачыў хто з вас вёску Ляды,
Яе сады і далягляды?

Ці бачылі, ільны якія!
А нівы — вокам не акінеш!

Глядзіць вачэй блакітных мора,—
Іх болей, як у небе зораў.

А хвалі повеем лагодным
Шумяць у далях родных.

*1957 г.*

## КЛЁНІК

Шустры Лёнік
Пасадзіў вясной
Каля хаты клёнік
І паліў расой.

Рос і вырас клёнік —
Лапушыцца ліст,
І смяецца Лёнік
Пад птушыны свіст.

Прыляцеў на зорцы
Салавейка-госць.
Лёнік у каморцы
Сніць, што клёнік ёсць.

*25/IX 1958 г.*

* * *

Сустракае восень
Вырай жураўліны;
У сцюдзёных росах
Спеюць журавіны.

Спеюць, даспяваюць,
Пунсавеюць сокі.
Хвойкі зелянеюць,
Бор шуміць высокі.

*1958 г.*



Язэп Пушча,
Алесь Дудар, Андрэй Александровіч. 1926 г.



Язэп Пушча сярод членаў літаратурнага аб'яднання «Узвышша». Сядзяць *(злева направа)*: Тодар Кляшторны, Пятро Глебка, Васіль Шашалевіч, Кандрат Крапіва, Язэп Пушча, Змітрок Бядуля, Адам Бабарэка, Кузьма Чорны; стаяць *(злева направа)*: Максім Лужанін, Антон Адамовіч, Уладзімір Дубоўка, Уладзімір Жылка, Сяргей Дарожны. 1927 г.



Рэдкалегія «Узвышша»: стаяць Адам Бабарэка і Язэп Пушча; сядзяць Кузьма Чорны, Уладзімір Дубоўка, Кандрат Крапіва. 1927 г.



Язэп Пушча ў ссылцы.
г. Шадрынск. 1931 г.



Жонка Язэпа Пушчы
Станіслава Эдуардаўна. 1943 г.



Дом, дзе жыла сям'я Язэпа Пушчы — дырэктара школы. Уладзімірская вобл., Мурамскі р-н, в. Чаадаева. 1943 г.



З жонкай Станіславай Эдуардаўнай,
в. Чаадаева. Лета 1957 г.

## ПАВАЖАНЫ СТАНІСЛАЎ ПЯТРОВІЧ І КАЦЯРЫНА...![1]

Народны звычай свой шануем —
І з Новым годам вас віншуем,
Жадаем ад душы і сэрца
З вялікім шчасцем вам сустрэцца.
Хай вас яно не абмінае.

Пад Новы год яснеюць зоркі,
Не прыйдзе дзень слатлівы, горкі.

Язэп і Стася

*30 снежня 1959 г.*

* * *

Выстрыгалі з фотакартак,
Выстрыгаюць і цяпер.
«Успамінаць яго не варта.
Ні ў нядзелю, ні ў чацвер,
Праўда, быў такі калісьці,
Толькі лепш, каб не было,—
Не прынёс ані карысці
У нябыт усё сплыло».
Вось як сталася яно,
І ці думаў ты, Язэп?
Чэмер п'еш, а не віно,
Дораць камень, а не хлеб.

*29 студзеня 1960 г.*

* * *

Душа гарыць, баліць,
З дакорам мне гавора:
Няма з кім падзяліць
Ні радасці, ні гора.

Адна, штодзень адна,
Знарок ніхто не зойдзе.
Твая, мая радня
Дарогі ўсё не знойдзе.

Ці доўга так цярпець,
Скажы, паэт, мой дружа?
Пара вясну сустрэць,
Раскінула цвет ружа.

*1960 г.*

* * *

Вясенні шум сасны
Над нашымі гадамі.
Я ўспомніў «Дні вясны»,
І рад сустрэчы з Вамі.
Ніяк не патушыць
Свайго агню паэту...
Ад сэрца, ад душы
Дару вам кніжку гэту[2].

*20 сакавіка 1961 г.*

## ГЕОРГІЮ ЗМІТРАВІЧУ ВЫЛЧАВУ[3]

Нібы хлапчук, я сёння рады
І на душы мне стала лепш.
Я не магу сабе даць рады —
Усё збіваюся на верш.

Абняць хачу вас, дружа-браце,
Ў гасцінnай беларускай хаце.
Надзеі гэтай я не трачу,
Сваім Вас госцем сёння бачу,
І чару ўгору паднімаю,
І Вас і Ваш народ вітаю.

*24 мая 1961 г.*

## ВІНШАВАННЕ

Вее вецер, вее свежы,
Ходзіць з песняй па бары.
Адыходзіць месяц снежань,
Адыходзіць год стары.

Хмары ясных зор не засцяць,
Надыходзіць Новы год.
З Новым годам, з новым шчасцем,
Беларускі мой народ!

## Я ЖЫЦЬ ХАЧУ...

Хачу я жыць, тварыць і верыць
У светлы дзень Радзімы любай.
Якою мерай радасць мераць,
Калі так горача мы любім?

Прыйшоў я да цябе у госці,
Як падарожны твой нястомны.
Як і тады, у маладосці,
Не раз яшчэ у песні ўспомню.

## КАЛІ ГАРАЦЬ ЗАРНІЦЫ

Народ, калі гараць зарніцы,
Спявае песню працы:
Збіраем шчасце па крупіцы
І марна не растрацім.

Яго у спадчыну пакінем,
Каб век не ведаць гора.
Бяда з сваім старэчым кіем
На наш не ўзыдзе ўзгорак.

Нам сонца свеціць шчодра,
З ім жыць на свеце добра.



Неспакойна б'ецца сэрца,
Маладое гнецца дрэўца.
Вецер хіліць і хістае,
Шалясціць яно лістамі.

Дрэўца ветру не здаецца,
Вырваць дрэўца не ўдаецца,
Бо карэнні ў родным грунце.
Не бядуйце, не гаруйце.

## НАД РЭЧКАЮ ТАПОЛЯ МАЛАДАЯ

Над рэчкаю таполя маладая
Спявае з салаўямі на зары.
Увесну сеем, ўлетку даглядаем,
А восень прыйдзе, прынясе дары.

І гэтак ты, паэт, мой сокал ранні.
Табе не спіцца у сваім гняздзе,
Ўстаеш на ўсходзе сонца, на світанні
І славіш песняю прыгожы дзень.

* * *

Калі дзень часам пройдзе марна,
Дык на душы няўтульна, хмарна,
І дакараю сябе горка,
Пакуль не ўзыдзе зорка.

* * *

Дружна вяслуйце, родныя хлопцы,
Весела з вамі ў сонечнай лодцы.

Ў ясныя далі скіраваны рэйсы,
Коцяцца хвалі, хвалююцца песні.

Нас не стрымае рэк бурных разводдзе,
Працаю славім і ранак, і поўдзень.

## СОНЕЙКА МАЕ, ДЗІВІСЯ

Што ні дзень — усё навіны:
Ў садзе пошчак салаўіны
Будзіць досвіткам-наранку
Ясну зараньку-заранку;
Па-над садам, па-над гаем
Усміхаецца, мігае.

Коціцца да долу з высі,
Сонейка маё, дзівіся.
Коціцца з блакітнай горкі,
А за ёй другія зоркі
І у лузе, ў лозах ніцых,
Акунаюцца ў крыніцы.

## ЦАЛУЙ І АБНІМАЙ

Цалуй і абнімай!
Мацней! Хай бачыць свет.
Раскінуў светлы май
У нашым садзе цвет.

Мацней цалуй! Люблю,
Калі душа з душой.
Я сэрцам сонца п'ю,
Каханы, любы мой!

## КЛЕН ШУМІЦЬ НА ГОРЦЫ

Клён шуміць на горцы,
А вярба ў даліне,
Ўстану я на зорцы
З песняй салаўінай.

Ў лузе, пад калінай,
Усміхнуся сонцу,
Песняй сакалінай
Адгукнуся хлопцу.

* * *

Хто мне дасць адказ,
Як жа з сэрцам быць?
Жар пакуль не згас,
Хочацца любіць.

* * *

І адбылося, і збылося,
І ветры смецце ўсё змялі.
І хто не рад, што давялося
У гэты час жыць на зямлі?

* * *

Народу прыкрае пітво,
Як чэмер, можа, і гарчэй.
Калі завяне хараство,
Не будзе на душы лягчэй.

* * *

Палае Мінск пажарам.
Вайны страшныя хмары
Дажджом-свінцом сякуць,
Руч'і крыві цякуць.
Пад чорнай хмарай зранку
Паўзуць на горад танкі,
Паўзуць і бамбавозы,
Нясуць і смерць, і слёзы.
Агонь, спякоты жар,
Вайны страшны пажар
На вецер ўсё пушчае.
Жывое ўсё знішчае.

* * *

Здолелі усё адолець,
Не пужае жах руін.
З кельняй вахту несла моладзь:
Поплеч з бацькам — родны сын.

* * *

Мне скваркі вялікай не трэба.
Даволі і пульхнага хлеба,
Што вырас на бацькаўскай глебе.

* * *

Хочацца так верыць.
Шчасце, дзе ты, шчасце?
Адчыні мне дзверы,
Расхахонь іх насцеж.

* * *

У далі веснавыя гляньце:
Яснее сонца, сэрцы рады.
Каменнямі ў таго шпурляйце,
Хто кліча нас да здрады.

* * *

Выйду, гляну я з гары высокай,
Паляцеў куды крылаты сокал,
Дзе гняздо на старасці шукае?
На якіх: чужых ці родных скалах?

* * *

Мая радзімая зямля,
Іду на суд народны я.

Народ, ідзе твой сын, сустрэнь
У светлы свой, вялікі дзень.

Дахаты песню ён нясе
І аддае тваёй красе.

Не просіць ён узнагарод,
Пакліч яго, сустрэнь, народ!

* * *

Ён быў, нібы айчым суровы.
Не гладзіў па галоўцы нас.
Каб не было слабых і хворых,
Штогод праветрываў Парнас.

* * *

Айчым над намі лютаваў,
А падхалім яму салютаваў.
За гэта гонар, прэміі
І проста шлях у геніі,
І сёння лезе ў паважаныя,
Шаноўныя, прызнаныя.
Было што, адракаецца,
А часам нават каецца.

* * *

Не зведалі людскіх пакут,
Зракаліся бацькоў, радні
І славілі асобы культ
Навылет ночы ўсе і дні.

* * *

Гісторыя разгорне кнігу дзён мінулых,
Паведае пра тых, што вечным сном заснулі.
Пабудзіць іх,і ўстануць чарадой шкілеты,
Між імі будуць нашы слаўныя паэты.

* * *

З чаго пачаць?
Каб не нажыць бяды,
Лепш памаўчаць,
Набраўшы ў рот вады.

* * *

Як толькі ўспомню вас, сябры,
Маё пяро з рук падае,
Хоць гора ў прыгаршчы збяры,
Нішто не цешыць і не радуе.

Не прыгарну вас да грудзей,
Душа ад слёз заходзіцца.
Заўсёды кат і ліхадзей
Ў нядобры час народзяцца.

* * *

Мароз нас прабіраў наскрозь,
А люты сівер, як былінак, трос,
І кожны з нас свой лёс пакорна нёс.

* * *

Не наша ўжо віна,
Што, ўстаўшы рана, давідна,
Мы не адведалі віна,
А горыч выпілі да дна.

* * *

Не трэба сёння успамінаў
Пра тое, што было і адышло.
Не узарвемся больш на мінах,
Не ўзыдзема на трэснутае шкло.

## КРЫТЫКАМ

Не лезце ў сэрца бруднымі рукамі,
Ніхто вам не даваў на гэта права.

Жыве паэзіі святая справа,
Змывае бруд гарачымі радкамі.

* * *

Здаецца часам: я усім чужы,
Ў самоце сустракаю ціхі вечар.
Не салаўі у садзе, а чыжы.
І кожны песеньку сваю шчабеча,
І кожны [redacted] іх жыццю і сонцу рад,
І ўсе шчабечуць на вясёлы лад.

* * *

Выйдзі, палюбуйся:
Сонца ўжо устала
І цыбаты бусел,
Птушка Беларусі,
Ходзіць каля става.

* * *

Не скалы, не уцёсы,—
Рака, бялеюць плёсы.
Па сіняй плыні-шыры
Плывуць уверх буксіры,
За імі лайбы-судны
Паўзуць марудна.

* * *

Вечар весні
Зоры ліча:
Песню песень
Сэрца кліча.

## ФАШЫЗМ

Што за сіла, што за сіла?
Ўсё жывое падкасіла.
Не вада, а кроў ліецца,—
Гэта сіла-ліхалецце.
Ходзяць войны з ім па свеце,
Гасне сонца і не свеціць.

## СОН

Па вуліцы Песень паэты ідуць,
Старэнькую музу пад рукі вядуць.
Яна ім чытае тэрцыны, актавы,
Вялікія творы сусветнае славы.
Яна ім спявае свае трыялеты,
Забытую сцежку шукае да Леты.

Там вельмі прыемна, цудоўныя дачы,
Ніхто не турбуе і нават не бачыць,
Там можна купацца у ціхай затоцы,
А потым пагрэцца ад зморы на сонцы.
Яно і папесціць, яно і прыгрэе,
Ніколі пад сонцам душа не старэе.

Прыснілася сёння няпраўда мне гэта.
А, можа, і праўда? Скажыце, паэты.

## НАМЕСНІКУ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

Намеснік да слова прыхільны;
Чытае усё, да балонкі,
За Танка на вока больш пільны
І, кажуць, на вуха больш тонкі.

* * *

Жураўлі ляцяць, курлычуць,
На Радзіму мяне клічуць.

* * *

Ў небе зорна,
Светла ў хаце.
Як жа горна
Сябра страціць!

* * *

Хоць сівер і тушыў, але не патушыў,
І сёння палымнее песня у душы.

Ніяк святла зарніц
Не вычарпаць з крыніц.

* * *

Які ў душы настрой!
Я дзякую усім —
Шумяць «Сады вятроў»,
І сонца свеціць ім.

## ПЛАЧ

Вецер з каліны росы страсае,
Рэчанька ў хвалі слёзы збірае,
Вечарам хмурным дожджык марусіць,
Плачуць над урнай сыны Беларусі.
Дол не капалі, ўмыліся плачам:
«Янкі Купалы болей не ўбачым».

* * *

Як на той скале-гары
Зорка ясная гарыць,
Як з-пад той скалы-гары
Б'юць святлом зямлі дары,
І адтуль у добры час
К нам прымчаў свяцільны газ,
І наяве, а не ў сне
Ён у Мінску заяснеў.
Жылы б'юць, нясуць дары.
Шугануў святла разліў
Ясным ззяннем па зямлі.
І душу, і сэрца грэй,
І не зябні, не старэй.

* * *

Юнацкія гады,
Як майскія сады,
Як песня салаўя,
І песняй слаўлю я.

Як сонцу рада ім,
Спявае сэрца гімн:
Сваю зямлю люблю,
Ніколі не згублю.

* * *

А што пакіну я,
А што пакінеш ты,
Каб родная зямля
Ішла да пекнаты?
Пытаю так сябе
І за адно цябе.

Бывае: на сяўбе
Зярняты дождж прыб'е,
Але у дні вясны,
Дарэмна не гаруй,
Наклюнуцца яны,
Зазелянее рунь.

* * *

Больш не ўзыду на трэснутае шкло,
Што перакінулі гады над прорвай.
Душу агнём пякельным апякло,
Каб не была ў суровы час пакорнай.

* * *

Віно змянілі вы на квас,
Хоць з часам і пракісне ён.
Знайшоў я лекі і без вас,
Мінула ўсё, як страшны сон.

* * *

Дзе бегаў я і рос,
Дзе луг травой рунеў,
Як многа сонца скрозь,
Не заўважаў раней.

І дзень тут маладзей.
І песня па сяле,
І вочы у людзей —
Смялей і весялей.

Усе мне тут свае,
Ніхто не абміне.
Равесніцы мае
Паклікалі мяне.

* * *

Жывыя сокі я п'ю.
І на душы світае.
Я горача люблю
Цябе, зямля святая.

На роснае траве
Майго юнацтва сцежкі.
Тут хараство жыве:
У росах зор усмешкі.

Вас гэтак я любіў,
І рад, што не згубіў.

## МАЙ І САЛАВЕЙ

Яснавокі хлопчык Май,
Песню сонейку спявай.
— Тра-ля-ля, тра-ля-ля,—
Зорка будзіць салаўя.

Каля рэчкі гай шуміць,
Пад вярбой струмень звініць:
— Тра-ля-ля, тра-ля-ля,—
Льецца пошчак салаўя.

У садзе цвет, як белы снег,
І дзяцей вясёлы смех:
— Тра-ля-ля, тра-ля-ля,
Любім слухаць салаўя.



Меч свой гісторыя вострыць,
Фінскія хвалі не спяць.
Вось ён, Васільеўскі востраў,
Сіліцца сфінксам устаць.

Восень падстрыгла бульвары,
Хмары заслалі блакіт.
Мармур мяняецца ў твары,
Львы разгрызаюць граніт.



Не зялёны шум, а ґоман
Аглашае ўзгоркі, долы.
Гэта сонечным пагонам
Дзетвара бяжыць у школы.

* * *

Светлы ранак, ясны поўдзень,
Сонца з намі ў школу пойдзе
І за парту разам сядзе,
А праменні кіне ў садзе.

* * *

Не ўсе да славы йшлі,
Не ўсе яе знайшлі.
Яна у кожны час
Для вас, а не для нас.
Хто змог перахапіць,
Хай з тымі слава спіць.
Спрытнейшы ўсю украў,
Прадаўшы родны край.

* * *

Пазналі мы гады,
Якіх вам не пазнаць:
Ламалася тады
Нашчэнт старая снасць.

Ніхто не шкадаваў
Таго, што йдзе на злом.
Не раз, хоць мы не два
Сціскалі боль вузлом.

* * *

Пазнаў выгнання лёс:
У шуме кіпарысаў,
Усюды ён і скрозь
Шукаў радзімых рысаў.

* * *

Ўзыходзіў на Байдары
Знябыты пілігрым.
Развеяць смутку хмары
На жоўты кінуць жвір.

* * *

Радзіму, Беларусь сваю,
Ты называў Літвою;
Ты выплакаў душу усю
Перад Радзімаю святою.

* * *

З Радзімы з кроўю дралі лыкі,
Сцярпець не мог Адам Міцкевіч,
Свайго народа сын вялікі
І ўсіх народаў светач-веліч.



На паншчыне-прыгоне
Стагналі беларусы.
За волю у пагоню
Ўставайце, хлопцы, рушым!
Даволі, хопіць сілы.
Паднімем меч угору.
Мы ворага асілім.
Напоім нашым горам.

## ПРЫВІТАННЕ

Нібы ў казцы, ў Белавежы
Цвітуць увосень верасы,
І вее з пушчы вецер свежы,
Даносіць пах зямной красы.

Дні восені красу прынеслі,
Гарыць у зарыве лістоў.
І сёння славяць дойны, песні
Сваёй Радзімы хараство.

Ў гасцінным беларускім доме
Звіняць братэрства галасы:
Паклон сардэчны наш Малдове
І песнярам яе красы!



У шчаслівы дзень вясновы
За пяро, браты, бяруся.
Піянерам Беларусі,
Сваймў сыну Анатолю,
Добрай долі, светлай волі
Прысвячаю твор свой новы.

* * *

Гэтак не пісаў даўно.
Вы адведайце віно,
Ці шкрабе душу яно?
Напішыце ліст вы мне
З ясным сонцам па вясне.

* * *

Быў і я, браткі, салдатам
Нашай Арміі Савецкай,
Біўся з ворагам заўзята,
І слатой не вее вецер.
І мне сёння сонца свеціць
І да працы творчай кліча,

Гэта наш савецкі звычай.

## МІКОЛЕ ХВЕДАРОВІЧУ

Лютыя не веюць сцюжы,
І пад сонцам расцвітае сад.
Мне не верыцца, мой дружа,
Што табе сягоння шэсцьдзесят.

У вясеннім звоне-шуме
Маладжавы голас твой чуваць,
Ад душы цябе віншую
І аберуч хочацца абняць.

* * *

Я за дабро плачу дабром,
А мне — наадварот зусім...
І ні братоў, і ні сяброў,
Радзіма, а чужы усім.



Пішу ці не пішу,
Вас гэта не цікавіць.
Як вылечыць душу,
Ніхто мне не парадзіць.

Каторы дзень сцяны
Маўклівыя чатыры...
З вясны і да вясны
Хваробы не адштырыць.

Хоць сэрца і баліць,
Ніяк мне не суцішыць.
І ўсё ж я на зямлі
Хачу узоры вышыць.



Да каго я прыгарнуся
На Радзіме Беларусі?
Дзе прытулак мой старэчы
У васенні зябкі вечар?
Выганяюць небараку,
Як бяздомную сабаку.
«Хай павые, паскуголіць
Пад дажджом каля ваколіц».
Не прашу узнагароды,
Адыходжу назаўсёды.
Як магло так стацца,
Што няма з кім адвітацца?

* * *

Ні бюстаў, партрэтаў,
Ні дат юбілейных
Вам я не пакіну —
Хачу аднаго толькі вельмі,
Каб спеў мой, душою сагрэты,
Намарна не згінуў.

* * *

Адаме, добры дружа,
Нас ахінула поўнач.
Якая сёння сцюжа!
Такой яшчэ не помняць.
Да сэрца прабірае,
Ніяк і не сагрэцца.
Скажы, што нам параіць,
Не акалець каб сэрцам.

* * *

Я зведаў прагу да жыцця.
Жыла, жыве ў знябытым сэрцы.
Наперакор усім чарцям
Жыць буду я да самай смерці.

# *Паэмы*

## БОР ШУМІЦЬ

Перад табой стаю
І веру ў моц тваю,
Бацькоў святое слова.
Б'еш ты з глыбінь зямлі,
З пластоў народных сіл,
Ўзнімаеш слой за слоем.

1

Ледзь помню:
Ўзыходзіў месяц поўны.
З барадой сівой
Мой дзед на гэтым пні
І смольны водар хвой,
І сок з каўша
Вясной і ўлетку піў.
Крапіўся дзед Лукаш
І усміхаўся ў бараду:
«Скрозь твой гушчарнік не прайду,
Не хопіць сіл —
Дзесяткі міль».
Ну і бор!
Вяршаліны да зор.
Ён быў красой
Радзімы, нашай славай.
Такіх лясоў
Не ведаў свет.
Яго паэт
Уславіў
Песняй велічавай.

Наш запаветны бор —
Краса далін і гор,
Краса радзімы Беларусі,
Як даматканыя абрусы,
Як васількі на паясах,
Як цвет на верасах,
Як песня светлай долі
На шырокім на раздоллі.

Хацелася і жыць, і верыць.
Багаты быў на птушку, звера.
Заходзіў зубр часамі з Белавежы,
Каб сочнай пашчыпаць травы,
Падыхаць ветрам свежым,
Баравым.

Казулі гонкія, ласі
Праклалі сцежкі тут свае.
Не плакаў дождж, не галасіў,
І мох падоўгу не сівеў.
Мядзведзь любіў збіраць суніцы
І запіваць з крыніцы.
Зязюлі
Тут гады лічылі,
Матулі
Травамі дзяцей лячылі.

А пчолы з кожнай краскі
Збіралі мёд дзень цэлы.
Калі у поўдзень майскі
Яны ляцелі
Усёй сям'ёй пчалінай,
Здавалася — над борам лівень.

У часе чорнай навальніцы,
Калі зіялі бліскавіцы,
Калі грымоты грукаталі,
Калі трасліся далі,
Не падаў, не схіляўся ніцма
Бор адвечны,
Бор зарэчны.

Дубы, бярозы, хвоі
Ўпіраліся
У хмары галавою,

Мужаліся,
Навалы не пужаліся.

Я з аднaлеткамі-сябрамі
Улетку бегаў па грыбы.
Я помню, як збіралі
Пад хвоямі баравікі,
Як мухамор рабы
Шпурляў у пень
Каля ракі.
Я помню: кожны дзень
Ўзыходзіла з-за бору
І садзілася за борам
Сонца.
Тваё зялёныя уборы
Я абнімаў на кожнай хвойцы,
Дзяўчат як абнімаюць хлопцы.

З зямлі радзімай сокі піў,
Шумеў вяршалін хор.
Як я цябе любіў,
Мой родны бор!

Мінулі дні вясны;
Крывёй апырсканы лісты
Вярбы за агародам,—
Вялікая Айчынная вайна!
У дні вайны
Стаў поплеч ты
З сваім народам.
Крывавага віна
Не шкадаваў ты ліхадзеям
І жыў вялікаю надзеяй.
Ты не маўчаў, ты клікаў
Сыноў на сход вялікі.
Былі дубы і хвоі рады,
Калі прыйшлі атрады
За волю біцца,
З крыніц тваіх
Святых
Жывой вады напіцца.

Крычалі птушкі нема;
Ішлі браты і сёстры

З вялікім гневам,
Болем вострым.
Ішлі бацькі
Уздоўж ракі,
Ішоў народ
Цераз раку, уброд,
Як у паводку крыгаход.

Сабраліся на збор
Гадзінаю вячорнай,
І зашумеў наш бор
Душою непакорнай.

2

Марусіць
На Беларусі
Дождж цярністы;
Калюча
І балюча
На душы, на сэрцы.
З Нямеччыны паўзуць фашысты,
Са свастыкаю чэрці.
Паўзуць па целе
Беларусі
І дзень, і ноч, і месяц цэлы.
На жвір галовы нашы сцелюць,
І ўсё ж ніколі не прымусяць
Ў няволі жыць,
Паклоны біць,
Атруту піць.

З зямлі нас хочуць сцерці.
Паўзуць мільёны
Навалай чорнай смерці.
І вечарам, і ранкам —
Скрозь скрыгат танкаў,
Дзікі і шалёны.
Паўзуць, як чорны мор
На наш зялёны бор.

На сэрцы Беларусі раны,
Крывавіцца душа,

І абступаюць партызаны
Дзеда Лукаша.
— Мае сыны і ўнукі,
Вазьміце зброю ў рукі,
Паслухайце маёй
Навукі,
Што я вам скажу.
За родную зямлю,
Калі перапаўзе мяжу,
Душы грымучую змяю,
Каб яна куслівым
Джалам
Не труціла,
Не пужала.
— У нядолі, у няволі
Мы не схілімся ніколі!

— Я ведаю, мае сыны, што горна,
Але пажар каб помсты не патух,
Хай раздзьмухаюць горны
Наш непакорны
Дух!

Ад Брэста да Бабруйска,
Ад Віцебска да Гродна
Народ наш беларускі,
Родны
На барацьбу вас кліча.
— І мы ўшануем гэты звычай!

— Мае сыны і ўнукі,
Скінем путы
І пакуты!
Было нямала душагубаў,
А гэтакіх не ведаў свет.
Не пацалуюць нас іудаў губы.
Я веру: струшчыма ярмо
І вернемся дамоў,
Калі як след
Фашыстам перцу задамо.
Сыны, ідзём на бой гарачы
З вялікай верай у душы...

— Зямля жадае нам удачы,
Фашыстам нас не задушыць!

3

З арыйскім рогатам-
Скогатам
Фашысцкі зброд
Ішоў дарогамі,
Цераз крывавы брод,
І паглядаў на бор,
І забягаў на двор,
Як лысы чорт,
Разявіўшы паганы рот.
На ўсіх мышыныя шынелі.
Каля кожнай хаты
Звінелі
Ланцугамі каты.
Ніхто не выйшаў,
З хлебам-соллю не сустрэлі.
Прынеслі каты
На вокны краты,
Процьму шыбеніц, расстрэлы.

Народ пакорна не маўчаў:
«Не выпусцім мы з рук мяча,
Пакуль не захлынецца
Вораг у крыві.
Даволі косці нам ламаць, крывіць
І адбіраць жыццё!
Схіліся, вораг, смерці,
Нам жыць, табе памерці!
Зялёнае лісцё
Нас ахіне,
Паклонімся вясне;
Народзіцца дзень
Светлы,
І радасць прыйдзе да людзей.
Мы сёння — партызаны.
Павейце, свежыя вятры,
Дыхніце помстаю, бары,
Дажджы, абмыйце раны,
Каб не сцякалі кроўю.

Фашыст, ляці у прорву
І смерці бі паклоны!
Не пройдуць маршам-строем
На ўсход твае калоны:
Аглушым іх, расстроім,
Сырой зямлёй прыгорнем,
Прыкрыем сваім горам.
Над вёскай, над Падгор'ем,
Над цёмным гэтым борам
Не пранясуцца «месершміты»,
Імклівай куляй будуць збіты».

З разгону эшалоны
Ляцелі пад адхоны,
Ўзрываліся на мінах
Фашысцкія машыны.
Як гром,
Народны гнеў
Над краем прагрымеў.

* * *

Расою плакаў вечар,
Як бабёр,
Усхліпваў вецер
Хвалямі азёр,
І птушкі крыкам даль пужалі.
Ўздыхаў прастор,
Як брат
З-за крат
На волю да сясцёр.
Радзімы сэрца рвалася
Ад жалю,
Здавалася —
Бор з небам гаманіў.
Дубы змагання гімн
Спявалі,
І паднімаліся, ўзнімаліся
Народнай помсты хвалі...

Мужайцеся, упартыя,
Змаганне кліча нас,
Кліча наша партыя
Ў трывожны гэты час.

Сілы не растрачаны.
Устань, народ-герой!
Сэрцы ў нас гарачыя,
Да помсты кліча кроў.

Нашы далі чыстыя,
Мы на зямлі святой.
Ідзі на бой з фашыстамі
І непахісна стой!

* * *

Стала цяжка жыць у хаце
Беларускаму народу.
Зашумі ты, пушча-маці,
Зашумі у непагоду!

Беларусы, людзі працы,
Стрэнуць сонца напрадвесні.
Зашумі ты, пушча-маці,
Зашумі народнай песняй!

Мы не жыта выйшлі жаці
І не славіць ніву спевам.
Зашумі ты, пушча-маці,
Зашумі народным гневам!

Зоркі ясныя, світайце!
Выйдзем на шляхі-дарогі.
Зашумі ты, пушча-маці,
Песняй нашай перамогі!

4

Часінаю праклятай,
Дарогаю пакатай
Фашыстаўскі патруль ідзе
Ў начны дазор
І гутарку з сабой вядзе:
«Як нас пужае гэты бор!
І сполах так калоціць,
Як трасца чорта у балоце.

Радзіліся на свет у дзень ліхі...
Тут партызанаў гібель.

Усе пуціны і шляхі
Вядуць нас на пагібель.
Хаўтурны чуем марш.
Што нам рабіць?
У чым ратунак наш?
Нам партызанаў не разбіць».

Якраз
На гэты раз
Папаўся ім Лукаш.
Ён, партызан сівы,
Прылёг
На ўскрайку бору адпачыць.
Прыкрыў яго быльнёг,
Не чуў ён шораху савы,
Пад дубам сон змарыў,
І задрамаў стары.

Усплыў над борам месяц ясны,
І побач зоркі дзве
Гараць, не гаснуць.
І трэба ж здарыцца бядзе?
Дазор ідзе,
Здалёк,
Як воўк
З блудлівай сцежкі,
Прыкмеціў дзеда Лукаша,
З яго лагоднаю усмешкай...
У палоне сэрца і душа.

Вядуць на здзекі.
Ідзе Лукаш раздзеты,
Лёг смутак на павекі.
«О, воля, дзе ты, дзе ты?»

Сляза з вачэй
Скацілася на твар.
Здалося, што лягчэй...
Кідае ў холад, жар.
І мардаванні, і пакуты
Цярпеў
Навылет ноч усю.
Ратунку не прынёс і ранак.
Лукаш, скрываўлены, у ранах

Ляжаў.
Ён не прадаў душу сваю,
Не выдаў партызанаў.

«Ой вы, шляхі-дарогі,
Не прыбягуць ганцы,
У воду ўсе канцы!»
Паставілі на ногі
Дзеда-партызана,
Кат пляшывы
Надзеў пятлю на шыю,
На рукі —
Ланцугі-кайданы.
Ад скрухі
Запякліся раны
Ў Лукаша.
Заходзіцца душа.
«А можа, гэта сон?
О, не!
Праткне
Хай вас ражон!
Ляжаць лепш у труне,
Як мардавацца у турме».

Катуюць Лукаша,—
Толькі стогны у вушах.
Крыві не змыюць і не зліжуць.
Сірэна дзіка вые,
Склікае гадаў рыжых.
Загрукаталі танкі бранявыя
На Падгор'і.
«Ой, горна, горна!»

Да танка ланцугамі
Прывязалі
Лукаша старога.
Зямлі не чуе пад нагамі.
Ад роднага парога
Цярністаю дарогай
Змардованы Лукаш ідзе
Без родных, без сваіх людзей.

Плывуць зялёныя кругі,
Крывавяць цела ланцугі.

Ніхто крыві не згорне.
Апошні раз
Зірнуў Лукаш
На роднае Падгор'е
Не бачыў ён ракіт,
Калі вялі каля ракі,
Не развітаўся з імі,
Як з роднымі, сваімі,—
Засланіла гара
Ясны зрок вачэй.
Ідуць ускрайкам бору,
На сэрцы не лягчэй.
Спыніліся на месцы тым,
Пад дубам пад густым,
Дзе Лукаш няўпору
Ўчора
Задрамаў.
На хвоі кат пятлю трымае
І Лукаша чакае.

«Айчына родная,
Гаротная,
Ты на сваім вяку
Не ведала такіх пакут.
З тваіх вачэй
Я слёзы вып'ю сэрцам.
Сыны, хутчэй
Ратуйце Беларусь ад смерці!»

Прынеслі каты дрот
Калючы,
Зашыць каб дзеду рот.
«Ах, як балюча!..»
Цярпенні, мукі.
Не просіць дзед спагады,
А каты рады:
Скруцілі дзеду ногі, рукі
І да хвоі з усёй сілы
Ланцугамі прышчамілі.
«Моц святая!
Мяне фашысты не паставяць
На калені.
Свайго сумлення
І Радзімы не прадам!

Сасонка, слёзы дзеду вытры,
Абнімі галлём сваім
І раскажы усім,
Што бачыла ў бары,
На гэтай ты гары.

Няхай шалёныя кусаюць,
Не здамся я,
Зямля мая!
Якім трывалым быў
Іван Сусанін,
Сягоння буду я такім.
Хай ведаюць вякі!»

5

«Мы з ім для пробы
Зараз тое зробім,
Чаго не бачылі на свеце
Ні бацькі, ні дзеці:
Пажарам бор засвеціць».

Як матка над знябытым сынам,
Вярба схілілася на грэблі.
Асіны
Горна галасілі,
Пакідалі дзеда сілы.
Пчала
У вулей не ляцела,
Не пахлі мёдам соты...

Муціцца памяць пачала,
Смылела цела,
Нылі рэбры.
Фашысты панагрэблі
Шыльніку сумёты;
Сярнічку падаткні —
І захлынешся ў дыме і агні.

Каля бору
Ходзіць гора.
Сівы Лукаш
Апошні раз
Акінуў даль вачыма.
«Хачу абняць цябе, мая Айчына,

Савецкая Радзіма,
І не ў моцы
Вырваць рук я з ланцугоў...»
І раптам шуганўў агонь,
І дым падняўся хмарай,
І абдало пякельным варам.
Ахоплен бор і дзед пажарам.

Устрапянуўся бор,
Зайгралі трубы збор
Ад Мінска да Пружанаў,
Ад Полацка да Гомеля;
Дарогі і шляхі
Ў народным гомане,
Расходзяцца кругі,
І хвалі б'юць у берагі.

Пачула Беларусь.
З усіх бакоў,
З усіх канцоў зямлі
Разгневанай ракой
Між хвой, дубоў, ялін
Народ бяжыць
Пажар заліць
З азёрнага каўша,
Ўратаваць і бор, і Лукаша;
Каля скрыжованых дарог
Зваліць
Фашыстаў [illegible] ног,
Зямлёй гарачаю прыкрыць;
Народнай помсты меч загартаваць
І адвастрыць,
Каб не згінаўся ён ад болю
І не крышыўся,
Не тупіўся
Болей.

Палае полымя
Над баравымі хвоямі,
Высокімі і гонкімі,
Над ёлкамі —
Гарачымі мяцёлкамі.
Шыбае скрозь,
Няма ратунку, выйсця!..
Сквірчыць у засені

Дубоў, бяроз,
І клёны, ясені
Скідаюць лісце
У агонь.
Ядловец скурчыўся, прысеў.
Падгор'е, Азярышча, Блонь,—
Як на далоні ўсе,
І нават Мінск відаць.
Здаецца, сіліцца устаць
З руін
І Лукаша, і бор абараніць.
Агонь над хмарамі шыбае,
Сарваў лісты з зялёных шат.
Ад пажару
Нават звер не ўцёк.
З карэнняў сок
Цячэ пякельным варам.
Як пажар уціхаміршць?
З хваль азёрных цёмнавірых
Выплывае
Хмара
Палавая.
З хмары лівень
Хлыне-хлыне!
Лівень родны, любы
Ратаваў ад згубы,
Ліў, як з луба,
Спорны, пры́ткі —
Ўсё часцей,
Гусцей,
Прамачыў да ніткі
І дабраўся да касцей.

Ў бліскавіцах з громам
Згасла полымя над борам,
Знік пад небам зорным
Смутак чорны.

### ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Гісторыя дапіша сказ,
Як ушанован быў Лукаш,
Як праграмеў святы салют

Над абгарэлым борам тут,
Як вольным стаў народ ізноў
І ў родны дом сабраў сыноў.

Іду хаджалаю пуцінай
Да запаветнае мясціны
Аддаць пашану партызану.
Іду, шуміць зялёны хвойнік,
І Лукашу — між хвоек помнік.
Лагоднымі і добрымі вачыма
Глядзіць ён на сваю Айчыну,
Любіў якую гэтак моцна.
Руку прасцёр на ўсход, да сонца,
Адкуль прыйшло уратаванне
У ліпеньскае ранне.
На галаве ў яго вянок хваёвы,
І коцяцца радзімай песні словы:

Полім і матычым
І дубкі, і клёны.
Кожны выжыў, кліча
І шуміць зялёны.

Вецер хмарку гоніць,
Ў небе дзве вясёлкі.
Цёплы дождж ык поіць
Маладыя хвойкі.

Родныя, расціце
Ўсё вышэй угору.
Весела шуміце
І не знайце гора.

Выгналі упору,
Больш не прыйдзе, годзе.
Каля бору, бору
Наша радасць ходзіць.

Полім і матычым
І дубкі, і клёны.
Кожны выжыў, кліча
І шуміць зялёны.

*1957 г.*

# ЛЮДВІСЯ

Нясем народам вызваленне,
Фашызму смерць, вайне канец.
Не раз успомняць пакаленні
І Асвянцім і Трасцянец.

1

Цераз поле хмаркі неслі
Маладзік — свой серп зубчаты,
І звінелі ў сэрцах песні,
І ўсміхаліся дзяўчаты.
Каля рэчкі, на узгорку,
Заклікалі песняй зорку:

Усміхніся, зорка, зорцы,
Адгукніся, сэрца, сэрцу.
Дзе вы сёння, дзе вы, хлопцы?
З вамі хочацца сустрэцца.
Надыходзіць час жаданы,
Прыйдзе любы і каханы.

Лічым, лічым і не злічым,
Колькі ў небе зорак ясных.
Сваю зорку песняй клічам,
Ці засвеціць, ці пагасне?
Ў небе зоранька мігае,
Сэрца горача кахае.

Ой ты, рэчанька, бруіся,—
Хваля ўлетку маладзее.
Адгукніся, усміхніся,
Наша радасць і надзея.
Хочацца спяваць, смяяцца,—
Расцвітае кветка шчасця.

Зашумі, зялёны кусцік,
Мы вяночкаў назвівалі;
Ў рэчаньку вяночкі пусцім,
Хай плывуць па светлай хвалі.
Запытайцеся у ночкі,
Як плылі, плылі вяночкі.

Падхапіў сярдзіты стрыжань,
І вяночкі разышліся;

Нават ластаўка са стрыжам
З сваіх гнёздаў узняліся.
Не сышліся, разышліся,
Засмуцілася Людвіся.

«Быць не можа! Што такое?
Нават сэрца ледзянее.
Хіба здрадзіў? Не, ніколі!
На цябе мая надзея.
Хваляй, рэчанька, засмейся,
Ўскалыхніся ціхай песняй!»

Спахмурнелі і сяброўкі,
І сасонкі на палянцы,
І пагаслі ў хвалях зоркі
На той рэчаньцы Трасцянцы.
І вяночкі ў тую ночку
Не сышліся, разышліся.

«Ой вы, хлопцы, паглядзіце,
Ці не ростань нас чакае?
Памуцілася вадзіца,
Шчасце ўпрочкі уцякае.
Радасць, зоркай усміхніся
І дзяўчатам і Людвісі».

Агарнула ўсіх трывога,
Песень болей не спявалі,
Быццам гнаў хто ад парога.
Па Трасцянцы беглі хвалі,
Набіралі гону, сілы,
Ўцехі, радасці прасілі:

Ой ты, месяц! Ой ты, ясны!
Ходзіць долам смутак з горам.
З рэчанькі туман узняўся
І прыкрыў сабой узгорак;
Сее росы, быццам слёзы,
На алешнік, вербалозы.

Не ў суботу, а ў нядзелю
Сонейка ўставала рана,
Ў лузе туманы радзелі
І крычала нема ка́ня.

І раптоўна гул ганебны
Уварваўся ў наша неба.

І раптоўна гул паўторны
Палыснуў і сінь разрэзаў.
Дым угору бухнуў чорны,
Ўстрапянулася жалеза,
Заскрыпела, затрымцела,
Аж мароз прабег па целе.

Не спыніць і не усцішыць:
Гром вайны — здалёк і зблізку.
Бомбы мур на шчэбень крышаць,
Зарава ўстае над Мінскам.
Ранак чэрвеньскі крывавы,
На Трасцянцы плачуць травы.

Страшны дзень вайны і смерці
Сыпле свежыя курганы.
«Хлопцы родныя, сустрэньце
Куляй ворагаў паганых,
Громам гневу праграміце
І навалу разганіце.

Вораг сэрцаў не разніме,
Хоць і цяжкі лёс бязмерна.
І каханню і Радзіме
Прысягаема на вернасць.
Вернасці вы нашай верце,—
Прыгарніся, сэрца, к сэрцу».

2

Семнаццаць год было Людвісі,
Калі нахлынула вайна,
Калі над Мінскам ў зорнай высі
Пачула грозны гул яна.

У школе толькі ёй учора
Дырэктар выдаў атэстат.
Любіла выйсці на пагорак
І песняй весяліць дзяўчат.

Любіла у далоні спляснуць,
Каб ліўся спеў яшчэ званчэй.

Смяяўся ўлетку сонцам ясным
Блакітны дзень яе вачэй.

Ляжаў загар на смуглым твары,
А вусны сок вясны пілі...
Любіла часам і памарыць —
І думкі ўдаль плылі, плылі.

Студэнткай быць яна хацела,
Ў мединстытут экзамен здаць,
Але з вайной ўсё адляцела.
І зоркі ў небе не відаць.

* * *

Каціўся заклік палымяны:
«Хто смерць нясе, таго карай!
Ідзі, народ, у партызаны,
Ратуй савецкі родны край!»

У смутку ліпеньскае сонца,
У горы людзі на зямлі,
І камуністы, камсамольцы
На бой з фашыстамі ішлі.

Фашызм страшней чумы і смерці,
Паўзе ад захаду на ўсход,
Сціскае ланцугамі сэрцы
Не першы дзень, не першы год.

Звіняць крывавыя кайданы,
Пагібель-смерць нясуць жывым.
Палае сэрцамі Майданак
І лагер смерці Асвянцім.

Аплёў Еўропу дрот калючы,
На варце чорнай ночы смерць.
У вір лепш бухнуць з горнай кручы,
Як так пакутаваць, гібець.

Прыйшло з фашызмам ліхалецце:
Дым з крэматорыяў відзён,
І Трасцянецкі лагер смерці
Ўстае, як прывід чорных дзён.

Людзей глытаў агонь пякельны,
І сэрцы разрываў свінец.
Тут з Мінска, Гамбурга і Кельна
Ішлі чародамі на смерць.

Ішлі з бацькамі разам дзеці,
І дождж аплакаў іх сляды.
Ці сонца тут калі засвеціць,
Ці прыйдзе светлы дзень сюды?

3

Мінула з горам лета, восень,
За імі — сцюжная зіма;
Прыйшла вясна, ў палях галосіць,
Уцехі, радасці няма.

Не грэе сонца і не свеціць,
Паўзуць марудна ў смутку дні.
Як цяжка стала жыць на свеце,—
Цярпенні горкія адны.

Людвіся шчыра абяцае,
Дае сабе такі зарок:
У вочы плюнуць паліцаю,
Каб ён людскі не ганьбіў зрок,

Каб ён не поўзаў і не лазіў,
Не заглядаў у вокны кат.
Народ зняважыў і абразіў
І выганяе з родных хат.

Такі плюгавенькі і рыжы,
А круціць моцную пятлю.
Хоць цяжка жыць, а трэба выжыць,
Каб вызваліць сваю зямлю.

Паганы паліцай Гуцэвіч,
Без шчасця мы, пакуль ты тут.
У сэрцы куляй не пацэліш,
Хутчэй табе, чым нам, капут.

* * *

Часамі вечарам маўклівым
Людвіся выйдзе за сяло:
Над рэчкай журацца каліны,
Іх радасць ветрам аднясло.

Прысядзе на вярбе пахілай
І слухае, ці ліст шуміць.
Не б'ецца сэрца палахліва,
Не хіліцца пакорна ніц.

«Хачу зямлю абняць аберуч,
Слязой гарачаю абмыць.
У моц свайго народа веру,
Кайданы памагу разбіць».

Упаў лісток, упаў кляновы,
Уніз Трасцянкаю плыве.
Заплакаў хтось у Галінове
І праклінае дні свае.

А можа, толькі так здалося?
О, не! Не плач, а лямант, енк.
Чыё там сэрца так галосіць?
Так чалавек не плакаў век.

* * *

У лузе плача ружа-кветка,
А на Трасцянцы салавей.
Бяжыць маленькая Анэтка
Наўцёк ад смерці ад свае.

Якраз насустрач ёй Людвіся.
Бяжыць дзяўчынка ўся ў крыві.
— Спыніся, дзетанька, спыніся,
З ліхой дарожанькі звярні!

Абняць, сагрэць цябе хачу я,
Галоўку прыгарнуць да шчок.
Бяжыць Анэтка і не чуе,
Усё далей, далей, наўцёк.

— Спыніся, дзетанька, спыніся!
Фашыст не мчыцца за табой.

Дагнала ледзь яе Людвіся
Ў даліне, пад старой вярбой.

Кроў сочыцца з смяротнай раны,
Дрыжыць Анэтка, як лісток,
З галінкі ветрам адарваны.
— Хачу схавацца у лясок.

Там злая смерць з касой не ходзіць.
Не зловіць там фашыст мяне.
— Мая дачушка, плакаць годзе,
Ўсё гэта хутка праміне.

— Няўжо мая са мною мама? —
Галоўка хіліцца набок.—
Ой-ой! Ой-ой! Якая яма!
І жоўценькі які пясок! —

Разніме, ўзніме ручкі-крылы.
— Во-во!.. Ізноў страляе ён.
І вочы вейкамі прыкрыла,
І забыццё прыйшло, як сон.

Нясе Людвіся ў дом Анэтку,
Як матка, туліць да грудзей.
— Спачні, спачні, мая ты дзетка,
Не зловіць болей ліхадзей.

Вярба над рэчкай нізка гнецца,
Як матка над дзяцьмі ў бядзе,
І калыханка з болем льецца,
І радасць да людзей не йдзе.

— Мама, мама, абнімі
І любі мяне, любі!
— Дзетанька мая, засні,
Люлі-люленькі-люлі.

— Мама, во ён, прагані
І Анэтку прыгарні!
— Дзетанька мая, засні,
Люлі-люленькі-люлі.

— Мама, слёзы, плач спыні,
Хай смяюцца на зямлі!

— Дзетанька, засні, засні,
Люлі-люленькі-люлі.

Анэтка ноч усю навылет
Гарэла ўся, як у агні,
Крычала: — Кроў не выпіў, выліў.
Прасіла: — Браціка вярні!

Дзе мама?.. Дзе мой брацік?..
Няма... Крывавая зямля...
Пара дахаты нам збірацца...
Устань жа, мамачка мая!..

Людвісю моцна абнімае.
Цалуе і гарыць уся.
— Няўжо... мая са мною мама?..
І не сіротка сёння я...

4

Усё, што мелі, адабралі,
З вадой нядоля не сплыла.
Людвіся паглядала ў далі
І вельмі ўзрушанай была.

Дзьмуў сівер золкі і калючы,
Што прабіраў аж да касцей.
Данёсся лямант, крык балючы
І паўтарацца стаў часцей.

Ад болю войкалі, стагналі,
Не выйшлі родныя сустрэць.
Эсэсаўцы іх, бедных, гналі
У лагер смерці Трасцянец.

Ішлі — і з Гамбурга, і з Кельна —
Касцямі на кастры датлець.
Глядзяць журботна, безнадзейна
На лагер смерці Трасцянец.

«Казалі нам: не лагер там,
А дачы і высокі бор...»
Няма, не бачаць, горка плачуць
І шлюць фашыстам свой дакор:

«Мы ўсе, усе таўраваны,
Без прозвішч, нумарныя людзі.
Знясілены і змораны,
І нашы рукі, нашы грудзі
Таўраваны, таўраваны.

Палаюць крэматорыі,
Чакаюць нас яны уночы.
Мы кленчым перад зорамі,
І слепнуць нашы вочы:
Палаюць крэматорыі».

Бязлітасна усіх тут знішчаць.
Які цяжкі, жахлівы лёс!
Мяцеліца мяце і свішча,
Хоць вока выкаль, мутна скрозь.

«Няхай мяцеліца прыкрые,
Не хочу кроўю ацякаць.
Ўзніміцеся, маладыя крылы!
Адзін ратунак — уцякаць.

Я жыць хачу, ўзнімаць павекі,
Гатова ўсё зрабіць з сабой»,—
Падумала вось так Равека
І знікла ў гурбу, за вярбой.

Яе не знюхалі аўчаркі,
І паўз яе прайшоў канвой...
Плылі і адплывалі хмаркі,
І шум вярбы над галавой.

Варушыцца сумёт глыбокі,
Равека разграбае снег...
— О, беларускі край далёкі,
Няўжо ўсё праўда, а не ў сне?

Смяяцца з радасці ці з гора?..
Бягу, бягу сустрэць свой лёс.
Бяжыць ад млына на узгорак,
Дзе, ёй здалося, кліча хтосьці.

Як снег скрыпіць, яна не чуе,
Не чуе пад сабою ног.

«Ў каго я сёння заначую
І чый пераступлю парог?»

Падбегла. Хатка. Ў хатцы ціха.
Баіцца стукнуць у акно.
— А можа, тут прачнецца ліха
І схопіць зноў мяне яно?

Да шыбы вуха прысланяе:
«Паўслова хоць бы улавіць».
Ад голаду ў бакі сланяе...
«Здаецца, ў хатцы хтось не спіць?»

Пастукала ледзь-ледзь у дзверы.
Азваўся голас ёй: — Хто там?
Як хочацца і жыць і верыць!
— Ўпусціце, раскажу ўсё вам.

Людвіся адчыняе дзверы;
Равека ў хату з ёй ідзе.
Ў Равекі твар бялей паперы.
«Няўжо у добрых я людзей?»

Паклон да ног кладзе Людвісі
І просіць: — Дайце мне папіць.
Слязамі вочы наліліся:
— Мой знак-таўро, яго не змыць.

— Таўро на целе маладосці,
Каб смерць са свету вас звяла...
Людвіся абнімае госцю
І просіць сесці да стала.

— Свае вы падмацуйце сілы,
А потым рушыце далей.
Равека трошкі закусіла,
На сэрцы стала весялей.

— А зараз і пара ў дарогу.
— Якраз і спадарожнік ёсць,—
І Стась смяецца з-за парога.
— Заходзь, заходзь, жаданы госць!

Знаёмся з новаю сяброўкай.
Сяброўцы ціСне Стась руку.

— Я чуў усё з сваё каморкі...
Хутчэй!.. Пара нам за раку!..

— Гатова я, і сэрцам згодна.
— Хутчэй, хутчэй! Бяжым, бяжым!..
— Мне Беларусь хай будзе роднай,
І лес не будзе хай чужым!

Як сёстры, моцна абняліся,
І пацалунак лёг на твар,
І пажадала ёй Людвіся
Аддаць змаганню сэрца жар.

Равека просіць прабачэння...
— Які сягоння добры дзень.
— Шчаслівa вам!.. Да пабачэння!
І зніклі постаці людзей.

* * *

— Няма! — крычалі на паверцы.—
— Уцёк 109005!
— Яшчэ, яшчэ й яшчэ праверце!
— Усіх падняць! На смерць сагнаць!

І лаянка, і крык, і сварка,
І бегатня, і калатня;
І паліцаі, і аўчаркі,
І ўся фашысцкая гання
Нідзе не знюхалі Равекі,
І след яе прастыў даўно.
А гэтым часам Стась з Равекай
Дайшлі, сваіх знайшлі ў бары.
«Як добра быць зноў чалавекам,
Мае вы родныя сябры!»

5

Людвіся выйшла на падворак
І песню заспявала з гора:

«Ночанька цёмная, цёмная;
Рэчанька горкіх слёз поўная.
Слёзы і гора народнае

Выплесні, рэчанька родная,
Выплесні хваляй сцюдзёнаю
У ночаньку цёмную, цёмную.
Зоранькі хмаркай прыкрыліся;
Людзі ў бядзе не скарыліся.
Сокалы-ветры крылатыя
Б'юцца з навалай праклятаю;
Вернецца ўсё, што утрачана,—
Вер, маё сэрца гарачае!

Сонца узыдзе прыгожае,
Цемра адхлыне варожая,
Церні завянуць калючыя,
Раны загоім балючыя.
Вер, маё сэрца гарачае,—
Вернецца ўсё, што утрачана!»

* * *

Людвісю хмурым майскім ранкам
Наведаў хцівы Яська Смык.
Ён за сабою бразнуў клямкай,
Бо так заходзіць ў дом прывык.

Як госць, няпрошаны, ліслівы,
Ён на Людвісю ўсё глядзіць,
Маўчыць і палыкае сліну.
— Як мне і чым ёй дагадзіць?

Аберагаў я вас, Людвіся,
Мо больш, як самаго сябе,
Каб не забралі, засталіся
Не для людзей, а для мяне.

Кажу так вам і ў вашым доме.
— Дарэмна гэтулькі клапот.
— Мне добра... добра ўсё вядома...
І выступіў у Яські пот,

І сорам лёг на хцівым твары;
Не па сабе, не ўзняць вачэй.
— Я вамі жыў і штодзень марыў,
Каб мне дасталіся хутчэй.

У сне вас называў я любай,
Жадаў, каб вы былі маёй.
Хачу ў сукенцы белай, шлюбнай
Вас бачыць і назваць сваёй.

— Цярпець не ў моцы больш! Даволі! —
І паказала на парог.—
Тваёй не буду я ніколі!
Атруты горш мне твой пірог.

— Не хочаш ты са мной да шлюбу,
То пойдзеш без мяне на смерць.
Там назавеш сваіх ты любых
І выйдзеш іх слязьмі сустрэць.

— Маёй ты беларускай хаты
Ганебным словам не пагань!
На гэтым скончыліся сваты,
І Яська Смык пайшоў, як здань.

* * *

Ўжо адыходзіў месяц чэрвень,
І не спявалі салаўі.
— Яе на вугаль, попел счэрнім,
Не дачакаецца сваіх.

Так абяцалі Яську Смыку,
Ён верыў ім і нат быў рад:
— Не будзе больш на Яську сыкаць
І абзываць: агідны гад.

З-за рэчкі, ад пахілых лоз,
Даносіў вецер подых горкі.
Эсэсаўскі канвой падпоўз
І хату ачапіў на ўзгорку.

Людвісю людаеды згрэблі,
На смерць вядуць, яна ідзе
Пад вербамі, па вузкай грэблі,
Дзе азярцо, як майскі дзень.

Не чуе пад нагамі сцежкі...
Насустрач — ноч цяжкіх пакут.

Звярнулі ўлева, праз алешнік
Вядуць у Галіноўскі кут.

Там печы пекла пазяхаюць,
У жэрлы іх людзей жывых
Штурхаюць. Печы іх глытаюць...
«Вам стогнаў не пачуць маіх.

У вочы смела плюну смерці,—
Няхай агонь жыцця гарыць...»
— Вы слову нашаму паверце,—
Гаворыць ёй ліслівa Фрыц.—

Пакой утульны і асобны
Падрыхтавалі мы для вас.
Павінны быць на ўсё вы згодны
У гэты ненадзейны час.

Вас просім гэтак мы лагодна,
І зразумейце толькі нас.
Адно скажыце слова: згодна,
І мы адступімся ад вас.

Ні слова, ні паўслова Люда,
І слёз ніяк не праглыне.
Пасля: — Ўсё ваша мне не люба.
Не зневажайце больш мяне!

Вядзіце ў лагер маладую,
На смерць вядзіце, не на шлюб.
Іду! Сябе я не шкадую.
І здраднік Яська мне не люб.

Сачыў за мной і дні і ночы
І адбіраў жыццё ў людзей,
На ўсіх кідаў свой позірк воўчы,
А мне у вочы не глядзеў.

Уніз іх апушчаў, як злодзей,
Які украў краіны лёс
І ворагу яго прадаў
За поўны кубак горкіх слёз.

— Шмат гневу, безнадзейнай веры.
Ідзі туды, дзе не крычаць.

І рыпнулі і грымнулі
Ў мяшок каменны дзверы.
— Да смерці будзеш там маўчаць.

* * *

Людвіся, родная Людвіся,
Які цябе чакае лёс?
На ўзгорак выйдзі, падзівіся,
Як слёзы сыплюцца з бяроз.

Наўзрыд я плачу разам з імі...
Як мне ўратаваць цябе,
Каб ты ўсміхалася Радзіме,
Як сонца ў полі на сяўбе?

Над борам, зорка, узніміся,
Прайду Трасцянкаю уброд;
Гукні, адклікніся, Людвіся,
Я раскушу калючы дрот

І выведу з-за крат няволі.
З дарогі прэч прагонім смерць,
І зорку раннюю над полем
З Людвісяй выйду я сустрэць.

Не пацалуе здрада ў губы,
Ад споладху не будзем млець.
Ратунак знайдзема ад згубы,—
Такіх, як ты, баіцца смерць.

6

Людвіся — у мяшку каменным
І без яды, і без вады...
І ўсё ж высокія імкненні
Не гаслі ў сэрцы маладым.

Прыйшла жахлівая нядзеля,
Людвісю вывелі з мяшка.
Наручнікаў ёй не надзелі:
Кат не знайшоў, хоць і шукаў.

Дубінкай ёмкай аглушыў,
І шыю ланцугом здушыў.

Яна хіснулася, упала,
І ледзь ужо на ногі ўстала.

* * *

Набояў поўныя абоймы,
Аўчарак цэлая ганян;
Пад азярцо, у сырабойню,
Людзей на смерць канвой зганяў.

Вядуць знябытых з Галінова —
Датлець касцямі на агні.
Людвіся аддае паклоны
Знаёмым вербам, як радні.

Схіляецца над азярцом —
Слязу з лістоў апаласнуць.
«Хачу перад сваім канцом
Пад цёмнай хваляй палыснуць».

Прыйшлі ўспаміны дарагія...
Ў ваду кідаецца нырцом.
За ёй памкнуліся другія...
Ратуй Людвісю, азярцо!

Ўздагон застракаталі кулі,
Аўчаркі рваліся, плылі;
У сырабойні людзі чулі,
А вырвацца на волю не маглі.

Плыве Людвіся пад вадою,
Грабе рукамі жоўты жвір.
«Праб'юся да кустоў сюдою,
А там — схавае цёмны вір.

За ім, далей, чарот і явар,
Там я пасцель і пасцялю.
Хай мара стане светлай явай,
Жыццё я так люблю, люблю!»

Адхлынула за ёй пагоня,
І кулі не стракочуць больш.
«Няўжо ўратуюся сягоння?
А заўтра будзе лепш, не горш».

* * *

Бензінны лівень з бочак хлынуў;
Знясіленых сваіх дзяцей
Тулілі маткі да грудзей,
І ў сырабойні праз хвіліну
Глытала полымя людзей.

Шыбае полымя угору,
І чорны дым над Трасцянцом,
І далей плыў ужо над борам,
Заслаўшы горам азярцо.

Агонь людзей сланяў, штурхаў
І распасцёр над імі крылы,
І з крокваў рухнула страха
І ўсіх прыцiснула, прыкрыла.

Ад жаху зварухнуўся прысак,
Шкілеты з-пад яго ўстаюць,
Ідуць іх цьмяныя абрысы
І на руках дзяцей нясуць.

* * *

Людвісю ахапіла скруха:
Халодны пот умыў чало,
Рукой, нагою цяжка рухаць,
І цела зябнуць пачало.

«Каб мне хоць крышачку сагрэцца,
Не адубець, зубоў не сцяць.
О, трапяткое маё сэрца,
Вярні надзею да жыцця!

Мой сокал, ясны і крылаты,
Ляці, устаць я не магу...
Няўжо, няўжо грымяць гарматы
І набліжаецца іх гул?»

Людвісю гэты гул узрушыў,
І пульс затрапятаў жыццём.
«Устаць сябе я ўсё ж прымушу,
На бераг выйду азярцом.

Чарот і явар, расступіся,
І, хваля, вынесі мяне».
На бераг выплыла Людвіся,—
Усё нядобрае міне.

Ідзе знябытая дахаты,
Ступае ўсё смялей, смялей.
Бягуць савецкія салдаты,
І на душы святлей, цяплей.

На захад вораг уцякае,
Усе шляхі крывёй заліў.
Пагібель ворага чакае
На ўласнай на яго зямлі.

Трасцянка светлай хваляй льецца,
Не зачарпне слёз горкіх коўш.
Гады ліхога ліхалецця
Не вернуцца ніколі больш.

* * *

Палалі сэрцы соцень тысяч
На страшным вогнішчы вайны.
Хацеў я з сэрцаў іскры высеч,
Каб не пагаслі век яны.

*Красавік, 1959 г.*

# *Казка*

---

## НА БАБРЫЦЫ

### I

Каля вёскі Баравіцы
З светлай, чыстае крыніцы
Бегла рэчанька Бабрыца
У імклівы, светлы Нёман
Пад зялёны гоман кленаў.
На Бабрыцы той увосень,
Калі поплаў чыста скосяць
І асенні дождж марусіць,
Сее часта, як у сіта,
Адпачыць любілі гусі
Ўсёй сваёй гусінай світай.
Узляталі, гагаталі
Па-над хваляй, па-над вірам,
Адлятаючы ў вырай.
А зімой пад снегам-пухам
Пульс яе Мароз-дзед слухаў.
Пад пахілаю вярбою
Біўся пульс жывой вадою.
А вясною, у разводдзе,
Крыгі ходзяць-карагодзяць.
У разводдзе, у паводку,
Чаўнакі і нават лодкі
Наўздагонкі, ўперагонкі
Плешчуцца на хвалях сініх
Пад вясёлы крык гусіны.
Ўлетку рэчанька святлее,
Быццам песня, хвалі льюцца,
І гарлачыкі-лілеі
Ў поўдзень сонечны смяюцца.

А баброў у вечар сіні
Лозы, вербы і асіны
Запрашаюць шумам лісцяў
На зялёны бераг выйсці.
Колькі чыстае вадзіцы
Ні насіце, ні бярыце,
Наша рэчанька Бабрыца
Не мутнее, не мялее,
Толькі хваляй весялее.

II

Працавітыя бабры,
Плытагоны, цесляры,
Уставалі на зары,
Бралі пілы, тапары,
З самай ранняе вясны
Адыходзілі яны
На будоўлю і на сплаў.
Вецер хвалі ціха слаў
І павольна гнаў плыты,
Промень сонца залаты
Усміхаўся праз кусты.

На Бабрыцы трэск і стук:
Сотні лап — калматых рук
Не паціху, не памалу
Плыт за плытам па каналу
Асцярожна ўніз спускалі,
Не наскочыў каб на скалы,
Не засеў бы на адмелі,—
Словам, гнаць плыты умелі.

Кіравалі, рулявалі —
Толькі гойдаліся хвалі.
Не пужаў ні вір глыбокі
І ні стрыжань сінявокі.
Ў сплаве лад бабры вялі,
І плыты плылі, плылі.

У плаціну на хаду
Ўпоперак, не ўздоўж ракі,
Спрытныя бабры кладуць
Дуб дзябёлы і цяжкі,

Каб ні хвалі не размылі
І ні крыгі не разбілі.

Працавалі талакою;
Толькі гоман над ракою.
У баброў — адзін за ўсіх,
Як за родных, за сваіх,
А усе — за аднаго,
Як за роднага, свайго.
Многа сіл бабры паклалі,
Ды плаціну збудавалі.

Вырасталі ўвесну хаткі.
Колькі спрыту і здагадкі
Ў бадаўніцтве на Бабрыцы,
Каля вёскі Баравіцы!

І не з выспы, і не з крыгі
Бервяно любое мігам
На сваіх гарбатых спінах
На сцяну бабры ускінуць.
І, трымаючы абапал
У сваіх цяслярскіх лапах,
Так пазы, вуглы падгоняць,—
Толькі стукні, так і звоняць.

Бервяно упол абняўшы,
Падае каманду старшы:

Яшчэ раз!
Гурт у нас,
Дружны лад
Ў сорак лап!

Яшчэ два!
Ход давай,
Падымай,
Лад трымай!

Яшчэ тры!
Ўпол бяры,
І глядзі,
І кладзі!

Дапасуй,
Падгані,
Не сапсуй
Ані-ні!

Яшчэ раз!
Лясь і плясь,
Вось якраз —
Паз у паз!

Покуль хатка, процьма зборкі:
Ставяць кроквы у распоркі
І рашэцяць — толькі рэха
Над Бабрыцаю і далей
Коціцца па сініх хвалях.
Гнуць пруткі і крыюць стрэхі.
Колькі радасці, уцехі!

Пар не менш, не больш за дзесяць
Лапамі глей топчуць, месяць
І тынкуюць глеем сцены
У святліцы і у сенях.
Да работы здатны, сквапны:
Беляць крэйдай, беляць вапнай,
Гэтак спрытна, гэтак складна.

Будавалі чыста, гладка,
І расла за хаткай хатка
Для малых і для дарослых,
Аж усім было зайздросна.

Ясны месяц над Бабрыцай
Плыў і паглядаў навокал.
Хто сягоння весяліцца,
Бачыў зверху ясным вокам.

На Бабрыцы, светлай рэчцы,
Уваходзіны у хаткі.
Радасць у баброў на сэрцы,
Плешчуць лапамі у ладкі.

III

І пайшла, пайшла бяседа
Ад суседа, да суседа.

З хлебам-соллю сустракалі
І паклоны нізка клалі.
Запрашалі, частавалі,
З песняй з-за стала ўставалі.
Тую песню хвалі неслі
Над Бабрыцаю-ракою.
Не расстацца век з такою!
І каціласе павольна
Ў свет шырокі і раздольны.

Госці з лесу, госці з рэчкі.
Ўсіх чакаюць нецярпліва.
На плаціне Міша крэкча:
Хоча мёду, хоча піва.
Каля Мішанькі таўстога,
Быццам козачкі ля стога,
Увіхаюцца Лісіцы,
Рыжаватыя сястрыцы,
Ўсім вядомыя хітрыцы,
Каб спіхнуць яго з плаціны,
Каб заблытаўся у ціне
І спазніўся на гасціны.

— Пакупайся, Міша, з намі.
Мёд на дне Бабрыцы ў збане.
Мы яго табе дастанем,
Пакупайся, Міша, з намі!

Бухнуў Міша у Бабрыцу —
Памуцілася вадзіца.
Не знайшоў ён збана
Там з духмяным мёдам.
«Ой, пагана! Як пагана!
Сорамна перад народам».

Міша з рэчкі вылез ледзь,
Бо вядома ўсім — мядзведзь.

Лось ідзе, здалёк рыкае,
Трошкі пройдзе, пачакае,

Бо за ім — яго Ласіха.
Ён рагамі, як рукамі,
Голле расхінае ціха.

А за імі з доўгім лычам
Дзік ідзе і жонку кліча:
— Хру-хру-хру!.. Хру-хру-хру!..
Жалуды усе збяру
І нікому не пакіну:
Жалуды смачней мякіны.

Ўсе дазналіся, пачулі
І Бабрыцу адшукалі.
Зайцы шэрыя, Казулі
З лесу-бору прыскакалі.
Нават час спадручны выбраў
І Бабёр з васпаняй Выдрай,
І прыйшлі з свае сялібы,
Каб адведаць свежай рыбы.

Толькі Воўк адзін сярдзіты
Не пайшоў:
нібы часу не знайшоў.
— Не хадзі ты, не хадзі ты,—
Ён наказ даваў Ваўчысе,—
На мяне глядзі, вучыся.
Барана не будзе, мусіць,
А скакаць і выць прымусяць.

Пачастункі, падарункі
Госці ўсе з сабой прынеслі.
З лісцяў лёгкія карункі
Развяваліся ў дзень весні.
Над Бабрыцаю ні хмаркі.

Адмысловыя кухаркі
Рыхтавалі госцям стравы,
Каб былі да смаку, густу.
Для Мядзведзя — мёду лусты:
У цукровых смачных сотах
Спеюць ягадкі-суніцы,
І у сне так не прысніцца.
З'есць з вялікаю ахвотай
І абсмокча нават пальцы
На сваёй касматай «лапцы».

Для Лася і для Ласіхі —
Для гасцей рахманых, ціхіх —
Хворaст крохкі і крамяны,
Нават крышачку румяны.

Для Зайцоў — пупышкі ў соку
На галінках, на высокіх.

А Лісіцам — госцям рыжым —
На талерцы срэбнай пеўня.
Дачыста з'ядуць, абліжуць
Ды яшчэ папросяць, пэўна.

Дзіку з жонкаю Дзічыхай —
Жалуды ў дубовай вазе.
Дзік зарохкаў жонцы ціха
І чакаць прылёг пад вязам.

А Бабру ■ васпаняй Выдрай —
Акунькоў жывых на блюдзе.
Кухар-шэф ім гэта выбраў,
Ведаў: сорамна не будзе.

Пачастункі і ласункі,
Нават абаранкі з макам.
Горы цэлыя прысмакаў!

IV

Там сталоў не накрывалі.
Пачастункі асцярожна
Расстаўлялі, раскладалі
На траве ўсё больш мурожнай,
На абрусе, на зялёным,
Пад шатрыстым дубам, клёнам.

Абышлося без прамовы.
Запрасілі шчырым словам
Частавацца, завіхацца.
Хопіць ежы і да ежы.
Веяў з рэчкі подых свежы.

Хто хапае, а хто ліжа.
Без відэльцаў і без лыжак

Бралі тое, што зручней,
Што па густу, што смачней.
Кожнаму ў сваім карытцы
Можна сёрбаць, можна рыцца.

Па Бабрыцы беглі хвалі,
Зелянелі травы, руні.
Госці доўга балявалі,
І прысеў Мядзведзь за струны.

Граць пачаў ён на цымбалах,
Хоць не так ужо і ўдала,
Але слухаць было можна.
Граў пакуль ён асцярожна
І пакуль не так знябыўся.
А як толькі з нотаў збіўся,
Лапай рэзнуў як папала —
Раскалоліся цымбалы.

Госці, ўзяўшыся у бокі,
Не спынялі свае скокі,
Запрашалі ў круг шырокі.
Словы ў песню укладалі
Мілагучнымі ладамі:

— Ой, Ласіха! Ой, Ласіха!
Не глядзі, што Лось твой ціхі.
Паглядзі, як скачуць ногі,
Аж трасуцца мае рогі.

— Лось мой зграбны, Лось мой статны,
Да работы, скокаў здатны.
Ад цябе я не адстану
Сваім тонкім, лёгкім станам.
Я не ведаю знямогі,
Падхапі мяне на рогі!

— Ой вы, Ліскі, мае кумкі,
Вечар блізка, звяжам клункі.
Пойдзем, знойдзем свае струны
За плацінай, каля пуні.

— Ой, кумок, мок ты, мок,
Не сагрэцца, зябне сэрца.
Дзе ж твой мёд, хоць без сот?

— Пад плацінаю, у збане,
Аж дагэтуль казку бае.

— Ты гатова вочы выдраць,
Як табе і дагадзіць?
І чаму з васпаняй Выдрай
Мушу ў госці я хадзіць?

— Што я чую? Вось дык словы!
Пэўна, гэта не Бабровы.
Прыкра быць са мною разам.
Ці ты хворы, ці ты блазан?

— Паглядзі які.
Хто такім зрабіў?
Белыя клыкі,
Сам увесь рабы.

— Сук зламаўся крохкі
На сваю бяду.
Рохкай, Дзік мой, рохкай,
За табой іду.

— Як жа не смяяцца
І табе і мне:
Скачуць, скачуць Зайцы,
А Зайчыхі — не.

— Спрытныя Казулькі,
Не саромце нас...
Ручаёк забулькаў,
Час дахаты, час.

* * *

На ўваходзінах я быў,
Аж дагэтуль не забыўся,
Мёд і квас салодкі піў,
Весяліўся, не знябыўся.

Не дагнаць Бабру Лася,
Вось і казка наша ўся.

*Кастрычнік, 1958 г. Дом творчасці «Караліщчавічы».*

# *Пераклады*

*Арвідс Грыгуліс*

## РАМУЦІ Ў ГОРАДЗЕ ЧУЖЫМ

Заву тваім я імем ліст асенні,
Сняжынку, што на твар спадае мой.
Змаўкае дзень і ў зорным мігаценні
Хачу убачыць ясны зрок я твой.

Здалёк прыходзіць, адыходзіць вецер:
То подых твой лёг на чале маім.
Што ты сказала, не пагасла, свеціць,
Нашу у сэрцы штодзень я сваім.

Пра свой народ ты расказала чула,
Я ў словы верыў гэтыя твае.
Табе я — пра Даўгаву і Гаўе,
Пра сонца, над Радзімай што ўстае.

Ўзыходзілі мы после доўгай ночы
Каля старога замка на гару.
На ўскрай палёў глядзелі нашы вочы,
Яснела неба ў гэтую пару.

Ты адышла, а я адзін застаўся.
І адчуваў, як хмурны дождж імжыць.
Табе сказаць забыўся, хоць збіраўся,
Пра дарагое самае ў жыцці.

Ўцякала сцежка светлай маладосці,
Самотнай рэйкай бегла ўдалячынь,
І мне гукнуў з варот жалезных хтосьці:
Сваім ты шляхам пойдзеш зноў адзін.

*Марта Барбале*

## ДЗВЕ СКРЫПКІ

Сваю крануў — мая затрымцела,
Адчулі, як сэрцы суладна звінелі.
Наш шлях прасторны, туманы не засцяць,
Ляціць, як івалга, нашае шчасце.
Нас вабілі гукі скрыпкі у далі,
Каханню сэрцы песню аддалі.

Кранула я сваю — твая заспявала,
Як наш ручаёк той празрыстаю хваляй,
Як тая ноч на світанні у жніўні,
Як замець смехам снежаньскім дзіўным.
Але мы ўбачылі — мчаць каханне ў мора
Струмені, дзе мы кінулі зоры.

Учора зноў пачула я дайны,
Паўсталі малюнкі ў шэлесце даўнім.
Шукала скрыпку, якую згубіла,
Спявала, ты заставаўся маўклівым.
Адчула: азяблі словы, што грэлі,—
Забыцца, не ўсплывалі каб трэлі.

Не спяваюць, ржавеюць дзве скрыпкі,
Любы дружа дзвярамі не скрыпне.

*Еранім Стулпан*

## РУКАВІЦЫ

Рукі пралі ніткі тонкай пражы,
У кожнай нітцы матчына цяпло.
Рукавіцы лёгкія з іх вяжа,
Бо жыццё такім цяжкім было.

Абмінала шчасце-скнара хаты,
У скібы зелле сеяла ўначы.
І без хлеба ты была багатай,
З родным сынам разам жывучы.

Ў рукавіцах шмат цяпла,—
Сцюжным шляхам павяла
Сына ты свайго.

У кайданы рукі закавалі
Сыну і сціскалі ўсё мацней,—
Не схіляўся ён у час навалы:
«Мама, толькі ты не плач, міне».

Доўга, доўга не мінала гора,
Коратка сядзелі за сталом;
Штодзень працы выраслалі горы,
І за імі вораг краўся ў дом.

Ў рукавіцах шмат цяпла,—
Ратным шляхам павяла
Сына ты свайго.

Ў завірусе бітвы ў час нядолі
Рукавіц жар цёплы саграваў.
Адстаяць радзіму сын твой здолеў,
А цябе ніяк не ўратаваў.

Не парвала ніткі навальніца,
А парвала пульс гарачы твой,
З раны кроў цякла у рукавіцы,
Не адмыць крыві нікому той.

Ў рукавіцах шмат цяпла,—
Шляхам праўды правяла
Сына ты свайго.

*Валія Брутане*

## СЕРАБРЫСТАЯ АСІНА

З краю поля дом-святліца,
Ціхі двор дзіцячых дзён.
Ноч і змрок ў галлі імгліцца,
Гоніць прэч асіна сон.

Прачынаецца Радзіма,
Ранак працы у жыцці.
Поўдзень ясны, як надзіва,
А асіна ўсё трымціць.

Скардзіцца на долю дайна:
Быў цяжкі народны лёс.
Шалясціць асіна дбайна,—
Сонца новы час прынёс.

Шэлест, быццам акавіта,
Па галінках ён ідзе.
Чалавек наш прагавіта
Мкнецца ў заўтрашні свой дзень.

Прыйдзе вольная часіна
После працы йдзем туды,
Дзе срабрыстая асіна
Цешыць шумам маладым.

# Крытычныя артыкулы

## ТРАПЯТКОЕ СЭРЦА ПАЭТА

Сіні ранак. Паветра свежае і чыстае — хочацца дыхаць на поўныя грудзі. Вы чуеце песню, якая кліча і чаруе вас сваёй мелодыяй. Яна кранула ваша сэрца і сагрэла яго.

Вось так сталася са мной, калі я прачытаў новы зборнік вершаў Аляксея Пысіна «Сіні ранак»*.

Захапляе непасрэднай і шчырай паэзіяй верш «Рэха». Разам з паэтам не адзін з нас успомніць гады свайго далёкага ці блізкага, але дарагога маленства:

Мы свет нанова адкрывалі,
Калі маленькімі былі.
У буйным жыце прожмы рвалі
І бульбу ў прысаку пяклі;
Даследвалі наліў арэхаў,
Шаптанне лоз і смак суніц,
А цуда з цудаў — гэта рэха
Ў вячэрнім лузе ля крыніц;
Каго, каго тады гукалі?
Напэўна, шлях мы свой шукалі.

Адышло непаўторнае маленства, і таму пакаленню, да якога належыць і сам паэт, выпалі ў жыцці суровыя і цяжкія выпрабаванні вайны.

Мы маладосцю баранілі.
Усё, ў што верылі, любілі.

Але мінулі і гэтыя грозныя гады, і ўсё ж успаміны маленства застануцца дарагімі для чалавека на ўсё жыццё:

Я ведаю: не пройдзе міма
І старасць са сваім кійком,

* А. Пысін. Сіні ранак. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1959.

Душы захочацца ўспамінаў,
Падыхаць ранішнім дымком.
Тады наведаць давядзецца
Вячэрні луг каля крыніц.
Мне там маленства адгукнецца,
Пачую даўні пах суніц,
Шаптанне лоз, апад арэхаў,
І ўсё, што мне напомніць рэха.

Як непасрэдна, шчыра, чалавечна і псіхалагічна праўдзіва.

Маці... Колькі напісана пра яе, самага блізкага, дарагога і роднага чалавека. Не пакіне маці дзяцей сваіх у цяжкія для іх хвіліны. Дзеці — радасць яе жыцця. А. Пысін у вершы «Ручнікі» стварае вобраз маці-беларускі:

Вышывала маці... У руках,
Як вясёлкі, ніткі мільгацелі.
Клаліся на белых ручніках
Роднай нівы фарбы і адценні.

Расцвіталі ружы і ляны
Ў непаўторных веснавых узорах.
Уплята́ліся напевы, сны,
Промні сонца і далёкіх зорак.

Дочкі і сыны ў жыццёвы шлях
Гэты дар — благаслаўленне брал і;
Ў партызанскіх баравых лясах
Ручнікі на ранах абгаралі.

Да вобраза маці паэт яшчэ звяртаецца і ў вершы «Дарога». Выпраўляе маці сына ў салдаты. Праўда, мы не чуем ні галашэння, ні прычытанняў, бо гэта было б і ненатуральна для нашага часу, але ўсё ж матчына сэрца ахоплена непакоем.

Дарога, дарога якая
Ў свет сына далей павядзе?

Адгрымела Айчынная вайна, а суровая і мужная паэзія тых гадоў засталася. Я заўсёды з глыбокім хваляваннем чытаю яе творы. І П. Панчанка, і М. Танк, і П. Глебка, і П. Броўка, і А. Куляшоў, і шмат іншых паэтаў пісалі свае вершы і паэмы па гарачых слядах вайны, калі крывёй сцякала зямля, калі незагойныя раны спынялі пульс сэрцаў. Да гэтай тэмы звярнуўся і А. Пысін, і ён не паўтарае сваіх папярэднікаў: яго голас гучыць выразна і па-свойму.

На маю думку, «Проня» — адзін з найлепшых вершаў паэта на ваенную тэму.

Я вольная рэчка на вольнай зямлі,
І чыстымі хвалі заўсёды былі...

Як толькі ні намагаліся чужынцы, каб спыніць жыццё, спыніць светлую плынь ракі! Прыгналі і танкі, і коней, «ваду ўсё муцілі ды кпілі над Проняй», што больш няма ўжо чыстае плыні.

Няпраўда, ёсць многа крыніц пада мною
З празрыстай, чысцюткай, як слёзы, вадою.

І тады —

Кідалі чужынцы на плёсы і тоні
І бомбы, і толу грымучага тоны.

Але ўсё дарэмна і марна — не атруцілі, не спынілі яе жывой вады:

...Ішлі мы паходам на захад тады,
І Проня дала нам напіцца вады.
Была яна светлай да самага дна,
І сонца, і неба адбіла яна.

Лірычны герой вершаў такі блізкі і родны самому паэту, здаецца, што поплеч крочылі яны гвардзейскімі дарогамі ў час вайны, разам перамагалі ўсе цяжкасці і перашкоды. Глыбока і балюча раніць іх сэрцы страта франтавога сябра, які знайшоў апошні прывал «між сосен вечных»:

Здаецца, чую голас твой,
Здаецца, бачу твае ўсмешкі.
Зялёныя іголкі хвой
Праз сэрца падаюць на ўзмежкі.

Народ памятае сваіх сыноў-герояў, шануе іх светлую памяць. Аб славе партызанскай шумяць па-над Сожам дубы; імем Ісачанкі, партызанскага важака, названы цеплаход, які робіць рэйсы па Сожы. Цёпла і задушэўна аб гэтым піша паэт у вершы «Цеплаход Ісачанка».

Паэт з глыбокай пашанай ставіцца да людзей працы. Ім ён прысвяціў свае цудоўныя вершы «Імя», «Паром», якія гучаць гімнам працы простых людзей.

Тэме працы прысвечаны вершы «Жорны», «Магілёўскія дзяўчаты» і «Наборшчыцы». Апошні паэту менш удаўся, але пра гэта скажам крыху пазней.

Вельмі добра, што паэт, а разам з ім і яго лірычны герой, не страціў сувязі з сваімі роднымі мясцінамі, ён іх любіць наведаць, шчыра ад сэрца прывітаць:

Край бацькоўскі, раўнінна-гарысты,
Аніколі цябе не мінеш.
Ты лістком, ты расінкаю чыстай
І дымком сваім сэрца кранеш.

Есць у зборніку вершы, у якіх прырода спалучаецца, зліваецца з працай чалавека. У вершы «Снег бялюткі, снег пушысты» дадзена замалёўка ранняй зімы і вобраза дзяўчыны, што першай па чыстым снезе праклала сцежку да крыніцы пад вербамі, зачарпнула поўныя вёдры «звонкай ранішняй вады». Паэт дзяўчыну з вёдрамі вады на каромысле малюе, як мастак-жывапісец:

Хоць каромысел і гнецца,
Выгінаецца дугой,
Ды не плёскае вядзерца,
Цераз край на дол не льецца
Ані кропелькі адной.

Можна падумаць, што паэт нічога асаблівага не сказаў сваім вершам. Было б гэта так тады, калі б ён у апошняй страфе не зрабіў добрага абагульнення, якое надало вершу глыбокі сэнс:

Свайго шчасця не расплешча,
У бядзе не схіліць плеч.

Паэт славіць прыроду не толькі за яе хараство, але і за тое, што ў грозны час вайны яна была надзейным сябрам баявым:

...У час той грозны,
Калі вораг напіраў сцяной,
Баранілі нас дубы і сосны
І прымалі разам з намі бой.

Цікава, калі бяроза з'яўляецца ўлюбёным вобразам для шмат каго з нашых паэтаў, то для А. Пысіна такі любімы вобраз — дуб. Бяроза — увасабленне пяшчотнай жаноцкасці, а дуб — суровай мужнасці.

Хоць і суровыя ваенныя гады гартавалі характар паэта, гэтая асаблівасць усё ж не пашкодзіла яму застацца лірыкам, у самым добрым сэнсе гэтага слова, і ўславіць маладосць і радасць жыцця, жыццесцвярджальныя матывы шчыра і прыгожа гучаць у вершах «Кабардзінка», «Дзявочыя хусткі» і асабліва ў вершы «Усмешка». Гэта адзін з лепшых лірычных вершаў,

у якім так непасрэдна перададзена пачуццё юнацкага кахання.

У зборніку «Сіні ранак» выразна гучаць і патрыятычныя матывы, матывы дружбы народаў. Паэта хвалюе ўсё сваё, роднае, савецкае, і ён натхнёна славіць яго. А. Пысін — наш сучаснік, ён радуецца дасягненням нашай навукі і тэхнікі. Запусцілі мы першую касмічную ракету ў міжпланетныя прасторы, і паэт у вершы «Да сонца» ўсхвалявана славіць яе, шчыра жадаючы, каб касмічная ракета несла між планет наш Серп і Молат. І «Сіні ранак» ледзь паспеў выйсці з друку, як гэты Серп і Молат данесла на Месяц новая ракета. Як цяжка бывае нават песні ўгнацца за нашым імклівым часам!

Ёсць у зборніку вершы і з філасофскім зместам, такія, напрыклад, як «Роздум». Мы адчуваем, як у вершах б'ецца трапяткое сэрца паэта, якому няма шчасця без роднай зямлі. Вось чаму паэт у вершы «Вузел» меў поўнае права сказаць:

Адно я знаю: гэткі меч
На свеце не скуецца,
Каб мог ён вузел мой рассеч,
Не закрануўшы сэрца.

І як пасля гэтага шкада, што паміж добрых вершаў сустракаюцца творы тэматычна дробныя і слабыя ў мастацкіх адносінах. Для прыкладу возьмем верш «Сланечнік». Дарэчы, заўважу: сланечніку за апошнія гады пашанцавала ў нашай паэзіі, шмат хто з паэтаў захапіўся яго хараством, не ўстрымаўся і А. Пысін і напісаў, як і многія, няўдалы верш.

Паслухайце:

З двара на ганак вынеслі дзяўчаты
Сланечнік круглы, быццам круглы стол.
Вылушчваюць даспелыя зярняты
І шалупінне кідаюць на дол.

Шкада, што здольны паэт такі верш змясціў у сваім зборніку.

Кампазіцыя большасці вершаў зборніка стройная, тэма развіваецца паслядоўна, але ёсць і паасобныя творы, дзе гэтыя якасці адсутнічаюць. Возьмем верш «Наборшчыцы», які ўпамінаўся ўжо. Пачаўшы з наборшчыц, паэт захапіўся газетай, і вось піша такімі агульнымі словамі:

Кагосьці трэба падбадзёрыць,
Кагосьці — сцебануць радком;

Газета з кожным земляком
На мове роднай пагаворыць.

І далей няўдалая асацыяцыя:

Сяброўкі даўнія ў калгасах
Ідуць палоць
І жыта жаць;
Прад імі у наборных касах
Шрыфты гранёныя ляжаць.

Кампазіцыйнай друзласцю вызначаюцца і такія вершы, як «Вяснянкі», «Будзільнік», «Дочкі», «Твае прыкметы» і некаторыя іншыя.

Культура вершаў у зборніку на ўзроўні нашай сучаснай паэзіі. Паэт адчувае хараство паэтычнага слова, умее карыстацца мастацка-выяўленчымі сродкамі паэзіі. Ён патрабавальна ставіцца да рыфмы, якая надае вершам добрае гучанне. Рыфмы разнастайныя — складаныя, паўнагучныя, асанансавыя.

Шкада, што з-за рыфмы паэт часамі недаравальна перастаўляе націскі ў словах, напрыклад, дажджом — над Сажом.

Вялікі шлях прайшоў лірычны герой паэта. Бачыў ён і радасць, і бяду, шмат перажыў чаго на жыццёвай дарозе. Але ён не стаміўся і да сталых гадоў захаваў па-юначы трапяткое пачуццё.

Пад гарою хваля плешча,
Над гарой шумяць сады.
І смялей бярэш на плечы
З ношаю гады.

Такім ён і ўяўляецца чытачу зборніка вершаў А. Пысіна «Сіні ранак».

[*1959 г.*]

## МАЛЕНЬКІМ ЧЫТАЧАМ

У мінулым годзе Станіслаў Шушкевіч выдаў новы зборнік для дзяцей «Сарочы цярамок». Зборнік пачынаецца вершам «Зноў вясна», які пераклікаецца з вер-

шам з «Лясной калыханкі» «Красавік прыйшоў з пралескамі», і нібы гаворыць, што паэт прадаўжае пачатую размову аб прыродзе.

Вершы ў «Сарочым церамку» размешчаны як бы ў храналагічнай паслядоўнасці : ахопліваюць сабою ўсе поры года — ад вясны да зімы. У кожнай пары года паэт бачыць сваё хараство, сваю паэзію. У некаторых вершах відаць добрая паэтычная назіральнасць аўтара.

Вось, як жывы,

На развіліне дарог —
Страшны, злы чартапалох.
На ім церні, як агні,
Не даткніся, не крані.

Але паэт не толькі апісвае прыроду. Ён славіць працу, якая змяняе прыроду. Ён гаворыць, што лета — гэта не толькі пара хараства, красы і весялосці ў прыродзе, але і час клапатлівай працы.

Вельмі добра, што паэт не назаляе, не павучае, а сваімі сціплымі мастацкімі сродкамі паказвае хараство нашай стваральнай працы. Героі яго вершаў любяць працу, але таксама ўмеюць весяліцца, скакаць, жартаваць.

Зусім як на сапраўднай вечарынцы скачуць муха і камар пад свой жартаўлівы дыялог:

Патрасуху скача муха,
А камар бубніць на вуха:
— Дзякуй, муха, за тое,
Што мы скачам абое.

Ах, бадай цябе пярун,—
Кажа муха камару,—
Не танцуеш, а кульгаеш.
Мне на пальцы наступаеш.

Ёсць у кніжцы і драматычныя замалёўкі («Павучок-мухаед»). «Павучок-мухаед злавіў муху на абед» і збіраецца ўчыніць над ёй расправу:

Точыць нож павук,
Аж сагнуўся ў крук.

І раптам шчаслівая развязка:

Мушка скокнула,
Вязка лопнула,
Аглянуўся мухаед —
Паляцеў яго абед...

Цёплым спачуваннем і гумарам вее ад верша «Пракалоў камарык ножку».

Даўно вядома, што дзецям падабаюцца вершы сюжэтныя, дынамічныя, з выразнымі, яскравымі малюнкамі. Якраз гэтымі асаблівасцямі і вызначаюцца лепшыя вершы Станіслава Шушкевіча. Аўтар умее паэтычным словам стварыць запамінальны вобраз (бусел Клёка-Клёкала, жаба Квока-Квокала).

Трапныя параўнанні, метафары і эпітэты дапамагаюць аўтару ствараць выразныя карціны. Шушкевіч патрабавальны не толькі да паэтычнай выразнасці сваіх вершаў, але і да іх гукавой інструментоўкі. І ў гэтым дачыненні я не памылюся, калі скажу, што С. Шушкевіч прадаўжае традыцыі народнай паэзіі.

Рыфма ў вершах паэта дапамагае лепш данесці галоўную думку твора, вучыць адчуваць прыгажосць роднага слова.

Вось, напрыклад, некалькі ўзораў паўнагучных рыфмаў:

Спяць тваё малышы,
Іх люляй, калышы.
— Ты такі! Ты сякі! —
Крычыць драч з асакі.

А камарык невялічкі
Абувае чаравічкі.
Прысеў цвыркун на прыпечку,
Узяў смычок і скрыпачку.

А якія асанансы:

Вось абед вам смачны —
Крыху кашы ячнай.
Брус на падаконніку
Гладкі, жоўты, роўненькі.

Аднак нельга сказаць, што ўсе вершы дасканалыя. Так, напрыклад, верш «Пчала і кветка» не новы і па тэме і па свайму мастацкаму вырашэнню. Або возьмем верш «Гыля, гыля, гусачкі», які пачынаецца так празаічна ды яшчэ і не зусім пісьменна:

Пранізае холад навылёт.

Трэба сказаць, што часамі аўтар і націскі ў словах ставіць не на тым складзе, дзе трэба:

Аж падняла павучка.

Увогуле ж зборнік «Сарочы церамок» — каштоўны падарунак для дзяцей малодшага ўзросту.

[*1960 г.*]

## «ДАРОГАЮ ВЯСНЫ»

У другой палове 20-х гадоў на старонках камсамольскага друку з першымі вершамі выступіў С. Шушкевіч. Яго паэтычны голас таго часу толькі рабіў спробу гучаць па-свойму. У тыя ж гады выяўляецца і сатырычны ўхіл паэта. Частка ранніх вершаў была выдадзена асобным зборнікам у 1934 г. І вось праз дваццаць пяць гадоў паэт выдае новы невялічкі зборнік «Дарогаю вясны», у якім сабраны вершы, напісаныя пераважна ў 1956—1958 гадах.

Чытаючы вершы гэтага зборніка, адчуваеш, што паэт піша пра тое, што ім перажыта, што яго хвалявала, чым ён быў глыбока ўзрушаны. Паэтычная форма, культура верша сталі больш дасканалымі.

Хто з нашых паэтаў не прысвяціў вершаў Мінску?! Прысвяціў і С. Шушкевіч. Верш «Мой горад» напісаны ў ліра-эпічным плане; асноўны кампазіцыйны прыём верша — антытэза: старому, дарэвалюцыйнаму Мінску супрацьпастаўлены новы Мінск, наша цудоўная сталіца. Вельмі выразна замалёван стары Мінск: мы чуем, як «па Мінску імчыцца і бразгае звонка завулкамі цеснымі цесная конка», мы бачым Нямігу «ў шыльдах, як латках», крамнікаў, жабракоў каля касцёльнай брамы і сінагогі, катрыншчыка, прыстава...

І гэты шэры малюнак старога Мінска дапаўняе самае тыповае для дарэвалюцыйных гарадоў:

На замку астрожным
арол двухгаловы
Жалезную браму узяў
пад ахову.

Усё мінулае назаўсёды адышло ў нябыт, і ўстаў пад сонцам новы Мінск, сталіца наша, і лірычны герой усхвалявана звяртаецца да роднага горада, як сын і будаўнік, яго маналог гучыць радасным гімнам у гонар Мінска-сталіцы:

На Ленінскай плошчы —
мінчанін, не госць я,
Тут ярка палае агонь
маладосці
Маёй шматмільённай
вялікай Айчыны.
Тут Ленін — наш светач,
наш светач адзіны,

І герб наш у сонца
праменнях іскрыцца.
Дзень добры, мая
дарагая сталіца!

Аб цяжкім і гаротным сялянскім жыцці ў мінулым паэт з болем у сэрцы расказаў у вершах «Росы» і «Крушня».

Ад нізкі вершаў «Дні майго маленства» павявае подыхам першых гадоў рэвалюцыі. Рэвалюцыя прынесла ў жыццё тое новае, радаснае, што так узрушана адчувае лірычны герой-падлетак, равеснік паэта. Ён не можа ўседзець у хаце, пачуўшы, як салдаты і матросы спяваюць на вуліцы песні:

Мама родная, апоркі
дай!
Не дасі, на снег я выйду
босы,
Дык пусці, матуля!
Не трымай!
Чуеш, як пяюць салдаты
і матросы...

З вялікім душэўным узрушэннем чытаем мы вершы С. Шушкевіча з нізкі «Дзе льецца шумна Ангара». Ва ўсіх іх б'ецца трапяткі і гарачы пульс, які вырываецца з глыбіні сэрца і душы паэта.

На Ангары найвялікшае будаўніцтва нашага часу, і паэт у вершы «Ангара прачынаецца» ўдала спалучае абуджэнне Ангары ў часе веснавога разводдзя з пачаткам грандыёзнага будаўніцтва.

Лірычны герой зачараваны нязвыклым хараством ангарскай прыроды, і гэта мы бачым у вершы «Я тая, пра якіх складаюць казкі». У вершы «Чарадзейны шукаю настойліва ключык» паэт стварае вобраз нястомнага разведчыка-геолага. У яго надзейныя сябры — малаток, і кайло, і лапата. Ён з імі смела ўзыходзіць на хрыбты аж пад зоры, з імі смела ідзе ў цясніны, пячоры з адной запаветнай думай: чарадзейны адшукаць ключык, каб ім адамкнуць нетры Радзімы.

І мы верым у чалавечую шчырасць простых і задушэўных слоў лірычнага героя.

Разам з паэтам пасталеў і яго лірычны герой, і хоць «выпаў белы снег на скроні» і «пэўна, не растане», але яму ўсё яшчэ адклікаецца рэха шчасцем маладосці. Вось чаму ён і заяўляе: «на парозе села восень, а ў мяне вясна ў хаце», «і як мне сэрцу не паверыць, што зноў

вярнулася юнацтва». Хочацца пабегчы босым сцяжынкаю праз сад за вёску.

Каб назбіраць расістых
    кветак
І на акно букет
    паставіць,
І каб жыццё няспынна
    гэта
З усімі разам вечна
    славіць.

Любоў да жыцця і жаданне разам з народам вечна славіць яго — каштоўнейшая якасць паэзіі С. Шушкевіча.

[*1960 г.*]

## НЕЗАБЫЎНАЕ

Ян Райніс для латышскай літаратуры значыць тое самае, што для рускай — Някрасаў, польскай — Міцкевіч, украінскай — Шаўчэнка, беларускай — Купала, шатландскай — Бёрнс. Яго імя належыць да ліку тых выдатных імён, што з'яўляюцца нацыянальнай славай сваіх народаў і разам з тым належаць да славутай кагорты мастакоў, чые імёны з глыбокай пашанай вымаўляе ўсё прагрэсіўнае чалавецтва.

У маладосці, калі выйшлі ў свет мае першыя тры невялічкія зборнікі вершаў, мне пашчаслівілася ў Мінску пазнаёміцца і гутарыць з незабыўным Янам Райнісам. У лістападзе 1926 г. адбылася выдатная гістарычная падзея ў культурным жыцці маладой Савецкай Беларусі. У Мінску сабраліся на акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу і алфавіта мовазнаўцы. Было многа гасцей з суседніх краін і між імі — лепшы сябра беларускага народа, вялікі латышскі паэт-грамадзянін Ян Райніс. Удзельнікамі гэтай канферэнцыі былі многія беларускія пісьменнікі, у тым ліку і аўтар гэтых радкоў. Успамінаецца ўрачысты вечар адкрыцця канферэнцыі ў клубе імя Карла Маркса. У прэзідыуме, за ўрачыстым сталом, паміж прад-

стаўнікамі партыі, урада, правадзейных членаў Інбелкульта і гасцей сядзелі поплеч Ян Райніс і Янка Купала — народныя песняры Латвіі і Беларусі.

Я не мог адарваць вачэй ад вялікіх чарадзеяў народнага слова, якія ў сваіх творах выявілі думы, спадзяванні народаў. У памяці маёй усплылі радкі з верша Янкі Купалы «За ўсё»,— я пра сябе паўтараў іх і думаў у гэты ўрачысты момант: як яны стасуюцца і да Купалы, і да Райніса. Вось гэтыя радкі:

Я адплаціў народу,
Чым моц мая магла:
Зваў [redacted] путаў на свабоду,
Зваў [redacted] цемры да святла.

Мы нецярпліва чакалі выступлення Яна Райніса. І калі старшыня аб'явіў, што слова для прывітання мае Ян Райніс, зала загрымела бурнай авацыяй, сардэчна вітаючы народнага песняра Латвіі. Да кафедры энергічнай і лёгкай хадой падышоў Ян Райніс, лысаваты, з мудрым высокім ілбом, [redacted] белай клінападобнай бародкай, з ветлівымі і гарачымі вачыма. Воплескі несціхана грымелі. На твары Райніса заўважаліся хваляванне і шчырая падзяка за сардэчнае вітанне яго савецкімі людзьмі на вольнай беларускай зямлі. Я назаўсёды запомніў, з якой цеплынёй Ян Райніс гаварыў аб тым, што ён нарадзіўся ў Латгаліі, дзе з латышамі ў дружбе жывуць беларусы, што ў маленстве ён сябраваў з беларускімі хлапчукамі, вучыўся ад іх беларускай мове, што ў юнацтве і пазней з захапленнем і вялікім замілаваннем слухаў і латышскія дайны, і народныя беларускія песні, што яны, як і народнае жыццё, былі адной [redacted] жыватворных крыніц яго творчасці.

«Беларускія дзеці, як і бацькі іх,— кемлівыя, дапытлівыя і здольныя, а таму я глыбока веру ў вялікую і светлую будучыню беларускага народа»,— гэткімі добразычлівымі словамі закончыў прамову Ян Райніс.

У час знаходжання ў Мінску ён праяўляў жывую цікаўнасць да ўсяго і асабліва да беларускай літаратуры. Яго здзіўляла, што ў Беларусі ў той час выдавалася аж тры літаратурна-мастацкія і грамадска-палітычныя часопісы: «Полымя», «Узвышша» і «Маладняк», не кажучы пра іншыя масавыя перыядычныя літаратурныя выданні.

Ян Райніс прыняў запрашэнне беларускіх пісьмен-

нікаў сфатаграфавацца разам з імі. І мы зараз маем на памяць вядомае фота: Ян Райніс і Янка Купала сярод беларускіх пісьменнікаў. Былі тады зроблены і другія здымкі, якія я збярог і ў 1958 г. даслаў у Рыгу ў музей Яна Райніса.

Мінула больш трыццаці гадоў, але ніколі не забыць таго знаёмства і памятных сустрэч з Янам Райнісам. Тады, у дні акадэмічнай канферэнцыі, Ян Райніс знаёміўся з беларускай сталіцай, яе жыхарамі. Мы са Змітраком Бядулем зайшлі да паэта ў гасцініцу «Еўропа», каб запрасіць яго ў падарожжа па сталіцы. Ян Райніс сустрэў нас ветліва і цёпла і адразу пачаў дзяліцца ўражаннямі. Адчувалася, што гаворыць вялікі паэт сардэчна, шчыра, добразычліва, якому не толькі спадабалася братняя ад усяго сэрца беларуская гасціннасць, але ўсё, што зроблена, што дасягнута за пяцьшэсць гадоў у культурным будаўніцтве ў Савецкай Беларусі.

Мы паехалі на машыне па Мінску. У нас не было загадзя падрыхтаванага плана знаёмства з горадам. Аўто памчала нас па Ленінскай вуліцы і звярнула на мост цераз Свіслач на вуліцу Варашылава. Гэта ў тыя гады быў, можна сказаць, адзін з індустрыяльных цэнтраў сталіцы — у канцы вуліцы знаходзіўся металургічны завод, цяперашні імя Кірава. Ян Райніс уважліва ўглядаўся ў дымныя каміны завода і разам з намі быў рады, што завод працуе на ўсю магутнасць. За чыгуначным палатном шумеў бор. Праехалі колькі кіламетраў, любуючыся мінскім пейзажам позняй восені.

Потым мы паехалі ў Беларускі дзяржаўны універсітэт.

«Стары Мінск не меў вышэйшай школы, а малады, савецкі Мінск мае універсітэт,— заўважыў, звяртаючыся да нас, Ян Райніс.— Цікава, які кантынгент студэнтаў?» Мы адказалі, што пераважна вучыцца рабочая і сялянская моладзь, а таксама інтэлігенцыя.

«Як жа рабочая і сялянская моладзь здолела падрыхтавацца, каб паступіць і вучыцца ва універсітэце?»

«Пра гэта паклапацілася наша савецкая ўлада,— адказалі мы.— Справа ў тым, што ў нас адкрыты рабфакі з навучальнай праграмай сярэдняй школы. Яны і рыхтуюць рабочую і сялянскую моладзь да паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы».

«Гэта вельмі разумна, добра!» — сказаў паэт.

Мы адчулі глыбокую ўсхваляванасць душы Яна Райніса. Праз некаторы час аўто пад'ехала да гасцініцы «Еўропа». Дарагі госць падзякаваў за падарожжа, на развітанне моцна паціснуў нам рукі.

Гэта толькі ўрыўкі з успамінаў, якія захавала мая памяць пра вялікага латвійскага паэта Яна Райніса.

*1960 г., Мінск*

## ЯНКА КУПАЛА. ЗБОР ТВОРАЎ. ТОМ ЧАЦВЕРТЫ: «СОН НА КУРГАНЕ», «АДВЕЧНАЯ ПЕСНЯ», «НА ПАПАСЕ», «ПЕСНЯ АБ ПАХОДЗЕ ІГАРА», «ГАЛЬКА» (перакл.)*

Шкада, што Янка Купала пад творамі гэтага тома не паставіў дат. Даты якраз у гэтым выпадку рэч вельмі важная, бо яны дапамаглі б устанавіць у некаторай ступені позу аўтара да сваіх твораў, а так надзвычай цяжка, напрыклад, гаварыць аб оперы «Галька»[1] Уладзіміра Вольскага, якая, здаецца, у друку яшчэ нідзе не была і якую аўтар знайшоў магчымым, а мабыць, і патрэбным, выдрукаваць у 1928 г. Наогул цікава было б ведаць, у якую гэта паласу свае творчасці Янка Купала выбіраў гэткія творы для перакладу, калі мне здаецца, што яны ідуць у разрэз з агульнай накіраванасцю творчасці паэта. А можа, яна якраз адпавядае сучаснаму погляду паэта на паэзію, на шляхі яе развіцця, можа, ён у ёй знайшоў блізкае да свайго светаадчуванне? Акрамя таго, даты ў даным выпадку мелі б значны ўплыў і на выбар пункту погляду рэцэнзента, а адсюль і на ацэнку гэтых твораў: ці з'яўляюцца, скажам, яны жывымі мастацкімі арганізмамі, ці, можа, яны ўсяго помнікі з гісторыі нашай літаратуры, дакументы з паэтычнага архіва народнага паэта?

Аднак, нягледзячы на ўхіленне аўтара ад датавання сваіх твораў, усё ж вядома, што «Сон на кургане»[2], «Ад-

---

* Артыкул 1928 г., але ўключаны ў II том па той прычыне, што быў выяўлены пасля выхаду I тома.

вечная песня»[3] і «На папасе»[4] — творы нашаніўскай пары; «Песня аб паходзе Ігара»[5] з'явілася ў друку ў часы грамадзянскай вайны, пасля Кастрычніка,— гэта значыць твор нашых дзён; магчыма, што і пераклад «Галькі» зроблен у гады рэвалюцыйнага дзесяцігоддзя.

Мы звыклі з лёгкай рукі нашых крытыкаў успрымаць нашаніўскую пару і пару адраджэння як сінонімы, нягледзячы на тое, што ў словах «нашаніўская пара» куды менш зместу, як у словах «пара адраджэння»,— знаку роўнасці ні ў якім выпадку мы сягоння ставіць не можам. Што такое нашаніўская пара? Пэўны кругабег часу (1906—1915), звязаны з выхадам газеты «Наша ніва»[6], у які ажывіўся росквіт нашае паэзіі, якая галоўным чынам тужылася развязаць праблему нацыянальнага і сацыяльнага вызвалення. Бясспрэчна, што ў гэты кругабег паложан пачатак і пары адраджэння ў шырокім разуменні гэтага слова, але толькі пачатак. Нашаніўская пара замкнула сваё кола 1915 г., пара ж адраджэння толькі з кастрычнікавай рэвалюцыі перайшла ў новую фазу свайго сапраўднага росквіту, місія якога яшчэ далёка не закончана нават у БССР, ужо не кажучы пра Заходнюю Беларусь.

Калі мы называем нашаніўская пара, дык адразу ў нашым ваччу з паэтаў вырысоўваецца Янка Купала, як быццам ён вышэй на галаву за ўсіх сваіх сучаснікаў, па-за гэтай парою Янка Купала ўяўляецца менш выразна. Ды і не дзіўна, што так: ён жа быў на чале нашаніўскай пары, а разам з тым і ранняй пары беларускага літаратурнага адраджэння. Лёс нашага адраджэння іншы ад лёсу еўрапейскага адраджэння[7], або, сцісней кажучы, італьянскага. Не буду я ўдавацца ў аналіз гэтага пытання ў рэцэнзіі, толькі адзначу, што для італьянскага літаратурнага адраджэння характэрным з'яўляецца яго духоўная ўвязка з антычнай літаратурай, толькі яно не давала копій з класічных аўтэнтыкаў, а ўсяго ўспрыняло іхнюю меру апаэтызавання, унутраную гармонію, рэалістычныя тоны, жыццёвую мужнасць, а сокі, якімі яно кармілася, былі ■ нацыянальнай глебы. Таксама характэрна для паэтаў італьянскага адраджэння, што яны ў сваёй творчасці бачылі не пабочныя мэты, а якраз творча-мастацкія; гэта дало ім магчымасць стварыць і новыя формы, жанры, якія ляглі за аснову ўсяе еўрапейскай паэзіі. Даволі назваць у лірычным жанры Пятрарку, каб пераканацца, што

еўрапейская лірыка аж да Верхарна, а нават, можа, і пазней, знаходзілася пад яго ўплывам.

Беларускае ж літаратурнае адраджэнне свой лёс увязала не з антычнасцю, не з еўрапейскім адраджэннем, за выключэннем, праўда, М. Багдановіча, а з раснадаючымся расійскім сімвалізмам[8] ды з другараднымі польскімі паэтамі, адсюль яго і малакроўнасць. Яно не знайшло ў сабе мужнасці паўтарыць дантаўскіх слоў аб Гамеру: «Шануйце найвялікшага паэта, які ўзвіўся над другімі,быццам арол»,— прыстасоўваючы ўжо іх да Гамера, Дантэ і Шэкспіра. Гэтымі словамі я ніколі не хочу сказаць, каб беларуская паэзія дваццатага стагоддзя ў сям'і еўрапейскай была нейкай старамоднай, архаічнай. Якраз не, яна б была самай маладжавай ад усіх іх і самай жыццярадаснай, калі б выцякала з антычных крыніц, ■ не з забраснеўшых затонаў расійскай і польскай літаратуры.

Тры арыгінальныя творы IV тома Янкі Купалы напісаны паэтам у гады распаду сімвалізму, асабліва ў расійскай літаратуры, з якім Купала ўсё ж у нейкім сваяцтве быў і на змену якому ўжо ішоў акмеізм[9], ды не за гарамі быў і футурызм[10]. Праўда, купалаўскі сімвалізм — гэта не салагубаўскі, не Вячаслава Іванава. Сонца ў Купалы не салагубаўскае сонца, няма ў Купалы і столькі містыкі, як у Вячаслава Іванава, і не бачыць ён цераз яе іскупленння Беларусі. У Янкі Купалы свеарэалістычныя тоны ацяняе алегарычнасць. Светаразуменне Янкі Купалы не прадумана ў плане сімвалічным да яго лагічнага канца, а таму яго і светаадчуванне ўсё ж афарбована больш у рэалістычныя тоны. Паэтыку сімвалістых Янка Купала вызнаваў, дзякуючы чаму культуру беларускага верша ён узняў надзвычай высока; гэта мы бачым і ў памянёных вышэй рэчах, асабліва з гэтага боку яны заслугоўваюць вялізарнай увагі і цікавасці нат і ў сучасны момант.

Янка Купала ў гэтых сваіх рэчах выступае як драматычны паэт, але баюся я зараз прызнаць, што гэта купалаўскі жанр. Можа, ён яму не зусім удаўся таму, што гэтыя рэчы распрацаваны ўсё ж у плане сімвалічным, і таму ў іх страціўся найвялікшы герой, дзеючая асоба — чалавек; ён тут завэлюмаваны анімізмам і містыкай; можа быць, гэта давала большы ўзлёт творчай фантазіі паэта, якая ў некаторых месцах мяжуе з казачнасцю, але гэта перашкодзіла разгарнуць дзею

ў драматычнай роўніцы. Такі глыбокі змест і такі драматычны па сваёй пульсацыі мог быць аформлен у такіх яскравых і жыццёвых тонах, што можна было б паўтарыць гётаўскія словы пра Шэкспіра: «Нам здаецца, быццам мы стаім перад расхіненымі велічэзнымі кнігамі самога лёсу».

Праўда, у «Адвечнай песні» і «На папасе» перапляліся два планы: містычны і рэалістычны, і вось, дзе пераважае другі, тыя месцы выйшлі больш моцнымі па сваёй унутранай сіле і па сваім мастацкім пераконванні. У «Адвечнай песні» гэта будуць месцы, прысвечаныя працы і наогул, дзе словы ўложаны ў вусны чалавека — мужыка. XII песня яе «На могілках» узвышаецца па сіле дадзенага вобраза да IV і V сцэн I дзеі «Гамлета» Шэкспіра, і толькі там — цень дацкага караля, а тут — цень беларускага мужыка, які хоча ведаць, патомкі яго як жывуць:

> Ці песні пяюць, ці,як мухі
> Ў цянётах гніюць павука?
>
> І ўсё гаварыце мне, духі,
> Што зроблена для мужыка.

«На папасе» — рэч самая аўтабіяграфічная з усіх, змешчаных у IV томе. Тут адразу пад Незнаёмым пазнаём мы Янку Купалу, які гаруе над праклятай доляй беларускага народа і які добра ўсё ж разумее, як гэты народ у такую цяжкую гістарычную пару ацэньвае і ўспрымае яго песню:

3-ці падарожны:

> І песню так пяе працяжна!..

1-шы падарожны:

> Душу, здаецца, рве яна.

2-гі падарожны:

> О, ці помніш усю чыста?

1-шы падарожны:

> Пачатак помню ўвесь.

2-гі падарожны:

> А я — сяродак галасісты.

3-ці падарожны:

> А мне канец у вушы ўлез.

Мне зараз цяжка сказаць, наколькі даўгавечны гэтыя творы Купалы, які іх лёс чакае ў новыя эпохі; ці здолеюць яны там заіскрыцца новым светам і жыццём і ці расчытаюць нашы патомкі ў іх тое, чаго мы сягоння не ўмеем расчытваць? Гэта пакідаю без адказу...

З перакладаў — два: «Песня аб паходзе Ігара» і опера «Галька». Першы пераклад надзвычай удалы як блізкасцю свайго зместу да аўтэнтыка, так і сваім мастацкім афармаваннем. Якое метрычнае і страфічнае багацце, а як магутна і вобразна гучыць беларуская мова! Затое нельга гэтага сказаць аб «Гальцы». Шмат сустракаецца зваротаў мовы не беларускай, польскай, а таксама слоў і націскаў; ды і наогул дзіўна, чым магла зацікавіць гэта шляхецкая опера Купалу? Твор сам па сабе маламастацкі,— няўжо тым, што Манюшка напісаў да яго музыку? Дарэчы, яшчэ некалькі слоў аб мове купалаўскіх арыгінальных рэчаў гэтага тома, хоць вельмі не хацелася б мне аб гэтым гаварыць, але неяк становіцца няёмка, самому не па сабе, калі чытаеш у Купалы такія звароты:

Як фігуры выразаны,
Як бібулы маляваны.

Наогул скарочаны канчатак у прыметніках беларускай мове не па духу, а ў Янкі Купалы сустракаецца даволі часта.

Або ўжыванне такіх слоў: жало́сна, папсу́е, разме́ніць, бале́сне, бескары́сне, існе́ння... ці: пахалі, абшырна, жалее, прыгадзіцца... і ўрэшце, як фінал, такі радок: «Ка́лі бяда ў хаце».

Выснаў я ніякіх рабіць не буду, а ўсяго яшчэ зазначу на адно: калі зараз маладым нашым паэтам на кожным кроку крычаць — выкарыстоўвайце культурную спадчыну, дык я мушу ад сябе зазначыць: у першы чарод звярніцеся да паэзіі Янкі Купалы.

*1928 г.*

# Каментарыі

Творы, якія складаюць дадзены том, напісаныя Я. Пушчам у засценках турмы, у далёкай ссылцы, на радзіме — у Мінску, дзе паэту заставалася пражыць некалькі гадоў. Частка тут сабранай паэзіі за перыяд 1930—1963 гг. друкавалася ў зборніках «Вершы і паэмы» і «Пачатак легенды», выдадзеных паэтам (пасля яго рэабілітацыі) на пачатку 60-х гадоў. Багата і такіх твораў, з якімі чытач яшчэ незнаёмы. Яны друкуюцца па аўтографах з асабістага архіва Я. Пушчы.

Як вядома, да творчай спадчыны мастакоў слова, лёс якіх быў пазначаны таўром сталінскіх рэпрэсій, адносіны ў грамадстве доўгі час заставаліся насцярожанымі, таму далёка не ўсё з напісанага ўдавалася ім надрукаваць. Так, і ў асабістым архіве Я. Пушчы «асела» за гэты час даволі багата вершаў, якія ў большасці сваёй характарызуюцца філасафічнасцю, эмацыянальнай напружанасцю, шчырай інтанацыяй. Вершы адметныя ідэйна-тэматычным адзінствам: у іх чуецца голас Пушчы-ўзвышэнца, Пушчы-ссыльнага, паслядоўна раскрываецца гісторыя паміраньня паэтавай душы. Як сведчаць архіўныя матэрыялы, некаторыя з гэтых твораў Я. Пушча спрабаваў апублікаваць у перыядычным друку, але спробы яго былі марнымі. Ілюстрацыяй да гэтых слоў могуць быць радкі з ліста, атрыманага Я. Пушчам з рэдакцыі часопіса «Беларусь»: «...У тых вершах, якія мы вяртаем Вам, зразумелы нам душэўны боль заглушае іх грамадзянскі пафас, і паўстае пытанне — ці будзе іх (вершаў) настраёвасць правільна зразумета чытачом і ў нас і там у такім грамадска-палітычным часопісе, як «Беларусь», калі б яны з'явіліся на яго старонках. У святле апошніх матэрыялаў аб развіцці савецкага мастацтва, нам здаецца, Вы і самі знойдзеце адказ на гэтае пытанне...»[1]. Размова ідзе пра вершы «Календара я не гартаю», «Адцвітае ў садзе ружа», «Сказала партыя народу праўду» і інш.

Сёння ж мы сплочваем доўг, сабраўшы ў томе па магчымасці ўсё, што было напісана Я. Пушчам на працягу 1930—1960-х гадоў.

Асабісты архіў паэта не толькі карэкціруе наша ўяўленне пра аб'ём, ідэйна-мастацкі ўзровень яго творчай спадчыны, але з'яўляецца каштоўнай крыніцай для больш глыбокага асэнсавання творчага шляху мастака, для разумення яго мастакоўскай канцэпцыі. Архіўны матэрыял сведчыць, што Я. Пушча планаваў выдаць пасля

[1] ЦДАМЛіМ Рэспублікі Беларусь, ф. 26, в. I, адз. з. 89.

зборніка «Вершы і паэмы» (1960) тры паэтычныя кніжкі «Пачатак легенды», «Працяг легенды» і «Канец легенды», якія па задуме паэта павінны былі скласці своеасаблівую лірычную трылогію — «шчырую пяшчотна-сумную споведзь пра перажытае, пра суровае і ласкавае»[1]. У 1963 г. выйшла кніжачка «Пачатак легенды», але яна значна адрозніваецца ад падрыхтаванага паэтам да друку машынапіснага зборніка пад такой жа назвай. У яе не ўвайшлі многія раздзелы, у тым ліку, «Нядобрае не вернецца», «Дваццатыя гады», «Неадасланыя лісты», «І адбылося, і збылося», а між тым менавіта ў паэзіі гэтых раздзелаў-цыклаў найбольш раскрываецца трагічны пафас творчай спадчыны Я. Пушчы 30—50-х гадоў.

І ў гэтым двухтомніку, укладзеным паводле традыцыйнага для збору твораў жанрава-храналагічнага прынцыпу, захаваць аўтарскую мастацкую сістэму раздзелаў не было магчымым. Вершы тут размешчаны ў храналагічнай паслядоўнасці. Але ніжэй мы прапануем чытачу разгляд аднаго з не надрукаваных тады раздзелаў-цыклаў пад глыбока сімвалічнай назвай «Неадасланыя лісты», знаёмства з яго творчай гісторыяй. Гісторыя напісання і публікацыі гэтых вершаў шмат новага раскрывае ў творчай біяграфіі мастака слова, дазваляе ўзнавіць няпросты шлях паэта да яго прыхільнікаў-чытачоў.

Мастацкая форма даволі значнай часткі паэзіі Я. Пушчы вызначаецца элементамі паэтыкі эпісталярнага жанру (наяўнасць адрасата, своеасаблівы характар дыялагічнасці, спавядальная інтанацыя і г. д.). Высокі мастацкі ўзровень «Лістоў да сабакі», «Новых лістоў»... сведчыць, што гэтая форма была найбольш арганічнай для ранняга творчага самавыяўлення паэта. Але і пазней, калі жыў далёка ад радзімы, Я. Пушча часта звяртаўся да яе («Ўначы сядаў за стол і ўсё пісаў лісты»). У своеасаблівай споведзі паэт аблягчаў душу, спакутаваную праз крыўды, нягоды, адзіноту.

«Неадасланыя лісты» — гэта трагічны вобраз-сімвал паэта-выгнанніка, вершы, у якіх раскрываюцца этапныя падзеі жыцця лірычнага героя, блізкага самому аўтару. Вершы-споведзь, вершы-надзея:

Лісты, вас у жыццё прынёс,
Як сонца сцяг свой напрадвесні.
Пра мой раскажаце вы лёс
І пра мае ад сэрца песні.

Нізку «Неадасланыя лісты» склалі сем наступных вершаў: «***Астыў з гадамі, пасталеў», «Ліст першы» (1931), «Ліст другі» (1932), «Навагодні ліст да сяброў. Дваццаць пяты» (1957), «Ліст дваццаць восьмы да чытача ў сувязі з выхадам зборніка «Вершы і паэмы» (1960), «Ліст дваццаць дзевяты да паэтаў» (1961), «Ліст трыццаты да настаўнікаў Чаадаеўскай сярэдняй школы» (1963). Уступны верш да раздзела не мае аўтарскай даты. Паводле зместу, мог быць напісаны ў сувязі з Пастановай ЦК КПСС «Аб пераадоленні культу асобы і яго вынікаў», прынятай 30 чэрвеня 1956 года. Або — крыху пазней, калі ў пачатку 60-х гадоў складаўся раздзел.

Ці выпадкова з многіх выбраны толькі сем вершаў? Відаць, лічба сем тут невыпадковая, а шырока вядомая біблейская рэмінісцэнцыя. У ёй выяўлена жаданне аўтара стварыць па магчымасці цэласнае ўяўленне пра жыццё паэта, распятага на крыжы суровага часу і абставін. Лічбавая непаслядоўнасць, як і лічбы, якімі пазначаны вершы,— гэта таксама сімвалы. У нумарной непаслядоўнасці

[1] ЦДАМЛіМ Рэспублікі Беларусь, ф. 26, в. І, адз. з. 48.

бачыцца намёк на немагчымасць надрукаваць у той час многія творы падобнага ідэйна-мастацкага зместу.

А чаму апошні верш нізкі значыцца як ліст трыццаты? Лічба 30 — гэта сімвалічны трагічны знак, звязаны з балючымі ўспамінамі пра год арышту — 1930 год, сімвал развітання з блізкімі, радзімай, сябрамі... Матыў развітання гучыць і ў вершы пад нумарам 30. Цяжка хворы паэт прысвячае верш настаўнікам Чаадаеўскай школы, у форме развітальнага ліста ён выказвае ўдзячнасць зямлі, якая прыгарнула на доўгія гады, людзям, з якімі перажываў разам і добрае і благое.

Верш «***Астыў з гадамі, пасталеў». У дадзеным томе верш друкуецца пад назвай «Неадасланыя лісты»,напісаны як уверцюра да ўсёй нізкі, дзе Пушча падсумоўвае зробленае за тры дзесяцігоддзі, выказвае запаветнае жаданне. Якое гэта жаданне? Каб дайшлі да народа яго лісты, бо ў іх набатам гучаць паэтавы «ад сэрца песні».

«Ліст першы» асацыіруецца з першым годам знаходжання паэта ў ссылцы на Урале — 1931 годам. «Ліст другі» — адпаведна з другім годам ссылкі. «Навагодні ліст да сяброў. Дваццаць пяты» напісаны пасля рэабілітацыі, але яшчэ ў Чаадаеве, 20 снежня 1957 года пад уражаннем дасланага з Мінска беларускім пісьменнікам Станіславам Шушкевічам ліста, а менавіта вось гэтых радкоў: «Раю Вам пераехаць у Мінск. На Радзіме, мне здаецца, адразу памаладзееце і пачнеце пісаць так, як не пісалі ніколі»[1]. «Усё гэта так нязвычна, як сакаліны ўзлёт»,— народзіцца ў паэтавай душы. Упершыню яго клікалі дадому. У вершы гучыць даўно забыты настрой пары шчаслівай маладосці, 1925 года, калі ён радаваўся першаму зборніку паэзіі «Раніца рыкае», актыўна ўдзельнічаў у грамадска-літаратурным жыцці, пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Станіславай Эдуардаўнай Шпакоўскай. У вершы жывуць успаміны пра літаратурную атмасферу 1925 года, жаданне вярнуцца на радзіму і разам з сябрамі той пары падняць чарку пад Новы год.

Верш, пазначаны лічбай дваццаць восем, прысвечаны чытачам першага пасля рэабілітацыі зборніка. Што вымусіла паэта напісаць:

Прабач, мой дружа, мой чытач, // Калі не гэтак што, як трэба...

Паэзія зборніка «Вершы і паэмы» не па аўтарскай віне адлюстроўвае толькі нейкую адну грань яго творчых інтарэсаў, мастакоўскай дзейнасці, выглядае тут аднабакова зададзенай. Запаветныя творы Пушчы не трапілі ў зборнік. Нумар дваццаць восьмы мае зусім празрыстую асацыяцыю з 1928 годам, калі паэт знаходзіўся пад пільным наглядам аглабельнай крытыкі, якая перакрэслівала ўсё, што не ўмяшчалася ў штучна створаныя ёй рамкі.

«Ліст дваццаць дзевяты да паэтаў» унутрана звязаны з вершам «Прыяцелям-паэтам» (1929). Апошні быў адказам на масіраваны агонь «прыяцеляў», раскрыжаваўшых ужо не аднаго «ўзвышэнца». Блізкасць паміж творамі відавочная, толькі размова з паэтамі ў «Лісце...» вядзецца на іншай, мяккай і добразычлівай ноце.

Гісторыя публікацыі вершаў наступная. У прыжыццёвым зборніку «Пачатак легенды» былі надрукаваны «Ліст дваццаць дзевяты да паэтаў» пад назвай «Паэты — сумленне народа» і «Ліст трыццаты да настаўнікаў Чаадаеўскай сярэдняй школы» пад назвай «Настаўнікам Чаадаеўскай школы». Гэта новыя рэдакцыі твораў. Дзеля чаго перапрацоўваліся вершы? Відаць, гэта было зроблена аўтарам у сувязі з публікацыяй іх па-за раздзелам «Неадасланыя лісты». У томе

[1] ЦДАМЛіМ Рэспублікі Беларусь, ф. 26, в. I, адз. з. 63.

друкуюцца паводле апошніх рэдакцый. Розначытанні ж аўтографаў прыводзяцца ў каментарыях.

Пра існаванне ў творчай спадчыне Я. Пушчы нізкі «Неадасланыя лісты» стала вядома з публікацыі ў штогодніку «Дзень паэзіі» (1965) трох першых вершаў нізкі пад загалоўкам «З «Неадасланых лістоў». Шкада, што «Ліст першы» і «Ліст другі» былі тут значна скарочаны. Першы — на 17 радкоў, а другі — на 28. Прычым скарачэнні значна збяднілі сэнсавае гучанне твора: зняты тэкст, больш насычаны рэаліямі часу ссылкі паэта, як напрыклад, вось такія радкі:

Ад гора можна пасівець.
Але не поўзаць... не маліць...
Плыве сцюдзёная Ісець.
А сэрца беднае смыліць.

Публікацыя пасмяротная, таму, відаць, скарачэнні адлюстроўваюць волю ўкладальнікаў, а не аўтара. У дадзеным томе вершы друкуюцца па аўтографах у поўнай сваёй рэдакцыі.

«Ліст дваццаць восьмы да чытача ў сувязі з выхадам зборніка «Вершы і паэмы» ўпершыню быў надрукаваны ў зборніку паэзіі Я. Пушчы, выдадзеным пасля яго смерці ў серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі» (1968; укладальнік С. Грахоўскі). Гэтая рэдакцыя верша чамусьці не мае назвы і трэцяй страфы. Паколькі такой рэдакцыі ў архіве паэта не выяўлена, можна меркаваць, што папраўкі не аўтарскія. У томе верш друкуецца ў поўнай рэдакцыі і пад назвай «Ліст да чытача ў сувязі [redacted] выхадам зборніка «Вершы і паэмы» (у архіўных матэрыялах верш сустракаецца пад такой назвай па-за раздзелам «Неадасланыя лісты»).

Нядаўна ў «Полымі», 1989, № 1 быў апублікаваны верш «Навагодні ліст да сяброў. Дваццаць пяты» пад загалоўкам «Навагодняе віно». Гэта назва адной [redacted] ранніх рэдакцый твора, якая захоўваецца ў папцы [redacted] рознатэматычнымі вершамі. Што сабой уяўляюць рэдакцыі гэтага твора? Першая [redacted] іх нагадвае ўзрушана-эмацыянальны гімн-пасланне на радзіму сябрам, у якім плынь шчырых пачуццяў радасці пераліваецца праз край, вірліць рака эмоцый, выкліканая дажыцця пераменамі ў грамадскім жыцці краіны, цёплымі сяброўскімі віншаваннямі.

(1) З Радзімы вецер зашумеў.
Здаецца мне,
Я з вамі — не адзін,
Дванаццаць б'е гадзін.
Душа спявае навагодні гімн.
І асыпае церні мой вянок
У навагодняе віно.

І верылася паэту, што пачатае на XX з'ездзе партыі гістарычнае адраджэнне дэмакратыі, справядлівасці, будзе мацнець, шырыцца, што надышла пара гукнуць:

(2) Народ,
Сыноў сваіх збяры
За бацькаўскі гасцінны стол!
З народных сіл-пластоў
Вялікай праўды б'е
Крыніца,
І сэрца праўду п'е.
Ўзыходзіць навагодняя зарніца.

Наступная рэдакцыя верша адлюстроўвае перамены ў поглядзе Пушчы на рэальныя вынікі Адлігі. Сведчаць пра гэта і даволі стрыманы тон інтанацыі твора, адсутнасць эйфарычнага стану лірычнага

героя. З'явілася новае асэнсаванне падзей, усведамленне няпоўнай праўды, разуменне, што шлях да ісціны ў ацэнцы сталіншчыны яшчэ вельмі доўгі. І тэкст, які ілюстраваўся тут пад нумарам (1), быў дапрацаваны наступным чынам:

Здаецца мне:
З Радзімы вецер зашумеў
Напевам сэрцу дарагім;
Здаецца мне,
Што з вамі я, а не адзін.
Дванаццаць б'е гадзін,
Душа спявае навагодні гімн.

У гэтым жа кірунку быў дапрацаваны тэкст (2). Па-іншаму загучалі і такія радкі, як «Мінулі дні нягод» або «Яго ні днём, ні ўночы Зіма спыніць няўмоцы». На жаль, гэта быў толькі глыток свежага паветра, што і адлюстравана было ў праўцы.

Пры стварэнні апошняй рэдакцыі верша асноўную ўвагу аўтар засяродзіў на моўна-стылёвай яго сістэме. Найбольш цікавай у гэтым плане ўяўляецца папраўка, здзейсненая ў 18 радку, які першапачаткова гучаў так: «Ўзыходзіць навагодняя зарніца». Як бачна, у такім кантэксце «зарніца» (тое ж значэнне, што і «бліскавіца») ужыта недакладна. Відаць, тут мелася на ўвазе лексема «зараніца» — ад «зара». Яна падыходзіць па змесце, але не ўпісваецца ў рытмічны малюнак страфы, і аўтар вырашае замяніць памылкова ўжытае слова «зарніца» на «дзянніцу», хоць яно і з'яўляецца рускай калькай. Гэта рэдакцыя і прынята намі за асноўную.

Надрукаваныя ў томе паасобна, а некаторыя і ў іншых рэдакцыях, вершы, вядома, страцілі тую ўнутраную сілу, пафас абвінаваўчага дакумента сталінскай эпохі, што характарызавалі раздзел-нізку «Неадасланыя лісты». Праўда, дапытлівы чытач можа ўзнавіць гэты раздзел, калі звернецца да каментарыяў. І ўсё ж пры магчымасці добра было б выдаць зборнік паэзіі Я. Пушчы ў аўтарскім укладанні, што дало б магчымасць паўней і яскравей убачыць постаць мастака ў сваім часе.

# *Паэзія*

## ВЕРШЫ

### 1930

*Дачушкам Галі і Лялі. Коцік — вусаты роцік і мышка-стрыжка* (с. 6)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 24. Верш быў перададзены з мінскай турмы. Напісаны хімічным алоўкам вельмі дробнымі літарамі на маленькім кавалку паперы памерам 13,5 × 11,2 см. На адвароце: Амерыканка. Восень, 1930.

Друкуецца ўпершыню.

*Ліст да Галі і Лялі* (с. 8)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 24. Напісаны ў мінскай турме.

Друкуецца ўпершыню.

*Ліст да дачушак* (с. 9)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 24. Напісаны ў мінскай турме.

Друкуецца ўпершыню.

## 1931

*«Калі у Шадрынск, на Ісець...»* (с. 10)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.

Упершыню — Полымя, 1989, № 8.

[1] Пасля амаль гадавога турэмнага зняволення Я. Пушча быў высланы на Урал, у Шадрынск.

*На свеце боль і смутак ёсць* (с. 10)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.

Упершыню — Полымя, 1989, № 1.

У падрыхтаваным да друку машынапісе (ф. 26, в. 1, адз. з. 14) аўтар паправіў у загалоўку верша «смутак» на «радасць», але і ў такім выглядзе ў пачатку 60-х гадоў строгі рэдактар напісаў «не друк.».

[1] С. Э. Плашчынская, якая прыязджала наведаць свайго ссыльнага мужа.

*Дачушцы Галі* (с. 11)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 24.

Друкуецца ўпершыню.

Напісаны да дня нараджэння дачкі Галі (н. 7.XI.1926).

*Ліст першы* (с. 12)

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.

Упершыню — зб. «Дзень паэзіі», 1965 без назвы ў скарочаным варыянце разам з вершамі «***Астыў з гадамі, пасталеў» і «***Вакол суровая тайга» («Ліст другі») пад агульным загалоўкам «З «Неадасланых лістоў».

## 1932

*Ліст другі* (с. 14)

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 17.

Упершыню — зб. «Дзень паэзіі», 1965 без назвы ў скарочаным варыянце разам з вершамі «***Астыў з гадамі, пасталеў» і «Ліст першы» пад агульным загалоўкам «З «Неадасланых лістоў».

*Дзе ты, зорка?* (с. 16)

Друкуецца паводле зборніка «Пачатак легенды».

У ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18 захоўваецца аўтограф з паметай: Шадрынск, 1932 г.

*На этапе* (с. 16)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.

Упершыню — Полымя, 1989, № 8.

*Пайночная тайга шуміць* (с. 18)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.

Упершыню — Полымя, 1989. № 8.

Гус Ян (1371—1415), мысліцель, заснавальнік і ідэолаг ранняй чэшскай Рэфармацыі. Царкоўным саборам быў аб'яўлены ерэтыкам і спалены.

*Пясняр за кратамі сядзеў* (с. 18)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.

Упершыню — Полымя, 1989, № 8.

## 1933

*Дзекабрыстам* (с. 20)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

Аўтограф захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 24.

## 1934

*Мой ясны сокал!..* (с. 21)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 24.

Друкуецца ўпершыню.

*Суровы лёс* (с. 22)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.

Упершыню — Полымя, 1989, № 8.

*Як я цябе любіў!* (с. 22)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.

Упершыню — Полымя, 1989, № 8.

## 1935

*Шумі, уральская тайга* (с. 23)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

*Анапскія настроі* (с. 24)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Дата канкрэтызуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18.

## 1936

*Авідзій* (с. 26)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 9. Паводле архіўных матэрыялаў (аўтарызаванага машынапісу, адз. з. 23), вядома і другая назва верша: «Авідзію».

Упершыню — Полымя, 1989, № 8.

Авідзій (43 да н. э.— 17 н. э.) — рымскі паэт, быў сасланы Аўгустам у г. Томы (Канстанца ў Румыніі), дзе ён напісаў поўныя тугі па радзіме «Сумныя элегіі» і «Лісты з Понта».

*Адаму Міцкевічу* (с. 27)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — як два асобныя вершы — Полымя, 1956, № 10 і газ. «Літаратура і мастацтва» за 24 снежня 1958 г. Відаць, другая частка верша была напісана значна пазней, бо газетная публікацыя датуецца 1958 г.

Адам Міцкевіч (1798—1855), польскі паэт, які нарадзіўся на Навагрудчыне. Аўтар бессмяротнай паэмы «Пан Тадэвуш» (1834). Выступіў пачынальнікам рэвалюцыйнага рамантызму ў польскай літаратуры.

[1] Лета — міфалагічная рака забыцця ў падземным царстве, у т. зв. Аідзе.

[2] «Крымскія санеты» — лірычныя шэдэўры А. Міцкевіча, напісаныя ў 1826 г.

Вядомыя на польскай мове ў перакладах Я. Гушчы і К. Яворскага.

*Байрану* (с. 29)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Байран Джордж (1788—1824) — англійскі паэт, прадстаўнік рэвалюцыйнага рамантызму. Выступаў у абарону лудзітаў — першых рабочых выступленняў. Па волі прыхільнікаў рэакцыйнага рэжыму яму прыйшлося пакінуць радзіму.

## 1942

*Восень* (с. 30)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе разам з вершамі гэтага ж года «Гоняць у няволю», «Плач сіротак», а таксама — іншых гадоў — «Кукавала зязюля», «Залаты струмень», «Мой саколік ясны», «Мой ты родны, мой сынок», аб'яднаны ў раздзел пад назвай «З песень «У фашысцкай няволі».

*Гоняць у няволю* (с. 31)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе апублікаваны ўпершыню.

*Дамоклаў меч* (с. 32)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 17.

Упершыню — зб. «Язэп Пушча», выдадзены ў серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі», 1968.

[1] Дамоклаў меч — выраз, які абазначае пастаянную небяспеку.

*Плач сіротак* (с. 33)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе апублікаваны ўпершыню.

*Янку Купалу* (с. 34)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе апублікаваны ўпершыню.

Аўтограф захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23, тэкст якога не ва ўсім супадае з асноўным.

Гэта словы жалобы на смерць Я. Купалы, жыццё якога абарвалася 28 чэрвеня 1942 г.

Варыянты аўтографа:

Радок 6 а) І ручаі плылі народных слёз.
б) *Як у асноўным тэксце.*
7 Як смутак з горам ў нашы сэрцы поўз,

8 Раскажа калісь нашчадкам гісторык.
9 Ад скрухі нават людзі камянелі,
12 а) Прыйдзі, згарні у вурны песень прысак,—
б) *як у асноўным тэксце.*
13 а) Не ўбачым больш Купалы родных рысаў.
б) Ў крупінцы кожнай б'ецца сэрца пульс.
14 а) Як ён палаў, так не палаў Ян Гус!
б) І сэрца біцца, трапятаць прымусь.

## 1943

*Волаты* (с. 35)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.
Аўтограф захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 28.

*Залаты струмень* (с. 39)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.
Аўтографы захоўваюцца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 24 і 35.

*Мой саколік ясны* (с. 42)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

*Мой ты родны, мой сынок* (с. 43)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.
Аўтограф захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 15. Мае загаловак «Мой ты родны».

## 1944

*Кукавала зязюля* (с. 44)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

## 1947

*Зямелькі тры жменькі* (с. 45)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 24.
Друкуецца ўпершыню.
Верш напісаны пад уражаннем ад першага паўлегальнага прыезду ў Мінск восенню 1947 г.

*З руінаў Мінск паранены ўстае* (с. 47)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.
У першадруку верш датуецца 1945 г. Дата ўдакладнена паводле аўтографа, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.

*Іду і падаю пад крыжам* (с. 48)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.
Упершыню — Полымя, 1989, № 8.

## 1952

*У Кіславодску* (с. 49)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Дата канкрэтызуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

*Расіі слава* (с. 50)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Першапачатковы варыянт верша пад назвай «Лермантаву» датуецца вераснем 1952 г. (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 47).

*Жаданне* (с. 50)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Першапачатковы варыянт верша пад назвай «Каўказ» датуецца вераснем 1952 г. (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 47).

*Коціцца па твары ды сляза гарачая* (с. 51)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.

Упершыню — Полымя, 1989, № 8.

*Не заблудзіўся я ў цёмным лесе* (с. 51)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18.

Друкуецца ўпершыню.

*А. М. Радзішчаву* (с. 52)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Першапачатковы варыянт верша меў пяцірадковую страфу (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23). Пазней з кожнай страфы быў зняты апошні радок, які прыводзім ніжэй:

з 1-й страфы «І не адзін мільён».
з 2-й » «Ўстае і стогн і крык».
з 3-й » «Нічым не заараць».
з 4-й » «Расійскія цары».

Радзішчаў Аляксандр Мікалаевіч (1749—1802) — рускі пісьменнік, рэвалюцыянер. За кнігу «Падарожжа з Пецярбурга ў Маскву» (1790) быў прыгавораны да смяротнага пакарання, якое было заменена дзесяцігадоваю ссылкаю ў Сібір.

*Сыну* (с. 53)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.

Упершыню — Полымя, 1989, № 8.

## 1953

*Прасторы, песні родныя* (с. 54)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

*Смерць тырана* (с. 54)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 13.

Упершыню — Неман, 1989, № 6, с. 158.

*Хто сказаў?* (с. 55)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.

Упершыню — зб. «Шляхам гадоў», Мн., 1993.

## 1954

*Я — не Гарацый* (с. 56)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23, л. 41.

Упершыню — Полымя, 1989, № 8.

Гарацый (65 да н. э.— 8 г. да н. э.) — рымскі паэт, які быў песняром Аўгуста. Паэт усхваляў імператара, але адначасова выступаў супраць тыранаў.

У ЦДАМЛіМ РБ верш захоўваецца ў некалькіх аўтографах (рукапіс — адз. з. 24 і тры аўтарызаваныя машынапісы — першы і апошні варыянты верша — адз. з. 23, яшчэ адзін — адз. з. 14). Тэксты іх не супадаюць. Цалкам прыводзім тут першапачатковы варыянт.

Я — не Гарацый, у вянку лаўровым,
І не чытаю мецэнату вершаў,
Я — толькі Пушча, у вялікім горы,
Паміж паэтаў найвялікшы грэшнік.

Тыранам быў пасаджан у цямніцу,
Нямеў, спыняўся пульс гарачы,
А ўсё ж крапіўся і не падаў ніцам,
Хоць толькі Пушча я, а не Гарацый.

Не сок піў я, а найгарчэйшы чэмер,
Адмералі яго мне поўнай мерай.

## 1955

*Пажар палае* (с. 57)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 24.

Друкуецца ўпершыню.

[1] Пасля арышту Я. Пушчы яго сваячка вымушана была спаліць толькі што прачытаную ім карэктуру новага зборніка паэзіі, у якім друкавалася паэма «Сады вятроў». Гэты біяграфічны факт і пакладзены ў змястоўную аснову верша.

[2] Адзін з галоўных герояў паэмы «Сады вятроў».

*Выйду, гляну...* (с. 57)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 19.

Друкуецца ўпершыню.

Верш значыцца і ў раздзеле «Дваццатыя гады», падрыхтаваным аўтарам да друку (адз. з. 15).

*Кіпарысы* (с. 58)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

*Мора* (с. 59)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

*На ўзмор'і* (с. 59)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

*Светлыя радкі* (с. 60)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

Друкуецца ўпершыню.

## 1956

*У Мінску* (с. 61)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў бібліятэцы АНБ, ф. 24, в. 1, адз. з. 1422.

Дата канкрэтызуецца паводле аўтографаў (рукапісу і аўтарызаванага машынапісу — ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29 і 23).

Друкуецца ўпершыню.

*Вучні* (с. 61)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 22.

Друкуецца ўпершыню.

*Гром вясновы прагрымеў* (с. 62)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29.

Друкуецца ўпершыню.

*«Між бярозак, дзвюх сясцёр...»* (с. 62)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29.

Друкуецца ўпершыню.

*Дзесяцікласнікі* (с. 63)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў бібліятэцы АНБ, ф. 36, в. 1, адз. з. 338.

Друкуецца ўпершыню.

У матэрыялах фонда 26 (ЦДАМЛіМ РБ, адз. з. 29) захоўваецца рукапіс верша і асобна яго другая частка, якая датуецца II/VI—1956 г.

*Як хадзілі па Радзіме* (с. 64)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29.

Друкуецца ўпершыню.

[1] Рэмінісцэнцыя паводле казкі Г. Х. Андэрсена «Прынцэса на гарошыне».

*Дзень добры, Мінск!* (с. 68)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе апублікаваны ўпершыню.

Дата канкрэтызуецца паводле таго факта, што верш разам з іншымі — «З народам я», «Канцэрт», «Крыніца», «Паэзія мая», «Салавей», «Ураджай», «Адаму Міцкевічу», «Голас песні» — быў дасланы ў рэдакцыю «Полымя» ў канцы ліпеня 1956 г. Ліст Пушчы ў «Полымя» захоўваецца ў бібліятэцы АНБ, ф. 36, в. 1, адз. з. 338.

*З народам я* (с. 68)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў бібліятэцы АНБ, ф. 36, в. 1, адз. з. 338.

Друкуецца ўпершыню.

*Канцэрт* (с. 69)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе апублікаваны ўпершыню.

Аўтограф захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

Варыянт верша, дасланы Я. Пушчам у ліпені 1956 г. у «Полымя» (захоўваецца ў бібліятэцы АНБ, ф. 36, в. 1, адз. з. 338), вельмі адрозніваецца ад асноўнага тэксту. Прыводзім яго ніжэй.

На беразе гадоў бялеюць дзюны,
Ў ліхтарні свет гарыць — я не тушу.
У лад гучаць цымбалаў, скрыпак струны,
Кранаюць гукі сэрца і душу.

Даўно не быў на гэтакім канцэрце:
Музыкі заігралі светлы гімн;
У ім народная душа і сэрца,
Ён мне навекі будзе дарагім.

Суладжана пяюць цымбалы, скрыпкі,
І музыка ў палон мяне бярэ.
Хачу ў канцэрце на ўвесь голас крыкнуць:
Маўчаць не ў моцы я! Душу сагрэў!

Ў руках маіх ні скрыпка і ні ліра;
Санетаў томік Вільяма Шэкспіра.

*Крыніца* (с. 69)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

У варыянце, дасланым у «Полымя» ў ліпені 1956 г. (бібліятэка АНБ, ф. 36, в. 1, адз. з. 338), апошняя страфа гучыць так:

Напіўся я і смагу замарыў,
Зірнуў на ўсход, на полымя зары,
І ахапілі мяне думы роем.

*Паэзія мая* (с. 70)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў бібліятэцы АНБ, ф. 36, в. 1, адз. з. 338.

Друкуецца ўпершыню.

Гэты тэкст значна адрозніваецца ад варыянту, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 34 пад назвай «Паэт» (1957). Яго прыводзім ніжэй.

Паэт пачуў душы народнай голас.
Шчаслівы, ён спявае разам з ёй;
Як той пад ясным сонцам жытні колас,
Схіляецца над роднаю зямлёй.

Багаты ураджай на ніве спее,
Калоссем залатых зярнят шуміць.
І сэрца адгукаецца у спеве,
І п'е душа з тваіх, зямля, крыніц.

Адзін глыток вярнуў паэту сілы,
І людзі песню ў дом свой запрасілі.

*Салавей* (с. 70)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Маладосць, 1959, № 7.

На славацкай мове — у часоп. «Злати май», 1961, № 9. Пер. Я. Туран.

*Ураджай* (с. 71)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

Аўтограф захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.

*Я дакранаюся душой да струн* (с. 71)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

Друкуецца ўпершыню.

Варыянт верша, дасланы ў «Полымя» ў ліпені 1956 г. пад назвай «Голас песні» (бібліятэка АНБ, ф. 36, в. 1, адз. з. 338):

У хоры песнятворцаў маладых
Народнай песні голас не маўчыць.
Знайшлі ад сэрца, ад душы ключы,
Знайшлі свае і словы, і лады.

Мяне саграў гарачых песень жар,
І разам з вамі сам спяваць гатоў,
Быць маладым на старасці гадоў
І не тушыць слязой душы пажар.

Не прыйдзе больш юнацтва весялосць,
Прайшлі гады, мінула маладосць,—
Народнай мудрасці сустрэў сястру.

Услаўлю з ёй вялікую пару.
Сягоння ліру ў рукі зноў бяру
І дакранаюся душой да струн.

*Рэквіем* (с. 72)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе апублікаваны ўпершыню.

Верш дасланы ў СП БССР на імя яго старшыні П. Броўкі. З ліста: «15 жніўня, поўдзень, 12 гадзін. Голас дыктара з Масквы данёс: «Умер народный поэт Белоруссии Якуб Колас». Падступіла гора, нахлынулі слёзы, бяру ў рукі пяро... Прыміце словы майго жалю». (Захоўваецца ў бібліятэцы АНБ, ф. 30, в. 1, адз. з. 140.)

*«Рэквіем» спазніўся* (с. 72)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29, лл. 33—35.

Друкуецца ўпершыню.

[1] Гл. папярэдні верш.

[2] Відаць, маецца на ўвазе стварэнне беларускага літаратурнага аб'яднання «Узвышша» (26 мая 1926 г.).

*Сцягі мы неслі* (с. 74)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.

Друкуецца ўпершыню.

*Восень* (с. 75)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе апублікаваны ўпершыню.

Дата канкрэтызуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29.

*Сонца* (с. 76)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе апублікаваны ўпершыню.

Дата канкрэтызуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29.

[1] Радок з верша «Вакхічная песня» (1825).

*Бяру у рукі ліру...* (с. 76)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29.

Друкуецца ўпершыню.

*Пад родным небам* (с. 77)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе апублікаваны ўпершыню.

Дата канкрэтызуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29 пад назвай «На Радзіме».

*Пад Новы год* (с. 78)
*(«Змарыўся і хачу прысесці на парог»)*

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29.

Першапачатковы варыянт быў напісаны 15/XII-1956 г. і мае назву «Ці ўспомняць сына?» (захоўваецца там жа).

Упершыню — зб. «Шляхам гадоў», Мн., 1993.

*Пад Новы год* (с. 78)
*(«Сягоння сэрца не маўчыць»)*

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 15.

Друкуецца ўпершыню.

*І, песня, ў сэрцы не маўчы* (с. 79)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33.

Друкуецца ўпершыню.

Датуецца прыблізна па змястоўнай аналогіі з папярэднім вершам, з якім маюцца і некаторыя тэкставыя супадзенні і якія, відаць, можна вытлумачыць адначасным стварэннем вершаў.

[1] Размова ідзе пра рэпрэсіраваных сяброў-узвышэнцаў — паэта Уладзіміра Дубоўку і літаратуразнаўцу Адама Бабарэку,— з якімі Пушча падтрымліваў перапіску,— з Бабарэкам у 30-х гадах, з Дубоўкам — у 50-х.

*«Здаецца, букеты блакітнага лёну...»* (с. 80)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29. Друкуецца ўпершыню.

*Імчы!..* (с. 80)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ БССР, ф. 26, в. 1, адз. з. 29.

Друкуецца ўпершыню.

*Красуйце вечна, кіпарысы* (с. 81)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 23.

[1] Руставелі (12 ст.), грузінскі паэт, аўтар сусветна вядомай паэмы «Віцязь у тыгравай шкуры».

Друкуецца ўпершыню.

*Куранты б'юць* (с. 83)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29.

Друкуецца ўпершыню.

Датуецца прыблізна паводле змястоўнай аналогіі з «навагоднімі» вершамі 1956 г.

*На сонечнай зямлі* (с. 84)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

*Настаўнік* (с. 84)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 22.

Друкуецца ўпершыню.

*«Ні вечарам, ні ўранку...»* (с. 85)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29.

Друкуецца ўпершыню.

Датуецца прыблізна паводле таго факта, што аўтар захоўваў рукапіс верша сярод рукапісаў твораў 1956 г.

[1] А. Міцкевіч нарадзіўся на хутары Завоссе Навагрудскага павета, жыў, вучыўся на Навагрудчыне. І пасля на працягу ўсяго творчага жыцця звяртаўся да сюжэтаў, звязаных з гісторыяй Навагрудка, Навагрудчыны. Нагадаем слаўную эпапею «Пан Тадэвуш», героіка-патрыятычныя балады «Свіцязь», «Свіцязянка» і інш.

*Прыляцелі шпакі* (с. 85)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Вясёлка, 1958, № 4, як песня. Музыку напісаў П. Падкавыраў.

У зб. «Вершы і паэмы» датуецца 1957 г. Дата ўдакладнена паводле ліста Пушчы да А. Пальчэўскага ад 25/XI-1957 г., у якім паведамлялася, што верш «Прыляцелі шпакі», які сярод іншых вершаў быў дасланы ў адным канверце з лістом, напісаны яшчэ ў мінулым годзе (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 51).

*Студэнты* (с. 86)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

*Споведзь* (с. 86)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

Упершыню — зб. «Шляхам гадоў», Мн., 1993.

Датуецца двайной датай, якая сведчыць пра этапы працы над вершам.

Варыянты аднаго з ранніх тэкстаў (адз. з. 23):

Радок 1 Як шмат па свеце вершаў я сваіх растрачіў,
5 У раны сэрца брудным пальцам не пырайце.
9—14 Як раны загаіць і боль абмыць бальзамам?
Я слухаю, як сэрца неспакойна б'ецца
І на Радзіму сакалінай песняй рвецца.
Ні мне, ні сэрцу і ні песні дух не займе.
Калі ні я, то цень мой прыйдзе светлай явай
І гімн апошні мой Радзіме даспявае.

Прамежкавы варыянт верша (адз. з. 30):

НЕ ЗАЙМЕ ДУХ

Не займе песні дух; адносіць вецер кпіны,—
Не просіць і не трэба ёй узнагарод.
Хай сонца волі свеціць нам ад роду ў род
І спеюць ураджаем каласы на ніве.

Адвее з часам вецер ад зярнят мякіну,
І ўзважаць ураджай Радзіма і народ.

Прыйду да вас, сыны, я цераз светлы брод,
Санет нашчадкам ў спадчыну пакіну.

Жадаю аднаго: каб песні пульс гарачы
Ад сэрца біўся, трапятаў агнём душы,
І сівер з поўначы не здолеў патушыць.

Хацеў бы я цераз стагоддзі далі ўбачыць
І там расцалаваць Радзіму Беларусь,
І сэрцам запалаць, як некалі Ян Гус.

*«У руках ні разу не трымаў кадзіла...»* (с. 87)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29.

Друкуецца ўпершыню.

Датуецца 1956 г. прыблізна паводле аналогіі са зместам многіх твораў 1956 г., паводле захавання рукапісу верша ў папцы сярод матэрыялаў гэтага года, паводле адметнасці почырку і чарніла.

*Чайкі клічуць* (с. 88)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

Сярод архіўных матэрыялаў (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30) верш значыцца пад назвамі «Падхапілі хвалі» і «Плывец». Невядома, па якой прычыне аўтар адмовіўся ад публікацыі больш пазнейшага варыянта верша, што датуецца 1957 г. Яго назва «Чайка кліча». Асноўныя розначытанні звязаны з апошняй страфой, якая ў варыянце 1957 г. гучыць так:

Кліча, кліча чайка,
Як матуля сына.
Хлопцы, ўгору чаркі
У светлую часіну!

*Яшчэ ў юнацкія гады* (с. 88)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Аўтограф захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

## 1957

*Равеснікам* (с. 89)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе апублікаваны ўпершыню.

Першапачатковы варыянт верша, які пазней быў значна перапрацаваны, датуецца 14/IX-1956 г. (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29).

*Будаўнік* (с. 89)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе апублікаваны ўпершыню.

Першапачатковы варыянт верша, пазней значна перапрацаваны, датуецца 12.X. 1956 г. (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29).

*Расіі* (с. 90)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Чырвоная змена, 1962, 30 снеж.

Паводле аўтографа (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29) першы варыянт верша быў напісаны 14/ XII-1956 г.

*Дантэ Аліг'еры* (с. 91)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

Упершыню — зб. «Шляхам гадоў», Мн., 1993.

Дантэ Аліг'еры (1265—1321) — італьянскі паэт, аўтар вядомай «Боскай камедыі», актыўны ўдзельнік у палітычным жыцці рэспублікі. Прыхільнікамі папы быў прыгавораны да спалення. Да канца жыцця быў палітычным эмігрантам.

[1] Вергілій (70—19 гг. да н. э.) — рымскі паэт, аўтар геранчнай паэмы «Энеіда».

[2] Беатрычэ Партынары была вобразам узвышанага кахання Дантэ.

*Кастрычнік* (с. 91)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30.

*Расхрыстаў сэрца і душу...* (с. 92)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30.

Друкуецца ўпершыню.

*Песня песень* (с. 92)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Полымя, 1957, № 7.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30.

*Сяргею Ясеніну* (с. 93)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Полымя, 1957, № 7.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30.

Праз усё жыццё Я. Пушча пранёс закаханасць у паэзію Ясеніна. А ў раннія гады шмат у чым наследаваў яму.

*Вясна* (с. 94)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе апублікаваны ўпершыню.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30.

*Лета* (с. 95)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Полымя, 1957, № 10.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30.

*Люблю* (с. 95)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30 пад назвай «Зіма».

[1] Радзішчаў — гл. верш «А. М. Радзішчаву» (с. 52) і каментарый да яго.

Герцэн Аляксандр Іванавіч (1812—1870) — рускі пісьменнік, публіцыст, філосаф, рэвалюцыянер. За ўдзел у студэнцкім рэвалюцыйным гуртку быў сасланы ў Сібір (1834—1842).

*У. Д.* (с. 96)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 31.

Упершыню — зб. «Шляхам гадоў», Мн., 1993.

Верш прысвечаны Дубоўку Уладзіміру Мікалаевічу (1900—1976), беларускаму паэту, сябру Я. Пушчы па «Маладняку» і «Узвышшы». У 1931 г. ён быў рэпрэсіраваны і на працягу 28 гадоў жыў у Кіраўскай вобласці, Чувашыі, Грузіі, Краснаярскім краі.

З ліста У. Дубоўкі да Я. Пушчы ад 17 студзеня 1958 г.: «Я за свае 27 год «вандровак» нічога не пісаў. Яшчэ на Волзе ў мяне забралі «чытачы» «Чайльд Гарольда» і ніяк не аддаюць. Кажуць — няма. Тут, у Сібіры, я працаваў для кавалка хлеба, апошнія 8 год — сталяром. Было не да вершаў» (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 56).

[1] Відаць, маецца на ўвазе заклік Дубоўкі выйсці з «Маладняка» і ўтварыць новае згуртаванне «Узвышша».

*Сорак зорак* (с. 96)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

Упершыню — Полымя, 1957, № 11.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30.

*Фантаны* (с. 97)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Полымя, 1957, № 10.

У рукапісным варыянце меў назву «Слаўлю!» (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30).

На славацкай мове вядомы ў перакладзе Я. Турана («Злати май», 1961, № 9).

*А. Я.* (с. 98)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 29.

Друкуецца ўпершыню.

А. Я.— Алесь (Аляксандр Іванавіч) Якімовіч (1904—1979) — беларускі пісьменнік. Даўні сябар Пушчы маладнякоўскай пары. І пазней, у 50-х гадах, Якімовіч, адзін з нямногіх беларускіх пісьменнікаў, падтрымліваў з Пушчам сувязь. Пра ўзаемаадносіны паміж імі сведчаць і радкі з верша Пушчы «Не лез пішчом я на Парнас»: «Руку Алесь падаў мне першы/ І запрасіў у родны дом». Якімовіч спрыяў звароту Пушчы на радзіму. З ліста Якімовіча ад 29.XII. 1957 г.: «...А ўсё ж душа твая тут! І, відаць, рана ці позна яна возьме верх і пераважыць усё іншае ды выцягне цябе з тваёй Мурамшчыны» (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 64).

*«Хацеў дарваца да жывой крыніцы...»* (с. 98)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30.

Друкуецца ўпершыню.

*Яну Райнісу* (с. 99)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Полымя, 1959, № 8.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30.

На латыш. мове вядомы ў перакладзе Я. Плотніекса.

[1] Размова ідзе пра ўдзел Я. Райніса ў Першай беларускай кан-

ферэнцыі па пытаннях рэформы беларускага правапісу і алфавіта, якая адбылася ў Мінску ў лістападзе 1926 г. (гл. пра гэта артыкул Я. Пушчы «Незабыўнае», т. 2.).

*У школе* (с. 99)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў бібліятэцы АНБ, ф. 24, в. 1, адз. з. 1442.

Друкуецца ўпершыню.

*Навагодні ліст да сяброў. Дваццаць пяты* (с. 100)

Друкуецца па аўтографе, падрыхтаваным для зборніка «Пачатак легенды» ў плануемым раздзеле «Неадасланыя лісты» (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 15).

Варыянт верша пад назвай «Навагодняе віно» (адз. з. 30) друкаваўся ў «Полымі», 1989, № 1.

Радкі з верша: «Народ, / Сваіх сыноў збяры /За бацькаўскі гасцінны стол» — паўтараюцца ў вершы «Гады ідуць» (1957).

*Буду жыць* (с. 102)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

*Бяжыць рака* (с. 102)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Аўтограф захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

*Віно паэзіі* (с. 103)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

Друкуецца ўпершыню.

Пятрарка Франчэска (1304—1374) — італьянскі паэт, аўтар вядомых санетаў, прысвечаных мадонне Лауры.

*Восень* (с. 103)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30).

*Гады ідуць* (с. 104)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

Упершыню — зб. «Шляхам гадоў», Мн., 1993.

Гл. каментарый да верша «Навагодні ліст да сяброў. Дваццаць пяты» (1957).

*Дзень добры!* (с. 104)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Анталогія беларускай паэзіі (Мн., 1961, т. 2).

*«З родных пушч, бароў высокіх...»* (с. 105)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў бібліятэцы АНБ, ф. 24, в. 1, адз. з. 1422.

Друкуецца ўпершыню.

Якуба Коласа.

*Залатая восень* (с. 105)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

*Зашумі, зялёны!* (с. 106)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

У ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 31 захоўваецца аўтограф (машынапіс з праўкамі аўтара) пад назвай «Зашумі, зялёны сад!».

*Зоська і Антосік* (с. 107)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

*Крытыку* (с. 108)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў асабістым архіве С. Э. Плашчынскай.

Упершыню — Полымя, 1989, № 1.

Складаныя ўзаемаадносіны Пушчы-паэта і крытыкі — асобная тэма гаворкі. Тут жа зазначым, што да канца свайго жыцця Пушча балюча перажываў незаслужаныя нападкі аглабельнай крытыкі 20-х гадоў ды і пазнейшай. Некаторае ўяўленне пра гэта можна атрымаць, пазнаёміўшыся з артыкуламі Я. Пушчы «Ліст да рэцэнзента Р. Г.» і «У абарону маладой паэзіі», апублікаванымі ў 1-м томе дадзенага выдання, а таксама — з некаторымі вершамі раздзела «Экспромты» (т. 2).

*На усходзе сонца* (с. 109)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Вясёлка, 1958, № 9.

*Пальмы славы* (с. 110)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 31.

Друкуецца ўпершыню.

*Перад Апалонам* (с. 110)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 31.

Друкуецца ўпершыню.

Апалон у старажытнагрэчаскай міфалогіі — Бог сонца, святла, мудрасці, апякун мастацтваў.

*Першакласніцы* (с. 111)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Піянер Беларусі, 1958, 5 верас.

*Песня лета* (с. 111)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Маладосць, 1959, № 7.

*«Сардэчны і любы мой дружа...»* (с. 112)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 31.

Друкуецца ўпершыню.

*Укленчы, сэрца, на пясок* (с. 113)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

*Хлопчык, як вясёлка* (с. 113)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў бібліятэцы АНБ, ф. 24, в. 1, адз. з. 1422.

Друкуецца ўпершыню.

*Школьны званок* (с. 114)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

Вядомы пад назвай «Настаўнік» (паводле аўтографа, які захоўваецца ў бібліятэцы АНБ, ф. 24, в. 1, адз. з. 1422).

*Шпакі* (с. 114)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

Першапачаткова гэта быў верш пра гракоў і меў назву «Гракі» (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 31).

*Шчодрае лета* (с. 115)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

## 1958

*«Жыве у родным, светлым доме славянін...»* (с. 116)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30, л. 39.

Друкуецца ўпершыню.

Больш ранні варыянт верша мае назву «З глыбінь жывых пластоў зямлі» (адз. з. 15).

*Дзень добры, Радзіма!* (с. 116)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Голас Радзімы, 1962, № 43, май.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30, лл. 42—43.

*Маяк жыцця* (с. 118)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30.

Адзін з рукапісных варыянтаў верша мае назву «Пад сонцам цёплых дзён» (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14).

*«Не паднімаў я каменя на брата...»* (с. 118)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18.

Друкуецца ўпершыню.

*Прыпаў я да крыніцы* (с. 119)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30.

*Шэфы* (с. 120)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 12.

Друкуецца ўпершыню.

*«Сляза скацілася, спаўзла...»* (с. 125)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 31.

Друкуецца ўпершыню.

Верш напісаны ў дзень звароту Я. Пушчы ў Мінск на сталае месца жыхарства пасля амаль трыццацігадовага выгнання.

[1] Дзе жыла Пушчава сястра.

*Песні сэрца* (с. 125)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Першапачаткова гэта былі тры асобныя вершы: «На Радзіме», «*** Хвойнік ўсё яшчэ зялёны», які быў надрукаваны ў «Полымі»,

1958, № 12 разам з вершам «*** Урачысты дзень які» пад агульным загалоўкам «Свята», і «Вясёлыя дачушкі». Датуюцца адпаведна: 10/IX-1958 г., 19/IX-1958 г., вераснем 1958 г.

У «Анталогіі беларускай паэзіі», 1961, т. 2 друкаваўся «*** Хвойнік усё яшчэ зялёны» пад назвай «Песня сэрца».

На ўкраін. мове — у зб. «Білоруська радянська поезія» (К., 1971) — «*** Хвойнік ўсё яшчэ зялёны».

*Зорка Саветаў* (с. 128)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Вясёлка, 1958, № 9.

Датуецца годам апублікавання.

*Гаспадар-народ* (с. 128)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў бібліятэцы АНБ, ф. 24, в. 1, адз. з. 1422.

Друкуецца ўпершыню.

У ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30 захоўваецца варыянт верша пад назвай «Верх народ узяў».

*Слаўся, Радзіма* (с. 131)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Літ. і мастацтва, 1958, 5 снеж.

Датуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30. Аўтограф мае назву «Дзяржава».

У зб. «Сады вятроў» (1982) — тэкст верша вельмі перапрацаваны ўжо пасля смерці аўтара.

*Бясрдная* (с. 131)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Маладосць, 1958, № 12.

*Свята* (с. 132)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Полымя, 1958, № 12 разам з вершам «*** Хвойнік ўсё яшчэ зялёны» пад агульным загалоўкам «Свята».

Першапачатковы варыянт верша складаўся з шасці строф і меў назву «Як не жыць, не весяліцца!» (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30).

*Юнацтва* (с. 133)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

У ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 9 захоўваецца аўтограф нізкі з двух вершаў пад назвай «Ад сэрца, ад душы», дзе верш Юнацтва» складае яе другую частку. Прапануем ніжэй першую частку нізкі:

Сябры, апошні здадзены экзамен,
І за плячыма ўжо дзесяты клас.
Юнацтва нашае спявае з намі,
І маладосць вітае песняй нас.

Юнацтва дні смяюцца сонцам ясным,
Яго прамені п'юць жыцця красу.
У сэрцах нашых радасць не пагасне:
Нам атэстаты сталасці нясуць.

Сябры, пацісрем моцна, шчыра рукі
Настаўнікам сваім. За вас наш тост!
Вы штодзень неслі нам святло навукі,
Вам сэрцы цешыў наш юнацкі рост.

Агонь гарыць, святла не патушыць.
Радзіме дзякуем ад сэрца, ад душы.

*Адвітанне* (с. 133)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў бібліятэцы АНБ, ф. 24, в. 1, адз. з. 1422.

Друкуецца ўпершыню.

*Двойчы два — чатыры* (с. 134)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў бібліятэцы АНБ, ф. 24, в. 1, адз. з. 1422.

Друкуецца ўпершыню.

Адзін з першапачатковых варыянтаў верша меў назву «Слухай, Беларусь!» (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 30).

*Зіма* (с. 134)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 9.

Друкуецца ўпершыню.

*«Мясціны гэтыя з маленства мне знаёмы...»* (с. 135)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

## 1959

*Усміхаецца вясна* (с. 136)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 48. Аўтограф верша мае назву «Вясна».

У «Вясёлцы», 1972, № 4 надрукаваны як песня. Муз. Г. Бараноўскай.

*«У кожным слове, быццам у крыштале...»* (с. 137)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 31.

Друкуецца ўпершыню.

*На возеры* (с. 137)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Маладосць, 1959, № 7.

*Як добра!* (с. 138)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Маладосць, 1959, № 7.

*А ў бары, бары сасонкі* (с. 139)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Анталогія беларускай паэзіі, 1961, т. 2.

*Веру і верце* (с. 139)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Вішанька* (с. 140)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Полымя, 1960, № 3.

*Восень жыта сее* (с. 140)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

Цвілая Бросень — назва балота ў Бярэзінскім раёне Мінскай вобласці.

Гэты, як і іншыя вершы,— «Журавінка, журавінка», «На балоце», «Курлы, курлы», «У дарозе» — першапачаткова з'яўляліся часткай паэмы «Які цудоўны час!» («Галіна Птах») (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 7), якая прысвячалася дачцэ Галі. Паэма не ўдалася аўтару.

*Журавінка, журавінка* (с. 141)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Полымя, 1960, № 3.

Як песня, надрукаваны ў «Гомельскай праўдзе», 1962, 10 студз. пад назвай «Журавінка». Музыка Л. Фрэнкеля-Майзліка.

Гл. таксама каментарый да верша «Восень жыта сее».

*Курлы, курлы* (с. 141)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Полымя, 1960, № 3.

На ўкраінскай мове — у зб. «Білоруська радянська поезія», К., 1971, пер. У. Лучук.

Гл. таксама каментарый да верша «Восень жыта сее».

*На балоце* (с. 142)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Полымя, 1960, № 3.

Гл. таксама каментарый да верша «Восень жыта сее».

*У дарозе* (с. 145)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

Гл. таксама каментарый да верша «Восень жыта сее».

*З добрым ранкам, дзеці* (с. 146)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ. ф. 26, в. 1, адз. з. 31.

Друкуецца ўпершыню.

*Настаўніца* (с. 146)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

Нагорнава Еўдакія Васільеўна — настаўніца пачатковых класаў Чаадаеўскай школы.

*У Чаадаеве* (с. 148)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

У Чаадаеве Я. Пушча пражыў з 1941 па 1958 гг. Працаваў завучам, затым дырэктарам мясцовай сярэдняй школы.

*Мінск* (с. 149)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Полымя, 1960, № 3.

*Песня* (с. 150)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

*Успаміны* (с. 150)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 15.

Друкуецца ўпершыню.

[1] Забралі Я. Пушчу ноччу 24 ліпеня 1930 г. Гл. «Храналагічную канву жыцця і творчасці» паэта, т. 2, с. 365.

## 1960

*На Мінскім заводзе аўтаматычных ліній* (с. 152)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33.

Друкуецца ўпершыню.

*Ленін* (с. 152)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

*Жар-птушка* (с. 153)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Полымя, 1960, № 4.

*Вясна* (с. 154)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы».

Упершыню — Беларусь, 1960, № 5.

*На Мінскім возеры* (с. 155)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33.

*Хмурынка смутку* (с. 155)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз, з. 33, л. 4.

Друкуецца ўпершыню.

*Белавежа* (с. 156)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Полымя, 1961, № 2.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 21.

Верш напісаны ў выніку наведвання Белавежскай пушчы ў час паездкі, арганізаванай СП БССР восенню 1960 г.

*Пачатак легенды* (с. 158)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

У аўтографе (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14) тэкст верша падзелены на пяцірадковыя страфы.

*Сувязь* (с. 158)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

[1] Верашчака Марыля — прыгажуня з памесця Туганавічы, якое часта наведваў А. Міцкевіч, прыязджаючы з Вільні ці Коўна на Навагрудчыну. Вобраз каханай Марылі паэтам апеты ў многіх баладах і рамансах.

*У Навагрудку* (с. 159)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

З успамінаў Я. Пушчы аб падарожжы па Гродзеншчыне: «Вось і Навагрудчына, авеяная векапомнай славай бессмяротных твораў

Адама Міцкевіча. Светлыя і памятныя мясціны чалавечай культуры. Прыгожа раскінуўся на пагорках старадаўні Навагрудак. На адным з пагоркаў бялее музей Адама Міцкевіча. Шырокая дарога вядзе да яго. Музей генія польскага народа і ўсяго чалавецтва быў зруйнаваны фашыстамі ў жахлівыя дні іх панавання. Савецкі ўрад пасля вызвалення ад фашыстаў Навагрудка аднавіў Музей Адама Міцкевіча, і зараз штогод яго наведваюць тысячы экскурсантаў і аддаюць глыбокую пашану паэту. І я наведаў гэты музей з гасцямі і пакінуў у дар музею свой санет «Адаму Міцкевічу» (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 44).

*Курган Бяссмерця* (с. 160)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», апошняя страфа, якая тут адсутнічала, друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

Упершыню — у скарочаным варыянце — зб. «Пачатак легенды».

Датуецца паводле згаданага аўтографа.

Курган Бяссмерця насыпаны на Замкавай гары ў Навагрудку як знак шанавання імя вялікага Міцкевіча на Беларусі. «Сем год,— пісаў У. Караткевіч у кнізе «Зямля пад белымі крыламі» (Мн., 1977, с. 87—88),— прысылалі на яго (курган.— *Л. М.*) зямлю з усіх куткоў Заходняй Беларусі, Польшчы і Заходняй Украіны (1924—1931). І насыпалі. Па жменьцы, без усякай механізацыі».

*У Шчорсах* (с. 160)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Шчорсы — вёска ў Навагрудскім раёне, за 28 км на ўсход ад Навагрудка. Вядомы з 16 ст. як маёнтак Храптовічаў. Канцлер Вялікага княства Літоўскага І. Храптовіч тут сабраў вялікую бібліятэку, у якой працаваў і А. Міцкевіч.

Каля Шчорсаў збярогся дуб Міцкевіча. Пад ім, паводле ўспамінаў сучаснікаў, паэт пісаў свае творы.

[1] Гераіня аднайменнай паэмы А. Міцкевіча.

*Валуны* (с. 161)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Полымя, 1961, № 2.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 42, в. 1, адз. з. 307.

Напісаны ў выніку пісьменніцкай экскурсіі па Беларусі восенню 1960 г.

З успамінаў аўтара: «Не бачыў іх (валуноў.— *Л. М.*) раней нідзе гэтулькі. Здалося мне, што яны цэлымі сівымі гуртамі спаўзлі сюды з далёкай Скандынавіі і ўляглiся ўздоўж шляхоў-дарог, і прыціснулі сабой і ўзгоркі. Моцнае ўражанне яны зрабілі на мяне» (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 44).

*Светлы Нёман-чарадзей* (с. 162)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Полымя, 1961, № 2.

У аўтографе (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14) трэцяя страфа гучыць так:

І не гасне ў лоне ясны,
І не вылавіць ні чым.
Казку-песню дзён сучасных
Аклікае далячынь.

*Сёстры* (с. 163)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33. Аўтограф верша мае назву «Каля Нёманскай крыніцы».

*На беразе гадоў* (с. 163)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікаваны.

*Красуй, жыві!* (с. 164)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

Друкуецца ўпершыню.

*Ліст да чытача ў сувязі з выхадам зборніка «Вершы і паэмы»* (с. 164)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33.

Упершыню — зб. «Язэп Пушча», выдадзены ў серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі», 1968, дзе верш апублікаваны без загалоўка і трэцяй страфы.

Паводле архіўных матэрыялаў вядомы і такія загалоўкі верша: «Слова да чытача ў сувязі ■ выхадам кніжкі «Вершы і паэмы» і «Ліст дваццаць восьмы да чытача ў сувязі з выхадам зборніка «Вершы і паэмы».

*Неадасланыя лісты* (с. 166)

Друкуецца па першадруку — зб. «Дзень паэзіі», Мн., 1965 (без назвы).

Датуецца прыблізна 1960 г., паколькі аўтарская дата адсутнічае. Паводле зместу, верш мог быць напісаны на працягу 1956—1960 гг. Відаць, найбольш верагодным годам яго напісання з'яўляецца 1960 г., калі складаўся раздзел «Неадасланыя лісты», паводле кампазіцыі якога верш выконваў ролю ўступа.

## 1961

*Чарадзей вялікі* (с. 167)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1961, 10 сак. да 100-годдзя з дня смерці вялікага ўкраінскага песняра Т. Р. Шаўчэнкі (1814—1861).

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33 пад назвай «Тарасу Шаўчэнку».

[1] Верш напісаны Шаўчэнкам у Пераяслаўлі ў 1845 г.

*Музыка вясны* (с. 167)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Маладосць, 1961, № 6.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 15.

*Гімн славы* (с. 168)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Полымя, 1961, № 5 пад назвай «Збыліся надзеі і мары» з прысвячэннем: «Юрыю Гагарыну».

*Паэты — сумленне народа* (с. 169)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33. Паводле архіўных матэрыялаў вядомы варыянты верша пад назвамі «Паэты» і «Ліст дваццаць дзевяты да паэтаў» (адз. з. 33 і 15).

Тэкст, які не ўвайшоў у першадрук (адз. з. 33):

Страфа 5 Натхненне цяплей за праменні,
Яго здабываем у працы.
Натхненне — наперад імкненне,
Ніводнай хвіліны не траціць.

Строфы 7, 8,10 Паэты, сябры дарагія,
Сягоння ужо мы другія.
Не ходзім ў дзіцячыя яслі,
І песні патрэбна такія,
Якія б ніколі не згаслі.
Чытаю усё я дазвання,
Бывае, даруйце прызнанне,
Не хочаш, а трэба адзецца,
Хоць ранак і сонечны, весні.
Адвеку ўжо гэтак вядзецца —
Не грэюць халодныя песні.
Шукалі і ўсё ж адшукалі,
Адкуль тая сіла бярэцца,
Што крышыць гранітныя скалы,
Ўрываецца ў кожнае сэрца.

*На Радзіме так прыгожа* (с. 170)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Беларусь, 1961, № 5. У «Голасе Радзімы», 1961, № 34 апублікаваны пад назвай «Дарагім землякам».

*Ты — як песня тая* (с. 171)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Полымя, 1962, № 5.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33.

*Будуем* (с. 171)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Голас Радзімы, 1961, № 43 (чэрвень) пад назвай «Штодзень прыгажэе».

*Жытні колас* (с. 172)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Маладосць, 1961, № 6. У «Ніве» — за 13 жн. 1961 г.

*Рана сонейка устала* (с. 174)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Маладосць, 1961, № 6.

*Гродна* (с. 175)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

[1] Ажэшка Эліза (1841—1910) — польская пісьменніца. Яна нарадзілася на Гродзеншчыне, а з 1870 г. жыла ў Гродне і там памерла. У доме, дзе з 1894 г. жыла Ажэшка, адкрыта пастаянная экспазіцыя.

*Дарогі юнацтва, шляхі маладосці* (с. 176)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Полымя, 1962, № 5.

*Засяваю поле чыстым зернем* (с. 177)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1962, 8 мая пад назвай «Для новае сяўбы» (скарочаны варыянт верша).

Аўтограф захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14, мае назву «Пад сонцам ясных дзён».

*Крытыкам* (с. 178)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

Друкуецца ўпершыню.

*На зямлі літоўскай* (с. 179)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

*Не лез пішчом я на Парнас* (с. 179)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

Друкуецца ўпершыню.

Алесь — Алесь Якімовіч. Гл. каментарыі да верша «А. Я.» (1957).

*Сталее песня год ад году* (с. 180)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

Друкуецца ўпершыню.

*Упрочкі песня не збяжыць* (с. 181)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33. Аўтограф верша мае назву «Умею горача любіць».

*Яшчэ ў вялікім я даўгу* (с. 182)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Анталогія беларускай паэзіі, 1961, т. 2.

На ўкраін. мове — у зб. «Білоруська радянська поезія» (К., 1971), пер. У. Лучук.

Тэкст, які не ўвайшоў у першадрук (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33):

Страфа 1, пасля: «Адклікніся, вясна мая!»:

Даўно я абагнаў цябе
І даў агрэх, як на сяўбе,
Бывае з сейбітам не раз,
Хоць сее ён і ў добры час.

Пасля другой страфы:

За ёй і лета надышло,
Праменняў сонечных святло
Раскінула сваёй рукой
Над Свіслаччу, маёй ракой.
І на квяцістым моры траў
Узятак рой пчаліны браў

І нёс у родны вулей свой,
Абмыты напырскам-расой.

Будзілі сонца салаўі.
Быў я у роевай сям'і
Штодзень рупліваю пчалой,
Пакуль хмурнець не пачало
І не засцёбаў з хмары град.
Не быў яму, не быў я рад.

Застаўся сад без салаўя,
І з летам развітаўся я,
І не паспеў пакінуць спеў:
Адкрасаваў, а не даспеў.
Ў далёкі шлях паклікаў лёс,
І ў сэрцы спеў я свой панёс.

Апошняя страфа:

Няхай не крыўдзяцца багі,
Што я нядобры і благі,
Няхай расходзяцца кругі,
І хвалі змыюць берагі,
Каб не было на іх смугі.
Яшчэ у цвеце верасы,
У зарыве гаі, лясы.
Красуню-восень я люблю
І гэту песню не згублю.

**1962**

*За ўсё, за ўсё вам дзякуй* (с. 184)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33. Тут жа ёсць яшчэ адзін варыянт верша без першай страфы і пад назвай «Не плюйце мне ў душу».

Друкуецца ўпершыню.

*Прыйшла пара — пасваталі* (с. 185)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33.

Друкуецца ўпершыню.

*Люблю* (с. 185)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18.

*Адцвітае ў садзе ружа* (с. 186)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33.

Друкуецца ўпершыню.

*Хвіліны урачыстыя* (с. 187)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33.

*На салаўіны лад* (с. 187)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18.

Друкуецца ўпершыню.

*Ой вы, травы, травы-мурагі* (с. 188)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апубліканы.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 21.

*На хараство не надзівіцца* (с. 189)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Полымя, 1963, № 1.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33.

*Хачу спяваць, а не маліцца* (с. 190)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18.

Друкуецца ўпершыню.

*Календара я не гартаю* (с. 190)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

Друкуецца ўпершыню.

*На дарогах Беларусі* (с. 192)

Датуецца па тэксце першай публікацыі — Полымя, 1963, № 1.

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18.

*Навагодняе віно* (с. 193)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Полымя, 1963, № 1.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18.

*Хараством зямлі любуюся* (с. 194)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Полымя, 1963, № 1 (без назвы).

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 21.

*Паэт і салаўі* (с. 195)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апубліканы.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 19.

*На Свіслачы* (с. 196)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18.

Друкуецца ўпершыню.

*Радзіма* (с. 197)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апубліканы.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18.

*Сказала партыя народу праўду* (с. 198)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 89.

Друкуецца ўпершыню.

*«Няўжо з пасцелі мне не ўстаць...»* (с. 198)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 89. Тут разам з вершамі «Адцвітае ў садзе ружа» і «Не плюйце мне ў душу» складае нізку пад загалоўкам «Песні Лазара».

Друкуецца ўпершыню.

*Поплеч Пушкін і Купала* (с. 199)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18.

*Зноў слухаю гоман* (с. 200)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 13.

Друкуецца ўпершыню.

*Сяўба* (с. 201)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Беларусь, 1963, № 5.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18.

*Добры вечар, Мінск вячэрні* (с. 203)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 21.

*Душа пясняpская гарыць* (с. 203)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 15.

Друкуецца ўпершыню.

*У. Д — ку* (с. 205)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33.

Друкуецца ўпершыню.

[1] Уладзіміру Дубоўку (гл. таксама верш «У. Д.», 1957).

*Да тваіх жывых крыніц-грудзей* (с. 206)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 21. Гэта першапачатковы варыянт, які складаецца з чатырох строф і мае назву «Згаладаўся па тваёй красе». У асноўны тэкст не ўвайшла яго першая страфа, і гучыць яна так:

Згаладаўся па тваёй красе,—
Ты прабач ужо мяне за гэта.
Уталяю голад пакрысе,
Адчуваючы ў сабе паэта,
Заклікаючы вясну і лета.

*Яна, як сонейка ў крыштале* (с. 207)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1963, 30 жн.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18.

*Сталічны ранак* (с. 207)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33.

*Елачка* (с. 208)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18.

*Ізноў у квецені сады* (с. 209)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды«, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33. Першапачатковыя назвы верша (паводле аўтографа): «У нашым садзе салаўі» і «Вясна і салаўі».

*Не разняць рук братніх* (с. 209)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 18.

Друкуецца ўпершыню.

**1963**

*Настаўнікам Чаадаеўскай школы* (с. 211)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 15 пад назвай «Ліст трыццаты да настаўнікаў Чаадаеўскай сярэдняй школы».

Тэкст аўтографа, які не ўвайшоў у першадрук:

Пасля першай страфы:

Пісала мне дачка мая,
Што стала меншаю сям'я:
Адны навечна адышлі,
Спачын няўтрачаны знайшлі,
Другія — да суседніх школ.

Не прыйдуць больш за круглы стол,
Дзе засядаў наш педсавет
І з словам выступаў не раз,
Я добра помню, кожны з нас:
Настаўнік сціплы і паэт.
І я больш не прыеду к вам
І не пабачу, жывяце як там,
А да сябе я вас прашу.
Саграйце сэрца і душу.

Пасля трэцяй страфы:

Надзею у душы насіў,
Хацеў застацца назусім.

Я думаў: гэтакі мой лёс,
Хоць паглядӑў на дальні плёс.

Пасля 11 радка чацвёртай страфы:

Да нізкіх заімшэлых стрэх,
Дзе, акрамя сястры, ніхто не стрэў,
Але быў рад, паклон аддаў,
Паветра свежае глытаў.

*У сонечны зімовы поўдзень* (с. 212)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 14.

Друкуецца ўпершыню.

*Блакітнае мора* (с. 213)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды».

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1963, 30 жн.

*Дзень добры!* (с. 213)

Друкуецца па зб. «Пачатак легенды», дзе ўпершыню апублікаваны.

## ВЕРШЫ НЕВЯДОМЫХ ГАДОЎ

*Любіць мы і тады умелі* (с. 214)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33.

Друкуецца ўпершыню, як і ўсе астатнія вершы гэтага падраздзела.

*«Унук і праўнук дзён сучасных...»* (с. 214)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33.

*«З песняй-лёсам...»* (с. 215)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 48.

*Музыка і танцы* (с. 215)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 34.

*Апякун* (с. 216)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 34.

*Гром першы гукае* (с. 217)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 34.

*«Толік-саколік...»* (с. 217)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 34.

*У ёлачкі-іголачкі* (с. 218)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 34.

*Брэст* (с. 219)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33.

*«Над кронамі — блакіт...»* (с. 220)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 33. Яго перапрацаваны тэкст з'яўляецца часткай верша «Засяваю поле чыстым зернем».

## ЭКСПРОМТЫ (с. 221)

Друкуюцца па тэксце першай публікацыі наступныя экспромты: «Віншаванне», «Я жыць хачу...», «Калі гараць зарніцы», «***Неспакойна б'ецца сэрца», «Над рэчкаю тапола маладая», «*** Калі дзень часам пройдзе марна», «*** Дружна вяслуйце...», «Сонейка маё, дзівіся», «Цалуй і абнімай», «Клён шуміць на горцы», «*** Хто мне дасць адказ» — зб. «Пачатак легенды»; «*** Вясенні шум сасны» — Літ. і мастацтва, 1977, 20 мая; астатнія — упершыню і друкуюцца па аўтографах, якія захоўваюцца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 8, 9, 13, 18, 22, 24, 30, 33, 34, 36, 48, 49, 51.

Невялікі машынапісны зборнічак экспромтаў (памерам каля аркуша, адз. з. 36) аўтар назваў «Імправізацыі. Розныя гады».

Некаторыя вершы-экспромты аўтар сабраў у нізку пад назвай «І адбылося і збылося» (адз. з. 13).

«Ахвотна і весела» — дасланы з лістом А. Пальчэўскаму ад 25.XI. 1957 г.

«Наш Купала...» — аўтар пакінуў у кнізе водгукаў наведвальнікаў Музея Янкі Купалы ў 1956 г.

[1] Шушкевічам.

[2] Дарчы надпіс Я. Пушчы на кнізе «Вершы і паэмы», прысвечаны беларускаму мастаку Анатолю Тычыне, які ў 1927 г. афармляў яго зборнік «Дні вясны».

[3] Г. Вылчаў (н. 1926), балгарскі літаратуразнаўца, з якім Я. Пушча пазнаёміўся ў 1961 г.

## ПАЭМЫ

*Бор шуміць* (с. 249)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікавана.

Тры яе варыянты захоўваюцца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 5.

*Людвіся* (с. 264)

Друкуецца па зб. «Вершы і паэмы», дзе ўпершыню апублікавана.

Аўтограф захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 11.

## КАЗКА

*На Бабрыцы* (с. 282)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — «На Бабрыцы», Мн., 1960. Першапачатковы варыянт назвы казкі — «Бабры і выдры» (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 37).

## ПЕРАКЛАДЫ

*Рамуці ў горадзе чужым* (с. 291)

Друкуецца па зб. «Ветрык, вей!» (1959).

Грыгуліс Арвідс (н. 1906), народны пісьменнік Латвіі, літаратуразнаўца.

*Дзве скрыпкі* (с. 292)

Друкуецца па зб. «Ветрык, вей!»

Барбале Марта, латышская паэтэса.

*Рукавіцы* (с. 292)

Друкуецца па зб. «Ветрык, вей!» (1959).

Друкаваўся ў анталогіі «Латышская савецкая паэзія» (Мн., 1984).

Стулпан Еранім (1931—1981), латышскі паэт.

*Серабрыстая асіна* (с. 293)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 46.

Друкуецца ўпершыню.

Брутане Валія (н. 1911), латышская паэтэса.

## КРЫТЫЧНЫЯ АРТЫКУЛЫ

*Трапяткое сэрца паэта* (с. 295)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Літ. і мастацтва, 1959, 7 кастр.

Датуецца паводле першадруку.

Пысін Аляксей Васільевіч (1920—1981), беларускі пісьменнік. «Сіні ранак» — яго другая кніжка паэзіі (1959). Першая — «Наш дзень» — выйшла ў 1951 г. У яго паэтычнай скарбонцы звыш дзесяці кніг выдатнай паэзіі.

*Маленькім чытачам* (с. 300)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Полымя, 1960, № 1.

Датуецца паводле першадруку.

Шушкевіч Станіслаў Пятровіч (1908—1991) — беларускі пісьменнік, лёс якога быў пазначаны таўром сталінскіх рэпрэсій. Звыш дваццаці гадоў правёў на выгнанні. «Лясная калыханка» (1958) — яго першая кніжка пасля доўгіх гадоў маўчання. «Сарочы церамок» — другая дзіцячая кніжка.

*«Дарогаю вясны»* (с. 303)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Беларусь, 1960, № 2.

Датуецца паводле першадруку.

Першапачатковая назва рукапісу — «Чарадзейны ключык знойдзен» (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 42).

Зб. «Дарогаю вясны» выйшаў у 1959 г. Яго падзяляюць ад першага зборніка паэзіі «Вершы» (1934) 25 гадоў (гл. таксама каментарый да артыкула «Маленькім чытачам»).

*Незабыўнае* (с. 305)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Літ. і мастацтва, 1960, 2 верас.

Датуецца паводле аўтографа (ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 39).

Напісаны да Дзён беларускай літаратуры ў Латвіі (3—12 верас.).

Райніс Ян (сапр. Яніс Пліекшанс, 1865—1929) — народны паэт Латвіі, драматург, грамадскі дзеяч.

*Янка Купала. Збор твораў. Том чацвёрты:*
*«Сон на кургане», «Адвечная песня», «На папасе»,*
*«Песня аб паходзе Ігара», «Галька» (перакл.)* (с. 308)

Друкуецца па тэксце першай публікацыі — Узвышша, 1928, № 3. Датуецца годам апублікавання.

Размова ідзе пра першы Збор твораў Я. Купалы ў 6 тамах (1925—1932). 4-ты том выйшаў у 1928 г.

[1] Лібрэта напісана У. Вольскім (1824—1882) у 1846—1847 гг. (пазней дапрацоўвалася). Я. Купала пераклаў яго з польскай мовы ў 1922 г.

[2] Драматычная паэма, завершаная Я. Купалам у Пецярбурзе 8 жніўня 1910 г. Упершыню надрукавана ў альманаху «Маладая Беларусь», 1912, серыя 1, сшытак 1.

[3] «Адвечная песня» (1908) — першая з драматычных паэм Я. Купалы. Упершыню выйшла асобным выданнем у 1910 г. Інсцэніравана ў 1921 г. БДТ-1. Некаторыя даследчыкі лічаць, што паэма напісана пад уплывам п'есы Л. Андрэева «Жыццё чалавека».

[4] Драматычная паэма, напісаная ў 1913 г. і ўпершыню надрукаваная ў зборніку Я. Купалы «Шляхам жыцця» (1913). Купалазнаўцы лічаць, што на з'яўленне ў творчасці Купалы алегарычна-сімвалічнага вобраза Незнаёмага паўплывала рамантычная плынь польскай літаратуры, у прыватнасці драматургія С. Выспянскага.

[5] «Слова аб палку Ігаравым» (1185) — помнік старажытнарускай літаратуры — Я. Купала пераклаў двойчы. Празаічны пераклад — у 1919 г., вершаваны — у 1921 г. Тут размова ідзе пра другі з перакладаў, які ўпершыню быў апублікаваны ў часопісе «Вольны сцяг», 1921, № 5, 6 пад загалоўкам «Песня аб паходзе Ігара».

[6] Штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурная газета, якая выдавалася легальна ў Вільні ў 1906—1915 гг. 3 мая 1914 г. яе рэдактарам-выдаўцом быў Я. Купала.

[7] Рэнесанс, эпоха станаўлення раннебуржуазнай культуры ў Заходняй і Цэнтральнай Еўропе ў 14—16 стст.

[8] Сімвалізм — літаратурна-мастацкі кірунак канца 19 — пач. 20 стст., для якога характэрна абсалютызацыя мастацкага сімвала. Для стылістыкі і творчай манеры сімвалістаў характэрны неадназначнасць вобразаў, шматлікія падтэксты, музыкальнасць слова, пластычнасць. Узнік у французскай літаратуры 1860—1870 гг. У рускай літаратуры найбольш поўна выявіўся ў 1905—1910 гг. (Брусаў, Блок, Бальмонт, В. Іваноў, Белы і інш.).

[9] Дэкадэнцкі кірунак у рускай паэзіі 1910 г. (Гумілёў, Гарадзецкі, Ахматава), узнік як рэакцыя на сімвалізм, на яго імкненне да зацемненасці сэнсу, незразумелых вобразаў.

[10] Авангардысцкі літаратурна-мастацкі рух пачатку 20 ст., які характарызуецца адмаўленнем класічных традыцый культуры, прэтэнзіямі на поўнае абнаўленне мастацкага мыслення ў будучай культуры.

## ДАДАТАК

### Змест і кампазіцыя прыжыццёвых зборнікаў паэзіі Я. Пушчы 60-х гадоў

*Вершы і паэмы.— Мн.: Дзяржвыдат БССР, 1960.*

Пятро Глебка. Прадмова.
Слаўся, Радзіма

**Вершы**

Рэчанька не спіць
Не пагасла
Радзіма і Сонца
Раніца
Песня сонцу
Я раніцы кланяўся ў пояс
Раніцу шчэбет пільнуе
Мне чупрыны не хочацца звесіць
Вясна
Бегучы ў крыніцу па ваду
Чаму так сэрца любіць?
Дух мой узвіўся высока
Вечар асенні, вечар маўклівы
Зоры мітусяцца, свецяць
Зялёны шум лясны
Там, дзе веюць верасы
Хвалі
Светлых дзён хараство
Ой, за лугам ды над лесам...
Любыя, мілыя ліпы!
Ой ты, краса...
Аркестры
Каханне, залатое каханне
Не сніў, не думаў, не гадаў
Рабіндранату Тагору
Зашумелі лісты
Ліст да паэтаў
Ноч на ўзмор'і
Гары, свяці...
Як люба тут...

### Паэмы



*Пачатак легенды: Лірыка.— Мн., ДВБ, 1963.*

### Хараство Радзімы

## Экспромты

# *Храналагічная канва жыцця і творчасці*

## 1902

*Май, 7.*

Нарадзіўся ў вёсцы Каралішчавічы былой Пярэжарскай воласці Ігуменскага ўезда (зараз Мінскі раён) у сялянскай сям'і Паўла Вікенцьевіча і Міхаліны Вікенцьеўны Плашчынскіх *(Пасведчанне аб нараджэнні № 5474936—ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, адз. з. 71).*

## 1910—1913

Вучыцца ў Каралішчавіцкім народным вучылішчы. «Рана, [illegible] дзіцячых гадоу, стаў пастушком, узыход сонца часта сустракаў на выгане разам з каровамі; я слухаў у полі і чуў, як раніца рыкае. Гэты вобраз пазней увайшоў у маю паэзію. Я рана навучыўся араць і касіць, і ў дванаццаць гадоў у касьбе амаль не адставаў ад дарослых, хоць фізічна і не быў моцным хлапчуком, але да касьбы здатным. З аднагодкамі сваімі і са старэйшымі любіў ездзіць на начлег. Асабліва ў часе жніва захаплялі мяне мелодыі жніўных песень, якія, здавалася, коцяцца і коцяцца [illegible] шумам спелых жытніх каласоў у чыстыя блакітныя далі. Нездарма ж — гэта матывы маёй ранняй лірыкі» *(Кароткая аўтабіяграфія.— ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, адз. з. 45).*

## 1915

*Жнівень.*

Паступіў у другі клас Мінскага пачатковага вучылішча. «Аднак заняткі не пачаліся, бо наша армія адступала на ўсход і Мінск рыхтаваўся да эвакуацыі».

Заняткі пачаліся са студзеня наступнага года *(Пра час і пра сябе.— Мн.: Беларусь, 1966, с. 294).*

## 1918

Скончыў пачатковае вучылішча і паступіў у пяты клас Мінскага рэальнага вучылішча. «У гэтым годзе я прачытаў першую беларускую кніжку. Гэтай кніжкай быў зборнік вершаў Янкі Купалы «Шляхам жыцця». Купалаўскае слова абудзіла ў мяне нацыянальную свядомасць» *(Пра час і пра сябе, с. 295).*

## 1920

*Май.*
Пазнаёміўся з Міхасём Чаротам.

*Чэрвень.*
Скончыў рэальнае вучылішча і быў прызначаны настаўнікам Каралішчавіцкай школы. «Запісалася аж 80 вучняў, а я адзін настаўнік на ўсю школу. Вучняў набралася на пяць класаў. Арганізаваў двухзменныя заняткі: да абеду тры класы, а з абеду два класы. Навучальных праграм, планаў не было, з аддзела народнай асветы школу ніхто не наведваў, і я сваім одумам праз два-тры месяцы пачаў выкладанне на беларускай мове ды яшчэ ўвёў нямецкую і французскую мовы, бо я толькі што скончыўшы рэальнае вучылішча, больш — менш ведаў іх» *(Пра час і пра сябе, с. 295).*

## 1921—1922

*Жнівень, 1921 — сакавік, 1922.*
Вучыцца ў Мінску на дзевяцімесячных педагагічных курсах беларусазнаўства (называліся часам і лектарскімі), створаных пры наркамасвеце БССР. «Па літаратуры не толькі чыталі лекцыі выкладчыкі, але прыходзілі самі пісьменнікі і чыталі свае творы. Я тут, стаіўшы подых, слухаў Янку Купалу, Якуба Коласа і Змітрака Бядулю» *(Пра час і пра сябе, с. 295).*

*Сакавік, 29.*
Выступіў на вечары, прысвечаным выпуску слухачоў мінскіх курсаў беларусазнаўства. Сярод выступіўшых — У. Ігнатоўскі, М. Піятуховіч, Я. Лёсік і інш.

Тэкст прамовы публікуецца паводле часоп. «Адраджэнне», 1922, сшытак 1, с. 300—301:

«Паважаны Камісар Асветы і шаноўныя лектары!

Дазвольце ад імя скончыўшых лектарскія курсы беларусазнаўства сказаць вам шчырае беларускае дзякуй ад гарачых, як праменні сонца, нашых пачуццяў за вашу вялікую і шчырую працу.

Мы адчуваем, што, будучы на лектарскіх курсах, мы ўзброіліся аднэй з вамі ідэяй, ідэяй культурна-нацыянальнага адраджэння нашай дарагой Бацькаўшчыны.

У працягу дзевяцёх месяцаў вашыя навукова-адраджэнцкія словы і думкі знаходзілі жывы водклік у нашых сэрцах — сэрцах сыноў гаротнае Беларусі. Вы, як шчырыя сейбіты на родных загонах, поўнаю жменяю сеялі зерні навукі ў нашыя сэрцы. Верце, што гэтыя зерні прараслі і гоняць угару маладыя адросткі. Мы, узмацнёныя святлом навукі, пойдзем у беларускую вёску, да загнанага свайго народа. Мы пойдзем к беларускаму гаротніку, каб прасвятліць яго і выявіць перад ім гістарычны шлях яго жыцця, па якім павышываны дзіўныя ўзоры яго слаўнай мінуўшчыны, пышнага росквіту яго роднай культуры. Тады толькі ён пазнае сам сябе, таксама пазнае і тое, як трэба кіраваць сваё жыццё, каб хутчэй заняць пачэснае месца сярод культурных народаў.

Праз усё жыццё нашы сэрцы будуць хвалявацца салодкімі ўспамінамі аб нашым супольным жыцці, аб нашай супольнай працы.

Хай пышна закрасуе беларуская культура на карысць нашаму роднаму народу!

Шчыра дзякую таксама і ўсіх прывітаўшых нас з заканчэннем курсаў».

*Красавік — верасень.*

Працуе інспектарам Мазырскага аддзела народнай асветы *(Личный листок по учету кадров, ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 72).*

*Кастрычнік, 1922 — кастрычнік, 1925.*

Працуе інспектарам школ Мінскага павета. Потым у Мінску настаўнікам беларускай мовы і літаратуры на агульнаадукацыйных курсах і ў музычным тэхнікуме *(Пра час і пра сябе, с. 295).*

*На працягу 1922 года.*

Напісаў вершы «Рэчанька не спіць», «Не пагасла», «Радзіма і Сонца».

## 1923

*Сакавік.*

Упершыню выступіў у друку. Верш «Новы дзень» — «Полымя», № 3—4.

*Лістапад, 28.*

Пры часоп. «Маладняк» утварылася арганізацыя маладых паэтаў «Маладняк». У склад яе ўвайшлі Я. Пушча, М. Чарот, А. Вольны, А. Дудар, А. Александровіч, А. Бабарэка *(Савецкая Беларусь, 29 лістап.).*

*На працягу года.*

Напісаў шэраг вершаў: *гл. т. 1.* Некаторыя з іх былі надрукаваны ў часоп. «Маладняк» і «Полымя» *(гл. каментарыі, т. 1).*

## 1924

*На працягу года.*

З успамінаў Я. Пушчы: «1924 год. Настаўнічаю (на двухгадовых агульнаадукацыйных курсах выкладаў беларускую літаратуру.— *Л. М.*) і працую ў «Маладняку», пачынаю больш пісаць вершаў. Шаную і люблю паэзію Я. Купалы, Я. Коласа, знаходжуся пад моцным уздзеяннем вобразнасці народнай паэзіі, захапляюся С. Ясеніным. Шукаю новую і светлую сцежку ў паэзію. Шырока карыстаюся вобразам, смелай метафарай, імкнуся надаць новае гучанне рыфме» *(Кароткая аўтабіяграфія).*

Напісаў шэраг вершаў: *гл. т. 1.* Некаторыя з іх былі надрукаваны ў «Маладняку», «Полымі», «Радавой руні» *(гл. каментарыі, т. 1).* Напісаў артыкулы: «Вобраз у беларускай паэзіі» (Радавая рунь, 1924, № 2), «Матывы маладняцкай паэзіі» (Заря Запада, 1924, 19 кастр.), «Маладняцкія ўсходы» (Маладняк Калініншчыны, 1924, 23 лістап.).

У «Полымі», № 4 інфармацыя: «Паэта Я. Пушча рыхтуе да выдання зборнік вершаў. У сучасны момант Я. Пушча піша паэму «Каліноўскі». (Напісана не была.— *Л. М.).*

## 1925

*Студзень, 2.*

У Доме працаўнікоў асветы Беларусі «Маладняком» быў наладжаны вечар. У першай частцы праграмы, якая называлася «У рожкі са старымі», з дакладамі выступілі Я. Пушча і А. Бабарэка. У другой частцы — «Мяцеліца песень» — свае вершы чыталі сябры «Маладняка» — Пушча, Вольны, Дудар, Жызнеўскі, Якімовіч, Падабед, Зарэцкі, Гурло і інш. *(Полымя, № 1).*

*Люты, 18.*

Абіраецца ў склад часовага Цэнтральнага бюро аб'яднання «Маладняк», якое было ўтворана замест прэзідыума аб'яднання. У яго ўвайшлі А. Вольны, А. Бабарэка, М. Зарэцкі, А. Александровіч, Н. Чарнушэвіч, А. Гурло *(Савецкая Беларусь, 21 лют.).*

*Люты.*

Разам з А. Вольным выязджае ў Полацк, Віцебск, Магілёў для арганізацыі філій і вечароў беларускай паэзіі *(Полымя, № 2).*

*Сакавік.*

Разам з У. Дубоўкам прымае ўдзел у І Усеўкраінскім з'ездзе аб'яднання «Гарт» *(Полымя, № 3).*

Разам з Н. Чарнушэвічам наладжвае паэтычныя вечары ў Бабруйску, Гомелі, Мазыры *(Полымя, № 3).*

*Май.*

Выйшла першая кніжка вершаў пад назвай «Раніца рыкае». Гэта адна з 28 кніжак, выдадзеных за 1925—1926 гг. на сродкі «Маладняка», т. з. выданне маладнякоўскай кніжніцы.

Ацэнка ў крытыцы сучаснікам Пушчы: «Хочацца сказаць: не загіне беларуская культура, беларускае мастацтва. Першы зборнік маладнякоўца сведчыць аб гэтым, яскрава сведчыць...» *(У. Гайдуковіч. «Раніца рыкае».— Маладняк, № 8).*

У «Маладняку», № 7 пераклад Я. Пушчы верша У. Сасюры «Не спаткаюся ў полі я з вечарам...».

*Чэрвень, 23.*

Выступіў з дакладам на агульнагарадскім вечары, прысвечаным 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы *(Савецкая Беларусь, 25 чэрв.).*

*Верасень.*

Удзельнічае ў вечары беларускай паэзіі, арганізаваным Слуцкай філіяй.

Тады ж, у Слуцку, знаёміцца са сваёй будучай жонкай Станіславай Эдуардаўнай Шпакоўскай.

*Кастрычнік.*

Студэнт педагагічнага факультэта БДУ.

*Лістапад, 16—17.*

Прымае ўдзел у канферэнцыі Мінскай філіі «Маладняка». Абіраецца ў склад новага бюро філіі *(Звязда, 19 лістап.).*

*Лістапад, 25—29.*

Удзельнічае ў Першым Усебеларускім з'ездзе «Маладняка» *(Бюлетэнь І-га Усебеларускага з'езда «Маладняка», Мн., 1926).*

*На працягу года.*

Напісаў вершы: *гл. т. 1.* Некаторыя з іх былі апубліканы ў «Полымі», «Маладняку», «Маладым аратым», «Світанні», «Савецкай Беларусі». Напісаў артыкулы: «Да тэарэтычнага абаснавання маладнякізму і аб вывіхах крытыкі» (Савецкая Беларусь, 1925, 27 студз.), «Аб жніўных абрадах і песнях» (Маладняк, 1925, № 6).

## 1926

*Май.*

Разам з А. Бабарэкам, У. Дубоўкам, К. Чорным, К. Крапівой, П. Глебкам, М. Лужаніным і інш. выходзіць з «Маладняка».

«Абгрунтоўваючы ўзвышаўскую праграму і прычыны свайго выхаду з ранейшага аб'яднання, ініцыятыўная група спасылалася на адсутнасць у «Маладняку» сапраўды творчай атмасферы, спрошчанае разуменне яго кіраўнікамі пытанняў мастацтва, якое, па словах А. Бабарэкі, «трэба тварыць не камандаю, а культураю». Я. Пушча адзначаў, што «Маладняк» становіцца асветнай, а не літаратурнай арганізацыяй» *(Гісторыя беларускай савецкай літаратуры.— Мн.: Вышэйшая школа, 1981, с. 28).*

*Лета.*

Прыступіў да працы ў Інстытуце беларускай культуры.

«З «Маладняка» пераходжу на работу сакратаром літаратурнай камісіі Інбелкульта, у якой разам з навуковым супрацоўнікам камісіі Мачульскім пад кіраўніцтвам старшыні камісіі прафесара І. І. Замоціна рыхтаваў першае акадэмічнае выданне твораў М. Багдановіча» *(Кароткая аўтабіяграфія).*

*Кастрычнік.*

Створана літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Узвышша». Пушча быў адным з яго арганізатараў *(Савецкая Беларусь, 12 кастр.).*

*Лістапад, 14—20.*

Адбылася Першая беларуская канферэнцыя па пытаннях рэформы беларускага правапісу і алфавіта, дзе Пушча пазнаёміўся з Янам Райнісам. Разам са З. Бядулем суправаджаў госця ў паездцы па Мінску *(Я. Пушча. Незабыўнае.— Літ. і мастацтва, 1960, 2 верас.).*

*На працягу года.*

Выйшаў зборнік паэзіі «Vita» з «Прадмовай» аўтара. Напісаў некалькі дзесяткаў вершаў і рэцэнзіі на кнігі К. Чорнага, А. Александровіча, Я. Падабеда. Друкаваўся ў «Полымі», «Маладняку», «Чырвоным сейбіце», «Узвышшы», «Савецкай Беларусі».

## 1927

*Сакавік.*

Падрыхтаваў да друку зб. «Дні вясны» *(Полымя, № 2).*

*Красавік, 2 і 9.*

Прымае ўдзел у абмеркаванні часопіса «Узвышша», якое адбылося ў Інбелкульце. Ідэйныя пазіцыі часопіса выклікалі вострую палеміку. У дыскусіі таксама ўдзельнічалі Ц. Гартны, З. Бядуля, М. Зарэцкі, У. Дубоўка, М. Піятуховіч, А. Бабарэка і інш.

*Красавік, 8.*

Прымае ўдзел у інтэрнацыянальным літаратурным

вечары прадстаўнікоў «Маладняка», «Узвышша», «Звеньев», «Мінскага перавала» і «Юнгер Арбэйтэра» *(Звязда, 10 красав.; Маладняк, № 4).*

*Восень.*

З БДУ імя У. І. Леніна пераводзіцца на факультэт мовы і матэрыяльнай культуры Ленінградскага універсітэта.

«Ленінград здзівіў мяне сваім харастсвом, сваёй строгай і велічнай архітэктурай, сваімі палацамі, помнікамі. Мне было балюча, што ў Беларусі нічога гэтага няма, і гэта навеяла песімізм, які так выразна адчуваецца ў маіх ленінградскіх вершах, якіх я напісаў даволі шмат. Пачынаю працаваць над першай паэмай «Песня вайны» *(Кароткая аўтабіяграфія).*

*Канец года.*

Выйшаў трэці зборнік лірыкі «Дні вясны».

*На працягу года.*

Напісаў шэраг вершаў, сярод якіх «Лісты да сабакі», «Ліст ад сабакі», «Заплаканы вечар» і інш. *(гл. т. 1)*, што выклікалі моцныя нападкі з боку крытыкаў-вульгарызатараў. Некаторыя з іх друкаваліся ва «Узвышшы», «Беларускім календары», «Полымі», «Савецкай Беларусі».

Ва «Узвышшы», №№ 1, 2, 5 надрукаваны артыкулы «Кніга лірыкі як мастацкае цэлае...», «Гео Каляда. «Futur Extra», «Пятро Глебка. «Шыпшына».

## 1928

*Кастрычнік.*

На пасяджэнні спецыяльнай камісіі пры Галоўмастацтве па размеркаванні стыпендый беларускім і яўрэйскім пісьменнікам-студэнтам розных навучальных устаноў прызначана М. Зарэцкаму, А. Александровічу, К. Атраховічу па 100 рублёў, Алесю Дудару і Я. Пушчы па 80 рублёў штомесячна (*Полымя, № 9*).

*На працягу года.*

Закончыў паэму «Песня вайны». Напісаў паэму «Песня акупацыі» (пазнейшая назва — «Цень консула») і шэраг вершаў *(гл. т. 1).*

Друкаваўся ва «Узвышшы», № 3 і 6.

## 1929

*На працягу года.*

Напісаў шэраг вершаў і артыкулаў, частку паэмы «Сады вятроў» надрукаваў ва «Узвышшы», № 9—10. Паводле слоў С. Э. Плашчынскай, Пушча здаў у друк зборнікі паэзіі «Мой маніфест» і «Грэшная кніга».

Надрукаваны артыкулы і рэцэнзіі: «За стыль эпохі» (Узвышша, № 1), «Якуб Колас. Збор твораў з партрэтам аўтара і крытыка-біяграфічным нарысам У. Чаржынскага» (Узвышша, № 1), «Кузьма Чорны. «Зямля» (Узвышша, № 2), «Янка Купала. Збор твораў з крытычна-біяграфічным нарысам. Том першы» (Узвышша, № 2), «Максім Лужанін. «Крокі» (Узвышша, № 3), «Ліст да рэцэнзента «Р. Г.» (Савецкая Беларусь, 6 кастр.), «У абарону маладой паэзіі» (Савецкая Беларусь, 27 кастр.).

Выйшаў зборнік паэзіі «Песні на руінах». Не прынёс ён паэту радасці. Аглабельная крытыка ахрысціла яго «Песнямі на сваіх руінах». Узаемаадносіны з крытыкай вельмі ўскладніліся. Распачалася палеміка з ананімным «Р. Г.», які перакрэсліў зборнік і па сутнасці зрабіў Пушчу ворагам беларускай літаратуры. У «Чырвоным сейбіце», 1927, № 12 група паэтаў Калінішчыны друкуе «Прысвячэнне паэту Пушчу і другім падобным»:

Хто такі ты Пушча?
Што ў цябе на сэрцы,
Яд, атрута, злосць?!
Табе ў дзень цёмна,
Цёмна, як уночы.
Бо чаму ты кажаш:
Запалю ліхтарню.
. . . . . . . . . . . .
Годзі пляміць нашы песні.
Голас скора ўжо ваш трэсне!

І ніжэй: «Вывады просяцца самі — хваробу трэба папярэдзіць. Здаровая грамадская думка павінна завастрыць увагу, асудзіць нездаровае ў літаратуры...». Гэта быў тыповы публічны данос.

## 1930

*Студзень.*

Пакінуўшы універсітэт, вяртаецца з Ленінграда ў Мінск і ўладкоўваецца на працу стыльрэдактарам Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Працягвае працу над паэмай «Сады вятроў», другая частка якой была надрукавана ва «Узвышшы», 1930, № 3.

Выйшла з друку паэма «Крывавы плакат» (пазнейшая назва — «Крывавы год»).

*Люты, 3.*

У «Звяздзе» і «Савецкай Беларусі» апублікавана «Пастанова беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша» пра палітычныя памылкі ў літаратурна-публіцыстычнай творчасці». З пастановы: «Узвышша», прааналізаваўшы свой шлях і выявіўшы з дапамогай пралетарскай крытыкі свае памылкі і іх карэнні, рашуча асуджае зробленыя памылкі і аддасць усе сілы, каб узмацніць рады змаганнікаў за пралетарскую літаратуру».

*Красавік.*

У «Полымі», № 4 распачата публікацыя рамана Д. Свярчкова «Чужы» ў перакладзе з рускай мовы Я. Пушчы.

*Ліпень, да 24.*

Вычытвае карэктуру новай кнігі паэзіі.

*Ліпень, 24.*

Ноччу быў арыштаваны. Спачатку знаходзіўся ў мінскай турме, затым ў Бутырцы.

## 1931—1935

Пасля маскоўскай турмы па этапах адпраўлены на Урал, жыве ў Шадрынску. Працуе бухгалтарам у райлесгасе, затым у канторы «Нарпіт».

Напісаў вершы: «Калі у Шадрынск, на Ісець...», «На свеце боль і смутак ёсць», «Дачушцы Галі», «Ліст першы», «Дзе ты, зорка?», «На этапе», «Паўночная тайга шуміць», «Пясняр за кратамі сядзеў», «Дзекабрыстам», «Мой ясны сокал!..», «Суровы лёс», «Як я цябе любіў!», «Шумі, уральская тайга» і інш.

З 1933 года Я. Пушча перапісваецца з А. Бабарэкам. (Лісты Бабарэкі захоўваюцца ў ЦДАМЛіМ РБ, фонд, 26, адз. з. 53). Рэдкія весткі, скупая інфармацыя, але менавіта яна надавала кожнаму з іх моцы, вытрымкі. Жывілі сілы ў лістах успамінамі: «То ж учора,— піша Бабарэка,— была гадавіна ўзвышэння, дык памянём яе добрым словам. Думаю, што быўшы на выгнанні, сваімі думкамі і пачуццямі мы будзем і далей узвышацца на славу нашай радзімы» (27 мая 1933 г.).

Лісты Я. Пушчы адшукаць не ўдалося. Але ўяўленне пра іх даюць адказы Бабарэкі: «Якая слаўная твая лістоўка,— піша ён у лісце за 27 чэрвеня 1933 г.— Чытаючы, здавалася, не звычайная лістоўка ў руках, а сама паэзія іскрыцца з простых й цёплых слоў дарагога сябра. Якая радасць, Язэп, чытаць тут, у краіне голаду і холаду для духа ліст, што падобен ціхаму праменю вясны ў цьме маўклівага выгнання. Твая лістоўка для мяне гэта знак на тое, што саспелі ў душы тваёй «зёрны новых слоў», што прабіваюцца яны на свет, каб паўстаць у ім творамі вышаньніцкай паэзіі».

## 1935

*Лета, 1935.*

Атрымаў вызваленне, але на радзіму ехаць нельга было — пачаліся паўторныя арышты. З сям'ёй перабраўся ў Анапу, дзе прабылі 8 месяцаў. Працаваў рахункаводам у адным з саўгасаў Анапскага раёна.

Напісаў вершы: «Анапскія настроі», «Авідзій», «Адаму Міцкевічу», «Байрану».

## 1936—1937

*На працягу года.*

Вандраванні ў пошуках сталай працы. Спачатку едзе ў г. Сарапул Кіраўскай вобласці да братоў Івана і Сцяпана Цвікевічаў, уладкоўваецца там на пасаду бухгалтара. Затым працуе настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў вёсцы Шавыралова, за 6 км ад Сарапула. Летам 1937 г. пераязджае на Мурамшчыну *(паводле інфармацыі С. Э. Плашчынскай).*

## 1937—1939

*Кастрычнік, 1937 — лістапад, 1939.*

Працуе настаўнікам рускай мовы і літаратуры Манакоўскай сярэдняй школы на Мурамшчыне (Горкаўскай вобласці, пазней — Уладзімірскай) *(Працоўная кніжка — ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, адз. з. 72).*

## 1939—1941

*Лістапад, 15 — красавік, 1941.*

Працуе загадчыкам вучэбнай часткі Манакоўскай сярэдняй школы *(Працоўная кніжка).*

## 1941

*Красавік, 1.*

Назначаны часова выконваючым абавязкі дырэктара Манакоўскай школы *(Працоўная кніжка).*

*Кастрычнік, 1.*

Назначаны на пасаду загадчыка вучэбнай часткі Чаадаеўскай сярэдняй школы, дзе выкладае таксама рускую мову і літаратуру *(Працоўная кніжка).*

## 1942

*Сакавік, 3 — чэрвень, 20.*

Мабілізаваны ў рады Чырвонай Арміі. Быў курсантам 2-га Маскоўскага пяхотнага вучылішча *(Пра час і пра сябе, с. 297).* 20 чэрвеня звольнены ў запас па хваробе *(Ваенны білет — ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, адз. з. 73).*

*Чэрвень, 29.*

Адноўлены на пасадзе дырэктара Чаадаеўскай сярэдняй школы, дзе працаваў да ліпеня 1958 года, да ад'езду на радзіму.

*На працягу года.*

Напісаў вершы: «Восень», «Гоняць у няволю», «Дамоклаў меч», «Плач сіротак», «Янку Купалу».

## 1943

*На працягу года.*

Напісаў вершы: «Волаты», «Залаты струмень», «Мой саколік ясны», «Мой ты родны, мой сынок».

## 1944

*На працягу года.*

Напісаў верш «Кукавала зязюля».

## 1947

*Восень.*

Наведаў сваякоў пад Мінскам.

Напісаў вершы: «Зямелькі тры жменькі», «З руінаў Мінск параненьі ўстае», «Іду і падаю пад крыжам».

## 1950

*На працягу года.*

Працуе над паэмай «Лявонка». Паэма не атрымалася. Некалькі яе варыянтаў захоўваюцца ў *ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, адз. з. 2, 3, 4.*

## 1952

*Восень.*

Адпачывае ў Кіславодску. Напісаў там вершы: «У Кіславодску», «Лермантаву» (пазнейшая назва — «Расіі слава») і «Каўказ» («Жаданне»).

*На працягу года.*

Напісаў вершы: «Коціцца па твары ды сляза гарачая», «Не заблудзіўся я ў цёмным лесе», «А. М. Радзішчаву», «Сыну».

## 1953

*На працягу года.*

Напісаў вершы: «Прасторы, песні родныя», «Смерць тырана», «Хто сказаў?».

## 1954

*На працягу года.*

Напісаў верш «Я — не Гарацый».

## 1955

*На працягу года.*

Наведаў Мінск.

Адпачываў на Каўказе.

Напісаў вершы: «Пажар палае», «Выйду, гляну...», «Кіпарысы», «Мора», «На ўзмор'і», «Светлыя радкі».

## 1956

*Студзень, 30.*

Вярхоўным Судом БССР перагледжана справа па абвінавачанні *(Даведка з Вярхоўнага Суда БССР ад 7.IV.1958 г.).* З даведкі: «Постановление Коллегии ОГПУ от 10 апреля 1931 г. в отношении Плащинского Иосифа Павловича отменено и дело производством прекращено за недоказанностью обвинения.

Председатель Верховного Суда БССР
*С. Шардыко».*

*Ліпень, 22.*

Піша ліст у «Полымя»:

«Паважаныя рэдактары «Полымя» М. Танк і А. Вялюгін!

Адважыўся яшчэ раз паслаць вам некалькі сваіх новых вершаў, за выключэннем верша «Адаму Міцкевічу», які я напісаў яшчэ ў 1936 г. у Анапе. Над гэтымі вершамі я вельмі ўдумна працаваў, бо хацеў спалучыць цвярозую думку з гарачай душой і дасканалай мастацкай формай.

Ці ўдалося мне гэта, судзіце самі. Калі перапісаў вершы, то яшчэ іх некалькі разоў уважліва перачытаў, а пасля прачытаў «Крымскія санеты» Міцкевіча (у арыгінале) і санеты Шэкспіра. Гэта не значыць, што я ім наследаваў. Але хацеў яшчэ раз прыслухацца, як гучаць... Супаставіў, абмеркаваў і вырашыў, што ўсё ж можна паслаць да друку мне свае вершы.

А можа,і на гэты раз памыліўся? Не падыдуць?

Заўважу вам, што я пасылаю вершы ў друк не з-за ганарару, а таму, што ў гэтым адчуваю патрэбу, пакуль яшчэ не нябожчык.

Збіраюся наведаць Мінск, але ўсё часу не хапае: рыхтую школу да навучальнага года. Магчыма, што ў канцы ліпеня ці ў жніўні збяруся.

Хоць і не маю ад вас запрашэння, але мяркую наведаць вашу рэдакцыю.

З пашанай і прывітаннем

*Язэп Пушча.*

Чаадаева, 22/VII 1956 г.»

(Разам з лістом былі дасланы вершы: «Адаму Міцкевічу», «Паэзія мая», «Дзень добры, Мінск!», «Канцэрт», «Крыніца», «Голас песні», «Ураджай», «З народам я», «Салавей», «Дзесяцікласнікі». З іх быў надрукаваны верш «Адаму Міцкевічу» — «Полымя», 1956, № 10). *(Бібліятэка АНБ, ф. 36, в. 1, адз. з. 338).*

*На працягу года.*

Наведаў Мінск.

Напісаў шэраг вершаў: *гл. т. 2.*

## 1957

*Ліпень.*

У «Полымі», № 7 надрукаваны вершы «Песня песень» і «Сяргею Ясеніну».

Наведаў Мінск.

*Кастрычнік.*
У «Полымі», № 10 надрукаваны вершы «Лета» і «Фантаны».

*Лістапад.*
У «Полымі», № 11 надрукаваны верш «Сорак зорак».

*Снежань, пасля 10.*
Атрымаў ліст ад С. Шушкевіча. З ліста: «Раю Вам пераехаць у Мінск. На Радзіме, мне здаецца, адразу памаладзееце і пачнеце пісаць так, як не пісалі ніколі» *(ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, в. 1, адз. з. 63).*

*Снежань, 29.*
Ліст ад А. Якімовіча, які таксама кліча дадому: «...А ўсё ж душа твая тут! І, відаць, рана ці позна яна возьме верх і пераважыць усё іншае ды выцягне цябе з тваёй Мурамшчыны». І далей: «Апошнія вершы твае сведчаць, што ты ўжо значна больш адчуваеш дух сучаснага стану нашай паэзіі: у іх больш удала спалучаецца і твой уласны голас, стыль і агульны тон — хоць бы ў сэнсе большай чоткасці ў апрацоўцы радка, унікненні танных атрыбутаў паэзіі 20-х гадоў» *(ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, адз. з. 64).*

*На працягу года.*
Напісаў шэраг вершаў: *гл. т. 2.*

## 1958

*Студзень, пасля 17.*
Атрымаў ліст ад У. Дубоўкі. З ліста: «Твой ліст першы я быў атрымаў і зусім нармальна ў сэнсе часу. Не адказаў я на яго паводле зусім зразумелых прычын — я быў чалавекам іншага гатунку. Прыблізна цераз паўгода я атрымаў быў першую рэабілітацыю, а ў пачатку снежня — і яшчэ дзве, бо за мае 27 год мне давалі не адзін пачастунак. У тым спіску (Менскім) як рэабілітаваны я, быў Адам, і, здаецца, ты. З гэтае прычыны табе трэба напісаць у сакратарыят Вярхоўнага Суда БССР заяву з просьбай выслаць табе дакументы па рэабілітацыі і даць свой адрас. Больш табе нічога пісаць не трэба, гэта значыцца не трэба падаваць спецыяльныя заявы на рэабілітацыю» *(ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, адз. з. 56).*

*Красавік.*

У «Вясёлцы», № 4 верш «Прыляцелі шпакі», пакладзены на музыку П. Падкавыравым.

*Ліпень, 13—19.*

Пераязджае на сталае месца жыхарства ў Мінск.

*Верасень, 5.*

У «Піянеры Беларусі» надрукаваны верш «Першакласніцы».

*Верасень.*

У «Вясёлцы», № 9 надрукаваны вершы «На ўсходзе сонца» і «Зорка Саветаў».

*Кастрычнік, 24.*

Скончыў казку «для малых і дарослых» «Бабры і Выдры» (пазнейшая назва — «На Бабрыцы») *(ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, адз. з. 37).* Паасобнікам выйшла ў 1960 і 1977 гг.

*Снежань, 5.*

У «Літаратуры і мастацтве» надрукаваны верш «Слаўся, Радзіма».

*Снежань.*

У «Полымі», № 12 надрукаваны вершы «Свята» і «Хвойнік ўсё яшчэ зялёны...». У «Маладосці», № 12 — «Бяседная».

*На працягу года.*

Напісаў шэраг вершаў: *гл. т. 2.*

## 1959

*Пачатак года.*

Падрыхтаваў да друку зборнік паэзіі пад назвай «Сонца не гасне». Выйшаў пад назвай «Вершы і паэмы» (1960).

*Красавік.*

Скончыў паэму «Людвіся» *(Паводле даты на аўтографе, які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, адз. з. 11).*

*Ліпень.*

У «Маладосці», № 7 надрукаваны вершы «Песня лета», «Салавей», «На возеры», «Як добра!».

*Жнівень.*
У «Полымі», № 8 надрукаваны верш «Яну Райнісу».

*Верасень, 27.*
Скончыў працу над «Кароткай аўтабіяграфіяй» для кнігі «Пра час і пра сябе» *(ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, адз. з. 49).*

*Кастрычнік, 7.*
У «Літаратуры і мастацтве» надрукавана рэцэнзія «Трапяткое сэрца паэта» на кнігу А. Пысіна «Сіні ранак».

*На працягу года.*
Напісаў шэраг вершаў: *гл. т. 2.* Пераклаў аповесць А. Талстога «Дзяцінства Мікіты».

## 1960

*Студзень.*
У «Полымі», № 1 надрукавана рэцэнзія «Маленькім чытачам» на кнігу Станіслава Шушкевіча «Сірочы церамок».

*Люты, 5.*
Выступае перад чытачамі г. Слуцка. З выступлення:
«...У 1925 г. я першы раз ■ маладым у той час пісьменнікам, вашым земляком Кузьмой Чорным, выступаў у вашым Доме культуры ■ дакладам аб маладой савецкай беларускай паэзіі і з чытаннем сваіх вершаў. Памятаю: Дом культуры быў перапоўнены, прыйшлі і моладзь, і нават больш сталыя людзі паслухаць гутарку аб паэзіі. З гэтага памятнага мне вечара мінула шмат часу, аж трыццаць пяць гадоў, і мне вось зараз зноў пашчаслівілася наведаць Слуцк і выступіць перад вамі <...>

Дваццатыя гады — гэта адна ■ светлых старонак у гісторыі нашай савецкай беларускай паэзіі<...> Ішлі ў літаратуру, у паэзію маладыя сілы з глыбінь народных пластоў, неслі з сабой жывое народнае слова. Маладая паэзія прагавіта ўбірала ў сябе сокі народнай паэзіі і вялікія здабыткі купалаўскага і коласаўскага паэтычнага генія. Не адмяжоўвалася тагачасная беларуская паэзія і ад сучаснай ёй вялікай братняй рускай паэзіі. Больш таго, скажу. Мы душой і сэрцам любілі яе, і яна

рабіла дабратворны ўплыў на нас. Мы любілі глыбокі і непасрэдны лірызм і вобразнасць паэзіі Ясеніна, любілі палымянае паэтычнае слова трыбуна рэвалюцыі Маякоўскага і інш.» *(ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, адз. з. 43).*

*Люты.*

У «Беларусі», № 2 надрукавана рэцэнзія «Дарогаю вясны» на аднайменны зборнік С. Шушкевіча.

*Сакавік.*

У «Полымі», № 3 надрукаваны вершы «Вішанька», «Курлы, курлы», «Мінск», «На балоце», «Журавінка, журавінка». Апошні пакладзены на музыку Л. Фрэнкелем-Майзлікам — «Гомельская праўда», 1962, 10 студз.

*Красавік.*

У «Полымі», № 4 надрукаваны верш «Жар-птушка».

*Май.*

У «Беларусі», № 5 надрукаваны верш «Вясна».

*Ліпень — да 7 жніўня.*

Знаходзіцца ў санаторыі «Вільнюс» (Друскенікі). Прысвячае літоўскаму народу верш «Светлы Нёман-чарадзей».

*Верасень, 2.*

У «Літаратуры і мастацтве» надрукаваны артыкул «Незабыўнае», прысвечаны Дням беларускай літаратуры ў Латвіі (3—12 верас.).

*Верасень.*

Удзельнічае ў паездцы па Беларусі, арганізаванай СП БССР. Пад уражаннем ад Белавежскай пушчы і асабліва ад Гродзеншчыны напісаў шэраг вершаў, прысвечаных гэтым мясцінам: «Белавежа», «Валуны», «Курган Бяссмерця», «Пачатак легенды», «Свіцязь», «Сёстры», «У Навагрудку», «У Шчорсах».

*На працягу года.*

Напісаў вершы: *гл. т. 2.* Выйшаў зб. «Вершы і паэмы».

## 1961

*Люты.*

У «Полымі», № 2 надрукаваны вершы «Светлы Нёман-чарадзей», «Белавежа» і «Валуны».

*Сакавік, 10.*

У «Літаратуры і мастацтве» надрукаваны верш «Тарасу Шаўчэнку».

*Май, 24.*

Сустракаецца з балгарскім перакладчыкам Г. Вылчавым у Мінску. Прысвячае яму верш-экспромт «Георгію Змітрыевічу Вылчаву».

*Май.*

У «Беларусі», № 5 надрукаваны верш «На Радзіме так прыгожа».

*Канец мая.*

Атрымаў ліст ад дачкі свайго былога сябра У. Жылкі Наташы, якая настаўнічае ў Наваполацку. Яна паведамляла, што атрымала даведку аб рэабілітацыі бацькі і што «Тэстамент» Жылка напісаў за некалькі дзён да смерці *(ЦДАМЛіМ РБ, ф. 26, адз. з. 67).*

*Чэрвень.*

У «Голасе Радзімы», № 34 надрукаваны верш «Штодзень прыгажэе», у «Маладосці», № 6 — «Музыка вясны», «Жытні колас», «Рана сонейка устала».

*Жнівень.*

Цяжка захварэў. Дыягназ: інфаркт. «Маё знябытае сэрца не выцерпела, здалося» *(ЦДАМЛіМ РБ, ф. 31, в. 2, адз. з. 394).*

*На працягу года.*

Напісаў шэраг вершаў: *гл. т. 2.*

## 1962

*Май, 8.*

У «Літаратуры і мастацтве» надрукаваны верш «Для новае сяўбы» (вядомы і пад назвай «Засяваю поле чыстым зернем»).

*Май.*

У «Полымі», № 5 надрукаваны вершы «Ты — як песня тая» і «Дарогі юнацтва, шляхі маладосці».

*На працягу года.*
Напісаў каля трох дзесяткаў вершаў: *гл. т. 2.*

## 1963

*Студзень.*
У «Полымі», № 1 надрукаваны вершы «Навагодняе віно», «Па-над вёскамі і сёламі...», «На хараство не надзівіцца», «На дарогах Беларусі».

*Май.*
У «Беларусі», № 5 змешчаны верш «Сяўба».

*Жнівень, 30.*
У «Літаратуры і мастацтве» змешчаны вершы «Яна, як сонейка ў крыштале», «Блакітнае мора», «Хараствлм зямлі любуюся».

*На працягу года.*
Напісаў вершы: «Настаўнікам Чаадаеўскай школы», «У сонечны зімовы поўдзень», «Дзень добры!»
Выйшаў зб. «Пачатак легенды».
Стан здароўя значна пагоршыўся.

## 1964

*Верасень, 14.*
Памёр Язэп Пушча. Некралог у «Літаратуры і мастацтве» за 15 верасня.

*Верасень, 17.*
Пахаваны на радзіме ў Каралішчавічах.

# Успаміны пра Я.Пушчу

*Алесь Звонак*

## ДОБРАЕ ІМЯ*

Язэп Пушча.

Сапраўднае прозвішча — Язэп Паўлавіч Плашчынскі. Калі я называю гэтае імя, у памяці паўстаюць далёкія 20-я гады. Больш дакладна — год 1923.

Шаснаццацігадовым хлопцам, падмайстрам бацькі — муляра — у слотную з дакучным імжыстым дожджыкам восень ішоў я пехатою з вёскі Каралішчавічы дадому ў Мінск, на Ляхаўку, дзе жыў з бацькамі і зарабляў разам з бацькам і старэйшым братам нялёгкі мулярскі хлеб.

Вось і зараз скончылася наша двухтыднёвая, ад цямна да цямна, праца ў тым невялікім сяле. І хоць восеньскія дні кароткія, але цягаць цэглу ад рання да позняга вечара, мясіць гліну, класці варыстую печ, галандскую грубку — праца цяжкая, дый майстэрства патрабуе... А майстра строгі — што не так — задасць такога штурхаля, што паляціш носам у мокрую гліну... І нікому не паскардзішся — выхаванне і навука...

У той якраз восеньскі дзень на раскоўзанай абочыне дарогі натрапіўся нам чалавек. Быў ён малады, невялікага росту, з яснымі ўсмешлівымі вачыма, ружовым, мілавідным тварам, мяккім пявучым голасам, добра для таго часу апрануты... Вінцэнты,— так звалі нашага гаспадара,— прыпыніў каняку, павітаўся з падарожным, пагаварыў аб нечым, пакуль мы стаялі ўбаку, і, зноў зацокаўшы на каня, рушыў далей...

---

* З кн. А. Звонака «Неспакойныя сэрцы».— Мн.: Маст. літ., 1973.

— Гэта брат мой,— сказаў Вінцэнты праз колькі часу,— Язэп. Пяты па ліку ў нашай вялікай сям'і. Вучоны. Настаўнік. Нешта піша, дык прозвішча новае прыдбаў... Усе ў нас Плашчынскія, а ён Пушча. Можа, чулі?

Бацька пакруціў вус, нібы прыпамінаючы, хоць і не было чаго прыпамінаць.

— Не, нешта не чуў... Можа, гэты,— ён кінуў у мой бок,— ведае, сам па начах нешта корпае ў сшытак, вочы слепіць...

Я прамаўчаў, хоць вершы Язэпа Пушчы я ўжо чытаў у «Маладняку», і, узрадаваны такой шчаснай удачай — сустрэць жывога паэта, доўга азіраўся назад услед постаці чалавека, што аддалялася ад нас і паволі раставала ў шэрай імжы няласкавай восені...

Так адбылася мая першая сустрэча з вядомым беларускім паэтам Язэпам Пушчам, чыё імя ўвойдзе светлым праменьчыкам у залаты сноп праменна-сонечнай паэзіі Беларусі, чые паэтычныя кнігі пакідаюць адчуванне святла і цеплыні, хараства і велічы роднае прыроды, чалавечай прыгажосці, крынічнай душэўнай чысціні, авеянай лёгкім смуткам, калі прачытаеш іх...

* * *

А праз год адбылася і другая мая сустрэча з Язэпам Пушчам. І таксама ўвосень. Толькі не па дарозе ад Нова-га Двара да Каралішчавіч, а ў цяпле і святле, у горадзе Мінску, у двухпавярховым белым доме, што стаяў на былой Савецкай вуліцы, насупраць сквера, дзе цяпер Цэнтральная плошча і дзе ў 1924—1925 гадах змяшчаліся Мінскія двухгадовыя агульнаадукацыйныя курсы...

Быў я слухачом тых курсаў.

І вось першыя заняткі па беларускай літаратуры.

У даволі прасторную аўдыторыю, перапоўненую шумлівым племем юнакоў і дзяўчат, увайшоў акуратна апрануты, усмешлівы, прыгожы нейкай сарамлівай дзявочай прыгажосцю малады настаўнік. Прывітаўся. Адрэкамендаваўся Язэпам Плашчынскім. Пра другое сваё прозвішча і дачыненне да паэзіі далікатна змоўчаў.

Я адразу пазнаў яго. Гэта быў Язэп Пушча. Адзін з заснавальнікаў бурлівага, неспакойнага, «бурапеннага» «Маладняка», які існаваў ужо каля года. Часопіс пад

той жа назвай адразу заваяваў сэрцы камсамольскай моладзі, студэнтаў, вучняў, слухачоў розных курсаў, якіх так многа было тады. Перад намі быў сапраўдны паэт, творы якога друкаваліся ў часопісе, і гэта выклікала асаблівую цікавасць і павагу да яго.

Ён загаварыў. Пачалася лекцыя. Голас у яго быў мяккі, крыху пявучы, мова таксама прыгожая, павольная, лёгкая, як плынь тае рэчкі, што працякае паблізу яго роднага сяла, як лёгкі пошум вясновы ў маладым гаі... Так, прынамсі, нам здавалася. Можа, таму і палюбіліся нам яго лекцыі, яго нетаропкая апавядальная манера выкладання, яго мяккі гумар і поўная адсутнасць уладных інтанацый, гэтага неад'емнага атрыбута настаўніцкай прафесіі...

Вядома, не мог ён пазнаць у семнаццацігадовым юнаку таго маўклівага хлапца, які недзе выпадкова сустрэўся на дарозе. А я быў рады гэтаму. Мяне тады крыху бянтэжыла мая прафесія. Пачынаўся ж нэп, і на курсах тых было даволі шмат дачок і сынкоў нэпманскіх сем'яў... Дык мулярскі сын у перашытым бацькавым шынялі выглядаў не вельмі франтавата...

Не адзін раз прыносіў я на заняткі сшытак сваіх вершаў з цвёрдым намерам паказаць іх свайму настаўніку, які так палюбіўся нашай маладой аўдыторыі, але кожны раз адкладваў, было і сорамна і страшнавата...

Нарэшце я адважыўся і аднойчы пасля чарговай лекцыі падышоў да Пушчы, аддаў яму сшытак з вершамі, папрасіў прачытаць і сказаць мне ўсю праўду, толькі каб ніхто не чуў. Можа, тая мулярка,— думаў я,— і ёсць маё сапраўднае прызванне, а паэзія — толькі няўмелая спроба няўмелага пяра. І вось на наступных занятках, скончыўшы сваю лекцыю, настаўнік мой, паэт Пушча, мякка сказаў: «Звонак, застаньцеся пасля лекцыі...»

Я на ўсё жыццё запомніў гэтую сустрэчу. Яна вырашыла мой далейшы лёс. Язэп Пушча задушэўна, пасяброўску гаварыў пра мае вершы не як настаўнік, а як старэйшы таварыш і добры друг, некаторыя пахваліў, некаторыя раскрытыкаваў, потым сказаў прыйсці на чарговае пасяджэнне бюро «Маладняка».

Так стаў я маладнякоўцам, так пазней стаў паэтам, захаваўшы назаўсёды пачуццё ўдзячнасці да свайго першага настаўніка.

* * *

Літаратурнае жыццё канца 20-х і пачатку 30-х гадоў праходзіла бурна. Былі спрэчкі і дыспуты, былі ваяўнічыя выступленні ў шматлікіх дыскусіях, на канферэнцыях, у газетах і часопісах. Было размежаванне поглядаў і ідэйных пазіцый, былі розныя групоўкі па творчых прынцыпах, былі часам перагібы, але была і чысціня сумлення...

Грашыў некаторымі адступленнямі ад «сталбавой дарогі» пралетарскай літаратуры і Язэп Пушча. Былі ў яго вершы накшталт славутых «Лістоў да сабакі», «Песень на руінах». Белапаўская крытыка, у тым ліку і я, рэзка крытыкавалі Пушчу за гэтыя адступленні, выступалі ў друку «разноснымі» артыкуламі, але ўся гэтая барацьба была прадыктавана, як здавалася тады, чыстымі намерамі і чыстым сумленнем...

Была гэта крытыка прадыктавана і непадкупнай любоўю да нашай маладой, баявой, звонкагалосай паэзіі, да нашай маладой прозы, якая так смела і так шырока разгортвала свае крылы.

У тыя гады выходзілі адна за адной кніжкі вершаў Язэпа Пушчы, якія я прачытаў па некалькі разоў з пачуццём вялікай прыхільнасці і павагі да свайго старэйшага і добрага таварыша па пяру. Гэта былі яго паэтычныя зборнікі «Раніца рыкае» (1925), «Vita» (1926), «Дні вясны» (1927), «Крывавы плакат» (1930).

К таму часу вясковы хлопец з Каралішчавіч, што недалёка ад Мінска, былы пастушок, пазней настаўнік, выкладчык беларускай мовы і літаратуры, а яшчэ пазней, літаратар-прафесіянал, які скончыў Ленінградскі універсітэт, аўтар многіх кніжак вершаў і паэм, Язэп Пушча стаў шырока вядомым, арыгінальным, народным па сваёй сутнасці паэтам, хоць на шляху служэння музе паэзіі было вельмі шмат і церняў і спатыканняў.

Але была сапраўдная паэзія, якою жыў Язэп Пушча, якая была наскрозь прасякнута пачуццём сыноўскае любві да свае радзімы, да яе прыроды, да яе людзей.

Вобраз рыкаючай вясковай раніцы, вобраз асветленай вясновым сонцам бязмежнае лясное пушчы, якая спявае і гамоніць на тысячы птушыных галасоў, вобраз залатога бору з задуменным шэптам стромкіх сосен, вобраз густалістых дуброў і зялёных пявучых гаёў, вобраз чалавека новай вёскі...— усё гэта далёка не поўны пера-

лік тых матываў, тэм, няўлоўных лірычных замалёвак, якія робяць паэзію Пушчы жывой, трапяткой, прасякнутай праменнямі ранішняга сонца, маладымі вятрамі маладой рэспублікі.

Лепш за ўсё раскрывае таямнічую сутнасць сваіх творчых прынцыпаў і эстэтычных крыніц сам паэт. Вось ён піша: «Рана, з дзіцячых гадоў, стаў пастушком, узыход сонца часта сустракаў на выгане разам з каровамі: я слухаў у полі і чуў, як раніца рыкае. Гэты вобраз пазней увайшоў у маю паэзію. Я рана навучыўся араць і касіць і ў дванаццаць гадоў у касьбе амаль не адставаў ад дарослых, хоць фізічна і не быў моцным хлапчуком, але да касьбы здатным. З аднагодкамі сваімі і са старэйшымі любіў ездзіць на начлег. Асабліва ў час жніва захаплялі мяне мелодыі жніўных песень, якія, здавалася, коцяцца і коцяцца з шумам спелых жытніх каласоў у чыстыя блакітныя далі. Нездарма ж гэта матывы маёй ранняй лірыкі».

Калі дадаць, што гэта матывы не толькі ранняй лірыкі Язэпа Пушчы, а хутчэй за ўсё ўсяе творчасці яго, усяе лірыкі яго, то стане зразумелым, чаму так чаруе нас яго паэзія, чаму выклікае ў душы столькі цудоўных перажыванняў і адчуванняў. Стане зразумелым, чаму глыбока асабістае, суб'ектыўнае, перажытае і пераадчутае самім аўтарам, на першы погляд вельмі адцягненае і далёкае ад жыцця, нечакана знаходзіць сугучча з часам.

Дух мой узвіўся высока,
Сэрцам сагрэю людзей.
Песня ўзлятае, як сокал,
Ў сённяшні сонечны дзень —

так пісаў паэт у адным з першых сваіх вершаў. Імкненне паставіць на службу народу сваё майстэрства, аддаць людзям свой багаты душэўны і паэтычны скарб, «сэрцам сагрэць людзей» — вось лейтматыў паэтычнай творчасці Язэпа Пушчы не толькі ў 20-я гады, але і ў наш час.

У санеце «Дзень добры, Мінск!» Язэп Пушча як бы імкнецца звязаць сонечны пачатак той раніцы сваёй паэзіі, што «рыкала» на досвітку ў пачатку 20-х гадоў, з той раніцай, напоўненай шчасцем жыцця і творчасці, якую бачыць паэт на роднай сваёй зямлі, праз дзесяткі гадоў. Радасна, з вялікім творчым захапленнем ён гаворыць:

З Масквы на Мінск адкрыты семафоры,—
На захад адыходзяць цягнікі.
Апошнія сігналы і званкі,
І ад платформы першай рушыць скоры.
Як шмат радні, як людна на пероне!
Махаюць рукі родным наўздагон.
Са мной заходзіць сонца у вагон,
Я аддаюся сонечным настроям.
Ў дарозе шчасця марна не растрачу,
Аддам радзіме з песняю гарачай,
І усміхнуўся сонца ясны дыск.
Кранаюць сэрца родныя абрысы:
Смаленск і Орша, Слаўнае, Барысаў,
І я з акна крычу: «Дзень добры, Мінск!»

І яшчэ адна цытата з санета «Будаўнік», якая гаворыць сама за сябе:

Народ мой сёння — будаўнік вялікі,
Да працы ўсіх сваіх сыноў паклікаў.
І мне з народам жыць і з ім тварыць!

Гэтую сваю пачэсную місію служэння народу паэт выканаў з гонарам. Я сустрэўся з Язэпам Пушчам улетку 1958 года. Ён быў поўны задум і жадання працаваць, ён рыхтаваў да друку сваю кнігу выбраных вершаў і паэм, якая выйшла ў 1960 годзе.

Я чытаў яго вершы і паэмы, і на мяне ізноў павеяла ветрам далёкага юнацтва, і я зноў адчуў ідылічную радасць і ранішнюю свежасць тых пушчаўскіх песень і мелодый, што «коцяцца і коцяцца ■ шумам спелых жытніх каласоў у чыстыя блакітныя далі...».

І яшчэ адчуў я ў новых кнігах паэзіі Язэпа Пушчы руку сталага майстра паэзіі, я адчуў, як многа ў іх глыбокага чалавечага пачуцця, сапраўднага, глыбокага непадробнага лірызму, адчування гордасці за свой народ.

Язэп Пушча пераважна паэт-лірык. Хоць і з'яўляецца ён аўтарам не адной добрай паэмы, але душа яго найбольш поўна раскрываецца ў лірычнай паэзіі. А лірычны герой яе — наш добры друг, наш малады сучаснік, чалавек нашага часу, поўны энергіі, творчых імкненняў, высокіх і чыстых ідэалаў, карацей кажучы, такі, якім быў творца гэтага героя паэт Язэп Пушча, што занадта рана пакінуў жыццё, але пакінуў багатую творчую спадчыну.

*Станіслава Плашчынская*

## З ДЗЕН ДАЛЕКІХ І БЛІЗКІХ*

Верасень 1925 года. Слуцак. Усюды пад нагамі шапацела восеньскае золата апалага лісця. Пах яблык. Ласкава свяціла сонца. А мне васемнаццаць. Юнацтва, мары, каханне. Шчаслівая, цудоўная пара!

Вось у такі прыгожы дзень я сустрэлася з Ідай Чырвань. Гэта паэтэса, якая пісала вершы на рускай мове. Павіталіся. Іда пытаецца: «А дзе ты была ўчора? Я так цікава правяла вечар. У Слуцак прыехалі з Мінска два беларускія пісьменнікі: адзін празаік — Кузьма Чорны, другі паэт — Язэп Пушча. Былі ў Шукайлы. Чур, Пушча мой!» А я кажу: «А ён мне не патрэбен». Хто ж ведаў, што праз два месяцы я выйду замуж за цудоўнага хлопца?

Ішлі мы па галоўнай вуліцы нашага горада. На гэтай вуліцы стаяў прыгожы дом з парадным ганкам. У гэтым доме жыў Шукайла Павел Захаравіч, рэдактар слуцкай раённай газеты. Паэт. Ён узначальваў слуцкую філію «Маладняка».

Гэта была цікавая асоба. Летам ён насіў вышываную белую кашулю, падпяразаную беларускім поясам з кутасамі. У яго былі прыгожыя светлыя доўгія валасы. Хадзіў ён заўсёды з вялікім партфелем і сукаватым кіем. Зімой быў апрануты ў футраную цялячую куртку і ў лакавых пантофлях. Апранаўся на той час вельмі багата. Часам мог узяць з сабою пяць-шэсць дзяўчат і павесці іх у кіно. Наогул, быў дзядзька добры. Яму было 27 год. Я яму вельмі падабалася, і ён прапанаваў мне быць яго жонкай. Але я адмовілася. Прыходзіў ён і да мамы, прасіў, каб яна аддала мяне за яго. Прыносіў ёй, паказваў шмат сваіх фотаздымкаў. Угаво́рваў маму, што і ёй будзе лягчэй жыць. Мама будзе гаспадарыць, а я — вучыцца, будзем жыць разам. Але мама сказала: «Стасі ўсяго 17. Вось падрасце, пакахае і тады выйдзе замуж».

Вось у яго Пушча з Кузьмой Чорным спыніліся. На ганку яго дома стаяў прыгожа апрануты юнак. На ім было паліто цёмна-шэрага колеру з англійскага драпу, рэглан, на галаве кепка, на нагах жоўтыя пантофлі. Іда паказала: «Вунь стаіць Пушча». Іда нас па-

* Упершыню — Полымя, 1992, № 6.

знаёміла. Далей пайшлі разам. Пушча кажа: «Сёння ў Доме культуры будзе літаратурны дыспут. Прыехалі ўсе маладнякоўцы слуцкай філіі і наогул будзе моладзь горада». Мы падышлі да рэдакцыі. Я развітваюся, а Пушча кладзе мне ў кішэню жакета запрашальны білет на дыспут і кажа: «Я Вас вельмі прашу, прыйдзіце на дыспут. Калі ласка». Я сказала, што іду на спатканне, а пасля на вакзал, праводзіць жаніха. «Цягнік адыходзіць у шэсць. Вы яшчэ паспееце». Мы развіталіся.

Калі я ішла з вакзала, у Доме культуры грымела музыка. Моладзь спяшалася на дыспут. А я вагалася: ісці мне ці не? А пасля думаю: я ж нічога дрэннага рабіць не буду, паслухаю і пайду дадому.

Зайшла ў залу, знайшла сваё месца, а там сядзіць Іда і кажа: «Добра, што прыйшла. Тут будзе яшчэ і канцэрт».

Пачаўся дыспут, дакладна, аб чым тады гаварылася, я цяпер і не памятаю. Шмат было выступленняў, спрэчак. Чыталі вершы маладнякоўцы. Калі канцэрт скончыўся, мы — я, Іда, Пушча, Чорны — пайшлі разам. Каля рэдакцыі да нас далучыліся Павел Шукайла і Янка Скрыган, ён вучыўся ў Слуцку ў сельскагаспадарчым тэхнікуме. Хлопцы запрасілі нас пасядзець у Шукайлы. Пушча і Шукайла зайшлі ў нэпманскі рэстаран і накупілі вінаграду, шакаладу, цукерак і віна, якое я піла тады першы раз у жыцці.

Мне вельмі няёмка было заходзіць да Шукайлы, але мяне ўсе пераканалі, што нас шмат і нічога тут дрэннага няма.

Павел Шукайла любіў чытаць свае вершы. Чытаў моцна, размахваючы рукамі. Але Кузьма гаворыць: «Кінь, Паўлюк, дай мы лепш паслухаем Пушчу, у яго добра выходзіць». Пушча так прыгожа чытаў свае вершы, што мне на ўсё жыццё запомніліся радкі:

Раніцу шчэбет пільнуе
Ў лісці жоўта-зялёным:
Туліцца жнівень пад пуняй
З ношкай аўсянай саломы.

І яшчэ:

Мае вусны не ведалі смеху,—
Ён упрочках блукаў без мяне.
Бывае, як едзеш ■ начлегу,
Ён шопатам ціхім каня абміне.
Туляўся выбоямі грэблі
Заплаканы праменем вырыс,

Апрануты латаным зрэб'ем,
У хаце сялянскай я вырас.

Мы былі зачараваны Пушчавымі вершамі. Так мне і стаіць уваччу: мілы, сціплы, сарамлівы, з такой цудоўнай усмешкай...

Пара было ісці дахаты. Пушча папрасіў дазволу правесці мяне дадому. А Шукайла буяніў.

Я жыла на ўскраіне горада, вуліца называлася Акалонія. Хата наша стаяла над рэчкаю Случ. Гулялі каля рэчкі, сядзелі каля хаты на лавачцы. Пушча расказваў мне пра Мінск, пра тэатры, пра сваіх сяброў, пра сваю вёску Каралішчавічы, пра цудоўны лес, куды ён любіў хадзіць у грыбы, пра сваю рэчку Свіслач. І тады ж расказаў, як у 1923 годзе ўвосень у клубе «КІМ» сабраліся шэсць чалавек: Чарот, Пушча, Зарэцкі, Дубоўка, Дудар, Бабарэка; рашылі арганізаваць літаратурнае аб'яднанне і далі яму назву «Маладняк». У гэтае аб'яднанне далучылася пасля шмат таленавітай моладзі. У гэтым жа 1923 годзе стаў выходзіць часопіс «Маладняк».

Ужо было позна, і мне трэба ісці дахаты. Пушча папрасіў спаткацца і назаўтра прынёс мне верш, які напісаў уночы:

З табой я спаткаўся учора.
Эх, Стася, мілая Стася!
З табой я спаткаўся учора.
Каханне разблытала тасьмы —
У гэты вечар асенні.
Вечар так чорны.
Асыпалася песень насенне
У шопаце ціха прыветным...
Ты вуснамі вусны паліла,
Як сонца без ветру
Цнатлівасць вясновую лілій.
Чало я схіліў на калені,
А ты, як малога,
Песціла палам дзявочым.
Гэта было не пад хмелем...
Зоры маўчалі над логам.
О вочы, чарнявыя вочы!
Забыцца? Не ў сіле!
Такія толькі ў случанкі.
Ў дуброве сава галасіла
Ў ноч тую да самага ранку...

*25 верасня 1925 г.*

Праз два дні Пушча і Чорны паехалі ў Мінск. Я вельмі сумавала. Не ведала, куды сябе дзець. Напэўна, я пакахала па-сапраўднаму. Праз дні чатыры я пайшла

да Іды. Прыходжу, а яна сядзіць за машынай, і шмат белага матэр'ялу ляжыць каля яе. Я пытаюся: «А што гэта значыць?» — «Гэта значыць, што я выходжу замуж за Кузьму!»

Я была вельмі ўражаная: Кузьма і Іда!

«Добра, што прыйшла, званіў Пушча. У пяць гадзін будзе званіць зноў».

Ідзін бацька быў у Слуцку начальнік тэлефоннай станцыі, таму ў іх дома быў тэлефон. Раптам званок. Іда зняла трубку. Павіталася і гаворыць: «Перадаю трубку». І я чую голас, мілы, ласкавы: «Стася, я сумую страшэнна, толькі ты адна ў маіх вачах і думках. Я так кахаю цябе. Пасылаў табе шэсць тэлеграм на рэдакцыю Шукайлу. Ці атрымала ты іх?» Пушча ведаў толькі маё імя, а болей нічога. «Знайшоў каму пасылаць»,— кажу. «Прашу цябе, мілая Стася, прыязджай!» — «У якасці каго?» — «Жонкі, Стася, жонкі».— «Так не робяць, Язэп. У мяне ёсць мама, яна мяне не пусціць. Ды і наогул, усё так нечакана. Ды мы такія бедныя, што ў мяне нічога няма».

Мама мне заўсёды казала: «Дачушка, ты ніколі не выйдзеш замуж, бо мы бедныя». Усё, што было больш-менш добрае, выменялі на хлеб і бульбу. Быў голад, была вайна.

«Мне нічога не патрэбна, толькі ты, адна ты. Вось Іда едзе, прыязджай і ты. Добра?»

«Язэп, так нічога не выйдзе. Калі ты вельмі хочаш, то павінен прыехаць пагаварыць з мамай».

Пушча прыехаў у нядзелю. Мама накрыла на стол, селі снедаць. Язэп пытаецца ў яе: «Ці аддасце Вы Стасю за мяне?» А мама пытаецца ў мяне: «А як жа Саша?» — «А я яму напішу ліст».

Гэта ж 18 год, на ўсё лёгкі адказ.

Пушча маме спадабаўся. Беларус, ды тут блізка не за гарамі Мінск. Але свой клопат пра пасаг выказала. «Усё будзе добра!» — сказаў Пушча.

Да адыходу цягніка мы гулялі над рэчкаю. Калі мы хадзілі, пэўна, там Пушча паклаў мне ў кішэню жакета сто рублёў, каб я не бачыла. У той жа дзень у шэсць гадзін вечара ён паехаў у Мінск. І нечакана я іх знайшла. Я была вельмі абураная, мне было сорамна і няёмка. Калі я сказала Ідзе, тая адказала, што Кузьма ёй таксама даў сто рублёў. Мне было сорамна перад мамай. А пасля падумалі і таксама купілі матэр'ял і пашылі

ўсё самае неабходнае. Што ж рабіць, калі былі такія бедныя нявесты.

Пара было ехаць. Пушча і Чорны званілі часта і сказалі, што вельмі чакаюць нас. Мама і Ідзін бацька пасадзілі нас у вагон, і мы паехалі. Ехалі і не ведалі адрасу ні Язэпа, ні Кузьмы.

Яны павінны былі нас спаткаць.

Прыехалі ў Мінск. І раптам бачым: бягуць і махаюць рукамі. Кузьма з Ідай узялі рамізніка. Бо Кузьма жыў далёка, а мы з Пушчам пайшлі пешкі. Яго кватэра была блізка, усяго адзін квартал. Стаяў прыгожы дом у Ленінградскім завулку. Там, дзе цяпер інстытут народнай гаспадаркі. Падышлі да дома, ён адчыніў дзверы, і мы апынуліся ў добра абсталяваным пакоі з прыгожа сервіраваным сталом. Чаго толькі там не было!

Так 15 кастрычніка 1925 года пачалося наша сумеснае жыццё, нашы цудоўныя «Дні вясны», хоць была ўжо восень. Пад такой назвай выйшла ў 1927 годзе кніжка вершаў Язэпа Пушчы.

З Язэпам жыў малодшы брат Ізыдор, які вучыўся ва універсітэце на першым курсе філалагічнага факультэта. Тры гады таму ён памёр у ЗША.

Раніцой Пушча мяне пазнаёміў з гаспадарамі, якія пажадалі нам шчасця.

Пасля абеду мы пайшлі да самага блізкага Язэпавага сябра Адама Бабарэкі. Гэта была цудоўная сям'я. Бабарэка выкладаў у камвузе. І пісаў крытычныя артыкулы, апавяданні. Аня, Адамава жонка, яшчэ вучылася ва універсітэце. Мелі ўжо маленькую дачушку Лору.

У іх заўсёды збіраліся Кузьма, Пушча і Дубоўка, калі прыязджаў з Масквы. Чыталі свае новыя вершы. Спрачаліся, раіліся, штосьці адзін аднаму даказвалі. Бабарэка як крытык таксама выказваў свае думкі, меркаванні. Кузьма не маўчаў. А пасля ішлі ўсе ў рэстаран вячэралі і слухалі музыку.

Калі прыязджаў Дубоўка, было гэтулькі шуму, нейкі струмень свежага паветра ўрываўся ў наша жыццё. Ён заўсёды спяваў: «Лорды, мілорды, брытыя морды». І яму ўсюды здаваліся сачкі. У той час ён ужо закончыў інстытут імя Брусава. І працаваў адказным сакратаром пастпрэдства БССР пры ўрадзе СССР. Гэта быў вельмі вясёлы, разумны, адукаваны чалавек. У гэты час у яго выйшлі з друку кніжкі: «Наля», «Трысцё», «Крэда». Ён увесь час чытаў верш «О, Беларусь, мая шыпшына».

У адзін з такіх прыездаў прыйшлі разам (былі ў рэдакцыі) Пушча, Бабарэка і Дубоўка. Усхваляваныя. Дубоўка гаворыць: «Стася, вось грошы, аднясі Ідзе. І скажы ёй, што Кузьма болей у гэты пакой не прыйдзе».

Мы з ёю амаль не бачыліся. Цяпер Іду было не пазнаць. Кузьма купіў ёй усё, што трэба было для зімы: добрае паліто, капялюш, чаравікі, сукенкі. Пад канец рабочага дня Іда брала рамізніка і ехала да Кузьмы на працу, яны ішлі абедаць у рэстаран. Іда стала сябе дрэнна паводзіць. Завяла непрыгожыя знаёмствы. Кузьма пра гэта даведаўся і хацеў павесіцца, яго ледзьве ўратавалі.

Калі я прыйшла да Іды, яна ляжала на ложку, курыла і плакала. Я ёй аддала грошы. І сказала, што Кузьма болей не прыйдзе сюды. Як ты магла так зрабіць? І развіталася з ёю назаўсёды. Яна сказала ў адказ: «Ничего, мы с Кузьмой еще встретимся на узкой дорожке».

У гэты час муж вельмі шмат пісаў, пераважна ўначы. Прачнуся, а ён сядзіць за сталом. «Чаму не спіш?» — «Зараз, зараз, а ты спі». Шмат вершаў прысвечана было мне. А раніцай чытае новы верш:

Каханне, залатое каханне,
Я стаю, пахіліўшы чало!
Не спаткаў я цябе пры кургане,
Не сустрэў у заветных палёх,

Ты сама да мяне, маладога,
Прыгарнулася сэрцам сваім.
Усміхаліся далі, разлогі,
Усміхалася радасць у сінь.

А што далей?... У ветра спытайся!
Пакахаў, як ніхто, пакахаў.
Ой ты, Стася, смуглявая Стася,
Ўзгадаваў цябе Случчыны гай!

Ты расла там адна, сіратою.
Вочы карымі сталі ад рос.
Вось кахаю цябе мо за тое,
Што і сам я ў самоце ўзрос!

Апраналася я скромна. На мне звычайна быў лёгкі жакецік ды на галаве «баядэра», такая жаночая кепка. Адзінае, што ў мяне было,— прыгожыя чаравікі, высокія, на шнурках, жоўтага колеру. Настала зіма, а зімовага паліто ў мяне няма. Язэп кажа: «Хадзем, я бачыў, прадаецца ў магазіне прыгожае паліто, шэрае з чорным

коцікам». Яго мы і купілі. І прыгожую белую пуховую шапачку. Мне ўсе гэтыя абноўкі былі да твару. Язэп мяне не вазіў да бацькоў. Аднойчы Чарот, Пушча і Дубоўка, які прыехаў з Масквы, ішлі з рэдакцыі «Маладняка» і спатыкаюць Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова, старшыню ЦВК БССР. Ён хадзіў амаль заўсёды пешкі з вялікім партфелем і кіем. Чарвякоў часта запрашаў паэтаў і пісьменнікаў у Саўнарком, цікавіўся, што іх, маладых, турбуе, мо якія пытанні ёсць, што трэба вырашыць. Якія навіны? Вось Міхась Чарот і кажа: «У нас Пушча ажаніўся, а бацькі яшчэ жонкі не бачылі». Дык Чарвякоў і кажа: «Чаго ж вы маўчалі, прыходзьце, я дам машыну і паедзеце». Накупілі розных смачных рэчаў, віна. Быў нэп, усё было, і сёмга, і ікра. Дубоўка, Чарот, Анатоль Вольны назаўтра пад'язджаюць да нашага дома на машыне. Хутка ўсё пагрузілі і паехалі. Снегу было шмат, дарог тады не чысцілі. Даехалі да Лошыцы. Машына забуксавала. Нам давялося вяртацца. Спатканне не адбылося. Міхась Чарот кажа: «Паехалі да нас. Хай нашы жонкі пазнаёмяцца».

Паехалі. Аня, Чаротава жонка, была вельмі прыгожая жанчына. Накрылі стол, усё дасталі з машыны: закускі, віны і балявалі... Аня ўсё спявала «Стаканчики граненые звинели до утра». Міхась Чарот толькі прыехаў з Амерыкі. Быў там на асамблеі. Такі прыгожы, шэрыя вочы, валасы кучаравыя. Вельмі добра апрануты. У шэрым касцюме, на нагах жоўтыя крагі. Элегантны, вясёлы, у яго вочы заўсёды смяяліся. У Мінску мне ўсё вельмі падабалася. Прыгожыя дамы, магазіны з багатымі вітрынамі. Новыя знаёмствы з мужавымі сябрамі.

Вельмі часта хадзілі на канцэрты. У тэатр БДТ-1. Глядзелі «Мешчанін у шляхецтве» Мальера, «Каваль Ваявода», а балет! Якія цудоўныя акцёры гралі! Грыгоніс, Крыловіч, Глебаў, Ржэцкая, Пола, Галіна. Я была ўсім зачараваная. Бывалі часта ў Доме пісьменніка на Савецкай вуліцы. Якая там была цёплая сяброўская атмасфера! Заходзіў часам Янка Купала, Чарот у чорным доўгім кажусе-«барчатка», у шэрай футранай шапцы. Бывалі Змітрок Бядуля, Маракоў, Вольны, Міхась Зарэцкі, Кузьма Чорны і іншыя. Была там сталоўка, рэдакцыя «Маладняка», бібліятэка. Бывалі там і танцы, гэта ўжо вечарам.

Давolі часта бывалі ў Янкі Купалы. Купала любіў

моладзь. У яго доме заўсёды было людна. Уладзіслава Францаўна, ці проста цёця Уладзя, як яе называлі, была вельмі ветлівая, гасцінная. Яна гаварыла, цалуючы мяне: «Язэпка, якую ж ты добрую жонку ўзяў. Толькі жывіце добра, шануйце адзін аднаго». Кандрат Крапіва з жонкай Ленай часта запрашалі на бліны з мачаннем. У іх ужо быў маленькі сын Барыс.

Працаваў Язэп тады ў Інбелкульце, дзе былі прафесар Замоцін, Ігнатоўскі, прафесар Чаржынскі, Некрашэвіч, Эпімах Шыпіла, Алесь Гурло, Мачульскі, Байкоў. Пушча вечарамі выкладаў беларускую мову і літаратуру ў музычным тэхнікуме. У той час там вучыліся Александроўская, Млодэк, Балоцін, Любан, якія сталі вядомымі людзьмі. Выкладчыкамі былі Аладаў, Бяссмертны, Цікоцкі, Дрэйзін і іншыя. А балерыны, студэнткі тэхнікума,— Хераска, Глушачкова, Тася Гурыновіч. Яны заўсёды бегалі на заняткі ў тэхнікум ■ чамаданчыкамі. І ўжо танцавалі ў тэатры БДТ-1. Асабліва мне запомнілася п'еса «Каваль Ваявода», дзе танцаваў амаль увесь курс балерын. А ў Слуцку гэтага ўсяго я не бачыла.

У канцы лістапада 1925 года адбываўся з'езд «Маладняка». Праходзіў ён у памяшканні Інбелкульта. Прыехала на з'езд самая таленавітая моладзь з усёй Беларусі. І госці — ад Украіны — Уладзімір Сасюра, Гадзінскі і Ягансон, прадстаўнік ■ Масквы (Гесен ад ЦК) і яшчэ нейкі прадстаўнік з БелАППа. Як жа страката выглядала таго часу моладзь, якая прыехала на з'езд! Хто апрануты быў у доўгім кажусе, хто ў кароткім, хто ў шынялі, у будзёнаўцы.

Вылучаліся толькі мінчане, апранутыя ў сінія бобрыкавыя паліто, як блізняты: Адам Бабарэка, Кузьма Чорны, Анатоль Вольны, Андрэй Александровіч і Алесь Якімовіч. Міхась Чарот у добрым зімовым ■ каракулевым каўняром паліце і ў шэрай кепцы. Кідаўся ў вочы Павел Шукайла ў футранай дасе і шапцы.

Прыехаў з Масквы і Уладзімір Дубоўка. І былі яшчэ тры паэтэсы зусім маладыя — Зіна Бандарына, Наташа Вішнеўская, Жэня Пфляўмбаўм.

Міхась Чарот узначальваў «Маладняк». У рэдакцыі заўсёды было шмат маладых паэтаў. Я нават часта заходзіла туды, бо ведала, што там Пушча. Часта чыталі свае новыя вершы Алесь Дудар, Андрэй Александровіч, Анатоль Вольны, а хто і прыносіў свае новыя

вершы, каб здаць у чарговы нумар «Маладняка». Маладнякоўцы любілі часта фатаграфавацца. У мяне захавалася шмат фатаграфій. Вось адна з іх ляжыць перада мною: Бабарэка, Вольны, Александровіч, Пушча, Дудар, Чорны, Паўлюк Трус, Якімовіч, Звонак, Глебка, Нікановіч, Лужанін, Маракоў, Наташа Вішнеўская.

Анатоль Вольны і Алесь Дудар вельмі сябравалі і як нітка з іголкай не разлучаліся. Яшчэ Анатоль Вольны вельмі сябраваў з Міхасём Чаротам. Ну, мы ведаем, які фінал іх сяброўства. Вельмі часта Янка Купала бываў госцем у маладнякоўцаў. Яго заўсёды акружаў гурт маладых. Пасядзіць, пагаворыць, а пасля запрашае ўсіх выпіць па куфлю піва. Ну і ідуць. Купалу рэдка можна было ўбачыць аднаго, вечна за ім ішоў натоўп маладых. Ідзе паперадзе з мілай ласкавай усмешкай. І заўсёды з кіёчкам.

Мы з Пушчам дамовіліся, што я прыйду на з'езд у другой палове дня.

Скончылася пасяджэнне. Да мяне падыходзіць муж і знаёміць з Сасюрам. Мы разам пайшлі ў тэатр. Па заканчэнні спектакля Сасюра папрасіў дазволу правесці нас дадому. Пушча з Сасюрам гаварылі аб з'ездзе, аб выступленнях, чые выступленні спадабаліся, чые не. Развіталіся каля нашага дома.

Назаўтра Язэп раніцой пайшоў на з'езд. А я павінна была пайсці да знаёмай. Выходжу з дому, а каля ганка стаіць Сасюра. Пытаюся: «А што Вы тут робіце?» — «Вас чакаю».— «А навошта?» — «Мне вельмі захацелася Вас убачыць».

Мяне гэта вельмі збянтэжыла. Я не давала ніякага повада для спаткання. Я сказала, што іду да сяброўкі, яна жыве за паркам Горкага. Была цудоўная раніца, падаў сняжок. Настрой быў добры. «Дазвольце Вас правесці?» І мы пайшлі разам. Было прыемна, але і няёмка. Калі мы развіталіся, Сасюра цалаваў мне рукі і прыціскаў да сябе. А назаўтра падарыў мне верш:

КОХАНІЙ СТАСІ

Співаю я у юнім Русі
Під шум осінкових гаїв.
Під синім небом Белорусі
Я рідну дівчину зустрів.

Ранкова даль і днів буруни,
О каре золото вочей

І кров вином золоторунним
По жилах солодко тече.

До серця тисну ■ теплим болем
Я рукирадісно твої,
Завод, окраіна і поле,
А в далині гаї, гаї.

Цэ перад нами простяглася,
Немов висілка, сніжна путь.
А на шчоках у любій Стасі
Снежинки тануть і цвітуть.

*Уладзімір Сасюра.*
*26/XI-1925 г.*

Я ўсё расказала мужу і дала яму гэты верш. Яго гэта пакрыўдзіла, і ён у адказ напісаў такі верш.

...Яе няхай цалуе іншы,
Хай вочы карыя ў сінь свецяць.
А я пайду, бо буду лішнім,
Дзе вецер гойсае між веццяў.
Схілю там голаў пры даліне
І песню прапяю на ростань.
Каханне ў сэрцы не імкліваць,
Прамоўлю з болем ціха, проста.

*Пушча*

З'езд скончыўся. На развітанне быў банкет у рэстаране «Еўропа». Усе раз'ехаліся. У нашым жыцці зноў быў мір, бо мы кахалі адно аднаго. Пра Сасюру амаль забыліся. І раптам мы ад Сасюры атрымліваем ліст, а ў ім фота з такім надпісам: «Любимой Стасе. Далекой снежинке. Моему страданию и радости в знак воспоминания о Володе и его далекой любви. В. Сосюра. 18/XII-1925 г.».

Калі праходзіў з'езд, то Сасюра падарыў фота Пушчу з такім надпісам: «Любому другові песняру Язэпові Пушча на успомін. В. Сосюра. 30/XI-1925 г.»

Язэп напісаў Сасюру вельмі цёплы сяброўскі ліст, у якім папрасіў яго болей не пісаць і не ўносіць у наша жыццё разлад. І мы абое распісаліся.

Калі заязджаў бацька Язэпа да нас, то Язэп гаворыць: «Тата, калі ласка, прывязіце мне світку». А я думаю, няўжо ж у Язэпа зімовае паліто з даматканага сукна. Ен жа любіў апранацца ў касцюмы добрыя, прыгожыя кашулі і раптам «світка». Калі бацька прывёз «світку», то я была ўражаная. Гэта было з чорнага драпу паліто рэглан на тхарах, з бабровым каўняром. Яшчэ да жаніцьбы Пушча быў на вайсковых зборах у

«Чырвоным урочышчы». Там стаяла ў лагерах другая Беларуская дывізія, і яго папрасілі напісаць пра яе. За гэтую працу ён атрымаў шмат грошай. Вось і справіў сабе світку. Аднойчы прыехалі Язэпавы сябры, калі ён там быў на зборах летам у 26 годзе,— Дубоўка, Гурло, Чорны, Бабарэка, Якімовіч, Трус, Вольны, Дудар, чыталі свае творы салдатам.

Як вядома, у 26 годзе больш сталыя паэты і пісьменнікі выйшлі з «Маладняка» і ўтварылі новае аб'яднанне «Узвышша». І сталі выдаваць свой часопіс пад такой жа назвай. Рэдагавалі яны яго без зарплаты, пасля асноўнай работы. Калі выходзіў нумар, дзяжурылі ў друкарні па пару чалавек па чарзе, нават начамі. Як матка любіць і песціць сваё дзіця, гэтак яны любілі сваё «Узвышша».

Колькі было радасці, калі выйшаў першы нумар часопіса! Усе пайшлі ў рэстаран, пілі шампанскае. А колькі гаворкі было! Светла-шэрага колеру, у цвёрдай вокладцы,— яны гладзілі яго, перагортвалі.

У 26 годзе ў Мінск прыязджаў з Латвіі Ян Райніс. Язэп Пушча і Бядуля суправаджалі яго на машыне, паказвалі наш Мінск. І на памяць сфатаграфаваліся. У мяне захавалася фота: Пушча, Дубоўка, Глебка, Крапіва, Бядуля, усярэдзіне сядзяць Янка Купала і Ян Райніс. Ян Райніс сфатаграфаваўся і асобна, у дзвюх позах, і Пушчу падарыў свае фота. Яны ў нас захаваліся. Калі мы прыехалі ў Мінск пасля рэабілітацыі, то Пушча быў у Рызе, перападарыў гэтыя дзве фотакарткі Рыжскаму музею Яна Райніса. Супрацоўнікі музея былі вельмі ўдзячныя.

Штосьці велічнае было ў абліччы Яна Райніса. У старасці, а такая прыгажосць, гэтулькі культуры, інтэлігентнасці ў яго постаці і на твары! Як быццам скульптура, адлітая з бронзы,— такія мужныя рысы твару.

Настаў 1926 год. Пражылі мы зіму. Прыйшла вясна. Дарогі высахлі. Трэба было ехаць у Каралішчавічы да Язэпавых бацькоў, знаёміцца. Узялі рамізніка. Улажылі ўсе падарункі, гасцінцы, якія накупілі для кожнага. І да стала смачнага і добрага віна. Ехалі вельмі прыгожай дарогай. Амаль ад Лошыцы ўвесь гасцінец быў абсаджаны ў два рады вялікімі бярозамі. Я крыху дрыжэла, як мяне сустрэнуць і як будуць адносіцца да бессапажніцы.

Выйшлі нас сустракаць на ганак. Матка нас прывітала. Я ёй пацалавала руку. Бацьку я бачыла раней, ён часта заязджаў да нас. Павіталіся з братамі, сёстрамі. Абдзяліла іх усіх падарункамі. Матка нас напаіла халодным цудоўным малаком. Мы з Язэпам пайшлі глядзець рэчку, сенажаць. Які стаяў звон у небе ад жаўрукоў, які водар, якое паветра ад лугу-сенажаці! Якая была краса навокал! Калі скончылі ўсе сваю работу, мы накрылі абрусам стол у чыстым пакоі. Усе свае пачастункі таксама паставілі на стол, селі вячэраць. Нас павіншавалі, пажадалі шчасця, і ўсе выпілі за нас і наша жыццё.

Бацькі: Павел Вікенцьевіч Плашчынскі і Міхаліна Вікенцьеўна Плашчынская. У іх было шасцёра дарослых дзяцей — чатыры сыны і дзве дачкі: Вінцэнты, Баніфацы, Язэп і Ізыдор, Юзэфа, Леакадзія. Гэта была дружная, працавітая сям'я. Улетку ўставалі амаль у чатырыпяць гадзін раніцы. Клаліся ў 11—12 гадзін вечара. Кожны з дзяцей меў сякую-такую спецыяльнасць: Вінцэнты працаваў рахункаводам у сельпо, у вольны час ад працы дапамагаў па гаспадарцы. Сястра Юзэфа ўмела шыць, летам яна пасвіла сваіх кароў, зімою шыла. Брат Баніфацы рабіў кавалём, дома разам з маткай даглядаў пчол. (У іх было дзесяць вуллёў.) Любіў чытаць газеты і гаварыць аб міжнародным становішчы. Ізыдор вучыўся ва універсітэце, жыў у нас, а летам дапамагаў бацькам па гаспадарцы. А Язэп бываў наездамі.

Гаспадарка ў іх была добрая. Тры каровы, усе бязрогія, бурай масці. Давалі яны шмат тлустага малака. Неўзабаве ажаніўся сярэдні брат, жонцы далі ў пасаг карову, дзвюх авечак, парсюка, і ў бацькоў былі авечкі, свінні і двое коней. Бацькі былі клапатлівыя разумныя людзі. За вячэрай абмяркоўваліся ўсе пытанні. Хто, дзе рабудзе выконваць заўтра якую работу. Матка была разумная жанчына, бацька заўсёды ва ўсім з ёю згаджаўся. Бацька два разы на тыдзень вазіў у горад прадаваць малако, смятану, сыры, масла, тварог. Вырučаныя грошы заўсёды аддаваў матцы. Яны хацелі купіць зямлі, бо свайго хлеба да лета не хапала, заўсёды дабаўлялі бульбу. І хацелі купіць малатарню. Словам, разумна вялі гаспадарку.

У хуткім часе ў Мінску мы знайшлі добрую двухпакаёвую кватэру з кухняй, з асобным ганкам.

Які гэта быў цудоўны час!

Купілі добрую мэблю, самавар, сэрвізы чайны, сталовы, вельмі ўсё прыгожае і наогул усё, што патрэбна для сям'і, для жыцця. Кватэра была па вуліцы Лекерта, цяпер Кастрычніцкая. Бабарэкі жылі па Першамайскай, зусім блізка. Мы падружыліся, сталі часта збірацца ў нас. Калі прыязджаў Дубоўка, то прыходзілі Бабарэка, Чорны, часам Чарот з Вольным. Пілі чай, а часам і добрае віно. Паэты чыталі новыя вершы. Словам, дружылі, сябравалі па-сапраўднаму шчыра.

І вось 7 кастрычніка ў нас нарадзілася дачушка Галя. Колькі было клопату, радасці і шчасця! Першыя разы Аня Бабарэка дапамагала купаць. Іх Лоры ўжо было год і два месяцы.

Да нас часта прыходзіў Змітрок Бядуля, вельмі ўважліва глядзеў, а часам і забаўляў нашу Галюньку. І вось аднаго разу запрашае нас і Бабарэкаў на абед, прысвечаны жаніцьбе. Яны з Марыяй Ільінічнай пажаніліся, калі Бядулю было 40 год. Марыя Ільінічна падрыхтавала смачны абед, было гэта вясною на Вялікдзень, былі і фаршыраваная рыба, і вельмі смачныя галкі з мацы. І Бядулі сталі часта бываць у нас.

Аднойчы мы былі ў Янкі Купалы і там пазнаёміліся з Уладзімірам Жылкам, з Феліксам Купцэвічам, якія прыехалі з Прагі, дзе Жылка скончыў універсітэт. Наш урад запрапанаваў ім застацца ў Мінску. Яны ўладкаваліся на працу ў газету «Звязда». Часта бывалі ў нас Купцэвіч і Жылка, які чытаў свае вершы. Расказвалі пра Чэхію. Было ўсё так добра. Утульна. Гэтулькі добрых сяброў. І раптам Язэп гаворыць, што хоча паехаць у Ленінград вучыцца. Вось пайшоў да наркама асветы т. Баліцкага, які даў згоду і пачаў хадайнічаць аб пераводзе Пушчы ў Ленінград. Даў яму персанальную стыпендыю 75 рублёў на месяц.

У 1927 годзе мы апынуліся ў Ленінградзе. Дачушцы Галі споўніўся год. Жылі на Васільеўскім востраве, на прыватнай кватэры.

Ленінград мяне спаткаў мозглым, туманным надвор'ем, была восень, церушыў дожджык. Будынкі шэрыя, велічныя, а надвор'е кепскае. Калі дзесяць градусаў марозу, то ўжо з дзіцем гуляць нельга. Бачыліся мы з Язэпам мала: лекцыі, бібліятэка, часам дыспуты, цікавыя сустрэчы з Максімам Горкім, Уладзімірам Маякоўскім, калі яны прыязджалі ў Ленінград у Дом літаратара.

Прыходзіў зморашы. Павячэраем. Крышку адпачне, пагуляе з дзіцем. І садзіцца за працу, за вершы, пісаў шмат, а мне таксама сумна, часам і паплачу. Я з дзіцем іду да гаспадароў, там дзяўчынка была шасці-сямі гадоў і пяць пакояў, вось і гуляем.

Аднойчы прыйшла ад гаспадароў, спаць дзіцяці пара была, і ён мне чытае верш.

Выгляд твой маладжавы зблажэў,
Ты ўжо стала не тая, другая.
Да мяне прытуліся бліжэй,
Хоць зарніца ў палёх дагарае,
Нашто свецяцца слёзы ў вачох
І спадаюць расой каляровай?
Палажы мне чало на плячо,
Не сумуюць хай хмурыя бровы.
Нечакана цябе я сустрэў,—
Твае вусны красою палалі,
Зорны смех рассыпаўся між дрэў,
І ўсміхаліся зорамі далі.
Мы былі тады толькі адны,
Па дарозе ступалі спакойна,
Праімчаліся гэныя дні,
Праімчаліся шпаркімі коньмі.
Не вярнуць іх ніколі ужо,—
Толькі ўспомніцца часам, як неслі,
Яшчэ жар не адцвіў, не пажоўк,
Яшчэ будуць і казкі і песні.

Пражылі мы ў Ленінградзе да вясны, а пасля пераехалі ў Царскае Сяло — Пушкіна. Пасяліліся ў былым ліцэі. Пушкінскі ліцэй арандаваў нейкі Нэйман і здаваў пакоі. Шмат людзей прыязджала з Ленінграда на выхадныя. Гулялі па Екацярынінскім парку, каталіся на санках з горак, на лыжах.

Шмат было сонца, была вясна. Мы пасяліліся спачатку ў Пушкінскіх пакоях, дзе Пушкін жыў, калі быў ліцэістам. Але там было няўтульна, ніколі не было сонца, і мы перайшлі на трэці паверх у вялікі сонечны пакой. Якая мэбля была там ува ўсіх пакоях. Якія шторы, канапы, крэслы, усё шаўковае, аксамітнае. Нават таз для ўмывання і збан для вады з гербамі «Е. В.» А парк! А Екацярынінскі палац! Амаль цэлымі днямі з дачушкай гуляю па парку. Толькі абед прырыхтую. Матэрыяльна жылі добра, і між намі была заўсёды згода. Але была настальгія. Язэп вельмі сумаваў па Беларусі, па дому, адарваны ад сяброў, ад свайго асяроддзя, ад «Узвышша», дзе друкаваліся яго вершы і за якія

яго страшэнна лаялі ў газетах, часопісах. Яго вершы называлі ўпадніцкімі.

Калі мы вярнуліся на канікулы ў Мінск, быў дыспут ці то сход. Мы з Язэпам пайшлі. Гаварылі аб творчасці шмат якіх паэтаў, а пасля перайшлі да паэзіі Язэпа Пушчы. Выступаў Александровіч, Платон Галавач, а болей за ўсіх Алесь Кучар. Казаў, каб амаль на калені Пушча станавіўся і прызнаваў свае памылкі, каяўся. Асабліва за вершы «Лісты да сабакі». Як зграя сабак, гатовы былі разарваць. А Кучар маленькі, у галіфэ, у гімнасцёрцы, цераз плячо партупея, хадзіў па сцэне, як той жук. І лаяў. У 1957 годзе Пушча прысвяціў яму верш.

### ІУДЗЕ КУЧАРУ

Не закрыў пакуль павекі,
Ты ў душу маю не плюй.
Маю годнасць чалавека
І знявагі не сцярплю.
Адбіраў на песню права,
Выдзіраў душу з грудзей.
Ты хацеў хаўтуры справіць
У цямніцы без людзей.
Вёў мяне ў турму пад рукі,
Каб схіліўся там я ніц.
Зневажаў штодзень у друку,
Лаяў на чым свет стаіць.
Піць прасіў, бо чэз ад смагі,
Сэрца білася ледзь-ледзь,
І цяклі па твары рагі,
І ў вачох стаяла смерць.
Не пачуў. Шукаў ты доўбні,
Каб з размаху... і каюк.
Ты хацеў, мой крытык добры,
Кінуць цела ў цёмны люк.
Ты крапіў сваім кадзілам,
Уздыхаў ледзь не да слёз...
Беларусь, мая радзіма,
Вось які пясняpскі лёс.
Крытыка свайго, Іуду,
І па смерці помніць буду.

Калі мы жылі ў Ленінградзе, то ў нашай мінскай кватэры заставаўся жыць Язэпаў брат, Ізыдор. Ен вучыўся, і часова сюды пераехаў Уладзімір Жылка з малодшым братам. Жылка ў хуткім часе ажаніўся са студэнткаю музычнага тэхнікума Рымаю. Язэп дапамог Жылку ўладкавацца выкладаць мову і літаратуру ў музычны тэхнікум. Бліжэй к вясне ў Пушкіне мы атры-

малі ліст ад Ул. Жылкі. Ён пісаў: «Братка Язэп, я прадаў усю тваю мэблю, бо ў мяне адкрылася кравахарканне. Дактары раяць ехаць у Крым у Ялту. А грошай няма. Вярнуся, зараблю і адкуплю».

Скончыўся навучальны год. Прыйшла пара ехаць дадому. Прыязджаем. Мала таго, што мэблі няма. Нашу кватэру самавольна занялі чужыя людзі. Што рабіць? Нічога не заставалася, як ісці да Чарвякова. Язэп пайшоў да яго. Ён уважліва выслухаў і напісаў паперку, каб гэтыя людзі ў 24 гадзіны пакінулі кватэру. Паехалі на лета ў вёску Каралішчавічы да бацькоў. Купілі пасля новую мэблю. Ужо не такую прыгожую.

На другі год я не паехала ў Ленінград, засталася ў Мінску. Толькі два разы ездзіла ў госці. Язэп прыязджаў у Мінск пару раз паглядзець, як мы жывём, наведаць сваё «Узвышша», спаткацца з сябрамі і здаць новыя вершы.

У 1929 годзе, калі Язэп быў у Ленінградзе, я ездзіла ў Слуцак да мамы ў госці. Атрымала ліст, а ў ім верш, прысвечаны мне.

У 1929 годзе ў нас нарадзілася другая дачушка Валерыя, ці проста Лялея. Летам мы заўсёды жылі ў Каралішчавічах у бацькоў Пушчы. Да нас у госці даволі часта прыязджалі Купцэвіч, Жылка, Дубоўка. Спачатку адны, а пасля, як ажаніліся, то [illegible] жонкамі. Спалі ўсе ў пуні, на сене. Адзін год нанялі пакой Бабарэка, Кандрат Крапіва з сем'ямі.

Цудоўная рэчка Свіслач — шмат рыбы. Мужчыны хадзілі ў лес у грыбы, ягады. Купаліся, загаралі, лавілі рыбу.

Вось настаў 1930 год, калі Язэп скончыў ужо сваю вучобу ў Ленінградзе. Летам ён паехаў на вёску, каб адпачыць, дапамагчы бацькам, пабыць з дзецьмі, па якіх вельмі сумаваў.

Неяк, калі не было такой пільнай работы, Язэп кажа мне, што яны дамовіліся з Адамам і Дубоўкам паехаць на тыдні тры на Каўказ, Крым, паглядзець мора, горы, падзівіцца на красу гэтага краю.

Бабарэка і Пушча паехалі да Дубоўкі ў Маскву, ён там жыў. Збіраліся прабыць тыдні тры. Раптам праз восем дзён прыязджае Язэп і прывозіць цэлы чамадан падарункаў. Пытаю: чаму так хутка? Мы нікуды не ездзілі. Што робіцца ў Маскве — жах. Ідуць павальныя арышты. Мы ўсе ўтрох рашылі нікуды не ездзіць. Калі

што здарыцца, то хай здарыцца дома, каб ведалі, дзе шукаць.

У 1930 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве павінна была выйсці кніжка вершаў «Сады вятроў». Карэктуру Пушча атрымаў, прачытаў. І калі стала так неспакойна, калі прыехаў [redacted] Масквы, Пушча захінуў гэты зборнік, звязаў і сказаў: «Стася, на, захавай, тут усё самае лепшае, што я напісаў». Было гэта на вёсцы. Я папрасіла сястру Юзэфу дапамагчы схаваць кнігу, і мы рашылі пакласці яе ў пусты вулей. Дома падаспела работа, скасілі канюшыну, калі падсохла, злажылі ў стажкі. Раптам усё неба зацягло хмарамі. Бацька, брат Баніфацы і Язэп хутчэй паехалі па канюшыну. Звезлі ўсю да дажджу. Ужо грымела, паднялася страшэнная бура. Павячэралі. Язэп з братам пайшлі спаць у пуню, на сена, бо ў хаце было душна. Гэта было 24 ліпеня. Дзеці плачуць. Сабака Жэк вые. Раптам стук у вароты. Хто гэта можа быць? Бацька з маткай пераглядаюцца. Стук больш настойлівы. Бацька накінуў світку на галаў, выйшаў і пытае: «Хто там?» — «Плашчынскі, адчыніце. Гэта старшыня сельсавета». Калі бацька адчыніў, увайшлі чатыры вайсковыя чалавекі, гэпэушнікі, і старшыня. Адразу пытаюць: «Язэп Пуща-Плащинский здесь живет?» Бацька кажа: «Тут...» — «Где?» — «Яны ў пуні спяць».— «Веди». У хаце ўсе апрануліся, падняліся. Чакаем. Пачалі аглядаць хату. У хаце было чыста. Але ж стаялі адны ложкі. Сем іх было. Адзін стол, дзе ляжала некалькі блакнотаў і кніжак. Прыйшлі браты з пуні, бледныя, спужаныя. А салдаты ў пуні пратыкалі ўсё сена штыкамі.

Гэпэушнікі сталі задаваць Язэпу пытанні, забралі блакноты і кажуць: «Одевайтесь. Поедем с нами!» Божа, што пачалося, падняўся лямант, плач. Дзеці ўчапіліся за ногі бацьку. Нас не маглі адарваць адно ад аднаго. Усе плачуць. Пушча развітаўся з усімі. Сястра засталася з дзецьмі ў хаце, а мы ўсе яго пайшлі праводзіць. На вуліцы стаяў «чорны воран». Мы развіталіся, а Язэп сказаў: «Я ні ў чым не вінаваты».

Нам паведамілі, што адзін раз у тыдзень можна прыносіць перадачу і бялізну. І паехалі. А мы ўсе наўзрыд плакалі і глядзелі ўслед машыне.

Дзеці заснулі. А мы ўсе да раніцы не спалі. Жэк, якому Пушча пісаў лісты, выграб лапамі яму, амаль мог чалавек у ёй схавацца. Гэта быў агромністы сабака, ку-

чаравы, як баран, чорны, з жоўтымі кругамі над вачыма. Яго бацька ў бежанцаў выменяў на бохан хлеба, калі была вайна. Назаўтра быў такі ва ўсіх настрой, быццам мы каго пахавалі. Я хадзіла ўся счарнелая і ні за што не магла ўзяцца, усё валілася з рук. Пайшлі з дзецьмі на луг, на рэчку, дзе хадзілі з бацькам, але ўсюды было пуста, толькі птушкі і буслы збіраліся ў вырай. Усе лугі былі скошаныя. І вось настаў дзень, калі трэба было несці перадачу. Матка ўсё дала, а я ўлажыла ў кошык. Пайшла ў Мінск, 15 кіламетраў. Калі зайшла ў кватэру, то ўбачыла, што ўсё было раскідана, усё перавернута. Кнігі валяліся на падлозе, а іх у нас было шмат. Язэп купіў у букіністаў цудоўныя кніжкі Блока, Гейнэ, Шылера, Шэкспіра, поўныя зборы твораў па 5 тамоў, «Боскую камедыю» Дантэ, «Адысею» Гамера... Панесла перадачу. Калі падышла да ГПУ, то нават страшна стала. Людзей стаяла з перадачамі ад рога ГПУ (в. Урыцкага) да Камсамольскай. Было шмат знаёмых. Амаль уся прафесура на чале з рэктарам універсітэта Пічэтам сядзела. Шмат вучоных, пісьменнікаў. Мінск тады быў не такі вялікі, і ўсе амаль адзін аднаго ведалі. У тую ж ноч узялі Бабарэку, Жылку і Дубоўку. Словам, уся інтэлігенцыя горада сядзела за кратамі. Было цяжка і страшна ад усяго, што тварылася. Янка Купала і Якуб Колас былі пад хатнім арыштам. Янка Купала параніў сябе кінжалам. Пачаліся смутныя дні. Толькі і чакала серады, дня перадачы. 15 кіламетраў да Мінска і 15 у Каралішчавічы. На вёсцы таксама было неспакойна. Былі сходы, каб сяляне ўступалі ў калгасы, часам да трох-чатырох гадзін ночы. Але згоды не было. Сяляне гаварылі: «Як гэта я ўсё жыццё працаваў і ўсё звесці з дому? А з чым застанёмся, што будзем есці, нішчымную бульбу?» Пачаліся пажары. Пачалі высылаць «кулакоў». Часам бегалі па вёсцы, то абутку няма ў «кулакоў», то цёплага адзення. То прыходзілі ўсё апісваць, абкладалі падаткам. Абставіны дома ў бацькоў былі цяжкія. Параілася я з Аняй Бабарэкай, што рабіць. Яна гаворыць: «Ідзіце на біржу працы і падайце заяву, што можаце працаваць тэхсакратаром». Праз 15 дзён я атрымала паперку, што мяне накіроўваюць на работу ў Белгасбуд у аддзел рацыяналізацыі тэхсакратаром. Папрасіла матку і сястру Юзэфу, каб яны даглядалі дзяцей. Цяжка і шкада было іх пакідаць. Зімой не здолею іх часта наведваць, а яны яшчэ маленькія.

Аднойчы я спаткалася з Рымай, яна ішла ў тубдыспансер, дзе ляжаў арыштаваны цяжка хворы Уладзімір Жылка. У яго ізноў адкрылася кровахарканне. Калі мы прыйшлі ў палату, ён быў нам вельмі рады. Я яму расказала, як арыштоўвалі Пушчу. Расказала, колькі людзей сядзіць.

У іх ужо была маленькая дачушка Наташа. Уладзіміра Жылку выслалі ў г. Уржум Кіраўскай вобласці, цяжка хворага. Рыма адвезла сваю маленькую Наташу да бабулі, Жылкавай маткі, а сама паехала да Жылкі, але паглядзела, што ён ледзьве дыхае, развіталася з ім і паехала ўладкоўваць сваё жыццё. Жылка памёр у 33 годзе. Пражыў усяго 30 гадоў. Пахавала яго гаспадыня, у якой ён быў на кватэры. Рыма сваю Наташу ад бабулі не забрала. І Наташа не ведала ні маткі, ні бацькі.

15 студзеня 1931 года я пайшла на працу ў Белгасбуд. Спала ў халоднай кватэры, не было дроў. Язэпаў бацька прывозіў што мог для перадачы, дровы. Казаў, дзеці здаровы. Але на вёсцы неспакойна. Шмат каго ўжо выслалі. Нас лічаць серадня́камі, мы не карысталіся чужой працай. Прайшло сем месяцаў, як Язэп ужо сядзіць, але следчы ні разу не выклікаў на допыт. Язэп напісаў просьбу, каб далі спатканне са мною, а таксама выклікалі на допыт. Спатканне далі, і муж пытае ў следчага: за што ён сядзіць? Следчы, прозвішча было Сікорскі, сказаў: «Лес рубят — щепки летят». (Яго самога ў 1937 годзе расстралялі.) Божа, які схуднелы, бледны быў Язэп. Гаварылі пра дзяцей, пра бацькоў, пра вёску. Так, збольшага, асобнымі словамі, бо сядзеў следчы, займаўся сваімі справамі. Спатканне было адну гадзіну. Муж даваў параду, што рабіць, як жыць. Пры развітанні заліліся слязамі. Цяжка, балюча было глядзець на мужа. Мы з Аняй Бабарэкай штовечар хадзілі каля ГПУ. У падвальным памяшканні сядзелі людзі. І халоднымі вечарамі валіла пара з гэтага падвала. Колькі людзей там сядзела? Такі цяжкі дух ішоў. А вартавы ганяў нас: «Проходи, проходи». А нам здавалася, што мы можам каго-небудзь убачыць — сваіх мужоў ці знаёмых. Пайшлі чуткі, што іх будуць пераводзіць у турму. Мы таксама хадзілі начамі па гэтай дарозе. Язэп аднойчы праслаў запіску і верш да дня нараджэння дачушкі Галі. І там было напісана «Амерыканка». Калі я была на спатканні, то прынесла Язэпу кажушок,

бо было ўжо холадна. Неяк я спаткала земляка, які працаваў у Саўнаркоме ў вайсковым аддзеле,— Дубавіцкага Леаніда. Ён мне сказаў, што хутка будуць вывозіць у Маскву, а там рассылаць каго куды. Аднаго разу мы прынеслі перадачу, а яе ў нас не ўзялі. Пачаліся дні чакання якой-небудзь звесткачкі.

Бліжэй к вясне я атрымала ліст ад мужа. Сядзеў ён у Маскве, у Бутырках. Пісаў пра тое, што ў яго цынга. А пасля з Масквы, пагрузіўшы іх, як быдла, у цялячыя вагоны, Пушчу прывезлі ў г. Шадрынск Свярдлоўскай вобласці і здалі ў ГПУ, дзе яму сказалі: «На працягу пяцёх год адзін раз у месяц павінен з'яўляцца ў ГПУ, адзначацца. Працаваць у школе забараняецца. Вершаў не пісаць. Не выязджаць. Працаваць, калі знойдзеш работу, дазволена». Знайшліся добрыя людзі, памылі ў лазні, далі прытулак, пасцель і бялізну. Нават кармілі. Язэп хутка знайшоў работу — бухгалтарам у райлясгасе. Вельмі часта пісаў лісты, поўныя ласкі, кахання, клопату аб дзецях. На вялікі жаль, яны не захаваліся.

Тады шмат каго выслалі ў Кіраўскую вобласць, Бабарэку — у г. Слабадской, Дубоўку — у Чэбаксары, Жылку, цяжка хворага,— у Уржум. Усіх — на пяць год вольнага пасялення.

Настала вясна 1931 года. На рабоце я папрасіла адпачынак, каб паехаць да мужа. Далі. Узяла ўсе мужавы рэчы. Сабралі мяне ў дарогу. Ехала трое сутак. І вось Шадрынск. На вакзале стаіць родны Язэп. Схуднелы, у бардовай злінялай касаваротцы. Так нязвыкла яго бачыць у такім адзенні.

Рэчы пагрузілі на воз і паехалі. Гаспадыня напякла шанежак і ватрушак. Чакаў нас самавар. Селі ўсе за стол. На вечар прырыхтавалі лазню. 21 дзень праляцеў як адзін дзень, і мы зноў рассталіся. Праз некалькі дзён атрымліваю ліст і там верш.

НА СВЕЦЕ БОЛЬ І СМУТАК ЁСЦЬ

На свеце боль і смутак ёсць,
За мной снуюць між гэтых сцен.
Мяне пакінуў любы госць,
І мой прытулак апусцеў.
Ізноў застаўся сам з сабой
Зару вячэрнюю вітаць.
Мой госць, тваіх дзяцей з табой
У далях зорных не відаць.
Далёка сёння з імі ты,
За ўсхонамі уральскіх гор.

Пішы, мой госць, пішы лісты
На водблесках вячэрніх зор.
Я расчытаю іх адсюль
І расцалую ласку слоў.
Паклон табе гарачы шлю.
Хоць сонца радасці зайшло.
Гарачь тваіх вачэй агні
І асвятляюць зорам даль.
Мой пацалунак ты прымі
І родным дзеткам перадай.

*10 верасня 1931 года.*
*Шадрынск*

Пакуль было цёпла, кожны выхóдны дзень хадзіла на вёску да дзетак. Хутка стала холадна, надышла зіма. Дарогі занесены, ды і не было такога абутку. Пасля работы ўжо цёмна, не дойдзеш, ды і страшна — 15 кіламетраў. У хаце холадна. Стала зноў прасіць дроў. Супрацоўнікі кажуць: «Папрасіце ў кіраўнічага, ён не адмовіць». Аднойчы пайшла падпісваць нейкія паперы. І думаю, папрашу. «Таварыш Васэрман, я жыву зусім без дроў, сплю ў халоднай кватэры. Дайце мне дроў, Вы ж усё можаце». Ён зачыняе дзверы на ключ, падыходзіць да мяне і гаворыць: «Я дам Вам дрова и все будет у Вас, но я хочу приходить к Вам в гости». І хоча мяне абняць. Я яго як штурхнула, ён і паляцеў. «Ах так. Завтра же тебя не будет в тресте. Враг народа». Назаўтра загад. «Освободить т. Плащинскую от обязанностей техсекретаря отдела рацанализа, т. к. эта должность ликвидируется. Управляющий трестом Васерман».

Далі мне працоўную кніжку, і ўсё! Мяне ўсе супрацоўнікі шкадавалі, здзіўляліся такім паваротам. А на вёсцы неспакойна. Абкладалі бацькоўскую гаспадарку цвёрдым падаткам. Калі мы жылі ў Мінску, то Язэп уносіў грошы ў Інбелкульт, Акадэмію навук на кааператыўную кватэру. Ён прыслаў мне даручэнне, каб я іх забрала. Я прыйшла ў Акадэмію, да кіраўніка спраў (здаецца, прозвішча Шпілеўскі). Калі ён даведаўся, што мяне звольнілі з працы, то стаў прасіць папрацаваць хоць месяцы тры. Бо іх сакратарка ўжо тры гады не была ў адпачынку.

Я дала згоду і да вясны працавала ў Акадэміі. Аднойчы я іду з работы, а мяне чакаюць суседзі на мосце і гавораць, што ў двары стаіць машына, гружаная дамашнімі рэчамі, чакаюць мяне, каб выселіць з кватэры. Шукалі ключ. Бо часта заязджаў Язэпаў брат. Ён

працаваў дзесьці настаўнікам. А ключ быў адзін. І раптам хтосьці знайшоў. Адчынілі дзверы і пачалі ўносіць свае рэчы. Мне нічога не заставалася, як зайсці ў кватэру і зладжыць усё сваё. Рэчы звалілі ў машыну і паехалі аж за парк Горкага. Там, у той кватэры, было два пакоі, але жанчына, якая там жыла, прадала вялікі пакой, яна паехала да высланага мужа. Мне застаўся дзесяціметровы. Унеслі шафу, канапу, столік і этажэрку, кнігі. А ўся мэбля засталася на вуліцы. Некалькі дзён усё так і стаяла. Пайшла да Язэпавага брата Вінцэнтага, хоць ён ужо сам наймаў маленькі пакойчык. Працаваў ён тады ў Мінску рахункаводам. Усе рэчы паставілі — што ў хаце, што ў хлеўчуку. Тады шмат каго выселілі. Аню Бабарэка таксама, яна паехала да мужа, Чаржынскую Рэню, жонку прафесара Чаржынскага. Яны жылі ў цудоўным двухпавярховым доме. (Гэта малодшая сястра Змітрака Бядулі.)

Калі Язэп даведаўся, што мяне выселілі з кватэры, ён напісаў: «Збірайся з дзецьмі і прыязджай». Звольнілася я з працы і паехала на вёску збірацца ў дарогу. Дзецям справіла добрыя зімовыя паліто. Бацькі зрабілі ім валёначкі, звязалі ім цёплыя панчохі ■ ваўняных нітак. Усё амаль здалі ў багаж, а чамаданы пры сабе. Бацькі далі ўсяго ў дарогу з ежы, што маглі. Кажу сястры Юзэфе: «Дай тую кніжку, што мы схавалі ў вулей». Сястра гаворыць, што ўсё хадзілі, трэслі, рабілі вобыскі, і яна яе спаліла. Што было рабіць? Гэтулькі працы было пакладзена, і няма, хай бы ў Мінск прывезлі, аддалі мне. Як жа я буду глядзець у вочы Язэпу? Такія цудоўныя вершы былі там, столькі год працы. Усе захавала кнігі, фота і павезла ўсё на Урал. У 1932 годзе вясной сабралася з дзецьмі ў доўгую дарогу. Старэйшай быў шосты год, а Валерцы — тры гады. А тут дзве перасадкі: у Маскве і ў Свярдлоўску. Было цяжка — рэчы, дзеці, але свет не без добрых людзей. Знеслі дзяцей, рэчы. Дапамаглі сесці на той цягнік, які нас павёз у Шадрынск. І вось спатканне. Мы зноў усе разам. Дзеці саромеліся таткі, адвыклі, але хутка асвойталіся. Усё расказвалі, як бабуля, як дзядуля, пра сваю любімую цёцю Юзэфу. У агародзе ў Язэпа ўсё паспявала. Яму гаспадыня дала ладны кавалак зямлі. І Язэп усяго пасадзіў. Чырвонымі памідорамі былі закладзены ўсе вокны, стол. Там лета гарачае. Ад работы ўсім супрацоўнікам далі ўчасткі для бульбы. Увосень

мы накапалі 13 мяшкоў. Нягледзячы на ўсё гэта, жыць было цяжка. Для сябе я работы знайсці нідзе не магла. Горад быў маленькі. Кватэру ад работы далі добрую, асобны домік. Бяда была з зімовым абуткам, якога ў нас не было. 40 градусаў марозу, а мы з Язэпам у чаравіках (я адкруціла ад спартыўных канькоў чаравікі). Толькі што цёплыя панчохі і ў Язэпа шкарпэткі, якія нам зрабіла сястра Юзэфа. Паліто ў мяне таксама цёплага не было. Моднае толькі для сталіцы, лёгкае. Усё стала дарагое: малако, мяса, а грошай мала. Вось цэлымі начамі ляжу і думаю, чым заўтра накарміць дзяцей? Дзецям выдавалі рыбін тлушч, і я прыстасавалася рабіць на ім то аладкі, то катлеткі з бульбы. Праўда, калі смажыш, то надта смярдзіць.

Надышоў 1933 год, самы страшны і цяжкі. Усюды стала голадна. Бохан хлеба каштаваў 50 рублёў. Паёк — муку выдавалі горкую з палыном. Пад вясну купілі за 18 рублёў вядзерца бульбы, дробненькай, каб пасадзіць. З Язэпам працаваў рахункавод Іван Іванавіч (прозвішча забыла). Часам дзеці заходзілі да бацькі ў кантору. Яны ўжо свяціліся, такія худзенькія сталі. Іван Іванавіч шанежку або піражок дасць. Вось аднаго разу Іван Іванавіч кажа мужу: «Иосиф Павлович, купите корову».— «За что, Иван Иванович?» А ён адказвае: «А я Вам дам денег».— «А когда же я Вам отдам?» — «А я Вам дам безвозмездно».— «Я так мало получаю, что мы еле сводим концы с концами».— «А мне некому беречь, а у Вас детки, они погибнут с голода». І Іван Іванавіч даў 1500 рублёў нават без распіскі.

Цяпер быў клопат купіць карову. Але Язэп сялянскі сын, ды і людзі дапамагалі сваімі парадамі. Уставаў ён кожную раніцу, да работы ішоў на рынак і глядзеў карову. І аднае раніцы прыводзіць чорную карову — Чарнушку. Каштавала яна 1200 рублёў. Колькі было радасці ў дзяцей! Зноў, як у бабуні, будуць піць цёплае малако. Карову-то купілі, а даіць я не ўмела. Калі глядзіш, як дояць, дык здаецца, так лёгка, а як узялася, то нічога не выходзіць. Цыцкі выскакваюць з пальцаў, малако цячэ па локцях, і слёзы цякуць, што ў мяне не атрымліваецца.

Была там з Ленінграда аграном. Яна таксама высланая. Яна мяне навучыла. І хутка ў мяне ўсё добра выходзіла. Сталі ганяць на пашу, але трэба было спатыкаць,

бо там праходзіла чыгунка. Муж прыходзіў з працы, абедалі. Бралі мяхі, нажы, а ў лесе травы многа. Нарэжам два мяхі, спатыкаем Чарнушку. Мяхі на плечы, падкормку для каровы. І стала яна нам даваць не сем літраў, а трынаццаць. Стала жыць ужо лягчэй, купілі двое парасят. На інкубатары ўзяла 50 штук куранят. Клопату стала шмат, але ён прыемны. У Шадрынску шмат было ссыльных, былі і беларусы: дзядзька Красінскі, дырэктар Другога Беларускага Віцебскага тэатра, Аддзярыха — рэдактар газеты «Звязда» з сям'ёй. Гэта было кола добрых знаёмых. Мы сталі жыць ужо добра. Вельмі часта напяку бліноў з смятанай, тварагом і частуем сяброў.

Збіраліся часта. Зімою дзядзька Красінскі расказваў розныя цікавыя здарэнні з тэатральнага жыцця. А летам хадзілі на цудоўную празрыстую рэчку Ісець, дзе было шмат рыбы. Язэп з Аддзярыхам сеткай лавілі рыбу, часам усім кагалам варылі юшку. А то проста дзялілі. У Шадрынску быў добры тэатр, часта былі спектаклі, канцэрты заезджых акцёраў кіно. Здавалася, што можна жыць. Язэп часта браўся за пяро, ён вельмі сумаваў па Беларусі, сябрах, бацьках...

### ЯК Я ЦЯБЕ ЛЮБІЎ!

Як я цябе любіў, мая Айчына,
Дзіцём піў малако з тваіх грудзей,
У глыбіню тваіх вачэй глядзеў,
І сёння ты стаіш перад вачыма.
    Ішлі з табой у светлыя прасторы,
    Спявалі песні сонечнай вясны,
    Не гаслі, а яснелі нашы зоры,
    Вясёлкі з сонцам ткалі паясы.
Не гас свяцільнік твой, агонь святы.
Пры ім пісаў я да цябе лісты.

*Шадрынск, 1934 год.*

Язэп часта таксама чытаў нам свае вершы, ужо напісаныя ў Шадрынску. Хоць у ГПУ казалі «вершаў не пісаць». Але ж часам пісаў.

Вось аднойчы прачытаў нам верш.

### НА ЭТАПЕ

Знябыўся я душой
Ад болю, ад тугі,
Як па этапу йшоў
Ад Мінска да тайгі.

Бутыркі... каземат...
Турэмны змрочны двор,
Не бачыў я з-за крат
Ні сонца і ні зор.

Парашы млосны пах
Нутро маё труціў.
Этапны ўспомню шлях
Не раз я у жыцці.

Сталыпінскі вагон
Аж на Урал прывёз.
Там праз ваду, агонь
Са мной прайшоў мой лёс.

Хоць быў я малады,
А ў сэрцы пульс нямеў.
Прасіў глыток вады,
І не падалі мне.

Свярдлоўск, рака Міяс
І залаты пясок.
Успомню я і вас
І ваш пякучы сок.

Тут я цагліны клаў
У змрочныя муры.
І вокны шкліў без шкла —
Праменнямі зары.

Ўначы сядаў за стол
І ўсё лісты пісаў,
І ўсё чакаў лістоў,
Але ніхто не слаў.

Плывец я без вясла,
Ці даплыве ў Ісець?
Трывога ў нас расла,
Пачаў туман сівець...

Расінкі нёс і трос
На стомлены сівец...
Мяне закінуў лёс
У Шадрынск на Ісець.

Паэт, пішы, твары —
Заглушыць песня боль.
Хай хвалі і вятры
Нясуць спеў у Табол!

*Шадрынск,*
*1932 год*

Перапісваўся Язэп толькі [redacted] адным Адамам Бабарэкам. Адам пісаў: «Братка Язэп, даходзяць чуткі, што ты зусім перастаў пісаць вершы. Дарагі Язэпе, нельга губіць такі талент. Пішы». Дамовіліся, што калі скончыцца тэрмін ссылкі, то мы ўсе разам паедзем у Анапу. У Бабарэкі ёсць добры сябра [redacted] Анапы, будзе прытулак. І мы павінны былі там сустрэцца. Але, на вялікі жаль, спатканне не адбылося...

Бо Бабарэку далі яшчэ пяць год і паслалі пілаваць лес. Нагналі столькі люду. Без усялякіх умоў, нават не было добрай вады, пілі з балота. У холадзе, голадзе жылі ў лесе. Большасць людзей загінула, у тым ліку загінуў і Адам Бабарэка. Не стала лепшага сябра. Ён пражыў усяго 38 год. Калі яшчэ Адам быў у Слабадскім, то прыслаў нам сваё фота. Адам, Аня, Лора, Алеся. Яно захавалася ў нас да гэтай пары. Язэп вельмі пакутаваў, перажываў смерць лепшага сябра Адама Бабарэкі.

### СУРОВЫ ЛЕС

Суровы лёс, бывай здароў,
Ты светлых не прынёс гадзін:
І ні братоў, і ні сяброў,
Жыву у забыцці, адзін.
«За што так пакараны я?» —
Пытаюся ў цябе, жыццё.

Скажы і ты, мая зямля,
Які віхор атрос лісцё?
І ён мяне сарваў, як ліст,
І ўжо каторы носіць год.
Віхроў я чую дзікі свіст
І праклінаю іхні род.
Дзе, сонца яснае, твой дзень?
Калі ты ў госці прыйдзеш з ім?
Пашлі свой сонечны прамень,
Каб не было ў жыцці больш зім.
Яго ў святліцу панясу,
Каб ён ніколі не пагас.
Я моцна веру у вясну.
Яна не абміне наш час.

*1934, г., Шадрынск*

Калі Язэп атрымаў пашпарт, тут жа сталі ўсё прадаваць, у тым ліку карову, і разлічыліся за яе [redacted] Іванам Іванавічам. Сталі збірацца ў Анапу. Усе амаль ссыльныя знаёмыя выехалі з Шадрынска. Напэўна, быў добры чалавек начальнік ГПУ, бо ўсе паехалі хто ў Ленінград, хто ў Маскву і ў другія месцы. Праўда, які лёс напаткаў іх далей?

Увосень 1935 года мы паехалі ў Анапу. Якая прыгажосць, мора, сонца, цяплынь, а вінаград які! Калі мы выходзілі з гасцініцы, то Язэп спаткаў знаёмую, з якой вучыўся ў Мінску ва універсітэце. Калі знаёміліся, яна сказала прозвішча — Маргайлік. Я пытаю: «Як завуць мужа?» — «Саша. Ён са Случчыны і працуе тут аграномам». А муж яе аказаўся маім добрым знаёмым. І завязалася дружба.

Як родныя сустрэліся. Наша старэйшая дачка хадзіла ўжо ў трэці клас. У іх таксама была дзяўчынка Ляля. Яны сябравалі. Бегалі разам у балетную студыю. Там была піяністка, якая ў мяне запытала: «Вы настаўніца?» Кажу — не. «Я Вас уладкую выхавацелем у дзіцячы садзік». І стала я працаваць у садзіку. Язэп уладкаваўся ў вінаградарскім саўгасе «Джаматэ» бухгалтарам. Якія віны там рабілі!

У Анапе з прадуктаў усё было недарагое. Купілі кабанчыка, некалькі курэй. Але ў красавіку сталі прыязджаць курортнікі з дзецьмі. Цэны на прадукты сталі паднімацца. Напрыклад, масла ўвосень каштавала чатыры рублі, курыца — сем. А тут ужо цэны выраслі ў тры-чатыры разы. Язэп гаворыць: «Трэба ехаць з Анапы, бо нашай зарплаты на пражыццё не хопіць». І рашылі мы пакінуць Анапу. Шкада было Анапу,

мора, сонца. Але жыць ужо было цяжка, а наперадзе лета. Увесну 1936 года я паехала ў Беларусь да родных. А Язэп паехаў шукаць прытулак і работу. Праз некаторы час я атрымліваю ліст. «Я ўжо працую ў г. Сарапуле Кіраўскай вобласці. Тут ёсць беларусы, браты Цвікевічы. Усё ж неяк адчуваю сябе ямчэй. Прыязджайце. Чакаю».

Ехаць зноў у холад, незнаёмае месца. Невядома, як складзецца жыццё ў Сарапуле. Жыла гэты час я з дзецьмі ў Слуцку ў мамы, а пасля паехалі ў Мінск да Язэпавага брата Вінцэнты. Бацькоў раскулачылі. Усё забралі, а іх выгналі з хаты. Брат Баніфацы пераехаў у Асіповічы, працаваў у калгасе кавалём. Брат Вінцэнты стаў працаваць ужо ў Мінску бухгалтарам. Сястра Юзэфа ўладкавалася да нейкага прафесара (ён жыў з сынам) за гаспадыню. Брат Ізыдор ужо скончыў універсітэт. Спачатку працаваў настаўнікам, а пасля стаў працаваць у БелТА. Паехалі мы з дзецьмі і сястрой Юзэфай у Каралішчавічы. Наведаць бацькоў. Жылі яны ўжо ў чужой хаце. Што дзеці прывязуць з горада, толькі тое і елі.

Як цяжка было глядзець на бацькоў. Былі гаспадарамі — усё было, а сталі жабракамі. Нават хату знеслі і паставілі яе пасярэдзіне сяла, там цяпер магазін.

Знішчылі садок, агарод, усё зруйнавалі-раскідалі. І не пазнаць, што тут стаяла добрая хата і жылі ў ёй працавітыя сумленныя людзі. Сенажаць зарасла, бераг Свіслачы, дзе купаліся, загаралі, запусцеў. Пагасцявалі мы і сталі збірацца ў Мінск. Развіталіся з бацькамі, цяжка і балюча было глядзець на іх, на старасці год зусім згалелі.

Паехалі ў Мінск. Браты Вінцэнты і Ізыдор і сястра Юзэфа сабралі нас; паехалі на вакзал. Пасадзілі ў вагон, і зноў мы едзем немаведама куды. Язэп спаткаў нас у г. Сарапуле. Ён зноў наняў добры пакой. Працаваў на вінным заводзе бухгалтарам. Цвікевічы жылі блізка. Жонка Івана была вельмі ветлівая жанчына. Было ў іх трое дзяцей, вучыліся ў Свярдлоўску, а дванаццацігадовая Муся хадзіла ў школу. Мае малечы бегалі да яе гуляць. Гэта быў 1936 год.

Нарком асветы тады быў Бубнаў, які выдаў такую пастанову: усе, хто мае адукацыю настаўніка, павінен стаць на ўлік у райана, аблана. І будуць накіраваны на працу ў школу. Муж выкарыстаў гэтую пастанову. І яму далі працу на сяле за шэсць кіламетраў ад горада

ў в. Шавыралова, куды ён і паехаў вучыць дзяцей. Аб тым, што муж быў высланы, мы нікому не гаварылі. Проста закінуў лёс у гэтую глухамань. Расказаў толькі аднаму дырэктару школы Галдзіну.

Настаў 1937 год. Надыходзіла стагоддзе з дня смерці А. С. Пушкіна. Школа была сямігодка. Муж напісаў сцэнарый да «Паненкі-сялянкі». Дзеці развучылі шмат вершаў, «Казку пра рыбака і рыбку». Я з дзецьмі развучыла некалькі танцаў. Пашыла з марлі балетныя «пачкі» для танцаў. Вечар удаўся. Уся вёска толькі пра гэта гаварыла і дзякавала.

Вясковыя дзеці хадзілі ў школу ў лапцях. А якая павага была да настаўнікаў! Усе сяляне нізка кланяліся ім.

Язэпу вельмі хацелася ў Беларусь. Пісаў ён лісты ў розныя гарады Беларусі, прапанаваў выкладаць рускую і беларускую мову, але ўсюды прасілі прыслаць «характарыстыку».

Мужу далі «мінус шэсць гарадоў»: Мінск, Масква, Ленінград, Адэса, Кіеў, Харкаў. У Беларусь землякі ехаць не раілі. Паслаў ён запытанне ў Курскі аблана. У Курску яблык шмат, казаў, напамінаць хоць будзе Беларусь. З Курска прыслалі запрашэнне, што настаўнікі вельмі патрэбны.

Муж у час летніх канікул паехаў паглядзець, якія ўмовы, але гэта было за 60 кіламетраў ад Курска. Муж не даў згоды. І вось, калі ён сеў у Маскве на цягнік, які ішоў па Казанскай чыгунцы, пазнаёміўся з суседзямі па купэ. Разгаварыліся. Муж кажа, што ён настаўнік і ездзіў у Курск наконт работы. Яму гавораць, што хутка будзе Мурам. Славіцца сваімі яблыкамі і вішнямі. Тут жа Масква пад бокам — 280 кіламетраў. І ваша Беларусь блізка. А настаўнікі вельмі патрэбны. Сыдзіце, зайдзіце ў райана. Тут вельмі добры загадчык т. Лармохін. Вам з прыемнасцю дадуць працу. Так Язэп і зрабіў. Яму прапанавалі школу ў сяле Манакова за 30 кіламетраў ад горада Мурама. У школе два добрыя сады. Добрыя кватэры. Школа дзесяцігодка. Там калісь быў заводчык, меў бульбяна-цёрачны завод. Шмат было добрых будынкаў, у адным з якіх і размяшчалася школа. Прывёз ён нам з Мурама амаль цэлы мяшок яблык. Мы так абрадаваліся, што паехалі туды, дзе яны растуць. Настаўнікі і сяляне вельмі шкадавалі, што Язэп Паўлавіч пакідае іх школу. Настаўніцкі калектыў

быў добры. Сяляне вельмі прыязна ставіліся да нас. Прыгадаю такі выпадак. Як толькі прыехала, спатрэбілася схадзіць у магазін. Надзела Язэпаў кажушок і пайшла. Калі я зайшла, то была вялікая чарга, раптам чарга расступілася, і жанчыны кажуць: «Калі ласка, ідзіце бярыце, што Вам трэба». Я кажу, што пастаю. «Не, не. Вы жонка Іосіфа Паўлавіча, Вам стаяць не трэба». Пытаюся: «А скуль вы ведаеце?» — «А гэта ж кажушок Іосіфа Паўлавіча». Так і прымусілі мяне ўзяць, што трэба было.

Дзеці нашы падраслі. Галя перайшла ў чацвёрты клас, вучылася на «выдатна». Шмат чытала, пачала вучыцца з 1936 года, яшчэ ў Шадрынску. Валерка павінна была пайсці ў першы клас. Добра пісала, чытала. Любіла чытаць Ясеніна. У нас быў чатырохтомнік, і былі там цудоўныя ясенінскія казкі.

Жылося цяжкавата, абнасіліся і мы, і дзеці. І вось цёця Юзэфа з Мінска прыслала ім прыгожыя капелюшы фетравыя, бардовыя, боцікі, сукенкі, безрукаўкі. Перапісвалася я толькі з ёю і са сваёй мамаю, якая жыла ў Слуцку. І вандравалі мы па свеце, як беспрытульныя; як адарваны ліст той вецер гоніць, так і нас гнаў лёс. Шавыралоўскія настаўнікі паехалі на настаўніцкую канферэнцыю, а мы на вакзал у Мурам, а там у с. Манакова. Было гэта ўвосень 1937 года.

Нас на прыстані Манастырок ужо чакаў конюх з канём і фурманкай. Пагрузілі рэчы. Дзеці і мы селі і паехалі. Конь быў школьны, добры. Ехалі сем кіламетраў лесам, а пасля бярозавымі прысадамі, далей — ліпавымі. Прыгожыя сажалкі, і ўсюды цудоўныя светлыя лясы. Тая мясціна, дзе нам далі кватэру, называлася Крутая горка. Кватэра добрая — чатыры пакоі. Вельмі прыгожае сяло, усё ў садах. Калектыў настаўнікаў вялікі, амаль усе маладыя. Нашы дзеці пайшлі ў школу — Галіна ў чацвёрты, а Валерка ў першы клас. Павёў іх бацька, а я стала наводзіць парадак у хаце. Язэп амаль штодня пасля заняткаў хадзіў у грыбы. А ў выхадныя ішлі ўсёй сям'ёй. Надзіва стаяла цёплая восень. А грыбоў было шмат, яны нас вельмі выручалі. Нават цэлы мяшок баравічкоў насушылі.

Настала кастрычніцкае свята. Купілі мы парасё і запяклі, як рабілі гэта ў Беларусі. Я напякла пірагоў. І раптам ідуць два настаўнікі і запрашаюць нас на вечарынку. Там на ўсе святы ўвесь калектыў збіраўся ра-

зам і святкавалі. Мы іх запрасілі за стол, пачаставалі, і пайшлі знаёміцца з усім калектывам. Вечарына ўдалася: танцавалі, спявалі, выпівалі, закусвалі. Было весела і добра. Пра тое, што Язэп Паўлавіч быў высланы, ніхто не ведаў.

Настаў Новы, 1938 год. У школе была ялінка, і мы сваім таксама паставілі прыгожанькую. Раслі яны амаль каля хаты. Дзеці раніцой усталі, былі вельмі рады, а пасля пачалі шукаць пад ялінкай гасцінцы, што «Дзед Мароз паклаў». Цукеркі, яблыкі, арэхі, пячэнне. А прыслала гэта ўсё цёця Юзэфа. Яна іх вельмі любіла. Яны ёй плацілі тым жа. Вось і пачалося вяселле. А вечарам пайшлі на школьную ялінку. Я ім з марлі пашыла «пачкі», і яны танцавалі два танцы: «Белыя сняжыначкі» і «Стракозы», чыталі вершы.

Такое ішло жыццё. Абнасіліся мы парадкам. Калі былі ў Шадрынску, то Язэп без дазволу ГПУ паехаў у Свярдлоўск са справаздачай. Крыху ў нас было грошай, ды яго прэміравалі за добрую работу. І ён купіў матэр'ялу сабе на касцюм, шавіёту. Мне аж на тры сукенкі і дзецям штосьці. Калі мы ад'язджалі ў Анапу, то Язэп пашыў сабе касцюм, а мне пашылі тры прыгожыя сукенкі. Шавіёт, такі матэр'ял, што хутка праціраецца, ды і прайшло шмат часу: Анапа, Сарапул, Шавыралова — і ўсё адзін касцюм. Стаў праціраццa. Цыравала я яго, цыравала, так, што на сядзенні і шавіёту не было, адны падложаныя латкі ды прыпрасаваныя. А болей штаноў не было і купіць не было дзе, ды і за што. Так і паехалі мы ў Манакова.

Вось перада мною ляжыць газета за 13 ліпеня 1990 года «Муромский рабочий», які прыслала мне былая настаўніца Яўгенія Рыгораўна Шустава. (Цяпер яна на пенсіі, але шмат піша і чытае лекцыі. У тым ліку і пра Язэпа Пушчу.) У гэтай газеце прысвечана цэлая літаратурная старонка Язэпу Пушчу.

Некалькі вершаў Язэпа Пушчы перакладзены на рускую мову з прадмовай Хазіна Ісака Рафаілавіча. Ён журналіст і жыве ў Мураме, любіць вершы Пушчы. А вось былы вучань Манакоўскай школы, які тады вучыўся (у 1937 годзе) у шостым класе, а цяпер — настаўнік літаратуры і мовы ў Мураме, А. Капусцін, задаў у гэтай газеце пытанне: «Чаму напісана пра жыццё Іосіфа Паўлавіча толькі ў Чаадаеўскай школе? Ён жа яшчэ чатыры гады вучыў дзяцей у с. Манакова».

Капусцін успамінае, як яны, вучні, чакалі новага настаўніка. «И он появился. В довольно-таки поношенном костюме, без портфеля, без часов. А так как учителю на уроке без часов не обойтись, Иосиф Павлович приносил с собой будильник.

Мы удивлялись такой бедности: уже не молодой человек, не начинающий учитель (а яму было 35 год). И только после публикации статьи Е. Г. Шустовой о Плащинском в «Муромском рабочем» мне стало понятно: ведь Иосиф Павлович прибыл в Монаково прямо из ссылки, которую отбывал по ложному обвинению.

Вместе с ним приехала его семья: жена Станислава Эдуардовна и две девчушки в коротких платьицах, любопытные, юркие. Станислава Эдуардовна вскоре стала работать библиотекарем в сельской библиотеке.

Когда мы учились в девятом классе, по инициативе Иосифа Павловича был проведен конкурс на лучшую стенную газету, лучшее стихотворение, рассказ, рисунок. В качестве призов победители награждались книгами: сборниками произведений Пушкина, Некрасова, Чехова, Горького.

Я и некоторые мои друзья «баловались» стихами, и мы приняли участие в конкурсе.

Правил наши стихи Иосиф Павлович. Мы удивлялись, как быстро он заменял неудачную рифму, исправлял погрешности в стихотворных размерах.

— Ему немного поучиться, и он будет настоящим поэтом,— заметил мой друг Миша Полунев.

Мы и не подозревали, что ему и учиться не надо, что перед нами известный поэт Язэп Пушча.

Вскоре началась Великая Отечественная война, и ученики Плащинского ушли воевать. Одни не вернулись, другие, в том числе и я, вернулись тяжело раненными. И только после фронта я узнал, что Плащинский — поэт Язэп Пушча, узнал также, что он работает в Чаадаеве. Но встретиться с ним пришлось в 1955 году.

Мы разговаривали, он помнил почти всех моих одноклассников, сокрушался о погибших на фронте.

А когда узнал, что я работаю учителем литературы, немного удивился.

— Ты же природный математик! — воскликнул он.

Я подивился его памяти: будучи завучем, он посещал и уроки математики и запомнил, как я быстро решал задачи и уверенно доказывал теоремы. А в том, что

я стал не математиком, а литератором, есть и его «вина».

Больше мы не встречались, но воспоминания об этом дорогом и талантливом человеке сохранятся до конца жизни.

*А. Капустин*, учитель».

Муж быў дбайны гаспадар. Любіў ён, каб у агародзе ўсё добра расло. Сам любіў даглядаць памідоры, гэта была яго самая ўлюбёная работа.

Калі пачыналіся суніцы, то ўсёй сям'ёй хадзілі збіраць, а іх там было вельмі многа. Калі збіраў грыбы, то знойдзе кучку баравічкоў, пару вялікіх зрэжа, а астатнія прыкрые мохам, а праз пару дзён прыйдзе на тое месца і зрэжа, як яны ўжо вырастуць.

Калі мы толькі прыехалі і згрузілі рэчы, паелі, што Бог паслаў, кажам дзецям: «Мы сходзім у лес, а вы пагуляйце. Мы хутка прыйдзем». Конюх казаў, што тут шмат грыбоў. Амаль пры дарозе.

І не агледзеліся, як зайшлі зусім далёка, пачало добра змяркацца. Быццам ідзём у тым напрамку, як дадому, не — усё лес і нідзе нікога. А пасля пачулі: пастухі гоняць статак, падышлі, пытаем. А яны кажуць, што Манакова ад іх за чатыры кіламетры. Паказалі, у які бок трэба ісці. Нам вельмі рупілі дзеці, яны там адны. А яны сядзяць на ганку і так горка плачуць, што яны адны, спаць і есці хочуць, і страшна ім было без нас. Усё чужое, незнаёмае, і навокал нідзе нікога няма.

Язэп часта хадзіў у лес адзін. Лес яго супакойваў. Нагадваў родную Беларусь. Настрой лепшаў, калі прыходзіў з лесу, часам садзіўся і пісаў свае вершы.

Знаём я добра з гэтымі лясамі,
Люблю наведаць іх ізноў часамі.
Люблю прайсці сцяжынкаміляснымі,
Пад елкамі і соснамі густымі,
Пад клёнамі з лістамі залатымі,
Пагаманіць і з гэтымі, і з тымі,
Што сонцу усміхаюцца на ўзлессі.
Мне любы сёння маладыя песні.
Паслухаеш і весялей на сэрцы.
Мне хочацца з сябрамі тут сустрэцца,
Ключы аддаць ад задушэўнай песні,
Якую нам бацькі ў жыццё прынеслі.

(*«Люблю»*)

Аднойчы ў бібліятэку прыехаў інспектар з Мурама. Дзяўчына, якая працавала бібліятэкарам, пачала яго прасіць, каб ён яе адпусціў з працы. А ён кажа: «Знай-

дзіце замену». А пасля, калі даведаўся, што я не працую, прапанаваў мне. Дзесяць дзён трэба прайсці ў гарадской бібліятэцы тэхмінімум, каб ведаць класіфікацыю кніг. Што я і зрабіла.

Калі вярнулася з Мурама, то ў сельсавеце дабілася добрага памяшкання для бібліятэкі. Прывяла яе ў парадак. Бібкалектар прыслаў шмат новых кніг. І сталі хадзіць у бібліятэку дарослыя і дзеці. Часта Язэп і іншыя настаўнікі праводзілі літаратурныя канферэнцыі, дыспуты. Я чытала для моладзі якую-небудзь цікавую кнігу. Адрамантавалі патэфон, і збіралася столькі моладзі, што зімою адчынялі дзверы, бо было душна.

Аднойчы завуч нашай школы зайшоў у бібліятэку. Яму ўсё спадабалася, і ён прапанаваў мне ўзяць і школьную бібліятэку і выдаваць вучням кнігі. Я дала згоду. І пачала я ўжо атрымліваць 175 рублёў за калгасную бібліятэку і 100 рублёў — за школьную, разам 275 рублёў. Сталі мы жыць ужо добра. З адзення купілі самае неабходнае, мужу пашылі новы касцюм. Дзецям і мне пашылі добрыя паліто. Першыя валёнкі за ўвесь час купілі. Язэпу купілі раней. З ежы ўжо маглі больш смачнае што купіць.

Працавала я да дзевяці гадзін вечара.

Прыходжу дадому, а мяне чакае вячэра, бацька з дзецьмі паляць у грубцы, зварацць бульбы, грыбоў прыгатуюць салёных, самавар кіпіць. Павячэраем. Дырэктар школы падарыў нам шчаня нямецкай аўчаркі, вырас агромністы, прыгожы, як чарнабурая ліса, сабака Рэкс. І была ў нас сібірская кошка Муська. Яны сябравалі. Ляжаць абое каля расчыненай грубкі, грэюцца. Настаў 1939 год, пачалі ў тэмпе будаваць дарогу Горкі — Мурам — Кулебакі. Шмат наехала начальства, рабочых на будаўніцтва гэтай важнай магістралі. Стала штосьці неспакойна, бралі на вайсковую перападрыхтоўку калгаснікаў і малодшых настаўнікаў. Забралі завуча, Язэпа прызначаюць завучам. Прыйшла вясна 1940 года. Дырэктар звольніўся з гэтай пасады і пайшоў працаваць старшынёю райспажыўсаюза. Язэпа прызначаюць дырэктарам школы. Работы прыбавілася, школа вялікая па тры-чатыры дзесятыя класы. Прайшоў год напружанай працы для Язэпа. Жыццё ішло, дзеці нашы вучыліся на «выдатна». Галіна ў сёмым класе, а Валерка ў чацвёртым. Мы жылі ўсе на Крутой горцы. Я працавала і гаспадарыла дома.

Вось намыла вельмі шмат бялізны і павесіла ўсё ў садзе, аж на трох шнурах, там ніколі ніхто чужы не хадзіў. У школе ўжо скончыліся экзамены і быў выпускны вечар — 21 чэрвеня 1941 года.

Язэп і яшчэ двое настаўнікаў, якія жылі на Крутой, пайшлі на выпускны вечар. Я з дзецьмі дома. Кругом лес, прысады, сад. Настала ноч. Рэкс увесь час страшэнна брэша. Я яго забрала ў кватэру. Ужо чатыры гадзіны ночы, штосьці неспакойна мне. А Язэпа няма. Кажу дзецям: я пайду пашукаю, дзе наш бацька. Няўжо ў школе ўсё вечар? Прыйшла на сяло ў школу, вартаўнік гаворыць, што вечар даўно скончыўся. Пайшла да завуча, які жыў каля школы, пастукала, а там шмат вучняў выпускнікоў, якія жывуць за пяць — дзесяць кіламетраў і засталіся да раніцы. Пытаю ў іх: а дзе Мікалай Георгіевіч? Яны кажуць, што ўсе настаўнікі ў сельсавеце чакаюць нейкага важнага паведамлення. Пайшла ў сельсавет, а там усе настаўнікі і старшыня сельсавета, шмат хто з агіткалектыву. Хто ляжыць на падлозе, падаслаўшы газетку, хто сядзіць, да сцяны прыхінуўшыся, хто на стол галаў паклаў. Усе амаль спяць. Пытаюся: а чаго вы тут сабраліся? Хутка будзе выступаць Молатаў з нейкім важным паведамленнем. Мы хваляваліся за дзяцей, але ж і мне трэба быць, паслухаць.

І вось настаў час, калі стаў выступаць Молатаў. Сказаў, што немец напаў на СССР і пачалася вайна. Усім стала цяжка ад такой навіны. Тут жа пайшлі расказваць усім калгаснікам, бо радыё было толькі ў сельсавеце. З ваенкамата пачалі перадаваць аб мабілізацыі. Божа, што пачалося... Прыйшлі дахаты, дзеці і Рэкс спяць, быццам усё спакойна. Але як глянула ў сад, то ўбачыла пустыя шнуры, нават анучкі не засталося. Хтосьці зняў усю бялізну, усё тое, што было вымыта. Вось прычына, чаго брахаў Рэкс.

Калі адпраўлялі першых навабранцаў на вайну, у тым ліку і вучняў, якія толькі атрымалі атэстаты, стагнала ўсё сяло ад слёз, ад ляманту, ад галашэння. Было балюча на ўсё глядзець. І неяк неспакойна — трывожна.

Немец бамбіў ужо Маскву. Жылі мы далёка ад тракта, ад вялікай дарогі. Вельмі шмат прыехала эвакуіраваных з Масквы. Мурам ад Масквы ўсяго 280 кіламетраў. Мы таксама выдзелілі адзін пакой, жылі ў ім дзве настаўніцы, адна з маленькай дачушкай. Нават з

Мінска эвакуіравалі дзіцячы дом, які размясцілі ў школе на Крутой горцы. Быў у Манакове бульбянацёрачны завод, і для настаўніцтва прадавалі крухмал. Мы купілі два мяшкі, высушылі, і я дадавала ў бліны — атрымліваліся пульхныя, смачныя.

Уставала ў шэсць гадзін раніцы, паліла ў печы. Курэй у нас было вельмі многа. Яйкі былі, было і сала, зарэзалі зімою парсючка. Напяку бліноў, яешню. Накармлю і сваіх, і эвакуіраваных. Пражылі мы чатыры гады ў Манакове. Да ўсіх прывыклі, усе добра да нас ставіліся. Сталі ўжо хлеб даваць па картках. Часам прадаўшчыца дасць бохан хлеба. Была там пякарня, дзе працаваў бацька чатырох вучняў, ён часам дасць, дзеці прынясуць. Сельсавет даў нам 30 метраў белага матэр'ялу, каб пашыць бялізну, 10 метраў сіняга вельвету, з якога пашылі мужу і дзецям куртачкі. Як я пісала ўжо, кватэра была добрая, калектыў і сяляне з вялікай павагай ставіліся да Язэпа Паўлавіча, наогул да нашай сям'і. Але ж, нягледзячы на ўсё гэта, Язэп папрасіў, каб яго перавялі ў с. Чаадаева. Там не было настаўніка літаратуры. Работу там атрымалі абое. А галоўнае, там была дарога на Уладзімір і Горкі — Уладзімірскі тракт.

Зноў пачалі збірацца ў дарогу. Язэп паехаў адзін у Чаадаева і жыў там да зімовых канікул. Пасля Новага года забраў дзяцей. А я стала распраўляцца з гаспадаркай. Курэй купіў старшыня калгаса для калгаснай фермы, куры былі ўсе пародзістыя. За кожную курачку даў па тры кілаграмы пшаніцы. Дзевяць рыжых веліканаў, а дзесятага пеўня забралі ў Чаадаева. Зрабіў мне конюх клетку для курэй. Здала я бібліятэкі. Развіталася з усімі. Вельмі шкада было Манакова, настаўнікаў. Дзеці шкадавалі сяброўак і школу. Але ж жыццё прымушала. Запрог мне конюх Розку, паставілі курэй. Прывязала Рэкса да санак. Муську ўзяла. Села ў санкі, узяла ў рукі першы раз лейцы. Конюх правёў за сяло. І паехала я адна 40 кіламетраў са сваім жывым скарбам у Чаадаева.

І Рэкс забраўся ў санкі. Па дарозе сталі спатыкацца жанчыны, якія на санках везлі дубчыкі. Высока накладзеныя, як сена,— гэта так дабывалі ў Чаадаеве дровы і палілі гэтымі дубчыкамі ў печы. Прыехала ў Чаадаева, муж з дзецьмі выйшлі мяне спаткаць. Усё згрузілі. Курэй у хлявчук, Розку таксама ў стайню. Рэк-

са і Муську ў хату. Павячэралі, сяк-так размясціліся.

У Чаадаеве ўмовы ўжо былі зусім іншыя. Сяло 900 двароў. Стаяла вайсковая часць, шмат эвакуіраваных. Усюды цесна. Шмат народу. Хлебныя карткі. Нашага Рэкса карміць няма чым. Калі мы снедалі, то ён сядзеў і глядзеў сваімі разумнымі вачыма, як мы нясем кавалак хлеба ў рот, і цячэ ў яго сліна, і так шкада было яго. Язэп кажа, трэба аддаць яго ў калгас на ферму, там ён будзе наеты. І вось я ўзяла яго на павадок і пайшла на сяло. Насустрач ідзе старшыня сельсавета. Убачыла сабаку і пытаецца: «Гэта ваш сабака?» Кажу: «Мой».— «Прадайце».— «Купіце».— «А колькі за яго просіце?» — «Тры пуды мукі».— «Добра». Дамовіліся, што я заўтра яго прывяду. Трэба ж дома ўсім развітацца з ім. Цяжка, шкада, а другога выйсця не было. Мы ведалі, што яму там будзе добра. Усе яго абдымалі, дзеці і я плакалі. Развіталіся як з родным. Раніцой я адвяла яго да новых гаспадароў. Змалолі пшаніцу, якую атрымалі за курэй ды за Рэкса. Да пайка дабаўка была добрая. Дзеці пайшлі ў школу: Галіна ў восьмы клас, Валерка — у пяты. У школе настаўнікаў не хапала, забралі ў армію.

І раптам у пачатку 1942 года, 3 сакавіка, Язэп атрымлівае павестку. Яго і некалькі вучняў з дзесятага класа забіраюць у армію, у пяхотнае вучылішча, якое знаходзілася пад Масквою ў Філях. Я засталася адна з дзецьмі. Жыла яшчэ з намі сястра — Юзэфа. Яна была цяжка хворая. Ляжала ў Мінску ў бальніцы з інсультам. Калі пачалася вайна, іх, хворых, пакідалі ў машыны і вывезлі ў Лісічанск. Адміністрацыя напісала нам, і мы яе забралі. Яна страшэнна сумавала па доме, па сваёй Беларусі і ўсё плакала: «Хачу дадому». Праз месяцы тры яна памерла ў Чаадаеве. Язэп прыехаў, і мы яе пахавалі.

Вясной у 1942 годзе я знайшла асобны дом у канцы сяла. І сталі мы ўжо адны без гаспадароў. Цяжка было жыць. Сядзелі на адных картках. Маіх грошай было замала: 175 рублёў. Калі я працавала ў бібліятэцы (загадчыка клуба таксама забралі ў армію), то арганізавала драмгурток, і паставілі вадэвілі Чэхава «Мядзведзь» і «Юбілей». Запрасіла старшынь сельсавета і калгаса на спектакль. Ім вельмі спадабалася. І яны мне прапанавалі быць і загадчыцай клуба.

Загадчыку клуба плацілі 100 рублёў і 20 працадзён,

а бібліятэкару 175 рублёў. Я згадзілася. Чаадаеўскі калгас быў добры, давалі на працадзень не палачкі. Аформілі мяне ў райана і ў райкоме. Работы было шмат. Як агітатар павінна была хадзіць у брыгады, у поле, у лугі, калі касілі, праводзіць чыткі, расказваць калгаснікам, што робіцца на фронце, дзе ідуць баі. Трэба прачытаць газеты, падабраць матэр'ял. А сяло было вялікае, разбіта на шэсць брыгад. Трэба выпускаць насценгазету, дошкі спаборніцтва запаўняць: якая брыгада ідзе ўперадзе, а якая адстае. А вечарам адчыняць клуб да 12 гадзін ночы. Хоць ідзе вайна, а моладзь хоча паглядзець кіно, патанцаваць. Бібліятэка і клуб — адной цяжка. І я прапанавала адной маладой жанчыне, у якой у першыя дні вайны загінуў муж і засталося двое малых дзетак, працаваць разам.

Пачаўся сенакос, а ў калгасе гэта амаль свята. Выязджалі сем'ямі, рабілі буданы, і ўвесь сенакос былі ў лугах, толькі гаспадыні хадзілі дадому скаціну дагледзець — і зноў у лугі. Раптам прыязджае Язэп. Яго Масkоўская гарнізонная камісія вызваліла на шэсць месяцаў ад арміі. У яго распухала калена. Калі вярнуўся, яму бюро райкама дало броню, бо ў школе не было парадку. І райана прызначыў яго дырэктарам школы. Былі канікулы. Дзеці нашы хадзілі і палоць, і на сенажаць; зграбалі, варушылі сена, зарабілі 58 працадзён. Язэп таксама пачаў хадзіць у лугі, касіць сена. Касіў ён добра, пры норме 0,25 гектара ён накошваў 1 гектар 25 сотак. Брыгадзір дае загад выпусціць «Маланку». «Чэсць і хвала Плашчынскаму І. П., што выканаў пяць нормаў». І вывесіць на відным месцы. У кожнай брыгадзе быў свой кухар. Тры разы ў дзень была гарачая страва. Калгас адпускаў прадукты: мяса, хлеб, бульбу, гародніну. Тры тыдні працавалі ў лугах (900 гектараў). Заканчэнне работы ў лугах было ў калгаснікаў святам. Ехалі і ішлі з музыкай і песнямі, спявалі, гулялі.

Язэп прыступіў да сваіх абавязкаў у школе. Быў зроблены неабходны рамонт. Школа прыведзена ў парадак. Пачаўся новы навучальны год. У школе было толькі восем класных пакояў і настаўніцкая. Аднапавярховы драўляны дом. Пабудавана была школа каля могілак і былой царквы, а далей поле, парослае палыном.

Вось што піша настаўніца Чаадаеўскай школы Я. Р. Шустава:

«З Іосіфам Паўлавічам мне давялося працаваць у першыя гады вайны. У школе ў нас тады скlаліся вельмі напружаныя складаныя абставіны. Настаўніцкі калектыў быў малады, і ў першыя ж дні шмат настаўнікаў пайшлі на фронт.

Часта мяняліся дырэктары: толькі прызначаць аднаго — праз некаторы час і ён пайшоў на фронт. Прызвалі ў 1942 годзе 3 сакавіка і Іосіфа Паўлавіча, але па стану здароўя яго хутка вярнулі. І з таго часу ён стаў у нас працаваць дырэктарам школы і працаваў на гэтай пасадзе доўгія гады.

Клопату ў тыя гады ў дырэктара было вельмі многа. Тады ў наш горад Мурам і раён прыехала вельмі шмат эвакуіраваных з Масквы. Школа наша была невялікая, а дзяцей вельмі шмат. І трэба было бачыць, з якой увагай Іосіф Паўлавіч адносіўся да кожнага дзіцяці. Класы былі перапоўненыя, за партамі сядзелі па 3—4 чалавекі, але ніводнага вучня не засталося па-за школаю. Іосіф Паўлавіч валодаў нейкім дзіўным талентам арганізатара. Ён быў не мітуслівы, не шумлівы, заўсёды спакойны, вытрыманы. Часам здавалася, што ён ніякіх асаблівых намаганняў не прыкладае, каб вырашыць нейкае складанае пытанне. Знешне выглядала так, быццам усё рабілася само сабой. Але варта было прыглядзецца ўважліва, і ўбачыш, што Іосіф Паўлавіч заўсёды ў цэнтры ўсіх пачынанняў. Не хапала класных пакояў, пачалі перабудоўваць стары цагляны царкоўны будынак пад школу. То тут, то там заўсёды мільгала хударлявая постаць Іосіфа Паўлавіча: то ён гаворыць з цеслярамі, то арганізоўвае старшакласнікаў на якія-небудзь работы. На другі год мы ўжо не адчувалі недахопу ў класных памяшканнях. Іосіф Паўлавіч унікаў у любыя дробязі жыцця не толькі школы, педагагічнага калектыву, але і калгаса. Цяжка складаліся справы ў калгасе, мала працоўных рук, гэта былі ў асноўным жанчыны ды старыя. Іосіф Паўлавіч ішоў у праўленне калгаса, пытаўся, чым можа дапамагчы школа калгасу. І вось ужо вучні разбіты на звенні: малодшыя школьнікі ідуць палоць, падбіраць каласкі, зграбаць сена. А старэйшыя вучні працуюць на конях. Прычым Іосіф Паўлавіч працаваў нароўні з усімі. У час сенакосу яго можна было бачыць з касою ў руках. Пры гэтым Іосіф Паўлавіч касіў як сапраўдны калгаснік. Гэта ўзвышала яго ў вачах калгаснікаў, вучняў і ўсяго педагагічнага

калектыву. Для Іосіфа Паўлавіча ні ў чым не было дробязей. Трэба рыхтаваць падарункі на фронт — Іосіф Паўлавіч ішоў у класы, гутарыў з вучнямі. І на другі ж дзень школа станавілася штабам нарыхтоўкі падарункаў для фронту.

У той час па ўсёй Горкаўскай вобласці (Мурам тады ўваходзіў у склад гэтай вобласці) сярод школьнікаў быў рух: на запрацаваныя грошы пабудаваць танк «Піянер». Уключыліся ў гэты рух і чаадаеўскія школьнікі. Я памятаю той мітынг у школе, на якім Іосіф Паўлавіч сказаў дзецям, што танк «Піянер», на пабудову якога ўнеслі дзеці грошы, ужо на фронце, б'е фашысцкіх гадаў.

Умеў Іосіф Паўлавіч знайсці слова, якое даходзіла да самага сэрца, і гэты раз пасля яго пранікнёнай гутаркі тут жа пасля мітынгу 17 вучняў унеслі 288 рублёў на пабудову самалёта «Піянер». Умеў Іосіф Паўлавіч знайсці сардэчнае слова кожнаму чалавеку, хоць знешне рабіў ураджанне суровага чалавека, але гэта было толькі вонкавае ўражанне.

Памятаю такі выпадак. Была я тады зусім маладзенькай настаўніцай, ды і вышэйшай адукацыі не мела. А працаваць давялося ў старэйшых класах — настаўнікаў не хапала. Вядома, што да кожнага ўрока мне прыходзілася шмат рыхтавацца. Я пісала не проста планы, а канспекты ўрокаў. Але аднойчы здарылася так, што я забыла сшытак з канспектамі дома. Іосіф Паўлавіч прыйшоў да мяне на ўрок. Я не памятаю, як я здолела ўзяць сябе ў рукі (тады настаўнікі без плана на ўрокі не дапускаліся). У душы ў мяне ўсё траслося, я халадзела ад страху. Пасля ўрока Іосіф Паўлавіч запытаў у мяне план (прагляд плана тады быў абавязковы). Я сумленна прызналася, што забыла яго дома, папрасіла дазволу збегаць за планам (жыла я недалёка ад школы). Іосіф Паўлавіч дазволіў. Хвілін праз дзесяць я была ўжо ў Іосіфа Паўлавіча. Ён уважліва прагледзеў мае канспекты (у сшытку былі распрацоўкі яшчэ некалькіх урокаў наперад). Я чакала «разносу», «нагаданяю». Але Іосіф Паўлавіч вельмі добразычліва даў мне некалькі добрых парад і ніводнай рэзкай заўвагі.

Быў Іосіф Паўлавіч карэктным, далікатным чалавекам, чалавекам рэдкай душы і вялікага сэрца, вельмі інтэлігентным і выхаваным».

Дзеці займаліся ў дзве змены. Настаўніцкі калек-

тыў быў амаль адны жанчыны, толькі пару пажылых настаўнікаў-мужчын. Усіх маладых забралі ў армію. Лес далёка, дровы вазілі падлеткі на быках. Цёмна выязджалі і цёмна прыязджалі. Была зіма. І вартаўнік быў, а дровы кралі. Магчыма, ён сам іх і прадаваў. Язэп паставіў пытанне аб тым, што завуч і дырэктар павінны жыць каля школы. Стаяў там дом — два класныя пакоі ў ім было. Іх перарабілі ў кватэры, адгарадзілі кухні, зрабілі адзін вялікі пакой і пакойчык цёмны. Склалі печы, і мы пераехалі. Надта былі вялікія вокны, і стаяў дом, як кажуць, на сямі вятрах. Усё цяпло зімою выдзьмувала. Але цяпер ужо былі гаспадары каля школы.

У Чаадаеве была царква. Палову яе займаў калгасны склад, а другую — сельпо, пад пякарню. Язэп дамогся, каб пякарню перанеслі ў другое месца, а там зрабілі яшчэ чатыры класы. Шмат дзяцей за 3—5 кіламетраў хадзілі кожны дзень у школу, а тыя, якія жылі за 20, 15—10, усе наймалі кватэры ў сялян. У адной вёсцы пуставала пачатковая школа. Язэп дабіўся, каб і яе перавезлі ў Чаадаева і зрабілі для дзяцей інтэрнат. Школа разрасталася. Каля школы была пустэльня, ні дрэўца, адзін сівы палын. Язэп паставіў пытанне ў райана і на сесіі райвыканкама, каб школе далі адзін гектар зямлі. Доўга ішлі работы. Абгарадзілі дашчаным парканам. Язэп звярнуўся да дзяцей і бацькоў з просьбаю, каб кожны чаадаеўскі вучань прынёс па 2—3 дрэўцы вішні, а вішня там «Уладзімірская», чорная, такой болей няма нідзе. І яшчэ раслі гатункі — «Васільеўка» і «Лівенка». Выкапалі вучні ямкі ў два рады. Пасадзілі вішанькі, купілі прысадкі яблынек, але праз ноч іх не стала, усе пакралі. Тады засадзілі ўсё вішняй. Быў школьны вішнёвы сад. Каля школы пасадзілі шмат кветак. Стала школу не пазнаць.

Язэп у пачатку вайны дамовіўся са старшынёю калгаса, каб далі зямлі для школьнікаў. Далі 40 гектараў і трактар. Тое, што пасеялі школьнікі, самі ўсё і даглядалі. Асабліва проса і бульбу. Калі сабралі ўраджай, вучням, якія хадзілі палоць, далі на працадні са школьнага ўчастка. А большасць пайшло на школьныя дзіцячыя абеды. У калгасе ўраджай таксама быў вельмі добры. Старшыні калгаса і сельсавета былі людзі патрабавальныя, дысцыпліна была жорсткая. І ў той год атрымалі на працадні ўжо не палачкі і не 200—

300 грамаў збожжа, а па два ці то па тры кіло. Нашы дзеці зарабілі 58 працадзён. Язэп за касьбу, ды ў мяне па 20 працадзён у месяц. І атрымалі мы некалькі мяхоў пшаніцы, жыта, проса, усе сені былі застаўлены такім багаццем. Паехалі на млын, змалолі, і напякла я хлеба і пшанічных ляпёшак. За доўгі час галоднага пайка пачалі ад'ядацца. Мы былі так схуднелі, што свіціліся ўсе.

І вось Валерка сказала: «Давайце купім казу?» Адна жанчына прадавала казу, якая давала тры літры малака і прасіла за яе чатыры пуды пшаніцы. Падумалі мы і купілі. Хоць і шкада было пшаніцы, але без малака дрэнна. Праз некаторы час наша Зойка (там усіх коз звалі Зойкамі) прывяла нам дзвюх козачак, такіх прыгожых, такіх ласкавых малечаў. Раслі яны ў хаце, бо была зіма, спалі ў скрынцы. Пасля мы атрымалі зноў збожжа і купілі яшчэ адну казу. Стала жыць лягчэй, галоўнае, не былі галодныя, і праз год ці два ў нас было сем дойных коз і чацвёра казлянят. Трэба ж сесці пад кожную і падаіць. А летам пастух гоніць у чатыры гадзіны раніцы. Толькі прыйду з клуба, засну і чую: пастух грае на трубе, зывае скаціну. Хутчэй з Валеркай усхопімся, рукі спаласнем і ў хлеў даіць свой статак. У гадзін сем выводжу казлянят на лужок каля хаты. Вось аднойчы пайшла я іх паіць, а [illegible] суседняга калгаса едзе сакратар райкама Бузін Павел Сяргеевіч, гэта быў цудоўны чалавек. Спыніў каня, ведаў мяне добра па рабоце. У райкаме часта праводзіліся семінары, на якіх я бывала. Пытаецца: «Товарищ Плащинская, это все ваше стадо?» — «Нет, Павел Сергеевич. Семь коз в стаде, а это малыши».— «А чем же вы их кормите, где сено добываете?»

А жылі мы тады ў канцы сяла, там шмат было травы, дзе нажнем, дзе Язэп накосіць. І вынес райкам такую пастанову: усім сельскім настаўнікам дазволіць касіць траву ў лесе.

У школе ўсё ішло добра. Язэпа Паўлавіча выбіралі дэпутатам сельсавета і дэпутатам райсавета тры разы. Вучні, што заканчвалі Чаадаеўскую школу, амаль усе паступалі ў інстытуты: у Горкаўскі педагагічны, у Іванаўскі медыцынскі, у розныя маскоўскія, нават некалькі вучняў паступіла ў Баўманскі і атрымлівала сталінскую стыпендыю. Вельмі часта ў Чаадаеўскай школе, як у лепшай, праводзіліся семінары настаўні-

каў раёна. Язэпа ўзнагародзілі значком выдатніка асветы. Аднойчы пад вечар я ўбачыла, што каля нашага дому спынілася падвода і там сядзіць старшыня суседняга калгаса з с. Барысаглеба Баландзін Васіль Іванавіч. Я кажу Язэпу, хто прыехаў. І бачу, возчык нясе мех на плячах. Язэп выйшаў. Павітаўся. Язэп пытаецца: «А што гэта за мяхі?» — «А гэта, Іосіф Паўлавіч, табе падспор'е, бо на пайку хутка ногі не будзеш цягаць. Мех пшанічнай мукі, другі — жытняй. А ты маёй Наташы зрабі атэстат выдатніцы, адна чацвёрка, а ўсе пяцёркі... Па тваёй літаратуры». Язэп кажа: «Васіль Іванавіч, я вас прашу, нясіце вашыя мяхі зноў на падводу. А то я вымушаны буду міліцыянера паклікаць. Атэстаты выдаюцца строга пад распіску, па акту. Гэта па-першае. Па-другое, я хачу спаць з чыстым сумленнем, спакойна».— «Ну і дурань жа ты, Іосіф Паўлавіч».— «Магчыма».

І яшчэ быў такі выпадак. Адна дзяўчына, якая скончыла школу, паехала ў Маскву пастудаць, але не паступіла, а ў Чаадаеўскай школе не было піянерважатай. І вось аднаго вечара прыходзіць яе матка і просіць, каб Язэп узяў яе на працу ў школу. Ён сказаў, што яна надта спакойная, ці атрымаецца ў яе. Ну, але паспрабаваць можна.

Пайшоў яе правесці і зачыніць дзверы, а ў нас вугал печы выходзіў у калідорчык. Глядзіць Язэп, нешта ляжыць, нейкі клунак, пытаецца ў мяне, што гэта за клунак. Падышла я, Язэп зняў, паглядзелі, а там кілаграмаў пяць свініны-свежыны. Ён хутчэй выбягае на ганак і кліча: «Фіма Левіна, Фіма Левіна!» Яна адклікаецца, ён просіць падысці. І Язэп кажа: «Калі вы хочаце, каб ваша Дуся працавала, то павінны забраць мяса». Яна пачала прасіць, каб ён узяў, гэта ж закалолі свінню, і прынесла пакаштаваць. «Фіма, я вам сказаў, забірайце».— «Ну што ж, Іосіф Паўлавіч, забяру».

Вельмі часта прыносілі рыбакі сцерлядзь, ляшчоў і свежых, і вэнджаных — «гасцінчыка». Але ніколі дарэмна ніводнай рыбіны не ўзяў. «А за што мне «гасцінчыка»? — «А маіх жа дзяцей Вы вучыце».— «Самы лепшы гасцінчык будзе, калі яны будуць добра вучыцца. Так і скажыце сваім дзецям». Але аднойчы прыйшоў бацька дзяўчынкі, якая скончыла сем класаў. Просіць ёй даведку аб адукацыі. Вучылася яна вельмі добра, і Язэпу хацелася, каб яна вучылася далей. Ён

і ўгаворваў бацьку, што яна вельмі здольная, што ёй трэба вучыцца далей. Але ж у кожнай сям'і свае планы. Ну што ж, Язэп даў ёй пасведчанне аб заканчэнні сямігодкі. І ён у падзяку выносіць з-за дома паўмеха ігруш і кацялок мёду. «Вось Вам гасцінец за дачку, за добрую вучобу падзяка».— «Не, не, мне не трэба, я не вазьму».— «Ды ў мяне гэта сваё, я не купляў». Язэп не ўзяў. За школай так за кіламетр стаяла бойня; гэты чалавек сеў за бойняй і чакаў, калі стане цёмна. Прынёс і паклаў ціхенька на веранду. Раніцой дзеці рады былі гэтаму гасцінцу. Яшчэ шмат было такіх розных выпадкаў, але ніколі ні ад каго нічога не браў. «У мяне сумленне чыстае, і я магу глядзець смела ў вочы людзям». Вось такі ён быў.

Галіна ў 1944 годзе скончыла школу з выдатным атэстатам. Яна і яшчэ чатыры дзяўчыны паехалі вучыцца ў Маскву. Бацька раіў паступаць ва універсітэт. А тады было права выдатніка паступаць без экзаменаў у любы інстытут. І яна паступіла ў інстытут картаграфіі і аэрафотаздымкаў, бо рамантычная назва. Сяк-так апранулі, амаль без цёплага паліто, у асеннім, у туфлях модных, якія купілі на барахолцы за 370 рублёў. Правучылася год, была там і сакратаром камсамольскай курсавой арганізацыі і вучылася добра. Але ж голадна было: 600 грамаў, як гліна, хлеба, які яна з сяброўкай адразу з'ядалі. Ну, якая-небудзь баланда. Ішла ж вайна. Да стыпендыі мы маглі ёй пасылаць толькі рублёў 150, а гэта ж Масква. Улетку прыехала на канікулы працаваць у калгасе. На другі год купілі туфлі на шнурках, простыя. Бо ад модных і следу не засталося, праз тры месяцы парваліся. Настаўнікам давалі чай, вельмі шмат, і галеты. Вось мы чай прадавалі, а галеты пасылалі Галіне. Дома ўсё ж і агарод добры, і козы. Калі ад'язджала ў Маскву, то заўсёды везла з сабой бульбу, мяса, тварог, хоць на першы час будзе. На другі год зімою прастудзілася. Была тэмпература 39 градусаў, яе паклалі ў Маскве ў бальніцу, але ж голадна. І яна з тэмпературай 39 папрасіла яе выпісаць, села ў цягнік і прыехала дадому. Мы ўжо дома яе паклалі ў бальніцу (і з таго часу, з 20 год, у яе ныркавы ціск). Дома ўсё ж сытней. Ёй далі акадэмічны адпачынак.

Валерка скончыла школу з адной чацвёркай. Паехала ў Горкаўскі педагагічны інстытут. Здала экзамены на філалагічны факультэт. Яна калі была малой, у па-

чатковай школе, то з дзяўчынкамі толькі і гуляла, што яны вучаніцы, а яна настаўніца. Вельмі любіла літаратуру. Напэўна, гэта ад бацькі. Скончыла інстытут і папрасіла накіраваць яе ў Чаадаеўскую школу, патрэбен быў настаўнік літаратуры. І да самай пенсіі працавала ў адной школе. Там і замуж выйшла за настаўніка. Дзвюх дачушак нарадзіла, якія прыехалі вучыцца ў Мінск, жылі ў мяне, і цяпер абедзве жывуць у Мінску, ужо замужам.

Праз 17 гадоў у мяне зноў павінна было быць дзіця. Пайшла я да доктара і кажу: «Зоя Пятроўна, не патрэбна мне дзіця. Нічога няма, ні пялёнак, ні ў што надзець, ні захінуць. Трэба дзевачак вучыць». А яна кажа: «Станіслава Эдуардаўна, вашы дзевачкі скончаць інстытуты, выйдуць замуж, і вы застанецеся адны. А так у вас будзе радасць, будзе для каго жыць. Радзіце, будзеце мяне ўспамінаць і дзякаваць». Нарадзілася дзіця, я парвала два апошнія падкоўдранікі, байкавую коўдру разрэзала напалам. Што ж было рабіць, такі цяжкі час, што нават за грошы нельга было нічога купіць! І праўда, якая гэта была радасць, гэтая малеча, як мы ўсе яе любілі!

У сорак восьмым годзе дванаццатага ліпеня нарадзіўся сын. Ізноў угаварыла Зоя Пятроўна, што адной Лідзе будзе сумна, а ўдваіх ім будзе весялей. Муж быў вельмі рады сыну.

Не ўсё было гладка, дзеці даволі часта хварэлі. Жылі ж каля школы, інфекцый хоць адбаўляй. У 1953 годзе захварэла Ліда на шкарлятыну, якая дала ўскладненне — рэўмаатака сардэчнай абалонкі, пасля коклюш. А колькі было хвалявання, бяссонных начэй, турботы, страху за іх!

Язэп часам пісаў вершы. Прысвяціў сыну Толіку верш, калі таму было чатыры гады.

СЫНУ

Дванаццаць выбіла гадзін,
Радзіме ў песні памалюся...
Мой сын, да бацькі падыдзі,
Паслухай сказ аб Беларусі.
Не чуў ты песень родных ніў,
Не піў вады з крыніц здароўя,
І бор з табой не гаманіў
Ні разу ў добрае надвор'е.
Дзяліў са мной выгнання дні
Пад небам ласкавым Расіі.

Мігалі водбліскі-агні
Над даляглядам родным, сінім.
Запомні, бацька што гаворыць:
Цярновым шляхам я ішоў,
Пакіну томік грэшных твораў,
Сагрэтых зморанай душой.
Мой скарб народу перадай,
Як толькі праясніцца даль.

*1952 год. Чаадаева*

...Надакучылі нам козы, гэтулькі з імі клопату, ды адну суседзі ўкралі. Прыйшлі з пашы дадому, былі ўсе, праз паўгадзіны казы не стала. Побач жылі суседзі, сям'я была вялікая, шасцёра дзяцей, і ўвесь час галодныя, вось і схапілі.

Рашылі мы купіць карову, сабралі тры тысячы рублёў, і пайшоў муж з суседам на рынак. Пад вечар гляджу — не карову, а цялушку вядзе. Цялушка ладная, але да травы яшчэ далёка, а карміць трэба і коз, і цёлку. Пытаюся, а чаму не карову? Каровы каштуюць шэсць тысяч. Гэта цялушка краснагарбатаўскай пароды, глядзі, які на канцы хвост тоўсты, будзе даваць шмат добрага малака. Пасля, калі яна ацялілася, давала 16 літраў малака. Прыгожая была. Звалі мы яе Красулька.

Школьны сад разросся. Вясною, калі цвілі вішні, а ў Чаадаеве ў кожнага вішнёвы сад, то, напэўна, нічога больш прыгажэйшага не было, вёска, як нявеста, стаяла ўся ў белым. Павырасталі дрэўцы, якімі быў абсаджаны школьны двор. Калі летам рабілі рамонт, муж заўсёды ўставаў у шэсць гадзін і ішоў туды. Калі прыходзіла брыгада цесляроў, заўсёды раіўся з імі, дзе, што і як трэба зрабіць, каб было добра. Школу было не пазнаць, і прыемна было зайсці ў двор, у класы.

Аднойчы, пры Сталіне, калі былі выбары ў Вярхоўны Савет, хтосьці на сцяне клуба ў сяле Барысаглеб (за пяць кіламетраў ад Чаадаева) напісаў нейкую крамолу супраць Сталіна і савецкай улады. Прыехалі гэпэушнікі ў Барысаглеб і па почырку шукалі, хто гэта напісаў. Але нікога не знайшлі. Тады прыехалі ў Чаадаеўскую школу. Папрасілі, каб Язэп даў вучням напісаць дыктант. Самі напісалі тэкст дыктанта. Вучняў у дзесятым класе з Барысаглеба было шмат. Сядзелі чатыры чалавекі ў нас у кватэры і параўноўвалі почыркі.

Трэба было ўявіць сабе наша становішча. Мы дрыжалі. А ў Чаадаеве ніхто не ведаў, што Язэп сядзеў,

быў высланы, былы «вораг народа». Праз пару дзён трох вучняў арыштавалі. А мы на працягу некалькіх месяцаў усё чакалі, што вось прыедуць і забяруць Язэпа. Хадзілі, як пад гнётам. Калі вечарамі або ўначы дзе што стукне, нам здавалася, што ўжо прыехалі. Я ўставала, хадзіла каля хаты, усё чакалі, ці не едуць. Бог злітаваўся. А бедных вучняў усё трымалі, праз некалькі месяцаў двух выпусцілі, дазволілі хадзіць у школу. А трэцяга выпусцілі праз год. У дзевятнаццаць год быў сівы. Болей не вучыўся. Зламалі хлопцу жыццё.

У 1952 годзе быў яшчэ адзін выпадак, аб якім напісаў Васіль Хомчанка ў «Дні паэзіі 87»: «Хто пайшоў у школу ў 30-х гадах, ужо не мог прачытаць вершы Язэпа Пушчы і Уладзіміра Дубоўкі, бо іх не было ў бібліятэках. І самі паэты не ўдзельнічалі ў літаратурным жыцці. Я вельмі любіў чытаць вершы Язэпа Пушчы. Былі ў мяне два зборнічкі паэта. У памяці засталіся радкі: «Рэчанькі сінія хвалі сонца вясны калыхалі, ласку ўсю сонцу аддалі, коцяцца, коцяцца далей». Або «Туліцца жнівень пад пуняй з ношкай аўсянай саломы». Вось гэтыя вершы Пушчы мы вучылі ў школе. Нават у школе са сцэны чытаў. «Чаму так сэрца любіць вясны зялёны шум? Для Беларусі любай я радасць дзён нашу». І раптам паэта не стала чуваць.

Пасля вайны і пасля сканчэння ваеннай акадэміі я служыў ваенным юрыстам у Маскоўскай ваеннай акрузе і жыў ва Уладзіміры. Аднойчы, гэта было ў 1952 годзе, Яўген Іванавіч Асятроў (ён быў рэдактарам абласной газеты «Призыв», з ім я быў у добрых адносінах), будучы ў Мураме, чуў, што ў с. Чаадаеве жыве дырэктар школы і піша добрыя вершы, прозвішча Плашчынскі І. П. Праз некаторы час мая паездка ў Мурам супала з камандзіроўкай Асятрова. Ен ехаў ад абласной газеты «Призыв» на рэдакцыйнай «Пабедзе» і запрасіў мяне з сабой. Калі мы пад'ехалі да сяла Чаадаева, Яўген Іванавіч прапанаваў зайсці да Плашчынскага.

Былі канікулы. Хату Плашчынскага нам паказалі адразу. Хата добрая, прасторная, такі ж дагледжаны прасторны двор. Зайшлі ў хату, адразу ўбачылі жытло чалавека адукаванага, вясковага інтэлігента, было вельмі шмат кніг. На наш «Добры дзень» ніхто не адазваўся, а пасля пачулі голас: «Заходзьце, сядайце!» Выйшаў

мужчына гадоў пяцідзесяці, павітаўся, разгублена замітусіўся: спачатку прысеў на нізкі ўслончык, пасля таропка перасеў на крэсла, кідаючы насцярожаны позірк то ў акно, за якім стаяла наша «Пабеда», то на мяне, капітана юстыцыі, на пагонах якога блішчыць эмблема ваеннага юрыста — шчыт і меч. У яго вачах я заўважыў сполах, што мяне здзівіла.

Бібліяфіл Яўген Асятроў прыпаў да кніг. Ён забыў мэту нашага візіту. «Там толькі руская класіка,— намэшце прамовіў гаспадар,— нічога недазволенага няма». Аб прычыне сполаху гаспадара я даведаўся праз некалькі гадоў у Мінску. «Скажыце, Іосіф Паўлавіч, вы пішаце вершы? Мы з Уладзімірскага літаратурнага аб'яднання».

Нам цікава было пазнаёміцца з яго творамі. Твар у Плашчынскага пасвятлеў, зірнуў на нас спагадліва, добразычліва. «А хто гэта вам сказаў, што я пішу?»

«Ад настаўнікаў чуў»,— адказаў Асятроў.

Асятроў зноў стаў цікавіцца кніжкамі, прысеў на кукішкі каля кніжнай паліцы. «Вазьміце, калі ласка, услончык, будзе зручней». Ён сказаў гэта па-руску, за выключэннем слова «ўслончык». Я, пачуўшы гэта, здзівіўся, што і на Уладзіміршчыне гэтак жа, як і на Беларусі, услончыкам называюць лавачку. Ну мне што б учапіцца за тое слова, спытаць у Плашчынскага, ці не беларус ён? Не спытаў і не пагаварыў пра гэта. Можа б, ён прызнаўся, хто ён, адкуль, што сапраўды піша вершы і быў у свой час вядомы паэт і меў літаратурны псеўданім Язэп Пушча. Так, гэта быў ён — Язэп Пушча. Але пра гэта я даведаўся толькі ў Мінску, куды ён у канцы пяцідзесятых гадоў вярнуўся пасля доўгай адлучкі і зноў пачаў друкавацца. Першая сустрэча адбылася ў Мінску ў Доме пісьменнікаў, пры якой я нагадаў яму Чаадаева на Мурамшчыне, пра яго прасторную хату і наш з Асятровым непажаданы візіт. Язэп Паўлавіч мяне не пазнаў, а я пазнаў адразу: тая ж прыязная ўсмешка, прыгожыя вясёлыя вочы з прыжмурам, адкрыты прыемны твар.

«А чаму ўсё-такі не прызналіся нам з Асятровым, што вы паэт?» — «Час не наступіў для мяне, каб аб'явіцца, што я той самы Язэп Пушча, якога некалі ў трыццатыя гады выкраслілі з літаратуры. Вы прыехалі да мяне ў 1952 годзе. Так? Ну дык вядома ж, што за гады тыя былі». Ён засмяяўся: «А я вас тады напалохаўся.

Бачу ў акно «Пабеда» пад'ехала, з яе вылазяць двое, адзін у вайсковай форме, на яго пагонах шчыт і меч. Заходзяць у хату. Ну, думаю, па мяне. Пацягнуць зараз за нейкую крамолу; і яшчэ больш упэўніўся ў гэтым сваім меркаванні, калі Асятроў прыпаў да кніг».— «Свае чаадаеўскія вершы прывезлі ў Мінск?» — «Вельмі малую частку. Аднойчы ў прыпадку адчаю ўзяў і спаліў».— «Навошта ж вы гэта зрабілі?» — «Цяпер, вядома, шкадую, такіх вершаў ужо не напішу».— «Ну што вы, напішаце».— «Не, мы ж столькі страцілі за доўгія гады свайго маўчання. Лічы, тры дзесяткі гадоў, самых маладых, творчых страчаны, не, не вернецца...»

Так, мы ведаем, што ў трыццатыя гады многія пісьменнікі былі пазбаўлены магчымасці займацца літаратурай. А калі вярнуліся да яе, то ўжо не маглі стварыць тое, што стварылі б, калі б не вымушаны перапынак. Арышт і ссылка. Як прызнаўся Іосіф Паўлавіч, наша з ім сустрэча ў Чаадаеве яго вельмі ўсхвалявала. А можа, сапраўды прызнацца, хто ён ёсць? Але ўстрымаўся і лічыць, што зрабіў правільна.

Першыя гады пасля вяртання ў Мінск былі вельмі творчыя — зноў як у маладосці, на пачатку літаратурнага шляху, яго імя пачало часта з'яўляцца на старонках газет і часопісаў. Пад рэдакцыяй Пятра Глебкі выйшлі выбраныя творы Пушчы.

У Мінску пасля доўгай разлукі з ім Язэпу Пушчы, на жаль, мала прыйшлося папрацаваць. Ён цяжка захварэў, хварэў доўга, хварэў пакутліва. Аднойчы мы з Алесем Пальчэўскім наведалі яго — ён быў спакутаваны, схуднелы, нават не змог нам усміхнуцца. Яго не стала, калі яму было ўсяго 62 гады. А мог бы яшчэ жыць і жыць, наганяць страчанае не па сваёй віне».

Гады ішлі, поўныя клопату аб школе, вучнях і сваёй сям'і. Каля хаты быў у нас добры агарод.Раслі там і памідоры. Часам вырасталі па грам 700—900, такі добры гатунак. Нават аднойчы папрасілі на выстаўку. Наогул усё расло вельмі добра.

Аднаго разу, калі мы ўвосень выбіралі моркву, глядзім, у двор прыехала легкавая машына, і выходзяць з яе сакратар райкама Бузін і Графскі, старшыня выканкама, і кажуць, што прыехалі паглядзець, як жыве дырэктар школы.

Агледзелі яны наш агарод, зайшлі ў сад вішнёвы, а пасля зайшлі і ў хату. Пачаставалі мы іх халодным малачком. Пагаварылі пра школьныя справы. А Графскі кажа: «Іосіф Паўлавіч, трэба Вам будаваць свой дом. Ну што гэта за кватэра. Хоць вялікі, але адзін пакой і кухня. Бярыце пазыку, мы Вам дадзім лесу, шыферу, усё дадзім, толькі будуйце». Калі ад'язджалі, то Графскі сказаў: «Чакаю». Думалі мы, думалі, ці варта будаваць. Усё ж паехаў, узяў пазыку. У лесе далі добрую дзялянку лесу і пачалі пілаваць, цесляры зрабілі зруб.

Адвялі нам на новай вуліцы месца, вельмі прыгожае. Дамы глядзелі на сенажаць, а ў даліне рака, Ака, коціць свае хвалі. Паветра цудоўнае.

Мужу некалькі разоў прапанавалі ўступіць у партыю. І сакратар райкама, і сакратар чаадаеўскай партыйнай арганізацыі. Аднойчы нават анкету прынёс. Я мужу не раіла, бо быў такі выпадак, калі выбіралі ў Вярхоўны Савет, то выбралі адну настаўніцу, але яна не сказала, што яна дачка свяшчэнніка. І калі даведаліся, то нават з работы выгналі. Усе газеты аб гэтым пісалі. «Вораг народа хацеў прабрацца ў Вярхоўны Савет». «Так могуць даведацца, што і ты былы «вораг народа». Працуеш ты сумленна, добра, з душою. Абыдуцца з адным непартыйным дырэктарам школы». Так і адгаварыла я яго.

Акрамя агарода ў нас была добрая гаспадарка. Карова, і абавязкова гадавалі цялё да позняй восені. Часам свінчо, трусоў у нас было шмат. Куры, гусі. Працы, клопату хапала, але жылося ўжо добра. Бо жыць на вёсцы і не мець сваёй гаспадаркі вельмі дрэнна.

Калі ў 1953 годзе памёр Сталін, цэлымі днямі з прыёмніка лілася жалобная музыка. Я ўвесь час плакала. Шмат настаўнікаў рынуліся ў Маскву на пахаванне Сталіна, але нічога не бачылі, так шмат люду было. Прыйшоў муж дахаты, убачыў мяне такую заплаканую і пытаецца, што здарылася: «Сталіна мне шкада, што будзе з краінай?» А ён кажа: «Знайшла па кім плакаць. Гэта быў кат, звер. Гэта ён вінаваты, што мы гэтулькі год выгнаны з Беларусі. Гэта ён вінаваты, што мы забіліся ў Чаадаева. Гэта ён вінаваты, што я гэтулькі год нічога амаль не пісаў. Колькі таленавітых людзей загінула і выгнана. Колькі людзей гэтулькі год маўчала. Перастань плакаць». І выключыў радыё.

У 1956 годзе раптам муж атрымлівае ліст з Сібіры ад

Уладзіміра Дубоўкі: «Братка, Язэп, я быў у Мінску ў Вярхоўным судзе, дзе атрымаў паперку аб рэабілітацыі. Я там бачыў і тваё прозвішча. Так што збірайся дахаты. Я прадаю ўсю сваю маёмасць: хату і ўсю сваю гаспадарку і едзем у Маскву. Буду праязджаць праз Мурам, калі здолееш, то спаткай мяне і пагаворым хоць некалькі хвілін».

Але спатканне не адбылося, бо цягнік праходзіў уночы, а чыгунка далёка ад Чаадаева. У 1957 годзе Пушча летам паехаў у Мінск і атрымаў даведку.

«Справка.

Дело по обвинению Плащинского И. П., 1902 г. рождения, пересмотрено Верховным судом БССР 30 января 1956 г. Постановление коллегии ОГПУ от 10 апреля 1931 г. в отношении Плащинского И. П. отменено и дело производством прекращено за недоказанностью обвинения.

Председатель Верховного Суда БССР *Шардыко*».

У 1958 годзе, калі Пушча быў у Мінску, то, ужо атрымаўшы даведку з Вярхоўнага суда, наведаў Літаратурны музей Янкі Купалы.

Экскурсію ў музеі вяла жонка Янкі Купалы, «цёця Уладзя». Спаткаўшыся вачыма з адным з наведнікаў, яна замерла: Язэп Пушча?! І пры ўсіх абняла і расцалавала. А пасля былі спатканні з сябрамі: Міколам Хведаровічам, Алесем Звонакам, Станіславам Шушкевічам, якія ўжо вярнуліся на радзіму. Калі прыехаў дадому, то ўсё нам расказваў. Быў вельмі ўсхваляваны і радасны. Сябры звалі вяртацца на радзіму. Ён напісаў верш, які прысвяціў Расіі.

Хоць часам і пужаў душу настрой,
Але не стаў бяздомным я бадзякам.
Была ты маткай, роднаю сястрой,
Прымі маю сардэчную падзяку.
Спяваю здравіцу табе адной:
Не гаснуць, не сумуюць зоры ў горы.
Тваіх садоў іскрыстае віно
Я паднімаю ў поўнай чашы ўгору.
Я за тваё здароўе, п'ю, Расія!
Ніхто з дарогі дружбы не саб'е,
Як сейбіта вясною на сяўбе.
Твае сыны у госці запрасілі,
І на пачэсным месцы з імі я,
Жыві з Расіяй, Беларусь мая!

*1957 г.*

Думалі мы думалі, ці будаваць дом, ці ехаць у Мінск на радзіму? Я кажу: трэба ехаць. Старэйшыя дзеці нічога добрага ў жыцці не бачылі, адну нястачу, то хай малодшыя ўбачаць Радзіму і будуць жыць і вучыцца ў горадзе. Так мы і зрабілі.

Прыйшло лета 1958 года. Прадалі дом, усе будаўнічыя матэрыялы. Сталі распрадаваць усю маёмасць, жывёлу.

У панядзелак 13 ліпеня мы ад'язджалі ў Мінск. Кажу мужу: «Ну, чаму ў панядзелак і 13-га? Няўжо нельга выбраць другі дзень, гэта дрэнная прыкмета».— «Не будзь мяшчанкай. Усё будзе добра».

Шмат настаўнікаў і тэхнічак праводзіла нас у дарогу да таксі. Вельмі шкадавалі і жадалі ўсяго найлепшага на Радзіме.

Прыехалі ў Мінск. Нас вельмі здзівіў ён сваёю велічнасцю. Прыгожымі будынкамі, праспектамі, скверамі, магазінамі. А ў магазінах чаго толькі не было! Як у добрыя часы нэпа, нават болей. Узялі таксі і ў Трасцянец, да сястры мужа Леакады. Накупілі прысмакаў, едзем да радні.

Адбылося спатканне амаль праз 30 гадоў. Янка Скрыган прапісаў мужа і дзяцей, а я прапісалася ў Трасцянцы. Праз пяць з паловай месяцаў атрымалі кватэру, два пакоі 29 метраў, на Нававіленскай вуліцы, каля Камсамольскага возера. У хуткім часе прыехала да нас дачка Галіна. (У яе ўжо было два сыны.) Пайшлі яны ў Міністэрства меліярацыі, і іх накіравалі за Беразіно ў Брадзец. Яны абое меліяратары, працавалі там. У 1959 годзе ў Галі нарадзіўся трэці сын.

Уночы званок у дзверы. Пытаем: хто? «Мы з Брадца, ад Галіны Іосіфаўны». Адчынілі, уваходзяць двое. Пытаю: пераначаваць? «Не, мы прыехалі па Вас». Пытаю: «Што, з Галяй што-небудзь?».— «Не, Віктар Уладзіміравіч трохі захварэў». Яны збіраліся прыехаць да нас, прывезці бочачку салёных гуркоў і бульбы і адсвяткаваць 7 кастрычніка, яе дзень нараджэння. Ёй было 34 гады. Ехалі і ўсю дарогу хваляваліся: што здарылася? А яны маўчаць, нічога нам не гавораць. 135 кіламетраў — і Брадзец. Уваходзім у хату, а Галіна сядзіць на печы са сваімі сынамі і гаворыць: «Мама, не плач. Віктара няма». Каля самага дому здарылася аварыя, шафёр быў п'яны і разбіў аб слуп. Вось якое гора напаткала яе ў 34 гады. З трыма малымі сынамі заста-

лася адна. У вёсцы ёй жыць ужо было цяжка, яе перавялі ў Беразіно.

У 1958 годзе Пушчу і Дубоўку прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Пушчу Саюз прапанаваў паехаць у Дом творчасці «Каралішчавічы», дзе ён прабыў тры месяцы. У гэты час ён вельмі шмат пісаў. Уставаў рана і да снядання любіў паблукаць адзін па лясных сцяжынках. Часам прыходзіў з лесу і тут жа садзіўся за стол і пісаў. Прыходзіў такі свежы, адпачыўшы, усхваляваны.

Нізкі вершаў былі надрукаваны ў «Полымі», у «Беларусі». Напісаў ён там паэму «Людвіся», «Бор шуміць» і казку «На Бабрыцы», якую выдалі асобна два разы. У 1960 годзе выйшла кніжка яго твораў «Вершы і паэмы».

І я была ў Каралішчавічах. Прыехаў Янка Скрыган. Спаткаўся з мужам і пытае: «А дзе ж «Слуцкая бярозка»?» Я была тоненькай дзяўчынкай. Калі спаткаліся, прывіталіся, то Янка кажа: «Не, ужо не бярозка, а добрая бяроза». Мне было 50 год.

У Пушчы было цікавае жыццё. Новыя сустрэчы. Адбыўся IV з'езд пісьменнікаў Беларусі ў лютым 1959 года, Дэкада літоўскай культуры. Ездзілі па Беларусі, гасцявалі ў Літве. Бываў ён і на прыёмах. Максім Лужанін адзначаў 50-годдзе, запрасіў нас у рэстаран «Мінск». Словам, жыццё, як у даўнейшыя гады. Толькі не было старых сяброў, па якіх ён сумаваў і якіх заўсёды ўспамінаў. Часта бывалі ў тэатры Янкі Купалы. Але ўжо без даўнейшых цудоўных акцёраў.

І вось аднойчы, калі Язэп Паўлавіч быў у Саюзе пісьменнікаў, да яго падышоў Русецкі і пытаецца: «Ці не ведаў Уладзіміра Жылку?» — «Не толькі ведаў, але мы сябравалі».— «Вось дачка Жылкі прыслала ліст, дзе піша: «Магчыма, хто ведаў маіх бацькоў, бо я іх не ведала, мяне выхавала бабуля, а мне хацелася б ведаць пра іх».

Муж прынёс гэты ліст, прачыталі яго і тут жа адказалі. Што Жылка памёр, мы ведалі, а вось чаму Наташа не ведае сваю матку, мы былі здзіўлены.

Аднойчы вясною, у 1930 годзе, мне вельмі захацелася пайсці ў адведкі да Жылкаў. Даўно не бачыліся. Рыма іграла на піяніна, а Наташа ў такт музыкі дрыгала ножкамі, ёй было тры месяцы.

У той вечар нам падарылі фота, дзе яны ў Ялце: «Стасі і Язэпу Пушчам ад Рымы і Уладзіка. На ўспамін».



16—2326

Вось і завязалася ў нас перапіска з Наташай. Яна піша, што яе маленькую матка пакінула ў бабулі, і потым яна ніколі яе не бачыла. Мы былі вельмі здзіўлены, як гэта маці кінула сваё дзіця. Наташа жыве і працуе ў Палоце, выкладае беларускую мову і літаратуру. Замужам, ёсць у іх двое дзяцей. Забягу крышку наперад, раскажу ўсё пра Наташу.

Аднойчы я атрымала ліст ад Наташы Жылкі, дзе яна піша: «Дарагая Станіслава Эдуардаўна, у Вашым доме жыве паэт Хаім Мальцінскі. Я яму напісала ліст, але ён мне не адказвае. Пагаварыце Вы з ім.

Настаўнікі нашай школы адпачывалі ў Қактэбелі і бачылі там яўрэйскага паэта Мальцінскага з Мінска і сына паэта Браніштэйна. Да іх падышла жанчына і пачала з імі гаварыць, што яна вучылася ў Мінску і была замужам за беларускім паэтам, але ён памёр. І казалі, што вельмі падобная да мяне. Але настаўнікі чамусьці так і не падышлі, не пагаварылі з імі.

Дарагая Станіслава Эдуардаўна, пагаварыце Вы з ім, спытайце, можа, у яго ёсць адрас гэтай жанчыны».

Я тады, пасля смерці мужа, цяжка хварэла і нідзе не хадзіла, сядзела ў сваім двары на лаўцы.

Аднойчы ідзе па двары Хаім Мальцінскі, падышоў да мяне, сеў. Я пытаю: «Хаім Мордухавіч, Вам прыслала ліст Наташа Жылка з Палоты, чаму Вы ёй не адказалі?»

Я яму ўсё расказала, што ведала: як маленькую Наташу Рыма адвезла да бабулі, маткі Уладзіміра Жылкі, і болей ніколі не наведала, не забрала яе. Мальцінскі кажа: «Як гэта яўрэйская матка кінула сваё дзіця? Я на гэтым зраблю бізнес».

Я кажу: «Пачакайце рабіць бізнес. Трэба ва ўсім дасканала разабрацца». І вось праз некаторы час ідзе Мальцінскі і дае мне разгорнутую газету «ЛіМ». У сярэдзіне на дзвюх старонках такі надпіс: «Спатканне праз 30 год». Шмат фотаздымкаў Рымы, Уладзіка і Наташы. Мальцінскі і Уладзімір Мехаў. Зрабілі сустрэчу Рымы з дачкой Наташай.

Рыма прыехала да Наташы ў Палоту, а таксама Мехаў і Мальцінскі. Наташа і муж зрабілі вялікі прыём. Рыма расказвала, што яна быццам пісала лісты бабулі, пасылала пасылкі, але ёй ніхто не адказваў. Рыма падумала, што Наташа памерла, і яна вольная. Вось і выйшла замуж. У яе ёсць сын, якому 30 год. За-

прашала ўсю Наташыну сям'ю ў госці ў Маскву.

«Дарагая Станіслава Эдуардаўна. Я выглядаю старэйшаю за матку Рыму, а я ж яе дачка. Пасля сустрэчы я сем дзён праляжала цяжка хворая. Нервовы стрэс. Наташа».

Вось такая адбылася сустрэча.

Неяк Мікола Гаўрылавіч Ткачоў прапанаваў мужу паехаць у Полацк, дзе жыў Янка Журба, якому спаўнялася 80 год з дня нараджэння. Ехалі пісьменнікі, акцёры. Пушча даў згоду. Думаў, што паедуць цягніком, паляцелі самалётам. Самалёт быў мясцовы, малы, была страшэнная гайданка, правальваўся ў паветраныя ямы. Пушча хацеў з Полацка паехаць да Наташы, якая вельмі запрашала, але Палота ад Полацка за 40 кіламетраў, і ехаць трэба было аўтобусам, а аўтобусам ён не мог ездзіць.

Калі знайшлі дом, дзе жыў Янка Журба, то аб правядзенні вечара, прысвечанага васьмідзесяцігоддзю юбіляра, і гаворкі не магло быць. Паэт жыў адзін, сляпы, як жабрак, у страшэнных кватэрных умовах. Пакой без кухні. Журба керагазам увесь абпаліўся, і яго палажылі ў бальніцу. Уся дэлегацыя зноў вярталася самалётам. Пушчу ўгаварылі ляцець разам з усімі (ён хацеў цягніком). Зноў тая ж гайданка, і быццам самалёт ляціць у бездань. Пушчу было вельмі дрэнна. Прыляцеў у Мінск, пасядзеў у скверы аэрапорта, адпачыў і прыехаў дадому. Паабедалі, ён крыху адпачыў, а пад вечар пайшлі на возера, падыхалі свежым паветрам.

Вечарам сеў за стол і пачаў працаваць. Рыхтаваў новую кніжку вершаў для выдавецтва. Уначы пачаліся ваніты, і была невялікая тэмпература. Хацела бегчы выклікаць «хуткую дапамогу». Тэлефон быў аж каля трамвайнага кальца. «Не хадзі, гэта далёка, а ўжо ноч». Назаўтра выклікалі Нейфаха Якава Уладзіміравіча. Ён яму верыў і паважаў.

«Ну, што здарылася, малады чалавек?»

Муж усё расказаў, як было, і кажа: «Напэўна, у мяне стэнакардыя? Бо стала балець сэрца». А Нейфах кажа: «Пфа, таксама мне дыягназ паставілі. У Вас вірусны грып, а болі сэрца мы знімем». І пачаў лячыць грып. Ні кардыяграмы, ні аналізу крыві не рабіў, нават ніколі не прывозіў апаратуру для вымярэння ціску. Як на прагулку прыязджаў.

У гэты час завітвала шмат сяброў у госці: Алесь Звонак, Андрэй Александровіч, Іларыён Барашка. Прыходзіў і Алесь Кучар. Запрашала за стол. Выпівалі. Язэп толькі паднімаў бакал. А Кучар гаворыць: «Братка Язэп, прабач, усё, што было, хай усё быллём парасце». Муж пасля казаў: «Каб я быў здаровы, я б яго спусціў з лесвіцы. Іуда». Муж сябе вельмі дрэнна адчуваў.

Нейфах прыязджаў амаль кожны дзень, толькі казаў: «Трэба болей хадзіць, бо дэтрэніруецца сэрца». А Пушча як паднімецца на трэці паверх, то кроплі поту, як градзіны, льюцца з твару.

Настала восень, з Камсамольскага возера дзьмулі халодныя вятры. Нейфах кажа, што трэба ехаць у Каралішчавічы, там цішыня і лес. Узяла на два тыдні пуцёўку і адвезла яго ў Каралішчавічы.

Калі мы прыехалі ў паліклініку, то там быў чужы доктар, ён яго ўважліва выслухаў і кажа: «Вам трэба было класціся ў бальніцу, а не ехаць у Каралішчавічы». Муж кажа: «Я веру Якаву Уладзіміравічу».

Была ў паліклініцы кардыёграф, Зоя Аляксееўна. Яна працавала і ў першай клініцы, там быў апарат. І калі каму з пісьменнікаў трэба было зрабіць кардыяграму, прыходзілі да яе ці яна брала апарат і ехала сама. Зоя Аляксееўна пытаецца ў мяне: «А ці рабілі мужу кардыяграму?» Я кажу, не. «Ну, то я заўтра вазьму апарат, машыну, паеду ў Каралішчавічы і зраблю».

Назаўтра я прыйшла ў паліклініку і пытаю ў Нейфаха, што паказала кардыяграма. А ён, не паднімаючы галавы, кажа: «Яму трэба больш ляжаць, меней хадзіць».— «А Вы ж казалі наадварот!» А там працавала цудоўная медсястра, Ларыса Раманаўна. Яна кажа: «Якаў Уладзіміравіч, яна жонка і павінна ўсё ведаць. У яго інфаркт». Ён на яе злосна глянуў з-пад акуляраў. Я кажу, што еду ў Каралішчавічы. Зоя Аляксееўна гаворыць: «Не давайце яму хадзіць. Я заўтра прыеду і зраблю кардыяграму паўторную, праверачную».

Прыехала, зрабіла і кажа, што пацвердзілася: «Што будзем рабіць? Дадому трэба ехаць». З шафёрам яго звялі і пасадзілі ў машыну. Паехалі. А яна ўсё пытаецца: «Язэп Паўлавіч, як Вы сябе адчуваеце?» Пытае ў мяне: «А на якім паверсе Вы жывяце?» Кажу: «На трэцім».— «Не, на трэці паверх я яго не дам. Паедзем у

паліклініку, там дактары». У паліклініцы пачалі званіць у лечкамісію, але не маглі да начальства дазваніцца. Адна доктарка кажа: «Падніміцеся да Броўкі і скажыце». Так я і зрабіла.

Была Дэкада рускай культуры, народу ў прыёмнай было шмат. Я падышла і кажу: «Пётр Усцінавіч, у Пушчы інфаркт, і яму вельмі дрэнна». Ён тут жа зняў трубку і пазваніў міністру аховы здароўя Інсараву, які даў распараджэнне пакласці Пушчу ў лечкамісію. Праляжаў ён чатыры месяцы. Сэрца вельмі дрэнна працавала, пульс быў ніткападобны. Сардэчны цыроз печані і асцыт, збіралася вадкасць, рабілі пракол і выпускалі яе. І стаў Пушча цяжка хворы, агромністы рубец на сэрцы. І раптам атрымліваю тэлеграму ад суседзяў дачкі з Беразіна. «Хутчэй прыязджайце. Галя захварэла». Што рабіць? Трэба ехаць. Прыязджаю. На стале стаіць палова шклянкі крыві, вельмі высокі ціск, і з вены бралі кроў, каб яго паменшыць. Пераначавала. Накарміла дзяцей і раніцою паехалі ў Мінск. Выклікала доктара. Доктар кажа: зараз ёй трэба ў бальніцу. Яна не матка сваім дзецям. Палажылі яе ў абласную бальніцу. Ляжала яна там два месяцы. Трэба ж нешта рабіць з дзецьмі. Старэйшага Уладзіка запісала ў школу. Жэню район даў накіраванне ў дзіцячы садзік. Юру было два гады — у яслі. Калі сталі рабіць аналізы, то ў Юры знайшлі дызентэрыйную палачку. Тут жа яго забралі ў бальніцу. Да мужа хадзіла кожны дзень, да Галі і Юры праз дзень. Часам дачка Ліда да Юры збегае, ягад, яблык яму аднясе.

Я ўжо збілася з ног. Дома сям'я, трэба нешта прырыхтаваць, на базар схадзіць. Да мяне ўжо сталі выклікаць «хуткую дапамогу» або раённага ўрача. Дачку выпісваючы, доктар гаворыць: «Трое дзяцей ёй, хворай, многа — двое можна». Мы так і зрабілі. Жэня застаўся ў нас, а старэйшы і малодшы паехалі ў Беразіно. Юру забралі з бальніцы. Колькі было слёз у Жэні: «Хачу да мамы, хачу дадому». А было яму чатыры гады. Праз некаторы час дачка стала адчуваць сябе лепей і забрала Жэню дадому. Муж мой цяжка хварэў. Настаў 1962 год. 7 мая — шасцідзесяцігоддзе Язэпа Пушчы. Хварэў ён ужо болей за год. З Саюза пісьменнікаў прыехалі Пятрусь Броўка, Мікола Ткачоў, Пятро Глебка, Фаня Яфімаўна адзначаць шасцідзесяцігоддзе. Я прырыхтавала добры стол. Прывезлі агромністы кош кветак. Пры

развітанні Броўка кажа, што Літфонд дасць у Каралішчавічах на ўсё лета домік: Пушчу дармовую пуцёўку, мне курсоўку і дзецям па 35 рублёў дзіцячыя пуцёўкі.

На тэлебачанні працавала Наташа Вялюгіна. Яна мяне сустрэла і папрасіла фота, а іх у нас шмат. «Маладнякоўцы», «узвышаўцы», групавыя. Папрасіла расказаць пра лёс Пушчы: калі быў арыштаваны, куды высланы, і сучасны момант, яго хвароба. І зрабіла фільм на 30 хвілін.

Сама я яго глядзела, а мужа не ўзяла з сабою. Тэлевізара ў нас яшчэ не было. Артыст чытаў вершы, расказваў пра лёс Пушчы і паказваў фота вялікім планам. Нават суседзі плакалі, як зламалі лёс чалавеку, а я наўзрыд. Колькі б напісаў за гэтыя гады выгнання! 28 год мы былі выгнаны з Беларусі. Я кажу мужу: «Вось бачыш, трынаццатага і ў панядзелак мы выехалі з Чаадаева. Казала, што не трэба было ў гэтыя дні ехаць. Гэта народная прыкмета. Вось колькі гора нас напаткала на радзіме. Ты так цяжка хварэў, зяць загінуў».

Прабылі мы ў 1962 годзе ў Каралішчавічах тры месяцы — усё лета. Нам Саюз пісьменнікаў прапанаваў трохпакаёвую кватэру па вуліцы Чарнышэўскага, 39 метраў. Цікавы выпадак: усе прасілі другі паверх — Машара, Валасевіч і я. Дык рашылі зрабіць латарэю. Быў яшчэ Папоў Георгій Лявонцьевіч. Я выцягнула чацвёрты паверх. Валасевіч першы, а Папоў — другі, Машара трэці. Я была ў адчаі. Падышоў да мяне Папоў, паціскае руку і аддае мне паперку з нумарам два, а бярэ сабе чацвёрты паверх. Як я яму была ўдзячна. Які высакародны ўчынак!

Мы пераехалі ў новую кватэру амаль апошнія. Я не ведала, дзе ўзяць машыну. Трансагенцтва тады яшчэ не было. Спатыкаю Івана Шамякіна, пытаецца: «Ну, пераехалі?» Кажу, не. «Чаму?» — «Не ведаю, дзе ўзяць машыну, людзей знесці рэчы». Іван Пятровіч кажа: «Зробім так. З Каралішчавіч прыйдзе машына і аўтобус, і рабочыя дапамогуць Вам пераехаць».

Было гэта ў 1963 годзе. Пушча ўжо хварэў два з паловай гады. Дапамаглі нам, за што мы былі вельмі ўдзячны Івану Пятровічу, і аддзякавалі людзям, якія нам дапамагалі.

Аднойчы мы зноў спаткаліся з Іванам Пятровi-

чам. Пытае, як здароўе Язэпа Паўлавіча. Кажу, усё гэтак жа. І Нейфах ездзіць, і з лечкамісіі доктар прыязджае, робяць уколы, але здароўя не прыбаўляецца. Іван Пятровіч кажа: «Прафесара Сідарэнку запрасіць трэба на кансультацыю. Я дам каманду».

Але нічым не мог ужо дапамагчы і Сідарэнка. З лечкамісіі прыязджалі, рабілі ўколы і ў вену, абавязкова ў прысутнасці доктара тэрапеўта. І аднойчы доктар гаворыць, што ёсць прафесар Мішэнін, які вылечвае такіх хворых. Паклікалі і яго, ён уважліва мужа паслухаў, паглядзеў кардыяграму і прапанаваў легчы ў яго клініку, г. зн. у трэцюю бальніцу. Там яму сталі ўводзіць кансерваваную кроў. Бо ў яго былі крывацёкі з носа. Урачы ледзь спынялі іх. У крыві мала было трамбацытаў.

У бальніцу да мужа я хадзіла ў другой палове дня. А тут мне трэба было заверыць даручэнне на атрыманне мужавай пенсіі. Была ў бальніцы ў 11 гадзін раніцы. Пасядзелі, пагаварылі. Муж кажа: «Божа, як мне хочацца жыць, толькі б горай не было, хаця б так, як цяпер. Колькі б я яшчэ напісаў, колькі планаў, задум! Вось; можа, стане лепей ад гэтых уколаў. Пажыць бы яшчэ колькі гадоў». Дамовіліся, што прыйду ў другой палове дня. Развіталіся да вечара. Пахадзіла па магазінах, купіла ўсё, што мне трэба было. У тралейбусе спатыкаю паэтэсу Еўдакію Лось: мы жылі ў адным доме. Яна пытаецца: «У бальніцы былі?» — «Была».— «А з кім Вы жылі?» А я кажу: «З кім жыла, з тым і жыць буду». Яна глядзіць на мяне і пытаецца: «А хіба ж Вы не ведаеце, што Пушча памёр?» Я не веру ёй, бо дзве гадзіны таму назад з ім гаварыла. Яна кажа, што адзін хворы, які ляжаў з Пушчам у адной палаце, выпісаўся, прыйшоў у Саюз пісьменнікаў і расказаў: «Пушчу зрабілі ўкол, ён уздыхнуў цяжка, павярнуўся да сцяны. Настаў час абеду, нянечка гаворыць: «Больной, обедать», бярэцца за яго плячо, а ён ужо нежывы».

Не ведаю, як яна мяне давяла да хаты.

Было гэта 14 верасня 1964 года. Які жорсткі лёс! Амаль 30 год, самых лепшых, творчых, Пушча быў адарваны ад улюбёнай працы. Жыў дзесьці ў глухамані і не меў магчымасці друкавацца. Будучы цяжка хворым, муж пісаў:

Калі агонь жыцця згасаць збярэцца,
Ты жар яго кійком паварушы,

І разгарацца вугалькі у сэрцы,
Сагрэтыя жывым цяплом душы.

Агонь жыцця Язэпа Пушчы пагас. А цяпло душы засталося ў яго вершах.

Пахаванне было 17 верасня ў цудоўны восеньскі дзень. Пажадаў ён, каб яго пахавалі побач з бацькамі на радзіме ў Каралішчавічах.

## АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК ТВОРАЎ
### да 1—2 тамоў

## ПАКАЗАЛЬНІК ІМЕНАЎ
да 1—2 тамоў

## ЗМЕСТ

### ПАЭЗІЯ

#### Вершы

##### 1930



##### 1931



##### 1932



##### 1933



##### 1934



##### 1935



##### 1936



##### 1942

## 1957

## 1958



## 1959

## 1963



## Вершы невядомых гадоў



## Экспромты

### Паэмы



### Казка



### Пераклады



### Крытычныя артыкулы



### Успаміны пра Я. Пушчу

**Пушча Я.**

**П 91** Збор твораў. У 2 т. Т. 2. Вершы. Паэмы. Пераклады. Крытычныя артыкулы 1930—1963.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 462 с., [4] л. іл.

ISBN 5-340-01031-7 (т. 2).

Другі том склалі вершы, паэмы, вершаваная казка «На Бабрыцы», пераклады, крытычныя артыкулы, храналагічная канва жыцця і творчасці, успаміны пра Язэпа Пушчу.

П $\frac{8820600000-132}{М\ 302(03)-94}$ 83—94

ББК 84(4 Бен)6

Літаратурна-мастацкае выданне

# ПУШЧА ЯЗЭП

***(Плашчынскі Язэп Паўлавіч)***

***Збор твораў***
***у двух тамах***

## Том 2

***Вершы, паэмы, пераклады,***
***крытычныя артыкулы***

1930—1963


Рэдактары *С. Р. Прыгодзіч, Н. І. Семашкевіч.* Мастак *А. А. Бетанава.* Мастацкія рэдактары *Л. Я. Прагін*, *А. І. Дрозд.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Карэктар *Я. Ф. Харко.*

Здадзена ў набор 19.10.92. Падп. да друку 07.10.94. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 24,36+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 25,2. Ул.-выд. арк. 22,40. Тыраж 1000 экз. Зак. 2326.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя. Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.